Змест

З трэцяга класа я вяду запісы на старонках чысленніка жыцця. Зазірнуў у штодзённік: а каго буду віншаваць у студзені 2016 года? Ага! Вольгу Іпатаву, Васіля Ткачова, Багдана Андрусішына (Данчыка), Еву Панізнік з Гданьска, Алеся Карлюкевіча, Міколу Аўрамчыка, Навума Гальпяровіча... Перакладчыка Васіля Сёмуху павіншую з высокім 80-годдзем, ну а мастака Міколу Купаву са сціплым 70-годдзем...

А вось рэдактару майго першага зборніка «Кастры Купалля» — Анатолю Кудраўцу перашлю віншаванне з недажытым 80-годдзем на нябесную Поўню. Між нябесных лікаў лунае 100-гадовае аблічча Уладзіслава Чарняўскага — каталіцкага духоўніка, літаратара-перакладчыка. Пазней знойдзем і выяву Івана Пятровіча Шамякіна (згадаем яго 95-годдзе 30 студзеня).

А які надпіс пакінуў мне ў 1974 годзе Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі, наш славуты гісторык, краязнавец, фальклярыст, літаратуразнавец? Адкрываю яго кнігу «На запаветнай зямлі» з дарчым надпісам: «Глыбокапаважанаму Сяргею Панізніку з пажаданнем жыць не тужыць і больш пісаць, каб мы ўсе багацейшымі сталі!» Яшчэ 20 гадоў я багацеў ад прытулённай Генадзевай дружбы. А 8 студзеня 2015 года я яшчэ раз перачытаю маё выступленне на навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Генадзь Каханоўскі і яго час» (2009) — «На сцежцы да ісціны», і той верш, які прысвяціў шчырапрыязнаму маладзечанцу. Ён турбаваўся аб тым, што «...мы не можам не думаць аб мінулым, так як яно — аснова нашай будучыні». І вось на помніку мінулага і будучыні — на мемарыяльным знаку каля вёскі Мясата Маладзечанскага раёна ў гонар таго, што Віленскім гасцінцам праходзілі ў розны час С. Будны, М. Багдановіч, М. Агінскі,



Зоська Верас, Аляксей Пяткевіч, Генадзь Каханоўскі на святкаванні 90-годдзя Зоські Верас. 30.09.1982 г. Фота Сяргея Панізніка.

Т. Шаўчэнка, М. Гарэцкі і дзясяткі іншых знакамітасцяў, пазначана імя Генадзя Каханоўскага. Ён і сёння застаецца з намі на абуджанай ім запаветнай зямлі.

*Сяргей Панізнік*



Генадзь Каханоўскі падпісвае кнігу на Сваце паэзіі і песні ў Ракуцёўшчыне. 21.05.1983 г. Фота Сяргея Панізніка.



Яна Мусвідас

## Пані Каханне

**Дзе б я ні спрабавала навастрыць сваё вуха — усе размовы толькі пра каханне. За апошні тыдзень я праслухала з дзясятак апавяданняў, не прызначаных для маіх вушэй. Усе яны былі пра каханне або звязаныя з каханнем. Ну, акрамя аднаго, у якім нейкая бабулька распавядала, дзе можна «купляць бульбу па 45 тысч за мяшок».**

Яна вучыцца на пятым курсе. Мужчыны мяняюцца, а лепшая сяброўка застаецца. Вось небарака і выслухоўвае пра прыгоды сваёй бязладнай сястры па духу. «Ён такі мужны, але для шчасця гэтага ж недастаткова», — паведамляе яна сяброўцы за кубкам кавы ў «Доме карцін». Тая расчаравана ўздыхае, быццам ім абедзвюм ужо шэсцьдзесят гадоў і шанцы сустрэць другую палову нікчэмна малыя.

«А ў мяне будзе ўнучачка!» — паведамляе маладая прыемная жанчына за суседнім столікам. Яе суразмоўцы — пара, з якой яна толькі што завяла знаёмства. «Не здзіўляйцеся, так, я выйшла замуж у васямнаццаць, і ў нас з мужам ужо ёсць унучак». Уся кампанія свеціцца шчасцем, быццам гэта іх дзеці.

І так у кожнага і на кожным кроку: драмы, камедыі, трылеры — усе аб’яднаны адзінай любоўнай канцэпцыяй.

Vogue некалькі сезонаў таму надаў галоснасці новаму трэнду: рэчы ўнісекс больш нічога не значаць, цяпер яна носіць яго рэчы, а ён яе. На самай справе ў гэтай тэндэнцыі няма нічога сапсаванага. Я рэдка спасылаюся ў матэрыялах на асабісты вопыт, але тут проста грэх прамаўчаць.

Увосень я на тыдзень з’язджала ў Вільню, а мой малады чалавек заставаўся ў Мінску. Мабыць, прымудроным вопытам людзям здаецца, што тыдзень — гэта дробязь, але для мяне гэта цяпер цэлая вечнасць. Так што я ўзброілася — яго гадзіннікам, яго камізэлькай, яго кашуляй — і была гатовая да усіх цяжкасцей анлайн-кахання. Такім чынам, не надаючы модзе ў той момант асаблівага сэнсу, паддаўшыся ўплыву рамантычнага настрою, я апынулася на вастрыі і ўнутры той тэндэнцыі, пра якую чула не адзін раз.

А што ж узяў ён? – можаце зацікавіцца вы, але ў мяне на гэта ёсць адказ. Яму дасталіся мой любімы тэрмакубак і мой плюшавы мядзведзь.

Вось як здараецца — у чарадзе жудасных катастроф, чалавечых смерцяў і іншых самых розных праблем мы аддаём перавагу пяшчотным пачуццям. Нават не ведаю, што ўплывае на нас: верагодна, чалавеку проста няма куды дзецца ад сваёй сутнасці.

А што да бабкі з бульбай, калі ты, мой чытач, спытаеш, — дык у яе таксама ёсць свая любоў.

### Топ-10

**фільмаў пра каханне для абавязковага прагляду чытачамі «Маладосці» (версія рэдакцыі)**

«Шэрбурскія парасоны»
«Англійскі пацыент»
«Зайздрасць багоў»
«Спяшайся кахаць»
«Пасланне ў бутэльцы»
«Закахайся ў мяне, калі асмелішся»
«Воблачны атлас»
«Неба над Берлінам»
«Кахаць»
«Пад галінамі глогу»

Перад вамі фрагмент дзённіка Людкі Сільновай, які ўтрымлівае апісанне незвычайнага канцэрта, што ладзіўся гадоў дваццаць таму. Граў тады Зьніч — паэт і музыка, навуковец і манах. Болей пра гэтую незвычайную асобу — у рубрыцы «Імя».



# І модна, і годна, і не блага, і не сорамна

**Псіхолаг, філолаг і праграміст — Кася Глухоўская, Маша Бадзей і Тоня Варцінская. Сустрэчы, размовы пра мову, асабістыя гісторыі самавызначэння, музыка і паэзія — складнікі зваротаў літаратурнага аб'яднання да школьнікаў і моладзі. А таксама знаёмства з неабыякавымі да роднай культуры людзьмі. З прадстаўнікамі суполкі «Кнігаўка» размаўляла Юля Ваўчок.**

**— З якой мэтай вы ладзіце сустрэчы?**

**К.Г.** — Асноўнае — паказаць не тое, якія мы клёвыя і творчыя, а тое, што мы нармальныя, адэкватныя людзі, у нас ёсць сябры, хлопцы, хобі і такія ж заняткі, як і ў любога іншага прадстаўніка моладзі. Што мы вучымся ва ўніверсітэтах, што мы звычайныя і паспяховыя людзі, а не дзівакі, не геніі і не вар'яты.

**М.Б.** — Паказаць, што беларус у Беларусі размаўляе па-беларуску і што гэта зусім не дзіўна, не нонсэнс, не нештаневерагоднае. Гэта нармальна! У гэтым няма нічога экстраардынарнага. Мова — гэта наша асаблівасць, выбітнасць.

**К.Г.** — Мова нават уплывае на лад мыслення. Тая мова, на якой навучаюцца дзеці, дае ход лагічным структурам. Існуе, напрыклад, меркаванне пра іерагліфічны тып мыслення і звязанае з ім цэласнае ўспрыманне інфармацыі ў адрозненне ад успрымання інфармацыі, пададзенай праз алфавітнае пісьмо.

**М.Б.** — Калі мы толькі пачыналі размаўляць па-беларуску, я магла прачытаць цэлую лекцыю на гэты конт. Цяпер, калі прайшло некалькі гадоў, я не разумею, чаму б нам па-беларуску не размаўляць і навошта нешта некаму тлумачыць.

**— Як вы ставіцеся да людзей, якія не прымаюць беларускую мову?**

**К.Г.** — Калі я сустракаю кагосьці, хто катэгарычна не хоча размаўляць па-беларуску, — а ў маім асяродку ёсць тыя, хто кажуць, што іх мова руская, — я выдатна разумею гэтую сітуацыю. Так, сапраўды, мова гэтых людзей руская, бо іх бацькі размаўляюць па-руску, яны з калыскі чуюць гэтую мову. І яны маюць права расстаўляць свае прыярытэты і сцвярджаць, што лепш ім вывучыць нямецкую або англійскую, а потым паехаць працаваць за мяжу. Гэта іх права. З іншага боку, калі нехта катэгарычна не прымае беларускую мову ці калі ўвогуле штосьці катэгарычна не прымае, мне ў падобных выпадках уяўляюцца гэткія шоры, як у каня: чалавек проста бярэ і ўласнаручна адсякае ад свайго жыцця пэўную яго частку. У мяне ёсць знаёмы, чалавечымі якасцямі якога я вельмі захаплялася, але толькі да той пары, пакуль праз фразу, што ён не чытае беларускую паэзію, бо яе тэмы яму не блізкія, я, так бы мовіць, не «выпала ў асадак». Прабач, у беларускай паэзіі столькі тэм, што нельга казаць пра нейкія там «яе тэмы» ўвогуле. Яна нічым у гэтым сэнсе не адрозніваецца ад іншых паэзій свету. Яна — гэта розныя паэты, розныя стылі, розныя тэмы. І калі ты яе не чытаеш толькі таму, што яна беларуская, ты нават ведаць не можаш, што у ёй хаваецца.

**М.Б.** — Праблема хутчэй у школьнай праграме. Яна досыць якасная, але не па ўзросце. Напрыклад, ёсць такія творы Якуба Коласа і Янкі Купалы, якія чалавек у 5—6-ым класе не можа спасцігнуць да канца — у яго банальна не хапае «гістарычнай базы». Праз такім вось чынам — без уліку ўзросту і ўзроўню ведаў складзеную школьную праграму ствараецца ўстойлівае ўражанне, што беларускія проза і паэзія не вельмі цікавыя. Праз гэта і да мовы стаўленне адпаведнае.

**— Атрымліваецца, што галоўны кірунак вашых сустрэч — распавесці пра мову?**

**М.Б.**— Не як пра элітарную і не як пра сялянскую.

**К.Г.** — Пра тое, што гаварыць па-беларуску гэта і модна, і годна, і не блага, і не сорамна, а проста натуральна.

**Т.В.** — Для мяне важнай мэтай нашай суполкі з'яўляецца, напрыклад, паказаць, што ёсць Кася

Глухоўская, якая піша клёвыя вершы. Таму што, калі я вучылася ў 9-ым класе, я нават не задумвалася пра тое, што ёсць людзі, якія слухаюць беларускую сучасную музыку і што яна існуе. Школьнікі часам нават не здагадваюцца, што ёсць вось такі сусвет.

**К.Г.** — А для мяне было істотна распавесці, што я не з беларускамоўнай сям'і і што да пятага класа беларускую мову не вельмі любіла. Распавесці гэта дзецям, бо, магчыма, хтосьці з іх таксама да беларускай мовы ставіцца з непрыемным пачуццём. Каб зразумелі, што гэта не назаўсёды і што магчыма з ёй пасябраваць і нават палюбіць яе. Я ўпершыню паспрабавала гаварыць па-беларуску ў шостым класе, але мне падалося, што — ай-яй! — не магу гаварыць, што псую яе. У восьмым класе з сяброўкай паспрабавала яшчэ раз. Усё лета практыкаваліся і зразумелі, што лепш спрабаваць і рабіць памылкі, выпраўляць іх і зноў спрабаваць, чым адмаўляцца з думкай: «Не дай Бог абразіць». Гэта як баяцца падысці да дзяўчынкі, у якую закаханы, а між тым не падысці наогул — пабурыць усё магчымае, яшчэ не збудаваўшы.

**М.Б.** — Асабліва, калі ты толькі-толькі ўсё для сябе адкрываеш, разумееш, што гэта існуе.

**К.Г.** — Сапраўды, хацелася нешта данесці да іншых. І мы пачалі думаць: што ж трэба данесці? І ўпалі ў адчай: можа, увогуле не трэба нічога даносіць? Я вось учапілася за думку, што мова — гэта разнастайнасць і частка хараства. Асабіста для мяне гэта важна. Калі я прыеду, напрыклад, у Мюнхен і не пачую там нямецкую мову, я недаатрымаю тамтэйшай культуры. Тое самае здарыцца са мной, калі прыеду ў Парыж і не ўбачу там Нотр-Дам ці Эйфелеву вежу — выпадзенне часткі культуры, якую я мусіла пабачыць.

**— На ваш погляд, якія прычыны таго, што беларусы не размаўляюць па-беларуску?**

**К.Г.** — Няма патрэбы, па-першае, няма асяроддзя, па-другое. Мяне асабіста радуе, што з'яўляецца «папса» па-беларуску. «Папсу» ўсё адно слухаюць, няхай паслухаюць беларускамоўную — проста каб ведалі, што на гэтай мове ў гарадскім асяродку таксама нешта ствараюць. Дагэтуль жа застаецца ўстойлівым стэрэатып, што беларуская мова — мова сялян. Але стаўленне пакрысе мяняецца, і я спадзяюся, што хутка за «вясковасць» будуць прымаць штосьці іншае, а не беларускую мову.

**М.Б.**— У вёсках сустракаецца сапраўды прыгожая мілагучная беларуская мова. Але яна і мова, на якой вясковец спрабуе размаўляць у Мінску, — гэта розныя рэчы. Зараз, на жаль, вёсак з прыгожай мовай усё менш і менш.

**К.Г.** — Яшчэ і перфекцыянізм вінаваты. Але перфекцыянізм такога кшталту: «Яна (мова) такая мілагучная, такая клёвая, такая файная, але я не варты таго, каб на ёй размаўляць, паколькі не ведаю яе дасканала». А дасканала ты яе і не зведаеш, пакуль не пачнеш размаўляць. Потым гэты міф пра апазіцыю — маўляў, толькі яна па-беларуску размаўляе. Моладзі цяпер гэта не цікава і не патрэбна.

**М.Б.** — Мы хутчэй пакаленне людзей, якія не маюць патрэбы за штосьці змагацца, мы хочам проста жыць, кахаць, пісаць, займацца творчасцю.

**К.Г.** — Людзі сто разоў ламаліся аб тое, што рэвалюцыя — гэта спроба пераскочыць прыступкі, якія трэба і магчыма спакойна прайсці. Беларуская мова мусіць вельмі тактоўна і вельмі эстэтычна стаць натуральнай.

**— Гутарыць па-беларуску — гэта хобі?**

**К.Г.** — Напэўна, хобі. Бо мы гэтым займаемся, нам гэта падабаецца, гэта складае частку нашага жыцця. Канешне, гэта не макрамэ, гэта іншае. Нейкае культурнае хобі. Гэта як ведаць сваю гісторыю.

**Т.В**. — Я не лічу, што гэта хобі. Але не ведаю, ці гэта добра. Я не так шмат чытаю па-беларуску, мала вывучаю ўсялякіх момантаў. Беларуская мова для мяне — мова, на якой я размаўляю…

**М.Б.** — Калі чалавек толькі-толькі прыходзіць да мовы — гэта для яго хобі.

**Т.В.** — … гэта суперідэя, апантанасць.

**М.Б.** — Апантанасць, якая пасля перацякае ў хобі, а потым становіцца часткай жыцця.

**— Што павінна здарыцца, каб вы перасталі размаўляць па-беларуску?**

**М.Б.** — Пераезд у іншую краіну, дзе нас ніхто не будзе разумець.

**Т.В. —** Калі вакол не знойдзецца ніводнага чалавека, з якім бы я магла паразмаўляць па-беларуску.

**К.Г.** — Я не думаю, што такое магчыма. Застануцца сябры і часопісы.



## Юрась Гецэвіч:

# «Мінус ранейшых слоўнікаў — яны маўклівыя, а наш — гаворыць»

**«Ён вучыць камп'ютары размаўляць па-беларуску», — так адрэкамендавалі мне Юрася Гецэвіча. Як тут было не звярнуцца па тлумачэнні і цікавосткі? Аказалася, што ў Лабараторыі распазнавання і сінтэзу маўлення Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі НАН Беларусі 20 чалавек — праграмістаў і лінгвістаў — робяць неверагодна важную і цікавую справу! Але лепей за мяне, Кацярыну Захарэвіч, раскажа пра гэта сам Юрась Гецэвіч, загадчык лабараторыі.**

— Мы стаім на парозе новых распрацовак у камп'ютарнай тэхніцы, і ўсім надакучыла кіраваць ёю праз клавіятуру ці мышку. Надакучыла, што ёсць толькі экран, з якога трэба чытаць паведамленні. Усім даўно хацелася, каб камп'ютар загаварыў зразумелай для нас мовай і, галоўнае, адпаведна сітуацыі і дынамічна, а не паўтараў запісаныя папярэдне паведамленні. Каб камп'ютар мог агучваць адвольны тэкст: ці то кнігу, ці то паведамленне, якое прыйшло на і-мэйл. Нават для людзей з добрым зрокам у некаторых сітуацыях было б зручней слухаць, а не чытаць, А для тых, хто дрэнна бачыць, такія распрацоўкі асабліва важныя. Для дзяцей з праблемамі зроку ў школе-інтэрнаце № 2 у Маладзечне мы ўвялі новыя сінтэзаваныя галасы для сістэмы Talking library, якая чытае ўсе падручнікі з 5 па 11 клас. Зрабілі сістэмы абзвону, якую ўводзім у карыстанне ў 39-й паліклініцы Мінска. Сістэма будзе аўтэлефаноўваць пацыентаў, якія ўзялі талончык на прыём, і людзей групы рызыкі, якія не прайшлі флюараграфію. Карацей, тое, што чалавеку падаецца сумным і манатонным, будзе рабіць камп'ютар.

Юрась паказвае, як працуе «Электронная гаворачая бібліятэка». Манітор можна выключыць. Каб кіраваць праграмай, выкарыстоўваюць верхні шэраг клавіш і вялікія клавішы — тое, што лёгка намацаць. Напрыклад, F12 — спіс кніг: механічным мужчынскім голасам машына павольна чытае назвы кніг, якія ў яе ёсць, прычым як на рускай, так і на беларускай мовах. «Калі вучань чуе назву патрэбнага падручніка, ён націскае Enter, нібы выбірае неабходную кнігу з палічкі», — каментуе Юрась. Загружаем падручнік па гісторыі Беларусі. Уключаную «кнігу» не абавязкова слухаць з самага пачатку і да самага канца: можна прагартаць яе на некалькі раздзелаў наперад ці вярнуцца назад пры неабходнасці. «Дзеці завучваюць усе клавішы даволі хутка, а вось я перыядычна некаторыя забываю», — кажа Юрась і паказвае відэа з Маладзечна, дзе дзяўчынка з праблемамі зроку спраўна «чытае» Тургенева.

— Усё больш і больш людзей пішуць па-беларуску, прынамсі ў інтэрнэце, шмат кніг выходзяць па-беларуску, таму распрацоўкі на нашай мове вельмі неабходныя. Таксама мы разумеем, што актыўная дзейнасць зараз ідзе ў інтэрнэце, таму распрацавалі сайт www.corpus.by з працоўнымі прататыпамі нашых праграм.

*Як працуе ён, Юрась таксама паказвае. Выбірае «Сінтэз маўлення па тэксце», уводзіць «Прывітанне, часопіс «Маладосць» — і ўжо знаёмы камп'ютарны голас вітае нас. Аўдыя можна захаваць на камп'ютар у фармаце WAV ці змясціць спасылку, напрыклад, на фэйсбуку ці ў «Вконтакте».*

— Такі рэсурс карысны таксама для маіх студэнтаў, якія вывучаюць прынцыпы стварэння мовы. Тут пазначаюцца ўсе часціны мовы, інтанацыйныя адметнасці, фанемы, алафоны, транскрыпцыі, якія мы так не любілі распісваць у школе. Потым гэта ўсё сінтэзуецца ў маўленне. Можна пабачыць, як выглядае асцылаграма ці спектраграма верша «Зорка Венера» Максіма Багдановіча, можна пакінуць тут сваё маўленне, паслухаць навіны з сайтаў (RSS-рыдар). Вычытка тэкстаў на Ў ці на памылкі і абдрукоўкі, сістэмы транскрыбіравання тэкстаў, сістэма пошуку амографаў, фармаванне інтанацый, фанетыкі — усё гэта працуе праз сінтэзатар. Ёсць яшчэ агучаны электронны слоўнік — для школьні-

каў. Напрыклад, мы не ведаем, якая літара пішацца ў слове, ставім замест яе кропку ці зорачку, націскаем «шукаць». Камп'ютар не толькі падкажа, што трэба пісаць, але і пакажа транскрыпцыю, характарыстыкі слова, а яшчэ агучыць яго. Мінус усіх ранейшых слоўнікаў — яны маўклівыя, а наш — гаворыць. Ды яшчэ можа знаходзіць слова ў форме. Такія «падцаглiначкі» можна выкарыстоўваць у розных сферах. Сінтэзатар — вельмі дарагое задавальненне, таму мы папулярызуем яго асобныя магчымасці.

*— Як вы распаўсюджваеце вынікі сваіх даследаванняў?*

— Прасоўваем праз сайт у інтэрнэце, пішам там свае дасягненні, збіраем усё, што пра нас пішуць. Выкладаем ва ўніверсітэтах курсы ў разрадах камп'ютарнай лінгвістыкі і штучнага інтэлекту, тлумачым студэнтам і выкладчыкам, як сінтэзуецца беларуская мова, як яна распазнаецца і якая ад гэтага практычная карысць. Напрыклад, трэба каб машыны казалі, што яны робяць, таму што яны ўсё больш ускладняюцца і мы павінны ведаць, што яны не збіраюцца рабіць шкоду. Мы хочам ствараць як мага больш выходных прадуктаў, і хочам, каб беларуская мова больш з'яўлялася на розных прыстасаваннях (сістэмах персаналізаванага апавяшчэння, інтэлектуальных віртуальных суразмоўцах). Ну і найперш хочам, каб з'явіўся робат, які можа слухаць і адказваць па-беларуску, а яшчэ ездзіць і нешта выконваць. Для яго ўжо распрацавалі 50 каманд на рускай і беларускай мовах. А яшчэ ствараем робата, які вучыцца размаўляць ад чалавека. Атрымліваецца, што мы дапамагаем развярнуцца філолагам, лінгвістам, людзям, якія займаюцца сацыяльна-культурнымі камунікацыямі, і праграмістам, і фізікам. Можам паглынуць усіх, ад фізікаў да лірыкаў. Канешне, ёсць праблема з фінансаваннем, хочам атрымаць яго на больш сур'ёзныя распрацоўкі робататэхнічных сродкаў, якія могуць гаварыць з чалавекам і паміж сабой.

*Аказалася, такія распрацоўкі для дасведчаных людзей — не навіна.*

— Нашай лабараторыі 50 гадоў, распрацоўкі пачынаў Барыс Мяфодзьевіч Лабанаў, мой навуковы кіраўнік, калі быў яшчэ малады, а сінтэзатары маўлення тады былі вялізнымі «скрынямі». Калісьці плённа супрацоўнічалі з Кіевам (кіраўніком лабараторыі там быў Тарас Клімавіч Вінцук), лічылася, што ў Беларусі самае лепшае сінтэзаванне, а ва Украіне — распазнаванне, і распрацоўвалі гібрыдную сістэму. З 2000 года мы пачалі працаваць над камп'ютарнай версіяй сінтэзатара, рабіць фрагменты сінтэзатара для розных моў: і для польскай, і для ўкраінскай, і для чэшскай, і для беларускай.

*Зараз лабараторыя працуе над тым, каб камп'ютар мог яшчэ і слухаць беларускую мову. Выраз «Прывітанне, як справы ў часопіса "Маладосць"?», які Юрась агучыў у мікрафон, трапіў у сістэму, якая збірае і апрацоўвае беларускамоўныя выразы.*

— Блокі, дзе мы начытваем маленькія элементы гукавых хваль, мы паляпшаем уласнымі сіламі ці спрабуем знайсці новыя метады ў замежных супольнасцях, якія ўжо прайшлі гэты этап. Напрыклад, як начытаць той самы корпус, як яго размеціць, рассегментаваць. У гэтым кірунку хочам супрацоўнічаць з Германіяй, бо яны тут перадавыя. Увогуле, усе, хто займаецца штучным інтэлектам, займаюцца найперш сінтэзам і распазнаваннем маўлення і будуюць машыны, якія адказваюць на розныя пытанні. Нам хочацца, каб машыны маглі не толькі гаварыць, але яшчэ слухаць і думаць. Такія прыстасаванні можна будзе ўводзіць і ў робататэхніку, і ў кавамолку.

*У распазнаванні беларускага маўлення, на жаль, толькі зачаткі. Хто хоць штосьці робіць у гэтай галіне, адразу адкрывае навуку. Тое, што зроблена для рускай мовы, нельга проста так перанесці на беларускую, таму што тут вельмі шмат мовазалежных рэчаў. Напрыклад, стварэнне той самай базы эталонаў распазнавання слоў. База павінна быць зроблена на мэтавай мове. Калі для сінтэзу маўлення трэба начытаць тысячу фраз, гэта робіцца па-беларуску. Займае дзве-тры гадзіны чытання. Потым фразы трэба размеціць на фанемы, праверыць разметку, пачаць рабіць акустычную базу — усе варыянты гучання той ці іншай фанемы. Напрыклад, у адной толькі фанемы [А] ў нашай базе 96 адценняў. Скажаце, якія тут могуць быць адценні? Ёсць фанемы, ёсць алафоны — варыяцыі фанемы. Для таго, каб маўленне было больш натуральным, адлюстроўваліся ўсе рэдукцыі і асіміляцыі (дзе чалавек «лянуецца» дакладна вымаўляць), усе адценні трэба павыразаць, паскладаць, а потым у пэўны момант выцягваць. Навучыць камп'ютар адрозніваць літару ад гука. Адценні, націскі, ступені рэдукцыі абазначаюцца адмысловым лічбавым кодам…*



## Сяргей Рассадзін
## «Чалавек мяркуе, вырашае Бог»

**Археалагічныя раскопкі ў Лаўрышаўскім манастыры — з'ява адметная. Перш за ўсё таму, што праводзяцца яны рукамі маладых людзей, некаторыя з якіх яшчэ зусім дзеці, пад пільным наглядам вопытных гісторыкаў-археолагаў. Пры гэтым плён раскопак відавочны: вы, мабыць, чулі пра пячатку, якую адшукалі сёлета ўдзельнікі экспедыцыі? З кіраўніком раскопак прафесарам Сяргеем Рассадзіным гутарыла Тамара Мінютка.**

**— Раскопкі ў Лаўрышаве — гэта ваша ініцыятыва?**

— Мяне запрасіў ігумен Лаўрышаўскага манастыра айцец Яўсевій. Я не хацеў, усяляк «адбіваўся», абяцаў знайсці і адправіць калегу. Справа ў тым, што я займаўся не Панёманнем, а Бярэзінай. Але на ўсё воля Бога. Спачатку не разумеў гэтага, але цяпер лічу, што мы, як можам, выконваем свой хрысціянскі абавязак. Гэта яскравы выпадак, калі чалавек мяркуе, а вырашае Бог. І я шчаслівы, што выконваю сваё пакліканне, раблю карысную справу. Я прафесар Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. Выкладаю гісторыю і культуралогію. БДТУ не выпускае гісторыкаў, але я там прыжыўся. Універсітэт мае моцную даследчыцкую базу, там працуюць вельмі добрыя людзі. Наша археалагічная экспедыцыя афіцыйна праводзіцца БДТУ, але студэнты яго, на жаль, пакуль не прымаюць удзелу ў раскопках.

**— Па чым вы абаранялі доктарскую?**

— Мая доктарская называлася «Плямёны і народы заскіфскай поўначы і паўночнага ўсходу». Матэрыял для дысертацыі браўся не толькі з археалагічных, але із грэчаскіх ды рымскіх пісьмовых крыніц. А кандыдацкая дысертацыя была прысвечаная археалогіі жалезнага веку. Потым я ўсё больш адыходзіў ад археалогіі, займаўся геральдыкай (маю некалькі манаграфій па ёй), а таксама генеалогіяй. У БДУ выкладаю заснаваную мною навуковую дысцыпліну тытулалогію — гісторыю тытулаў. Такім чынам, я разнапланавы даследчык. Адным і тым жа займацца сумна. Акрамя таго, я член Саюза пісьменнікаў па секцыі паэзіі.

**— Які з пяці гадоў раскопак быў самым плённым?**

— Ведаеце, самым плённым заўсёды здаецца апошні год. Каб не падавацца суб'ектыўным, скажу, што мае памагатыя ў правядзенні раскопак Генадзь Мікалаевіч Рызнавокі (ён вёў раскоп), Тэльман Віктаравіч Маслюкоў (кіраваў апрацоўкай матэрыялаў), Георгій Уладзіміравіч Драздоў (займаўся вытворчым працэсам) сцвярджаюць, што апошні раскоп па тэхналогіі яго выканання найлепшы. Найбольш дасканала здзейснены самі раскопкі, зняты пласты і г. д. Але асабіста для сябе я не вырашыў, які год быў найлепшы. Гэта тое самае, што спытаць у бацькі, якое сваё дзіця ён любіць найбольш. Я памятаю кожны год, людзей, якія былі на раскопках, працоўныя цяжкасці. Пяты год быў лягчэйшы дзякуючы назапашанаму дагэтуль вопыту. У экспедыцыях цяжкія пачатак і канец, могуць узнікаць нечаканыя праблемы. Але мне дапамагаюць вышэйзгаданыя асобы, за 10 гадоў мы спрактыкаваліся працаваць разам. У мінулым годзе я прыйшоў на раскоп, а Генадзь Мікалаевіч мне кажа: «Яўгенавіч, ты ідзі адсюль, хлопцы капаюць, ведаюць, што рабіць, а ты стаіш над душой — яны нервуюцца. Ідзі да Тэльмана». Я прыйшоў да Тэльмана, там дзяўчаты сядзяць, працуюць, а Тэльман кажа: «Ідзі да Рызнавокага, у нас усё добра, нашто ты тут патрэбны». Я сабе думаю: «Вось як добра ўсё арганізаваў — без мяне працэс рухаецца». Але я застаюся патрэбным як навуковы кансультант. Напрыклад, знойдзенае старажытнае пісала без мяне не выявілі б. У мінулым годзе быў выпадак, пра які нават пісалі ў інтэрнэце. Сярод усялякa-

га смецця з першага пласта трапілася ці то нейкая ржавая стамеска, ці то калючы дрот. У нас не прынята нічога выкідаць, нават калі гэта кавалак калючага дроту, пакуль я не пабачу. Я гляджу: падобна, старажытнарускае крэсіва — прылада для здабывання агню… Такім чынам, для нечага і я там патрэбны, хоць часам і не магу вызначыць, што за рэч мы знайшлі, бо таксама не ўсё ведаю. Тады патрэбны лабараторны аналіз. Раскопкі заўсёды прыносяць сюрпрызы, нешта такое, чаго раней не было, адкрываюць цікавыя гістарычныя факты. Мы не чарапкі вывучаем, а чалавека — і князя Войшалка, і невядомага манаха. Існуе ўяўленне, што манахі — гэта пузатыя дармаеды, якія нічога не рабілі, толькі народ дурылі. Біёлаг, загадчык кафедры БДТУ, які апрацоўвае здабытыя намі косткі, сведчыць, што ў манастыры настолькі не хапала харчавання, што кожны грам харчовага рэсурсу выкарыстоўваўся. Кожная костка надкушаная, расколатая, каб мозг выняць. Па разрубах на костках ён вызначае ўзрост кухара: ці то гэта быў маладзенькі паслушнік, ці то стары манах, у якога сілы не хапала. Па велічыні костачак аднаўляюцца рэцэпты XVI стагоддзя, высвятляецца, якім чынам гатавалася мяса. Я «капаў» са сваімі памагатымі і горад, і мястэчка, і дваранскую сядзібу, і, як правіла, паўсюль на адно горла бутэлькі траплялiся дзве шклянкі. Людзі пілі, у горадзе абавязкова была карчма. А тут — бутэлькі ёсць, але ні адной чаркі няма. І мы з бацюшкам вырашылі, што ў бутэльках прывозілі віно для прычасця, напрыклад, ці алей для богаслужэння. Няма тут і курыльных люлек. Шкодныя звычкі былі ў манахаў пад забаронай. Няма аніякіх жаночых упрыгожанняў, таму што гэта мужчынскі манастыр. Яшчэ цікавая дэталь: да XVI стагоддзя манастыр быў праваслаўным, а пасля стаў уніяцкім. Па каталіцкіх уяўленнях бабёр — гэта рыба, яе можна ўжываць у пост. Таму трапляюцца бабровыя косткі з XVII стагоддзя. Саспела ідэя навукова-даследчага праекта: даследаваць усё ад костак да шкла, сабраць калектыў даследчыкаў па кафлях, па шкле, па кераміцы. Трэба толькі знайсці грошы.

**— Якія знаходкі ў Лаўрышаўскіх раскопках самыя значныя?**

— Я не магу нічога вылучыць. Любая знаходка мае вартасць дзякуючы яе інфарматыўнасці. Напрыклад, мы знайшлі кавалачак ферзя са слановай косці, яўна не мясцовы выраб. Шахматы — гэта элітарная гульня, княская. Цікавая дэталь: старажытнаруская праваслаўная царква забараняла гуляць у шахматы ўвогуле, а кліру (царкоўным людзям) асабліва, таму што гэта лічылася гульнёй азартнай. Адзін наўгародскі свяшчэннік аднойчы прайграў не толькі ўласныя грошы, але і дзяржаўную казну, якая тады захоўвалася ў царкве. Але што князю Войшалку былі гэтыя забароны… Знаходзілі мы і пісалы. Гэта таксама культура не сялянская: манастыры — старыя цэнтры інтэлектуальнага жыцця. Знайшлі мы костку нейкую, большую за курыную, ну і халера, здавалася б, з ёй. Але было вызначана, што гэта костка з пласта XVI стагоддзя. У той час індыкі ў Еўропе толькі з'яўляліся, іх завезлі з Амерыкі. Індык у пласце XVI стагоддзя — фактычна першая падобная знаходка ў Беларусі, яна дакументуе іх з'яўленне ў нас. Таму ўся маса знаходак важная. Вядома, значная знаходка — фундамент царквы, якая згадваецца ў Вітаўтавым прывілеі. Існавала яна да пачатку XVII





стагоддзя. У ёй стаяла Лаўрышаўскае Евангелле. Фундамент мы не разбіралі, ён застаўся ў зямлі. Прыйдзе час — і яго рэстаўруюць, ускрыюць. Пакуль такой магчымасці няма.

**— Раскажыце, як выглядае дзень удзельнікаў экспедыцыі?**

— Я ўстаю раней за ўсіх, мыюся, снедаю таблеткамі, апранаюся, прагульваюся да царквы, гляджу на буслоў, падыходжу да Нёмана. Вяртаюся, калі народ ужо ўстаў, п'е гарбату, а я далучаюся. За гарбатай у нас аператыўная нарада, вырашаем пэўныя вытворчыя пытанні, размяркоўваем працу. Потым Генадзь Мікалаевіч з часткай людзей (у асноўным хлопцы) ідуць на раскопкі, Тэльман з дзяўчатамі — на апрацоўцы знаходак. А яназіраю за працэсам, кантактую са знешнім светам, з айцом Яўсевіем, з райвыканкамам, з карэспандэнтамі. Па абедзе ў нас адукацыйная праграма — лекцыі, якія чытаюць усе выкладчыкі, што ўдзельнічаюць у экспедыцыі. Аднойчы прыязджаў да нас паэт Вадзім Болбас, выступаў перад дзецьмі са сваім паэтычным зборнікам. Ёсць у нас і экскурсійныя дні. Увечары складаем план на заўтра. У апошні дзень экспедыцыі трэба ўпакаваць знаходкі, дарабіць вопіс, засыпаць раскоп, бо ён знаходзіцца на прыватным падворку.

**— Удзельнікі экспедыцыі паходзяць з розных мясцін. Якім чынам вы сабраліся разам?**

— Тэльман Віктаравіч яшчэ з зімы падбіраў людзей. Усе добраахвотна прыехалі. Ёсць у нас зусім дзеці. Напрыклад, маленькая Ульяна старанна працавала на раскопе нават у дождж. А бывае, што здаровы бэйбус хаваецца ад работы… Мне манастырскага харчу шкада на такога лайдака. У канцы ж удзельнікі не хочуць раз'язджацца. У перадапошні дзень я чытаў лекцыю дзецям і заклікаў задаваць пытанні. Звычайна пытанне адно: калі наступныя раскопкі? Значыць, ім не надакучыла, яшчэ хочуць. І не дзіва: тут цудоўныя мясціны, паветра, атмасфера.

**— Маё апошняе пытанне: якім чынам вы здагадаліся, што трэба капаць менавіта на тым месцы? Бо так доўга шукалі месцазнаходжанне манастыра…**

— Можна сказаць,выпадкова. І так адбылося не ўпершыню. Генадзь Мікалаевіч спытаўся: «Яўгенавіч, дзе калочак забіваць?» Я сказаў «тут», і мы нарваліся на печ XVII стагоддзя. Я не ведаю, як у мяне гэта адбываецца. Шмат хто зайздросціць. Насамрэч знайсці помнік — гэта і шчасце, і гора, таму што яго трэба раскопваць. Аднойчы ў Генадзя Мікалаевіча спыталіся: «Якая ваша самая запамінальная знаходка?» А ён кажа: «Дзяўчынка з адсечанай галавой». Гэтая дзяўчынка — ахвяра нашэсця атамана Залатарэнкі на горад Казімір у XVII стагоддзі. Цяпер па чэрапе аднаўлена яе аблічча. Адзін экзэмпляр яго будзе знаходзіцца ў музеі старажытнай беларускай культуры, а другі — у Светлагорскім музеі. Той жа Генадзь Мікалаевіч прыгадвае, як знайшлі шкілет мужчыны, закапанага ў зямлю галавой уніз. Калі капалі царкву, знайшлі другі шкілет. Ад такіх знаходак вельмі цяжка маральна. Нельга сказаць, што ўсё ідзе як на мазаных колах, адна знаходка лепшая за іншую: па-рознаму бывае. Часта нас паліваюць брудам з-за зайздрасці. Але, як мая нябожчыца-бабка казала: «Сабака брэша, а дваранін едзе». Таму мы будзем працягваць працу.







Алесь Бараноўскі

**нарадзіўся 7 верасня 1988 года ў Гомелі. Навуковы супрацоўнік аддзела беларускай літаратуры XX—XXI стагоддзяў Інстытута мовы і літаратуры. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, навуковай манаграфіі і шэрагу літаратуразнаўчых артыкулаў. Захапляецца філасофіяй і псіхалогіяй, таму ў творчасці і навуцы задаецца пытаннямі жыцця і смерці, дабра і зла, іншымі адвечнымі тэмамі.**

## Празрыстая небыль

***

Вартуе сон дзіцяці калыханка,
Што быццам наймацнейшы абярэг.
Чысцюткая такая, бы ля ганка
Прыпарушыў зямельку белы снег.

Калышуць люлькі шчасныя матулі,
Ратуючы «замовамі» свой дом.
Гучыць працяжным спевам «люлі-люлі» —
Паснулі нават зоркі за акном.

Чакаюць ціха цацкі-забаўлянкі,
Пакуль дасніць свой добры сон маля.
Спяваюць маці дзецям калыханкі —
Становіцца святлейшаю зямля.

***

Ты не дазволь мне бачыць слёз тваіх,
Я прад табой нічым не вінаваты.
Няхай рассудзіць лёс і час кудлаты
Гісторыю кахання на дваіх…

І выпаў снег, і адпусціў грахі.
Зіма жывое зробіць нерухомым.
Я падыду адойчы незнаёмым,
Ты усміхнешся светла, без тугі.

***

Я бачу свет сярод камет і цішыні.
Мной зорны шлях не да канца яшчэ забыты.
Нібы планета, пражываю свае дні
Вакол тваёй наноў народжанай арбіты.

За спінаю — зямля, я не належу ёй,
Як не належыць сонца ні людзям, ні Богу.
У зорнай бездані, адвечнай і нямой,
Я да цябе заўжды шукаў адну дарогу.

Хоць не губляў хвілін у сварках і гульбе
І не лічыў ніколі да спаткання крокі,
Я ведаю дакладна: без цябе
Мой свет неабаронены і крохкі.

***

За табой развяду масты,
Маё шчасце і мой праклён!
Да апошняга ўздыху — ты…
Нараджэнне маё і скон…

А з нябёсаў не дождж, не снег
На павеках маіх застыў.
Гэта век наш, ці чалавек
На каханне амаль пусты?..

***

Ад цябе не патрэбна нічога,
У раскатах глухіх навальніц
Я цябе адпускаю да Бога.
Да зялёных лугоў, да крыніц.

Дзе бязмежнасцю шырыцца неба,
Дзе спявае жалейка наўздзіў,
У празрыстую сінюю небыль,
Дзе дагэтуль ніхто не хадзіў.

Алесь Бараноўскі

У святой адзіноце нанова
Ты адчуеш свой свет «на засоў»…
Як патрэбна хоць некалі слова,
Што зрываецца з вуснаў сяброў.

Калі ж ветласці сэрца захоча
У сцюдзёных заломах вятруг,
Ты прыходзь да мяне сярод ночы,
Прытуліся шчакою да рук.

І падзе твая крэпасць без бою,
І рассеецца разам імгла.
Зачаруешся так вышынёю,
Што дагэтуль і сніць не магла.

***
Імжа паглынае мярэжы,
Душа не спявае, хоць плач.
Гадзіннік спрадвечны на вежы
Над намі, нібыта палач.

Удар за ударам страсае
Паветра, струною звініць.
І ўсё-ткі ў душы прарастае
Жаданне адвечнае — жыць.

***
Ты паглядзі на чорную кайму…
Працуюць грамавыя верацёны.
Вакол сцяною дождж ільецца шалёны.
Ні краю ні канца няма яму.

Патурбаваў ён жнівеньскі спакой,
Адчуўшы слодыч гэткага размаху…
Бо толькі дождж спатоліць можа смагу
Зямлі наскрозь прагрэтай, трапяткой.

Ды як з вядра не вечна ліўню ліць,
Пужаючы птушыныя чароды.
І ля вады праменьчык жаўтароты,
Як птушаня, вясёлку стане піць.

***
Поўнач неба зоркамі расшыла,
Сіні слуп над дахамі дрыжыць...
Месяц — наша добрае свяціла,
Што ў сабе заўжды знаходзіць сілы
Сны людзей да ранку бараніць.

То глядзіць лагодна, то сурова,
То змагар маўклівы, то святы,
Зняў вакол дрымучыя аковы,
Асвяціў няведамыя сховы
Гэтай пракавечнай мерзлаты.

Новы дзень світальнаю гадзінай
Прывітае нашы галасы…
Толькі месяц без тугі адзіны,
Хоць ні ў чым ён нават не павінны,
Раптам знікне ў кропельках расы.



Графіка Дар'і Чупрыс.



Вераніка Ляўчук

**нарадзілася 23 сакавіка 1990 года ў Гомелі. Паводле адукацыі лінгвіст, піша дысертацыю, выкладае англійскую мову ў самым жаночым і самым мужчынскім універсітэтах краіны. Пры нагодзе выпраўляецца ў падарожжы, малюе акварэллю, скача кейлі, рылы ды полькі. Бае казкі.**

# Канвеер

Апавяданне

Аднойчы ён прачнуўся і не пазнаў любімы горад. Інтэрвенцыя дроідаў. Гэта адбылося.

Калі ён выбег на двор, было зусім цёмна. Па вуліцы, якую асвятлялі ліхтары, крочылі дроіды, арганізавана і імкліва. Па дарозе плаўна рухаліся жалезныя монстры з пражэктарамі замест вачэй. Тэхналогіі настолькі прасунуліся, што дроіды выглядалі зусім як людзі і нават насілі звыклае адзенне — паліто ды шапкі. Але ў іх замест глуздоў — праграмы, замест артэрый і жыл — драты. Ён упэўнены.

Тэхнакратны натоўп падхапіў яго і прымусіў рухацца ў зададзеным накірунку. Зялёнае святло. Амаль збіваюць з ног. Толькі ў натоўпе. Наперад. Хутчэй. Яго засунулі ў шматгранную аб'ёмную пасудзіну, падобную да павозкі, у якой адпраўляюць вугаль ды іншыя выкапні на перапрацоўку. Уваход закрыўся. Пасудзіна рэзка кранулася з месца, і ён наваліўся на буйнога дроіда. «Прабачце», — мармытнуў ён, але робат нават не звярнуў аніякай увагі. Твар дроіда вылепілі на хуткую руку, мабыць, пад шаблон, як раней рабілі васковыя маскі. З вушэй тырчалі правадкі, падпітваючы энергіяй. Пудзіла зазвінела на ўсю моц. Чалавек здрыгануўся. Пасудзіна ехала далей, абганяючы жалезных монстраў.

Калі ўваход закрылі, дроіды вываліліся і скокнулі ў вялізную дзірку, якая вяла пад зямлю. Ён патрапіў у вялікі шэры тунэль. Усе арганізавана крочылі, ішоў і ён. Трэба спяшацца. Наперадзе паказаліся мутнаватыя пласціны. Шух-шух! Дроіды падладжваліся і спрытна праскоквалі між цяжкіх пласцін, каб не атрымаць удар з размаху і не разляцецца на маленькія шарнірчыкі ды шрубачкі.

Піп! Піп-піп! Яны праходзілі праз прапускны пункт. Нешта працягла зараўло. І тут ён убачыў… гэта. Даўжэзнае падземнае пудзіла. Яно марудна і непазбежна падпаўзала, выплёўвала і праглынала дроідаў. Чалавек спыніўся. Над галавой разарвалася раз'юшанае паведамленне, што адзін вінцік выявіў непадпарадкаванне. Адзін вінцік выявіў непадпарадкаванне! І ён хутка ўскочыў у пудзіла за астатнімі.

Сталёвы чарвяк задаволена чмякнуў і выдыхнуў, як пасля сытай вячэры. Дроідаў у страўніку пачвары набілася зашмат, што, аднак, не замінала яму вокамгненна прарываць норы. Недарэчны вінцік разглядаў дроідаў. Яны былі панурымі, саромеліся пазіраць адзін на аднаго. Вымардаваныя і недагледжаныя, робаты лічылі хвіліны да таго, як зноў возьмуцца выконваць

закладзеныя ў матрыцу коды. Шкада іх. Ці мелі яны магчымасць перапісаць праграму? Ці ўсвядамляюць, чым скончыцца канвеер?

Чарвяк чмякнуў, і партыя дроідаў вывалілася на чарговы этап. Стужачны механізм вёз крыху знерваваных ахвяр пудзіла на паверхню. Дроіды радасна павыскоквалі з-пад зямлі і кінуліся ўрассыпную. Здаецца, нарэшце — воля. Але неўзабаве дроіды разбіліся на роўныя групкі і нават хутчэй за рух канвеера стартавалі апошні забег.

— Гэй, бяры прыклад!

Гэтага дроіда ён быццам ведаў. Калісьці разам яны прапусцілі кілішак-другі. Пэўна, у іншым жыцці.

Фабрыка. Фінальная кропка. Сюды канвеер дастаўляе дроідаў. Ступіў на платформу. Яна са свістам узнялася і дзінькнула. Тут ён будзе прыносіць карысць. Для таго яго і стварылі.

— Падпішыце, калі ласка, — паперка прыляцела на стол.

Ён пацягнуўся па асадку і аслупянеў. «Спісаць у лом», — значылася ў загалоўку. Асадку трымала жалезная рука, створаная з металічных пласцінак і добра прамазаных шарніраў. Правадкі ахайна прыхаваныя, шрубачкі старанна закручаныя. Дроіда сабралі нядаўна.

«Згодны старанна выконваць даручэнні ва ўстаноўленым парадку з дзевяці да шасці кожны будні дзень», «павінен прыбываць на фабрыку своечасова», «парушэнне дысцыпліны падлягае пакаранню», «за выбітныя дасягненні можа атрымаць дачасную змазку шарніраў». Ён ліхаманкава прабегся вачыма па белых старонках. Азірнуўся. Чатыры чыстыя сцяны, падлога, столь. Блакітнаватыя лямпачкі, вялізны чорны экран, маленькае акенца ў дальняй сцяне. Канвеер пасадзіў яго ў каробку. Код закладзены, яго трэба адпрацаваць. І выйсця няма.

Жах падступіў да горла, пакрысе паралізуючы свядомасць.

Але праграма дала збой. Нават у дасканалы код можа закрасціся памылка.

— Падайце мне, калі ласка, іншую дамову, — спакойна прамовіў чалавек. — Я напішу заяву на звальненне.

## Сіняя птушка

Містычнае апавяданне

Злаві птушку за хвост — і будзе табе шчасце.

Пасярод пажухлага поля, там, дзе калісьці ўзвышаўся магутны замак, сёння дажывалі шэрыя руіны. Людзі расцягвалі буйныя валуны і маленькія каменьчыкі на сцены ўласных хлявоў ці клецяў. І з кожнай наступнай выцягнутай цаглінкай яны рызыкавалі абваліць чарговую вежу.

Затое ў руінах знайшлі хованку сінія птушкі. Казалі, быццам любая з іх магла прынесці шчасце. Трэба толькі злавіць птушку і выцягнуць з хваста пяро.

Вось і дзяўчына захацела адхапіць сабе кавалачак шчасця. А чаму б і не? Хутка, проста, танна.

З глыбінь змрочных веж пачуўся тупат. Дзяўчына кінулася да замка. Яна была тут не адна. Вежы вартаваў цэлы натоўп. Кожны ведаў, што птушкам час выходзіць на вячэру. Зараз пачнецца паляванне.

Дзяўчына ледзьве падышла да ўскрайку пустэчы, як з разбуранага замка адна за адной пачалі выбягаць птушкі.

Вялізныя, на дзіва спрытныя, яны выкручваліся ад лоўчых, не даючыся нікому ў рукі. Магутнымі, нібы ў страусаў, нагамі адпіхвалі дарослых і білі тых, хто падабраўся занадта блізка.

Пераскоквалі праз дзяцей, дарэмна спрабуючы махаць маленькімі неразвітымі скрыдлышкамі. Трымалі тарчма ўзорыстыя, быццам паўлінавы, хвасты.

Птушкі спяшаліся ў лес, на волю. А людзі кідаліся за імі наўздагон, спадзеючыся дагнаць хоць якога кволага птаха і адарваць у яго кавалачак хваста.

Чакайце! Ну, пачакайце!

Дзяўчына збянтэжана стаяла пасярод поля, не разумеючы, як усё так хутка атрымалася. Ужо трэба лавіць птушак? Яна пабегла да замка. Мабыць, яшчэ не ўсе птушкі ўцяклі? Як жа яна застанецца без сваёй птушкі? Ёй патрэбна гэта славутая птушка!

Праз руіны пераскокнулі і з усіх ног кінуліся прэч некалькі крылатых уцекачоў. Але адзін з іх развярнуўся і смела накіраваўся ў бок дзяўчыны. Птушка была занадта вялікая і самаўпэўненая, дзяўчыну яна не заўважала. Занадта хуткая, занадта высокая… Гэтая птушка яе затопча!

Дзяўчына паспрабавала адысці ў бок, але дарэмна. Птушка неслася на яе. Птушка хоча яе з'есці. Дзяўчына не паспее. І птушка зараз яе дзеўбане!

Дзяўчына з усіх ног пабегла ў лес. Трэба схавацца паміж дрэвамі, цёмнымі, чорнымі, змрочнымі. Яна б ніколі там не апынулася, калі б не гэтая птушка. Слізкае павуцінне і нізкае вецце. Страшна. Толькі б птушка не дагнала!

Але ж дзе яна?

Тупату не чуваць.

Дзяўчына сагнулася, каб адпачыць і перавесці дыханне. Было горача. Лоб, шчокі, рукі, спіна — усё пакрылася потам. Кроў падступіла да галавы. Дзяўчына зморшчылася. Ёй было блага.

Пачуўся трэск галінак. З-за дрэваў і кустоў набліжаўся мужчына.

— Ой, прабачце, мне падалося, вы спужаліся. Ды не звяртайце ўвагі на тых птушак, яны бясшкодныя. Абараняюцца, і ўсё на гэтым. Вы як? Дух крыху перавялі?

Мужчына стаяў наводдаль і з цікаўнасцю глядзеў на яе. Ён быў нібы з рэкламы бас-гітары: высокі, мускулісты, з чорнымі ўскудлачанымі валасамі і выстрыжанай бародкай. Апрануты ў скураныя штаны і белую майку, увешаны металічнымі бранзалетамі і кулонамі. Але на ім замест гітары чамусьці вісела вялізная прафесійная фотакамера. Мужчына быў вельмі прыгожы. Ён злёгку ўсміхаўся, увесь такі прыветны і лагодны. Але дзяўчыне ён не падабаўся.

— Вы не падкажаце, як адсюль выйсці?

Дзяўчына заблукала, аднак прызнавацца ў гэтым ёй не хацелася.

— Пэўна, тым самым чынам, якім мы сюды і прыйшлі, — мужчына махнуў рукой у бок замчышча.

Прапанова вяртацца да птушынага гнязда дзяўчыну не натхніла. А калі драпежнікі чакаюць? Яна для іх — усяго толькі маленькі сакавіты чарвячок.

— Мабыць, тут можна прайсці неяк іншым шляхам? — запыталася дзяўчына.

У вачах мужчыны разгаралася прагавітая цікаўнасць. Ён зрабіў крок наперад.

— Ммм… Дазвольце, я вас сфатаграфую.

— Што за лухта… Навошта?

Шчоўк! Успышка.

— Вы вельмі антуражна выглядаеце на гэтым фоне, — яшчэ раз — шчоўк! І ўспышка. Дзяўчына здрыганулася ад рэзкага гуку і святла.

— Ну што вы робіце?! Я ж нават не падрыхтавалася. Я не люблю розныя…

— Давайце яшчэ раз! — захапляўся фатограф.

— Не, ну навошта? — паспрабавала аднеквацца яна.

Шчоўк! Успышка. Зноў. Халера, што ён робіць? Вар'ят нейкі. Але ж трэба, каб хоць адзін кадр прыстойна атрымаўся. Хто ведае, дзе гэтыя здымкі будуць выкарыстоўвацца? Дзяўчына натужна ўсміхнулася. Паспрабавала выпрастацца. Стала другім бокам. Гэты лес такі атмасферны, тут трэба нешта тэматычнае, а не папсовыя кадры. О! А што, калі готыка? Да прыкладу, чалавек праз павуцінне. А вось цікавы кадр з воўчымі ягадамі. І з галінкай. І седзячы на паваленым дрэве. І лісце якое ў валасы пусціць можна…

— А давайце, мабыць, і я вас сфатаграфую? — дзяўчына быццам апрытомнела.

— Не, — рашуча сказаў фатограф. — Мы павінны заставацца за кадрам. Давайце яшчэ разок. З валасамі трэба нешта прыдумаць.

Ён наблізіўся, каб зрабіць прычоску.

— А мабыць, усё ж…

— Ні ў якім разе!

Шчоўк. Шчоўк!

Дзяўчына вельмі стамілася. Здаецца, нічога асаблівага не рабіла, але з яе быццам сокі высмакталі. Яна зноў спацела, майка зрабілася бруднай, джынсы запэцкаліся, рэшткі лісця і павуціння ўблыталіся ў валасы. Дзяўчына хмурылася, з раздражненнем гледзячы на свайго ка́та. Маленькія чорныя вочкі без аніякіх эмоцый. Проста вочкі, якія пільна сочаць за кожным рухам. «Ды гэта ж я павінна яго лавіць! — шчоўк! — Ён той птах!»

— Не, хопіць ужо.

— Яшчэ адзін кадр зрабіць трэба.

— Не, — дзяўчына засланілася рукой ад успышкі.

— Зараз скончым. Цярпенне.

Ён зусім мяне замардаваць хоча!

— Дай, я цябе сфатаграфую, — дзяўчына зрабіла крок наперад, працягваючы руку да здымача.

— Не-не! — ён хуценька адштурхнуўся. Шчоўк!

— Ды хопіць ужо, я ведаю, хто ты.

Шчоўк. Ён не мог спыніцца. Шчоўк. Шчоўк!

— Ану, аддай!

Дзяўчына кінулася да птаха і абедзвюма рукамі ўхапілася за здымач.

— Не аддам!!! — загаласіў птах. — Не аддам! Не буду!

— Гэта не ты мяне, а я цябе фатаграфаваць павінна!

Яна ўхапілася за здымач. Птах трымаў яго мёртвай хваткай, пыхцеў, панікаваў, спрабаваў штурхацца. Дзяўчына штурхалася таксама. Двума пальцамі яна падчапіла карабін, той адкрыўся, і стужка, на якой вісеў здымач, выслізнула.

Здымач мой! Э не, птах! Здымач мой!

Дзяўчына расчапіла другі карабін і расціснула пальцы птаха. Адскочыла ўбок. Цяжка дыхаючы, тупнула і, злосна пазіраючы на птаха, наставіла на яго аб'ектыў.

Але колеры пажухлі, і птах ператварыўся ў туман. Падзьмуў ветрык і развеяў цьмяныя абрысы.

Крыху агледзеўшыся, дзяўчына заўважыла прасвет паміж дрэвамі і хутка выйшла з лесу. Па дарозе здымач ператварыўся ў памятае разлахмачанае пёрка, якое мякка апусцілася на дзірван.

# Кузуркі

— Чарлі, напішы для мяне, калі ласка, артыкул пра тое, што некаторыя жырафы выглядаюць зусім як людзі. Крыху меншае сэрца, крыху меншая селязёнка. Але знешні выгляд і, галоўнае, накірунак думак аднолькавыя.

Акуляры Чарлі Томпсана пускалі сонечных зайчыкаў, парушаючы змрок старога бостанскага паба. Яны былі знаёмыя сем год, і цяпер вучонаму падавалася, што ён пакрысе пачынае разумець містара Роджэрса. Раніцамі Джэймс, псіхіятр-пачатковец, чытаў «Таймс», днём даваў кансультацыі, вечарам праглядаў спецыялізаваныя выданні ці граў у більярд. Ён насіў звычайны цёмна-шэры касцюм, заўсёды выпрасаваныя белыя кашулі і гальштукі прыстойных для мужчыны колераў. Нічога ў абліччы ці твары Джэймса не выдавала кузурак, якія арганізавана корпаліся і будавалі вавілонскія вежы ў яго галаве. Спакойныя невыразныя вочы містара Роджэрса настойліва глядзелі на містара Томпсана. Чарлі адкрыў рот, на момант застыў і прыкусіў ніжнюю губу. Узняў бровы, намагаючыся прыдаць твару больш прафесійны выгляд, і нарэшце прамовіў:

— Аднак жырафы не людзі.

За гады знаёмства Чарлі паспеў упэўніцца, што Джэймс казаў такія рэчы сур'ёзна.

— Вядома, не. Яны жырафы. Проста некаторыя жырафы знешне выглядаюць, як людзі. Прызнацца, яны і думаюць аднолькава, і паводзіны не адрозніваюцца. Проста ўнутры людзі — жырафы.

Куточкі вуснаў Чарлі скептычна ўзняліся. Каб схаваць грымасу ад Джэймса, уладальнік тоўстых акуляраў у салідней не па гадах рагавой аправе адпіў кавы.

— Чаму б табе самому не напісаць такі артыкул?

— Я не біёлаг.

— Ты жырафаў бачыў? Яны жоўтыя, пакрытыя карычневымі плямамі, у іх доўгія шыі і рожкі, — не вытрымаў прафесійны біёлаг з абароненай дысертацыяй па гукавых і электрамагнітных сігналах пазваночных жывёл. — Сэрца ў іх важыць 12 кілаграмаў. А глузды далёка не такія развітыя, як у людзей. Жыраф — гэта хутчэй паўднёвы алень, а не чалавек, — скончыўшы лекцыю, Чарлі адмахнуўся, уліў у сябе рэшткі моцнага эспрэса і падаў афіцыянту знак, каб той прынёс другую порцыю. — У цябе новы кліент?

— Так, — крыху ажывіўся Джэймс. — Бядак лічыць, што ён жыраф.

— І яму ніхто не верыць.

— Вядома, — са спачуваннем адгукнуўся псіхіятр. Нахмурыўшыся, працягнуў: — Інакш бы яго не завялі да мяне. Я не магу напісаць прыстойны біялагічны артыкул з навуковым абгрунтаваннем таго, што некаторых жырафаў прымаюць за людзей. Мне патрэбна твая дапамога, — мякка дадаў Джэймс.

Безнадзейна ўздыхнуўшы, Чарлі глянуў у акно. На супрацьлеглым баку вуліцы адпачывалі чорныя глянцавыя машыны. Калісьці да Джэймса завітаў чалавек, якому ўсюды мроіліся кузуркі, буйныя і маленькія, энергічныя і пасіўныя, але ўсе аднолькава льсніліся чорным колерам, нібы спецыяльна начышчаныя і змазаныя машынным маслам. Бядача апавядаў, што спачатку яны запоўнілі дом і бюро, а пасля перабраліся ў горад. Кузуркі вылазілі з касавых апаратаў, калі ён набываў булкі, яны коўзаліся, п'яныя, па стале, налізаўшыся піва, калі ён па пятніцах сядзеў у пабе з сябрамі, яны нават хадзілі па канаце паміж капелюшамі пажылых лэдзі ў аў-

тобусе. Няшчасны скардзіўся, што ніхто, акрамя яго, кузурак на заўважае. Ён дакучаў жонцы і калегам, імкнучыся выбіць з іх прызнанні, але ўрэшце патрапіў да Джэймса.

Апошнія два гады з пацыентамі Роджэрсу шчасціла. Хтосьці ўсё жыццё вазіўся з арахнафобіямі, бяссонніцамі ці суіцыдальнымі схільнасцямі, а тут — нашэсце кузурак! Да яго вадзілі хлопчыкаў, якія сцвярджалі, што ўмеюць лётаць, і дзяўчынак, якія чулі плач зрэзаных кветак. Аднойчы ў кабінеце псіхіятра пабываў агаломшаны юнак. Пры ім многія людзі мяняліся ў твары, калі іх нешта ўзрушала. Мяняліся ў прамым сэнсе, як пярэваратні. Кожны раз, калі хлопчык не вывучваў хатняе заданне, вочы настаўніцы па гісторыі наліваліся крывёй, а зрэнкі рабіліся вузкімі, як у пантэры перад рашучым скокам на дурненькую антылопу. Бабуля ператваралася ў бегемота, трэнер па бейсболе — у насарога, аднакласнікі — у шымпанзэ. Калі малпы грамілі клас, кідаючыся партфелямі і ганяючыся адзін за адным, юнак слупянеў, пакуль у пакой не заходзіла настаўніца-монстр. Тады яму хацелася схавацца пад партай. Зусім не мужчынскія паводзіны.

Паводле вызначэння, атрыманага на кароткім курсе па ўводзінах у псіхалогію падчас навучання на біялагічным факультэце, да метадаў псіхіятрычнага лячэння належалі рацыянальны, фармакалагічны, сугестыўны і г. д. Нічым з пералічанага містар Роджэрс не карыстаўся. Насупраць, патаемным шэптам загаворваў зубы пацыентам — маўляў, ён бачыць тое ж самае, толькі — тссс! Ён не проста спачувае ім, а падтрымлівае. І калі пацыент можа захоўваць сакрэты — а як жа інакш! — тады ён падзеліцца з ім яшчэ адной вялікай таямніцай. А менавіта: у вярхах улады саспела змова! Яны ведаюць. Яны ўсё ведаюць і ўсё бачаць. Таму трэба паводзіць сябе абачліва. Да пэўнага часу трэба маўчаць, каб не выклікаць падазрэнні, калі хочаце абараніцца.

— Як містар Філіпс? — нечакана адгукнуўся Чарлі.

— Містар Філіпс вярнуўся да працы ў рыэлтарскае бюро і, ведаеш, цудоўна спраўляецца, — Джэймс узняў бровы, бо ніколі не думаў, што містар Томпсан слухаў яго расповеды з большай увагай, чым свецкая ветлівасць. — У яго павышэнне. Цяпер ён займаецца аўдытам. Дарэчы, памятаеш Роберта? — Джэймс прыкурыў цыгарэту.

Чарлі прызадумаўся на хвілінку, але разгублена паціснуў плячыма.

— У яго настаўніца ператвараецца ў пантэру, — псіхіятр з цікаўнасцю разглядаў, як рассейваецца выпушчаны дым.

Кузуркі ў галаве відавочна рабілі сваю справу, ажыўляючы з дыму даўгахвостых саламандраў і батыскафы ў духу Жуля Верна.

— Памятаю.

Містар Роджэрс кіўнуў, выдыхаючы чарговую порцыю міфічных звяроў і па-элеганцку трымаючы цыгарэту на выцягнутых пальцах:

— Псіхі, — ён вымавіў слова з натугай, быццам пад прымусам, — паўсюль, Чарлі. Хтосьці верыць у Бога, хтосьці у зубную фею, хтосьці кажа, што з навуковага пункту гледжання неба блакітнае толькі таму, што так яго ўспрымаюць колбачкі ў сятчатцы чалавечага вока, а сабакі наогул дальтонікі. Далі малюе ў адлюстраванні лебедзяў сланоў, Уэлс піша пра цывілізацыю разумных мурашоў, а містар Філіпс паўсюль бачыць чорных кузурак. Вось узяць хаця б цябе, Чарлі, — дымок паўтарыў рух рукі.

— А што мяне?

— Ну так, цябе. Чаму б табе не заказаць гарбату?

— Раніцай я люблю каву, — спакойна расплыўся ў хітраватай усмешцы біёлаг, атрымліваючы асалоду ад глытка добра змолатага, не перасмажанага эспрэса.

— Ты п'еш па раніцах выключна каву. Чаму?

Чарлі пацiснуў плячыма, паблажліва сузіраючы Джэймса праз тоўстыя лінзы акуляраў.

— Правільнае эспрэса бадзёрыць, робіць больш прадуктыўным дзень ды і мяне больш прыемным суразмоўцам. Такі ўжо ў мяне густ, а ў кавы — хімічны склад.

Містар Роджэрс пастукаў па стале кончыкамі пальцаў, быццам прызадумаўся, і нязмушана працягнуў, малюючы гісторыі пачвар кожным узмахам рукі з цыгарэтай:

— Але зялёная гарбата бадзёрыць лепш за каву. Як і памаранчавы сок. А для разнастайнасці можна ўзяць каву з малаком ці наогул какаву.

— Я задаволюся эспрэса ад Мэры, якая гатуе раніцай каву больш за 20 гадоў па сямейным італьянскім рэцэпце, — упэўнена адгукнуўся біёлаг. — І гэта нармальна, Джэймс, — мякка дадаў Чарлі.

— Што такое норма, Чарльз?

Містар Томпсан пасунуўся назад і адкінуўся на спінку крэсла, не жадаючы падтрымліваць бессэнсоўную, але небяспечную для яго гутарку.

— Норму мы адзначаем сабе ў галаве самі, — наступаў містар Роджэрс. — Ты верыш у эспрэса ад Мэры. Ён робіць цябе лепшым! — тэатральна ўскінуў руку Джэймс і рассмяяўся. — Гэта твая вера. Табе з гэтым утульна. І пакуль ты маўчыш і не лезеш на барыкады меркаванняў, твая вера бясшкодная. У адваротным выпадку цябе прымусяць лячыцца. Дык якая розніца, лічыш ты каву сваёй панацэяй ці сябе — жырафам?

Псіхіятр ганарліва ўдыхнуў дым і выпусціў сіваваты струмень, высока задраўшы нос.

— Напішы для мяне біялагічны артыкул, Чарлі, — цвёрда вызначыў містар Роджэрс. — І пра змову там згадай. І абавязкова падпішы, што кожны, каму патрапіцца копія артыкула, павінен яе знішчыць, — Джэймс затушыў цыгарэту і дадаў: — Не трэба нікому даказваць, што ты не жыраф.

## Сцюжа

Казка

Сядзела Сцюжа пад дрэўцам і плакала. Слёзкі яе адразу ператвараліся ў лёд. Як паглядзіцца Сцюжа ў раку, заплача, і вада прыкрыецца бліскучым шчытом. Крыўдна Сцюжы, сумна. Ніхто яе не любіць. Адусюль гоняць, крычаць, кулаком пагражаюць.

Бегла ад людзей Сцюжа. Праз лясы ды палі, дарогі ды пагоркі. Ад крокаў яе трава інела, лісце рабілася колкім, позняя кветкі ды апошнія ягады ператвараліся ў празрыстыя крышталі.

У роспачы была Сцюжа. Нідзе яе не прымалі. У лепшым выпадку пры сустрэчы людзі адварочваліся і разыходзіліся па хатах. Сцюжа не магла ні з кім пагутарыць. А ёй вельмі хацелася распавесці, як зайцы ды лісы жывуць у норах, паспрачацца, што за серабрыстыя агеньчыкі міргаюць на небе, і нават паказаць, як яна вырошчвае крышталь на дахах. Не было з кім.

Па вечарах Сцюжа хадзіла па гарадах ды вёсках. Людзі ў гэты час збіраліся дома. Дарослыя распавядалі, з якімі клопатамі спраўляліся на працы, а дзеці пераказвалі смешныя здарэнні ў школе. Стаяла Сцюжа ля акна, слухала, усміхалася. Толькі нядоўга, бо ад яе ішоў холад і вокны пакрываліся марознымі ўзорамі — так Сцюжа пачынала маляваць. Але праз шчыльны слой

ільду размоў не чуваць. Часам, каб нічога не прапусціць, Сцюжа нават адчыняла форткі, але людзі кідаліся іх зачыняць. І нічога ёй не заставалася, як ісці далей.

Сумна Сцюжы было. Самотна. Сядзела яна пад вярбой, як раптам пачула:

— Гэй, што з табой здарылася? Ты чаму плачаш?

Падняла Сцюжа вочы і бачыць вялікага белага ваяра. Такіх істот яна яшчэ не сустракала. Цела — тры шары, нос даўгі, вочы цікаўныя, а сам — увесь бялюткі і быццам крыху пухкі. І ў руцэ трымаў ён дзівосную дзіду.

— Ты хто такі? І як цябе завуць? — запыталася Сцюжа, выціраючы слёзкі.

— Я Снегавы Ваяр.

— Ваяр? — насцярожылася Сцюжа.

— Я змагаюся з сумам і прыкрым настроем. Што з табой здарылася? Мабыць, мы разам нешта і прыдумаем!

Уздыхнула цяжка Сцюжа і падзялілася сваімі клопатамі.

— Ну і што з таго холаду? — у рэшце рэшт сказаў Снегавы Ваяр. — У мяне вунь, напрыклад, шалік ёсць! Хадзем, будзем змагацца!

Снегавы Ваяр падняў дзіду да нябёсаў і ўзмахнуў ёй.

— Ты што! — перапужалася Сцюжа. — Я і так, бывае, падкідваю клопатаў. Але я не хачу па ўласнай волі рабіць каму-небудзь блага!

Снегавы Ваяр усміхнуўся і запэўніў, што ён ніколі не нападае, а толькі абараняе. А дзіда яго чароўная. Снегавы Ваяр накіраваў яе на аблокі і кінуў высока ў паветра. І з неба пасыпаліся белыя пухкія…

— Сняжынкі, — патлумачыў знаёмы.

Сняжынкі лёталі і засыпалі дрэвы ды кусты. Але толькі яны краналіся зямлі, як ператвараліся ў кроплі вады і знікалі.

Сцюжа выцягнула руку і злавіла некалькі сняжынак. Яны ўсе былі рознымі і стваралі прыгожыя востраканцовыя ўзоры. На далоні Сцюжы сняжынкі пачыналі зіхацець, нібы зоркі на небе, а яна толькі дзівілася чароўным зімовым карункам.

— Ого! — захапіўся Снегавы Ваяр. — А ну-ка, дапамажы!

Дзіда вярнулася ў руку і зноў паляцела да нябёсаў. З аблокаў пасыпаўся цэлы віхор сняжынак.

Паднялася Сцюжа. Выпрасталася. Узмахнула некалькі разоў рукамі, і навокал стала зусім халодна!

Але цяпер сняжынкі не раставалі, а засцілалі зямлю белай пухкай коўдрай.

— Снег! — узрадаваўся сябар. — Як жа я па ім сумую! А цяпер разам мы можам стварыць снег паўсюль, і ў гэтых мясцінах, а не толькі ў гарах! Хадзем!

Узяліся за рукі Снегавы Ваяр са Сцюжаю і крочылі праз лясы ды палі, дарогі ды пагоркі. Увесь свет рабіўся белым і бліскучым.





## Вікторыя Смолка

**нарадзілася 22 сакавіка 1996 года ў Гродне. Студэнтка 3 курса філфака ГрДУ імя Янкі Купалы. Вершы друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Православная газета» (Курган, Расія), у зборніку «Поэзия Мегаполиса» (Масква, Расія), часопісе «Славістычныя разнастайнасці» (Беласток, Польшча), іншых выданнях. Лічыць, што галоўнае — гэта бачыць акаляючае сэрцам праз творчасць, якую называе «чароўным шклом душы».**

# Музыка аблачын

***

Гарадзенскага сэрца пасланне
Вершанятка у дзюбцы прынесла.
Перадайце маё прывітанне
Ў ціхі вечар бясснежнаму Менску.

Што сняжынкаю-знічкай бязважкай
Над Гародняю неба сумуе,
Раскажыце яму, калі ласка —
Хай над вуснамі Бог апякуе.

Хай сняжынка душы заіскрыцца
Над музейнай Максімавай хаткай,
Калі там, у бясснежнай сталіцы,
Залунае маё вершанятка…

***

Ужо не страшна ісці наранку —
Не спіць прамень, яго будзіць спеў
Ужо Вясніца пяе вяснянку
Сярод галінаў цяжарных дрэў.

Калі заплача нячутным шэптам
Лісток ў зялёненькіх паўзунках,
Яго загойдае маці ветру
На легкакрылых сваіх руках.

Гарадзь ліхтарыкі-мроі ў цемры,
Паўстала музыка аблачын.
І ветрык звонкіх дажджынак зерне
Нябачна сыпле ў нябесны млын.

### Красавік

Мне здаецца, што заўтра прыйдзе  красавік,
І смарагдам зямлю-прыгажуню накрые.
Лёгкаспеўна над намі ўзляцяць салаўі,
Мроі-сны залунаюць на крылах.

Адчуваю: нябёсы з цяплейшым святлом
Раніцою ў акно сыплюць вецер вяснявы.
Быццам думкі мае не ахоплены сном,
А душэўнай  напоўнены явай.

Хутка дзень, як гармонік, расцягне  мяхі,
Зазвініць і пазбавіць чаканне ад болю.
Мне здаецца, што заўтра прыйдзе красавік
І прыйдзе менавіта з табою...

***

Ішла па сцэне, кветкі несла,
На гэты раз ты не спявала —
Пад ветрык радасны аркестра,
Вясёлай птахай шчабятала…

Сняжынкі выдыхалі ноты
У сакавіцкія нябёсы.
Ты шчабятала без самоты,
З маіх вачэй ліліся слёзы.
Я светла плакала міжволі,
Бо песня родная нас лечыць.
Бо голас Ластаўкі ніколі
Далёкіх песень не шчабеча…

***

У сонейку купаецца
Святая сенажаць.
Дазволь з табой параіцца,
Як жыць мне, што спяваць.

Жыццё зусім не зведана,
Схіліла галаву,
Праменяць ў сэрца вершы мне,
Як сонца у траву.

Ты вершаняткі горкія,
Матуля, супакой.
І вочанькі нязоркія
Мне пацалуй рукой…

Ад шэрых бедаў маркую
Душу мне заслані,
Нябеснымі фіялкамі
Каб расквітнелі дні…

## Да ластаўкі

Як прыйдзе час з вясной сустрэцца,
Ты заспявай ёй пра мяне —
Яна тваё сагрэе сэрца,
Спагадай шчыраю кране.

Лепш для цябе прамень гарачы
Няхай святлом абдыме дні,
Бо не стрымаюся — заплачу,
Паклічу верасень слязьмі.

А перад летам ў Свет Нябесны
Да Бога пойдзе сумны май —
Яму фіялкавую песню
Й букет валошак перадай.

Няхай Вясна з табою будзе,
З табою, з ластаўкай, лягчэй,
Пакуль шчымяць надзеяй грудзі,
А з вуснаў музыка цячэ…

***

Не лі наранку, ластаўка прыгожая,
Ў рачную сінь нябесны галасок,
Што раптам адгарыць сягоння Божае,
Як выгараў пад сонейкам пясок.

Не вернецца, а толькі цёплай кропляю
На бераг пырсне слёзнае «прабач»,
Не плач, мая харошая, далёкая,
Узлётамі апошнімі не плач.

Калі празрыстай хвалевай дарожкаю
Міг шчасця уцякае нацянькі,
Не лі, мая далёкая, харошая,
Сапранавыя слёзы ля ракі…

## Я чакаю вясну

Я чакаю вясну — ручаі і пралескі,
Абуджэнне імклівае гулкай ракі,
Каб у хвалях звінелі вясёлыя песні,
Неба сыпала сонечныя медзякі.
Я чакаю таго, хто чаканню спрыяе,
І таго, хто мяне называе Вясной.
За акном напрадвесні сняжынкі павялі,
Але хутка зямля пабялее ізноў —

Бо прадоўжыць квітнець на вішнёвых галінах
Снег духмяны і цёплы, як памяць у сне.
І заводараць слёзы мае канюшынай,
І далёкая сцежка пакліча мяне...

***

Вясну праспяваю і сэрца сагрэю,
Як лета, як восень, як тыдні таму.
Калі ж ціхі ветрык у сэрцы павее —
За шэпты мінулага подых прыму...

Няхай прыгадаецца сумнае ўчора,
Ад смагі пап’е маіх слёз, маіх дзён,
Я буду спяваць, покуль дыхае мора,
Што хваляй валошак пранізвае лён...

Я верую ў шчасце, за шчасце малюся,
Хай сэрца прасвеціць да самага дна!
Заўсёды няхай на маёй Беларусі
Жыве толькі музыка, толькі вясна...

***

Усмешку мары больш ніколі
Не адлюструюць мае вочы.
Напэўна, мне такая доля —
Жыць кожнай раніцай у ночы.

Але душа праменьчык бачыць,
Ліхтарык Божы свеціць нібы.
Мне нельга сумаваць — не плачу,
Калі тулю да сэрца кнігу.

Радочак музыку запіша,
Сапрана вершы людзям выльле.
І мара мне, як голас з вышы,
Нябачныя расправіць крылы...





Графіка Вікенція Пузанкевіча.

## Павел Падзораў

# Матэматыкі

Прафесар матэматыкі Крыніцын затрымаўся на працы і цяпер хуткім крокам накіроўваўся дадому, намагаючыся паспець да дажджу. Надвор'е было хмурнае. Хмурыўся і сам прафесар, успамінаючы сённяшнюю размову з нядбайным студэнтам Піліпчуком. Нягоднік асмеліўся заявіць, што матэматыка абсалютна не прыкладная навука і ў жыцці бескарысная. «Грошы лічыць умець толькі ды адзнакі ў заліковай кніжцы», — сказаў Піліпчук, за што і быў адпраўлены дадому з адзнакай «нездавальняюча». Ад размовы застаўся непрыемны асадак.

Крыніцын быў вельмі малады: яму толькі на днях стукнула трыццаць гадоў. Магчыма, таму не ўсе студэнты ўспрымалі яго сур'ёзна. Але такіх прафесар спакойна ставіў на месца.

Каля сквера на лаўцы плакала дзяўчына. Крыніцын па інерцыі праскочыў міма, але штосьці прымусіла яго спыніцца.

— Я магу вам чым-небудзь дапамагчы? — ветліва пацікавіўся ён. Дзяўчына падняла вочы, і Крыніцын убачыў, што яна маладая і вельмі прыгожая. Нават слёзы яе не псавалі.

— Чым вы мне дапаможаце?.. Мабільны ў ліўневы сцёк упусціла. Штурхнула мяне цётачка, я і не ўтрымала, — яна ўсхліпнула. — Гэта не проста тэлефон… Падарунак гэта. Ад бабулі, у гонар паступлення ў інстытут. Яна з пенсіі цэлы год збірала…

Вочы дзяўчыны зноў напоўніліся слязьмі. Крыніцын разгублена маўчаў. Перад ім сядзіць і плача прыгожая дзяўчына, а ён са сваёй матэматыкай бяссільны ёй дапамагчы.

Дзяўчына горка ўздыхнула.

І раптам прафесару прыйшла думка. Крыніцын выхапіў з папкі аркуш паперы і ручку:

— Дазвольце, я паспрабую калі не дапамагчы, то хаця б супакоіць вас? Матэматыку, спадзяюся, памятаеце?.. Глядзіце.

Дзяўчына, усхліпваючы, насцярожана паглядзела на паперку.

— Я... дарэчы, на факультэце... прыкладной... матэматыкі вучуся.

— Вось і выдатна! Зараз мы яе і «прыкладзём»... Такім чынам: AX, — хутка пісаў ён, — дзе A — вы засмучаная і X — у вас знік тэлефон. Далей... BX, дзе B — вы спакойная, а X, як мы дамовіліся вышэй, — згуба тэлефона.

На аркушыку ўтварылася просценькая формула: «AX = BX».

— Што мы маем... З аднаго боку, вы пазбавіліся тэлефона і вы засмучаная, з іншага — вы пазбавіліся тэлефона і вы спакойная. Паколькі тэлефон страчаны ў абодвух выпадках, мы скарачаем ікс. У выніку атрымліваем…

Ён хутка закрэсліў іксы: «A = B».

— У выніку: A — вы плачаце або B — вы спакойная... Выбар — за вамі.

Крыніцын зірнуў на дзяўчыну. Яна сцішылася, назіраючы за яго простымі вылічэннямі, і ўжо не хліпала.

— Правільна! Матэматычна ўсё дакладна, — дзяўчына зірнула ў вочы Крыніцыну, і ён убачыў у іх цікавасць, — вы цалкам маеце рацыю. Сапраўды не варта сумаваць пра тое, чаго нельга выправіць... Дзякуй вам.

Яна ўстала, сарамліва ўсміхнулася і пайшла ўніз па вуліцы... Крыніцын накіраваўся ў процілеглы бок. «Вось і матэматыка спатрэбілася», — думаў ён. Дадому не хацелася. Прафесара

неадольна цягнула назад. Першыя кроплі дажджу ўпалі на брук. Перад унутраным поглядам Крыніцына стаяў твар дзяўчыны. То жаласны, то ўсмешлівы.

Больш за ўсё на свеце ён жадаў, каб да яе вярнуўся тэлефон. А яшчэ лепш, каб тэлефон вярнуў ён, Крыніцын. А потым яны б проста ішлі вуліцай і гаманілі. Пра што заўгодна… «Нават пра матэматыку — пабяры яе, нячыстую!» — падумаў Крыніцын.

І ў гэты момант ударыў такі выбух грому, што Крыніцын ажно падскочыў. Бліснула асляпляльная ўспышка, а калі зрок трохі аднавіўся, ён убачыў пад нагамі невялікі празрысты поліэтыленавы пакет.

Асцярожна падняўшы яго, Крыніцын выявіў унутры белы мабільны тэлефон і бліскучую картку з тэкстам. На ёй выпуклымі літарамі было надрукавана:

Мабільны тэлефон сістэмы «MotoEricNokSung - БЭдроід 54875» — 1шт. Адноўлены на кварка-глюонным узроўні на аснове аналізу страчанага ўзору. Удасканалены. (Прывітанне ад матэматыкаў XXIV стагоддзя!)

Старшы навуковы супрацоўнік
Усезямнога інстытута часу
Сяргей Крыніцын

А ніжэй, ад рукі, спехам і дробным почыркам было напісана: «Дзейнічай, пра-прадзед! Вярні тэлефон пра-прабабулі і не крыўдзі яе...» — і смайлік!

Крыніцын развярнуўся і з усіх ног кінуўся ўслед за дзяўчынай.



да апавядання «Матэматыкі».



да апавядання «Заўтра» . Графіка Вікенція Пузанкевіча.

**Літаратурны дуэт Татмір**

# Заўтра

побытава-містычнае апавяданне

Уладзімір Сцяпанавіч Буслаеў вярнуўся з крамы злёгку на падпітку. Сустрэў у гастраноме сябра, з якім не бачыліся больш за паўгода, і вырашыў нагнаць упушчаны час у кафетэрыі. Частаваў Сяргей. Пагаманілі за жыццё, памарылі пра мінулае. Нават, як у першым класе настаўніцу на дошцы ў выглядзе Бабы Ягі ў суаўтарстве намалявалі, успомнілі. Абодвум тады перапала. Прыгадалі і як працавалі разам кіроўцамі КамАЗаў. Брыгадзіра свайго, шэльму, нядобрым словам успомнілі. Увогуле, памарылі пра мінулае па-старэчы, як належыць. Заелі бутэрбродамі з нарэзкай парцыённую гарэлачку і разышліся-распаўзліся кожны ў сваю добраўпарадкаваную гарадскую нару марыць ужо ў адзіноце.

Думалася Уладзіміру Сцяпанавічу пра сына Рамана, які на мінулы яго, бацькі, дзень нараджэння ў падарунак мікрахвалёўку на кухонны стол з усім належным у такіх абставінах бадзёрым балаканнем паставіў, інструкцыю ў рамачцы на бачнае месца прысабачыў, ды так і знік на паўгода з жыцця бацькі. Тэлефанаваў яму Уладзімір Сцяпанавіч, тэлефанаваў, ды няма калі Ромку нудныя размовы весці, бацькавы нетаропкія разважанні выслухоўваць: працаваць трэба, жонку Веру забяспечваць. Вось толькі дзіўна, чаго з дзіцём цягнуць? Хочацца ўнука дачакацца. Ды ўсё, вядома, разумеў Уладзімір Сцяпанавіч і, на сынаў эгаізм з вежы ўласнага пазіраючы, не крыўдзіўся, але ўсё адно неяк тужліва яму аднаму ў двухпакаёвай кватэры жылося. Вось калі яшчэ Рая жывая была… Так вось, у неадчэпных разважаннях ды мроях, і бавіў свае самотныя дні Уладзімір Сцяпанавіч, рана састарэлы шасцідзесяцігадовы мужчына.

А сёння штосьці наогул моташна на душы было. Ці то сустрэча з аднакашнікам развярэдзіла яе, душу гэтую, ці то нарэзка нясвежая аказалася… Успомніўшы строгія забароны свайго ўчастковага лекара ды ўласнага ж страўніка, Буслаеў сумна ўсміхнуўся.

Калі на электронным будзільніку з зязюляй лічбы сталі здавацца не зусім ужо недарэчнымі для сну, Уладзімір Сцяпанавіч сцягнуў з сябе ўтульную фланелевую кашулю і залез пад цёплую коўдру. Як водзіцца, памарыў перад сном пра заўтра, склаў немудрагелістыя планы, а потым заснуў.

Сны Уладзіміру Сцяпанавічу заўсёды сніліся яркія, маляўнічыя, у адрозненне ад шэраватай паўсядзённасці старога самотніка. І гэтым разам душа, якой таксама абрыдла аднастайнасць, не падкачала.

Апынуўся ён у цёмнай вільготнай задусе в’етнамскага гушчару, дзе ў маладыя гады выконваў у складзе абмежаванага кантынгенту інтэрнацыянальны абавязак у дачыненні да братняга камуністычнага народу ў яго барацьбе з капіталістамі. Бег сяржант Уладзімір Буслаеў з поўнай выкладкай за вузкавокім правадніком. Мільгалі ў зялёным змроку камлі дрэў, узнікалі і прападалі тут і там зыркія жоўтыя слупы сонечнага святла, што нейкім дзівам прарываліся скрозь зялёныя шаты. Цяжка дыхалі побач хлопцы з ягонага загінулага, зніклага пад казённым грыфам «Сакрэтна» ўзвода. Марш-марш!.. Мясцовасць пайшла ўгару. Бегчы стала цяжэй, але нічога, бывала і горш — ператрываем і зараз.

У звыклы роўны гул дрэў уплёўся іншы. Ён вібраваў нізка і ледзь чутна, амаль вуркатаў, пераплятаючыся з голасам джунгляў. Спачатку на яго ніхто не звярнуў увагі. А потым жывы

гул дрэў патануў у гэтым новым гуле і дробна задрыжала, захадзіла пад ботамі гарачая зямля. Што гэта з ёй? Не па вулкане ж бяжым?! Насустрач Уладзіміру, проста яму ў твар разам з траскучым грукатам і вострым смуродам ірвануў пякучы вецер. Сяржант Буслаеў і не заўважыў, як хлопцы кудысьці прапалі ў вакханаліі авіяналёту. Ён бег адзін. Знік некуды і вузкавокі дробны праваднік. Але Уладзімір і так ведаў: у што б там ні было яму трэба дабегчы туды, дзе цяпер трасе і цяжка грукоча.

Раптам зямля моцна падкінула Уладзіміра, быццам надумала скінуць з сябе. Ногі яго адарваліся ад глебы, ён павольна, нібы ў вадзе, праляцеў, куляючыся, і яго шпурнула ў нейкую цясніну. Галіны кустоўя змякчылі падзенне, і ўдару Уладзімір не адчуў. Затое адчуў, што цяпер ён сціснуты гарачай зямлёй. Цяпер трэсла і крычала аднекуль ззаду. А выратаванне было наперадзе. Трэба было ўсяго толькі прабрацца наперад. Здавалася, што цеснае вусце прахода вось-вось самкнецца яшчэ мацней і ўжо ніколі не адпусціць яго. Сяржант Буслаеў — ці ўжо не сяржант? — адчуваў, што задыхаецца. Ён праплішчваўся з усяе сілы, хапаўся рукамі, укручваўся галавой і плячыма. Выйсце, паратунак быў наперадзе. Ён адчуваў, што яму трэба толькі выбрацца адгэтуль — і ён абавязкова прачнецца, і нарэшце наступіць заўтра.

Ён паспеў! Зрабіў апошні рывок і адчуў свабоду. Перад затуманенымі вачыма ўспыхнула яркае-яркае святло, і ён закрычаў. Аднекуль збоку нібыта ізноў наляцеў басавіты рокат самалёта. І на гэты раз ён вуркатаў: «Хлопчык. У цябе хлопчык, Верачка. Усё ўжо! Бач, які гарласты! Ну, што ты крычыш? Зараз аддамо маме. Як назавеш першынца, Вера?»

І нейкі дзіўна знаёмы, немагчыма прыцягальны голас адказаў гэтаму рокату: «Мы з мужам вырашылі, калі сын народзіцца — Валодзечка будзе. Як дзядуля, Уладзімір Сцяпанавіч. Вельмі пра ўнука марыў, ды так і не дачакаўся...»

І сонца бліснула ў вочы, і шчасце, неймавернае шчасце цеплыні рук пяшчотных, паху салодкага, голасу мяккага ахінула, заглушыла нядаўні боль, залюляла новага чалавечка, Уладзіміра Раманавіча Буслаева!..

**Рагнеда Юргель**

# Дама з кнігай

Калі апошнія промні сонца адгарэлі на кляновых вяршалінах, яна нетаропка адклала кнігу, якая паспела ўжо надакучыць, і з задавальненнем расправіла плечы. Пачынаўся вечар. Стаяла тая дзівосная пара, калі восень замірае, прыслухоўваючыся да цішыні, а вакол — глыбокая сінь неба і сонечны колер лісця на паркавых дрэвах. У такі час дзень яшчэ захоўвае летняе цяпло, а ноч папярэджвае раннім холадам пра блізкія дажджы.

Але яна не баялася холаду. Ён ужо даўно паспеў стаць яе заўсёдным і звыклым спадарожнікам. Яна какетліва папраўіла мяккі капялюшык з пер'ямі за шырокай стужкай, абтрэсла ад выпадковых парушынак доўгую сукенку і паднялася з пазелянелай паркавай лаўкі. Спачатку яе крокі былі павольнымі, нерашучымі, аднак хутка анямелае цела зноў стала паслухмяным і гнуткім.

Пакуль цемра канчаткова не схавала горад, яна рушыла ў глыбіню парка. Цяпер яго дарожкамі праходзілі адно закаханыя, занадта занятыя, каб заўважаць нешта яшчэ. Толькі прыпозненым пенсіянер некалькі імгненняў узіраўся ў самотную дзявочую фігурку ля возера, што быццам баялася падысці бліжэй да вады.

Яна і сапраўды адчувала незразумелы страх перад гэтай люстраной паверхняй. Унутры жыло прадчуванне, што вада ніколі не здолее вытрымаць яе, ды і зямля на дне занадта маккая і сквапная —праглыне за дзень. Ну, магчыма, за два.

Аднак лебедзі добра ведалі яе слабасць і таму падплывалі да самага берага, прыгожа выгінаючы доўгія шыі.

Ноч падкралася незаўважна, цемру разбілі плямы ліхтароў. Можна было выходзіць у горад, але яна яшчэ нейкі час палюбавалася на спакойнае люстра возера — час прывучыў яе не спяшацца.

Паркавая алея вывела на шырокую вуліцу. Там пакуль рухаліся людзі і аўтамабілі. На яе азіраліся — позіркі былі альбо цікаўнымі, альбо насмешлівымі.

Дзве плошчы, бібліятэку і гарадскую бальніцу яна мінула адразу — цэнтр ніколі не вабіў яе сваёй мітуслівасцю, рэзкімі гукамі, каляровымі агнямі. Іншая справа — ускраіны. Нават гэты правінцыяльны горад рос і змяняўся з неверагоднай хуткасцю. З'яўляліся дамы са шкла і бетону, болела машын на вуліцах… Яна памятала гэты горад не такім, і вярталася туды, дзе яшчэ стаялі аднапавярховыя дамкі і дрэвы прыветна цягнулі галіны над парканамі.

Яна павольна крочыла адной з такіх ціхіх вулачак, калі рэзкі свет фараў і злосны гудок прымусілі яе адскочыць на абочыну. Вадзіцель крыкнуў у прыадчыненае акно нешта рэзкае, абразлівае, і яна доўга супакойвала дыханне, намагаючыся зразумець яго словы. За апошнія тры гады яна нядрэнна навучылася перакладаць самыя розныя выказванні. Некаторыя з іх падаваліся смешнымі, некаторыя — бессэнсоўнымі, і яна паспачувала людзям, што кожны дзень вымушаны былі іх казаць і ўхіляцца ад грукатлівых жалезных пачвар.

Наогул, ноч была самая звычайная. Праўда, у адным завулку ёй сустрэлася нецвярозая кампанія, але, пабачыўшы, што далонь незнаёмкі з лёгкасцю пакідае след нават на ліхтарным слупе, прыціхлыя гулякі не асмеліліся яе затрымліваць. Яшчэ на адной вуліцы ёй параілі не бадзяцца пад вокнамі, а за наступным паваротам нагнала жартаўлівае запрашэнне выпіць піўка.

Ноч пераваліла за сярэдзіну, калі за яе спінаю нехта прамовіў:

— Вы не баіцеся хадзіць так позна?

— Не, — яна азірнулася. Хлопец з цікаўнасцю разглядаў яе, паклаўшы рукі на весніцы.

— Вы не заблукалі? Дарэчы, у вас такі незвычайны выгляд...

Яна на імгненне збянтэжылася, але адказ быў даўно прыдуманы і адрэпетаваны:

— Усё добра, я вяртаюся з тэатральнай вечарыны.

Малады чалавек нечакана ўсміхнуўся:

— Ведаеце, вам нават да твару гэты капялюшык з істужкай і доўгая сукенка. Вы нібы з казкі прыйшлі.

А потым была размова ні пра што і пра ўсё. Ён назваў сябе, яна таксама паспешліва адшукала ў памяці адно з жаночых імёнаў, што выпадкова чула на вуліцах. Хлопец не спяшаўся вяртацца ў дом, а яна забылася, што меркавала выйсці за горад. Калі з'явілася тонкая шэрая палоска на ўсходзе, ніхто не заўважыў…

Сонца ўжо выпусціла першыя промні, калі наперадзе паказаўся парк. У гэты час горад зусім апусцелы, і таму яна бегла, не разбіраючы дарогі. Ранішні туман усцілаў зямлю, глушыў таропкія крокі. Ёй ніколі не даводзілася так позна затрымлівацца. Вось і нязменная лаўка. Адсырэлая кніга. Яна не гледзячы разгарнула шэрыя старонкі, на якіх, зрэшты, не было ніводнага надпісу. Думкі нязвыкла мітусіліся ў галаве: «Цікава, гэты хлопец забудзецца, што сустрэў мяне ноччу? Звычайна яны ўсе забываюць». Новы дзень не дазваляе ёй заставацца ў чалавечай памяці. Шкада, гэты чалавек аказаўся цікавым суразмоўцам, што было рэдкасцю ў яе доўгім жыцці.

Світанне разгаралася, і адначасова набіраў сілу першы восеньскі марозік. Аднак яна не адчувала яго. Іншы, асаблівы холад пачаў пакрысе скоўваць яе цела, і, калі сонечныя промні вызалацілі парадзелую кляновую вершаліну, яна яшчэ паспела падумаць: «Сёння ў горадзе свята. Абавязкова трэба схадзіць на тую вуліцу… Ён нават кагосьці мне нагадвае… Заўтра… калі… сонца…»

***

У другой палове дня гулянне перамясцілася ў парк. Дзеці бегалі па алеях, збіралі букеты з лісця, кідалі іх у сіняе, звонкае ад павуцінак неба. Дарослыя з асалодай дыхалі прахалодным паветрам, прагульваліся каля возера ці адпачывалі на лаўках.

— Ану, Наташа, сфатаграфуй мяне каля нашай Дамы з кнігай! — немалады, таўставаты мужчына працягнуў жонцы фотаапарат, а сам са смехам абняў за плечы худзенькую дзяўчыну ў старамодным капелюшы і доўгай сукенцы з карункавымі рукавамі.

Дзяўчына сядзела на краёчку лаўкі, крыху схіліўшы галаву, і чытала кнігу. Ёй не было справы да таго, што дзееца навокал. Бронзавыя скульптуры надзвычай абыякавыя да ўсяго.



Да апавядання «Тая, што была раней».



Да апавядання «Дама з кнігай».
Графіка Вікенція Пузанкевіча.

**Аляксандр Гурын**

# Тая, што была раней

Міхаілу спаўнялася трыццаць.

На свята, што зладзілі з нагоды гэтай падзеі ў невялікім, але ўтульным доме, які застаўся Міхаілу ў спадчыну, былі запрошаны выключна калегі. У яго працоўнай кніжцы, як ні дзіўна гэта выглядала паводле сучасных мерак, быў толькі адзін запіс — і з'явіўся ён амаль дзесяць гадоў таму. Працаваў Міхаіл у буйной кампаніі па дастаўцы ўсяго, што можа аплаціць спажывец, і здзіўляў усіх тым фактам, што за такі доўгі час матляння па розных канцах горада — а ён зарабляў звычайным кур'ерам — ніводнага разу нават не паспрабаваў змагацца за павышэнне, маючы на тое ўсе шансы і нават канкрэтныя прапановы. Некаторыя яго таварышы за карацейшы тэрмін выраслі з аператараў кол-цэнтра да менеджараў па продажах, хоць былі значна менш вартыя гэтага росту. Але Міхаіл заўсёды ўсміхаўся на пытанне, чаму так, часам дадаючы: «Я на сваім месцы».

Ён у прынцыпе часта ўсміхаўся, не выглядаў на свой век і быў прыязным і цікавым чалавекам, таму яго любілі і кліенты, і партнёры па вялікім аддзеле дастаўкі, дзе кур'еры бавілі час пры адсутнасці заказаў. Заўсёды холадна трымалася з Міхаілам толькі кіраўнік аддзела Юлія Раманаўна, якая таксама некалі пачынала з адказаў на званкі. Часам ніхто, акрамя яе самой, не разумеў, з якой прычыны Міхаіл чарговы раз пазбаўлены прэміі. Зрэшты, у калектыве яна лічылася сапраўднай сцервай, якой праз характар, пры наяўнасці вонкавай прыгажосці, па жыцці не хапала мужчынскай увагі. Юлія перыядычна прыдзіралася амаль да ўсіх, акрамя некалькіх дзяўчат, якія падлашчваліся да яе, — так што Міхаіл не вельмі вылучаўся з шэрагу падначаленых. Тым не менш яна была запрошана Міхаілам і, на жаль, прыйшла ў прызначаны час, разбавіўшы мужчынскую кампанію прысутных.

Другой жанчынай у доме ў той дзень была Наталля, жонка Міхаіла. Увогуле, яго асабістае жыццё для калег заставалася таямніцай — ён прыгожа адыходзіў ад размовы кожны раз, як толькі пачыналася тэма стасункаў. Канешне, адразу пасля яго выхаду на працу некалькі зацікаўленых маладых дзяўчат даведаліся ў кадравікоў, што новенькі ўжо жанаты. Сам Міхаіл не імкнуўся да размоў з процілеглым полам, абмяжоўваючы іх непазбежным мінімумам. Мужчынам жа, з якімі ён усталёўваў кантакт нязменна лёгка, на пытанне аб ранняй жаніцьбе ішоў просты адказ: «Я шчаслівы».

Для цікаўных сітуацыя стала больш зразумелай пасля таго, як яны ўбачылі Наталлю. Па аддзеле адразу ж пайшла чутка, што жонка ў Міхаіла — сапраўдная прыгажуня, якая не мела ніводнай лагічнай прычыны выбраць даволі непрыкметнага і зусім не забяспечанага матэрыяльна маладога чалавека. Дзе яны пазнаёміліся, як доўга сустракаліся, ці не даводзілася ёй зацяжарыць — усё гэта заставалася загадкай. Пра Наталлю сярод знаёмых Міхаіла ведалі яшчэ менш, чым пра яго самога: яна працавала ці то ў бібліятэцы, ці то ў кнігарні, была крыху маладзейшая за мужа і таксама выглядала побач з ім абсалютна шчаслівай — вось і ўсё. У пэўны момант Наталля стала рэгулярна з'яўляцца ў офісе Міхаіла, часта прыходзячы рана і чакаючы вяртання мужа з выездаў; і шмат хто з хлопцаў спрабаваў гаварыць з ёй намёкамі, а самыя смелыя — і наўпрост прапанаваць свае паслугі, але рэакцыяй было настолькі шчырае неразуменне ў поглядзе, што хутка ўсе падобныя прамовы сціхлі. Ніводнага разу не чулі ад Міхаіла

не тое што пра сварку — пра недамоўку з жонкай, і ў выніку персанал офіса стаў згадваць гісторыю іх кахання толькі ў прыклад і на зайздрасць менш удачлівым парам.

Святочны стол быў перапоўнены пачастункамі, клапатліва прыгатаванымі Наталляй. Мужчыны без сарамлівасці любаваліся невысокай зграбнай постаццю гаспадыні, якая сноўдала па доме. У памяшканні панавала нязмушаная атмасфера. Міхаіл быў вясёлы і шмат жартаваў, калегі ўзнімалі тосты за юбіляра, за поспехі ў працы, за каханне… Узяла слова і змрочная Юлія, якая не падыходзіла пад агульны настрой. Яна суха павіншавала віноўніка ўрачыстасці, згадаўшы пра хуткае дзесяцігоддзе яго стажу ў фірме, за што неадкладна былі паднятыя кілішкі ды шклянкі. Міхаіл рабіўся ўсё больш радасным з кожным новым віншаваннем і дзякаваў усім з аднолькава шырокай усмешкай. Хутка да яго падсела стомленая, але задаволеная Наталля, і кожны раз, прыабдымаючы яе, Міхаіл быццам выпраменьваў сонечнае святло.

Раптам каля імянінніка ўзнікла начальніца.

— Мне трэба з табой паразмаўляць, — кінула яна нягучна і пайшла ў бок кухні.

Міхаіл здзівіўся: усё жыццё яны былі на «Вы».

— Хутка вярнуся, — сказаў ён Наталлі і пайшоў услед за Юліяй.

Тая ўжо чакала яго, абапёршыся на кухонны стол. Міхаіл стаў спінай да дзвярнога праёма, міжволі засланяючы Юлію ад чужых вачэй. З боку залы ўрыўкамі чуліся гукі банкету.

— Што здарылася, Юлія Раманаўна? — спакойна запытаўся Міхаіл.

— Я выпіла, — суха адказала Юлія.

Паварот падзей быў не зусім прадказальны, але Міхаіл не падаў выгляду:

— І?

— Я выпіла, каб сказаць, Міхаіл Мікіціч… Ведаеш, Міша, прымаўку: што цвярозы думае, п’яны скажа? — хрыпла кінула дзяўчына.

— Не вельмі інфарматыўна, Юлія Раманаўна, — Міхаіл заставаўся непахісным.

— Дурань ты, Міша, — нечакана працягнула Юлія. — Сляпы дурань. Адкажы мне, адкажы: ты насамрэч усе гэтыя сем гадоў ні чорта не бачыш? Вось сур’ёзна?

— Не, ніводнага чорта за сем гадоў не бачыў, — усміхнуўся мужчына, напэўна, соты раз за вечар.

— Ох, зноў тваё фірменнае пачуццё гумару, — цяжка ўздыхнула Юлія. — Добра. Тады наўпрост.

Павісла маўчанне, але Міхаіл не спяшаўся яго парушаць.

Раптам дзяўчына працягнула:

— А ты ўвогуле нічога не бачыш, акрамя Наташкі сваёй… Нічога. А што ў ёй такога асаблівага? Скажы, што? Гатаваць умее? Дык я таксама ўмею! Прыгожая? А я што, непрыгожая, а? А? Дагэтуль у бібліятэцы сваёй сядзіць, напэўна. А я ўжо начальнік аддзела! Хутка намеснікам дырэктара стану, разумееш ты? Толькі для чаго мне ўсё гэта? Для каго?

Міхаіл не разумеў, чаму Юлія вырашыла сказаць менавіта гэта і менавіта цяпер, але адчуў да яе спагаду. Ён хацеў супакоіць яе, каб не засмучалася занадта моцна: кар’еру і адносіны можна паспяхова сумяшчаць, і чалавек, якому спадабаецца яна сама, а не яе статус, абавязкова з’явіцца, калі сапраўды гэтага захацець… Але, пракаўтнуўшы, Юлія загаварыла зноў:

— Калі я прыйшла ў кампанію… Сустрэла цябе. Заўсёды пазітыўны, упэўнены. Я хацела... А высветлілася, што жанаты. Але я вельмі хацела. Вельмі. Вырашыла, што пачакаю. Усе сварацца, усе разыходзяцца. А я буду побач, і… Ні чорта. Год, два… А ты заўсёды шчаслівы. Заўсёды. Ні

сварак, ні скаргаў… Ідэальная, так? Не бывае ідэальных! Я спрабавала ўсё, каб ты заўважыў… Хоць бы раз! Не. У цябе адно святло ў акенцы. Ната-аша… Я намагалася забыць. Жыць сваім жыццём. Ні чорта, разумееш? Я стамілася. Вельмі стамілася. Але я хачу зразумець. Вось я. Мне кажуць, што я… Захапляюцца. Шмат хто кажа. І сама я бачу. Усё пры мне. І яна. Прыгожая. Можа быць. Але ж нічога асаблівага. Зусім нічога. І я не разумею. Не разумею! Я дзеля цябе… Ды не мог ты не бачыць! Чаму ты з ёю?! Чаму яна, а не я?!

Голас Юліі сарваўся. Яна дыхала цяжка, быццам толькі што прабегла некалькі кіламетраў, і глядзела проста ў вочы Міхаілу.

А ён глядзеў на яе і думаў… Канешне, ён бачыў. Не надаваў асаблівага значэння, але бачыў. Але ж ён кахаў. І тады, і цяпер аднолькава моцна. Пры гэтым…

Міхаіл паглыбіўся ў разважанні.

Ён лічыў сябе вельмі лагічным чалавекам і заўсёды доўга думаў, перш чым прыняць любое рашэнне.

Але ў яго каханні да Наталлі ніякай логікі не было.

Ён ніколі не задумваўся, чаму кахае менавіта яе. Каханне было аксіёмай яго жыцця. Яго жонка па змоўчанні лічылася найлепшай жанчынай у свеце.

Аднекуль здалёк чуліся танцавальныя рытмы.

Упершыню ў жыцці Міхаіл пераступіў аксіёму і розумам параўнаў Наталлю з іншай.

І Юлія не была горшай. І Юлію таксама было за што пакахаць.

Тады чаму?

Паўза ў размове зацягвалася, але Юлія чакала моўчкі.

Міхаіл працягваў думаць. Яго логіка разглядала розныя варыянты, і ніводзін з іх не падаваўся яму правільным. Наталля… А калі б іх з ёю жыццёвыя шляхі не перасекліся — што, ён да гэтага часу жыў бы ў адзіноце?..

Юлія набрала ў лёгкія паветра і хацела нешта сказаць…

У гэтае імгненне да Міхаіла прыйшоў адказ, які ўразіў яго сваёй прастатой і адначасова няўхільнай праўдзівасцю. Адказ, які тлумачыў усё.

Прамаўляючы яго, мужчына нібы збоку пачуў у сваім голасе лёгкасць расталых сумневаў і радасць знойдзенай ісціны:

— Таму што яе я сустрэў раней.

Юлія знерухомела з адкрытым ротам і шырока расплюшчанымі вачыма і ясна бачыла, як Міхаіл развярнуўся, увайшоў у залу і пяшчотна пацалаваў жонку.





Айцец Яўстафій

**нарадзіўся 20 лютага 1975 года ў Докшыцах. Жыве ў Жыровіцкім манастыры. Выкладае ў Мінскай духоўнай семінарыі. Літаратуру лічыць адным з асноўных спосабаў пазнання ісціны. «Парыжскае развітанне» — другая частка трыпціха (1-я была змешчана ў №7/2015, 3-ю чакайце ў наступным нумары).**

# Парыжскае развітанне

Сяргей наважыўся адправіцца ў Парыж напрыканцы верасня. Ён добра ведаў, навошта прыехаў сюды: трэба было неяк па-людску развітацца з юнацкай марай, якую ўвасабляў гэты горад. Яна ўсё яшчэ трымала яго за сэрца і не адпускала. Сяргей, нібыта галоўны герой з набокаўскай «Машачкі», збіраўся ажыццявіць своеасаблівую інвентарызацыю свайго мінулага: зірнуць яму шчыра ў твар, вытрымаць яго позірк, разабрацца і адпусціць на ўсе чатыры бакі. Прынамсі, Сяргей спадзяваўся на поспех. Ён адчуваў, што пакуль застаюцца ў душы нейкія ілюзіі ў дачыненні да мінулага, яно будзе і далей мець над ім страшную ўладу. Страшную сваім фатальным дэтэрмінізмам, бо карані яго цяперашняй душэўнай блытаніны менавіта там — у бязглуздых юнацкіх трызненнях пра мемарыяльныя дошкі на інтэрнаце «Кулька» і ў абяцаннях чарговай «музе» аб сумеснай смерці ў «горадзе мастакоў і закаханых»...

Сяргей не мог больш жыць у ілюзіях, яму хацелася дыхаць свежым паветрам, але ўсё навокал душыла сваёй безвыходнасцю. Трэба было пабыць нейкі час удалечыні ад Радзімы, каб зразумець: як далей жыць? Ён з жахам назіраў, як паволі і, здавалася б, зусім непрыкметна пераўтварае свой талент у разменную манету для снобаў. Уменне ўсё высмеяць, нічога пры гэтым не губляючы, было сапраўды ўнікальным талентам для каго заўгодна — тым больш, для аўтара некалькіх вядучых рэспубліканскіх выданняў. Сяргей адчуваў сябе нібыта аголены нерв: кожны званок, кожная прапанова зрабіць новы матэрыял былі невыносна пакутлівымі для яго. Ён разумеў, што яго правакуюць на цалкам *пэўную пэўнасць*: маўляў, вызначайся, з кім ты?! Але сама такая пастаноўка пытання была Сяргею агідная.

Пакуль ён быў *ні з кім*, то адчуваў сябе незалежным чалавекам: хоць штосьці ў яго атрымалася — не ўвайсці ні ў адну, так бы мовіць, суполку. Дарэчы, цалкам магчыма, што менавіта гэтым — сваёй, скажам груба, цнатлівасцю — Сяргей і быў прывабны для ўсіх. На самай жа справе ён як бы ляжаў на аперацыйным стале, і любыя спробы пагаварыць з ім, а тым больш, любыя просьбы аб дапамозе, ён разглядаў як замах на сваё жыццё. Сяргей не ведаў наогул, ці

выйдзе жывым пасля гэтай аперацыі. Больш за тое: ён не ведаў нават, як ён трапіў на аперацыйны стол і хто яго аперыруе... Сяргею не хацелася думаць пра гэта, але не бачыць свайго развернутага ўнутранага стану ён не мог.

Ён раскідаў сябе па краінах, па эпохах, па джазавых і рок-н-рольных альбомах, па мастацкіх і літаратурных кірунках... Сяргей заглынаў усё гэта, пакутаваў і потым выдаваў такое, што амаль заўсёды захапляла яго фанаў-чытачоў. Але толькі не яго самога: ён разумеў, што з кожным новым артыкулам, з кожны м новым эсэ нараджае новых пачвар, якія жывуць сваім жыццём — ды такім жыццём, якое палохала Сяргея, якое было зусім чужым для яго самога, чужым і агідным. І тым не менш усе гэтыя яго бахуры спасылаліся на аўтара: усё зводзілася ў рэшце рэшт да яго. Сяргей адчуваў сябе параноікам, яму хацелася схавацца ад свайго мінулага, забыцца пра ўсё, што было хвіліну таму… Бо нават у тое, што было з ім хвіліну таму, ён ужо не мог паверыць.

Сяргей не ведаў, дзе ён сам — дзе ён сапраўдны, у чым заключаецца гэтая самая сапраўднасць? Апошнім часам яму, каб напісаць нешта такое, што мела хаця б слабую прэтэнзію на складанасць, глыбіню, трэба было гуляць у хованкі са сваёй маладосцю. Хадзіць і выпрошваць ці ўвогуле — красці. Сяргей бачыў, што не можа знайсці аніводнай прыстойнай фантазіі ў навакольным жыцці. Жыццё прапаноўвала яму выбар, каб ён хоць неяк навучыўся паводзіць сябе ды паважаць правілы гульні... Разуменне таго, што ў цябе няма на самай справе выбару — гэта ж таксама выбар. *Жыць у тэме* — вось як гэта называлася. Сяргей, можа быць, і хацеў навучыцца жыць, і палюбіў бы такое жыццё, але... інтуіцыя мастака падказвала яму: не вер. Ты захаваеш гэтую сваю невядомую сапраўднасць толькі коштам загадкі.

Ён выразна ўсведамляў, што адзіны даступны для яго выбар — гэта чаканне. Трэба зацягнуць надаўжэй час, пакуль навокал ідзе гэты бессаромны кастынг. Сяргей не верыў ужо нікому! Ён толькі адчуваў, як яго заглынае пустата; як кожны дзень па міліметры вымірае яго тэрыторыя. І нічога не зробіш — трэба вучыцца жыць з пустатой. У некаторых гэта файна атрымлівалася, але Сяргей добра ведаў, што ўсе гульні з монстрам скончваліся дрэнна. Ён не хацеў станавіцца чалавекам-амфібіяй, бо лёс такіх людзей вельмі сумны. Сяргей проста хацеў застацца сабой, але… каб жа ён ведаў гэтага *сябе* — вось у чым справа!.. Таму для пазнання сябе ён і выбраў звычайны для мастака фармат: душэўны экстрым з падарожжам у мінулае. Ну а потым — будзь што будзе!..

Сяргей загадзя (за пару месяцаў да паездкі) «зачэкініў» пакой у папулярным хостэле на знакамітай вуліцы Муфтар, апетай дзядзькам Хэмам[1]. Ру Муфтар месцілася на левым беразе Сены, у славутым Лацінскім квартале. Гэта была невялікая вулачка (усяго 650 метраў), якая пачыналася ад плошчы Контрэскарп і заканчвалася царквой Сэн-Медар. Да пакоя Сяргея на трэцім паверсе вяла крутая вінтавая лесвіца. Сам пакой быў вельмі маленькі, але ўтульны, з відам на Ру Муфтар. У ім стаяў двух’ярусны ложак: унізе Сяргей спаў, а наверсе складзіраваў рэчы, акварэлі і кніжкі, якія амаль праз дзень купляў у розных букіністычных крамках. Лядоўні не было, таму ён прывязваў сыр, віно і разнастайныя французскія булкі за характэрную жалезіну на падаконніку — так рабілі некаторыя жыхары гатэля. Нягледзячы на тое, што гэта быў Парыж дзясятых гадоў, а не Мінск дзевяностых, анталагічна ўсё тут дыхала менавіта яго, Сяргеевай, маладосцю. Да таго ж, хостэл размяшчаўся ў студэнцкім квартале, паблізу знаходзілася мно-

1 Маецца на ўвазе славуты амерыканскі пісьменнік Эрнэст Хэмінгуэй.

ства бараў і кафэ, прадуктовых і сувенірных крамак, многія з якіх працавалі кругласутачна: начное жыццё кіпела — будзь здароў!..

Сяргей стараўся падымацца раней, таму што раніцай ва ўсім навакольным раёне было адносна ціха. Каля восьмай ён спускаўся на агульную кухню і снедаў круасанамі з кавай у асяроддзі некалькіх заўсёднікаў кухні. Гэта былі, у асноўным, маладыя лацінасы і кітайцы. Сяргей здзіўляў іх адкрыццём пра існаванне загадкавай краіны «бітвін Раша энд Поланд». Ну, а потым ён хапаў з сабой нэтбук і бег на плошчу Контрэскарп, дзе наглядаў сабе свабодны столік у адным з кафэ і заказваў імбрычак, вяршкі, цукар ды шакалад. Калі Сяргей пісаў, яму падабалася піць моцную гарбату з цукрам: ён апраўдваў гэтую сваю слабасць неабходнасцю стымуляваць і сілкаваць мозг глюкозай. Ён працаваў, пакуль у нэтбуку не заканчвалася батарэя, то-бок некалькі гадзін запар. Пару разоў Сяргей прасіў замяніць імбрычак, хадзіў у прыбіральню, рассеяна натыкаючыся на цікаўныя погляды турыстаў…

На самай справе ён жыў гэтыя гадзіны ў Мінску пачатку дзевяностых гадоў. Сяргей да найдрабнейшых дэталяў успамінаў сваё першае каханне. Натуральна, што пасля гэтага кахання ён меў шмат іншых захапленняў, кожнаму з якіх ён быў гатовы надаць тытул выключнасці (жонка Іра была ў гэтай чарадзе апошняй). Але ж на тое яно і першае каханне, каб прэтэндаваць на асаблівы статус. Сяргею, як і кожнаму чалавеку, які аддаваў сябе ва ўладу падобных успамінаў, хацелася зразумець: а ці меў ён шанс насуперак усяму застацца шчаслівым у гэтым каханні? Кожны раз ён разумеў, што, вядома ж, не і... і ўсё ж.

…Яе звалі Рыта. Пазнаёміў іх прыяцель Сяргея, джазавы музыка, які (пра што Сяргей даведаўся потым) быў таксама ў яе закаханы. Таемна. Вакол Рыты наогул было шмат таемнага — гэтым яна, у першую чаргу, і прыцягвала да сябе людзей. Зрэшты, дзяўчына была безумоўна прыгожай: у тым сэнсе, што Сяргей дагэтуль (праз амаль дваццаць з гакам гадоў) не знаходзіў трапных слоў, каб перадаць яе прыгажосць — і гэты факт быў часткай яе таямніцы. Калі ён хацеў напісаць пра яе, то выходзіла ўвесь час так, што ён піша пра неба, паветра, апошні праменьчык сонца... Сяргей пісаў пра ўсё, акрамя яе самой, але толькі праз гады ён зразумеў, у чым тут справа: калі каханне прымае бачныя рысы, увасабляецца ў нейкі канкрэтны вобраз, жыццё спыняецца.

Што ж з ім, тады сямнаццацігадовым студэнтам-першакурснікам журфака БДУ, адбылося пасля сустрэчы з Рытай? Гэта не было «каханне з першага позірку»; гэта было, хутчэй, нібы ўздых нейкага прадчування... Як правіла, усе мастакі ў дзяцінстве альбо ў юнацтве сутыкаюцца з нейкім знакам, што абумоўлівае ўвесь іх лёс. Такім знакам для Сяргея была Рыта. Ён, вядома, не зразумеў гэтага адразу, але на ўзроўні інтуіцыі адчуў найглыбейшы душэўны зрух: мацярык адарваўся і адышоў назаўсёды, а ён стаў Рабінзонам, які страціў апошнюю надзею застацца «звычайным чалавекам на сваім месцы».

Яны пазнаёміліся каля «Цэнтральнага». Пайшлі на кватэру да Джорджа — ён жыў зусім побач, каля рэстарана «Патсдам». Яго маці не было, таму моладзь зладзіла на кухні гулянку. Сяргей аказаўся ледзьве не самым дарослым з усёй кампаніі і меў з сабой бутэльку гарэлкі. Рыце было толькі пятнаццаць, але хлопец даведаўся пра гэта значна пазней. А тады яму нават здавалася, што дзяўчына, можа быць, і старэйшая за яго — такой сур'ёзнай і недаступнай яна выглядала.

Яны пілі кактэйль з гарэлкі і кока-колы, потым Рыта праспявала некалькі сваіх песень. Песні былі добрыя для іх узросту — шматабяцаючыя... Рыта ззяла яркай зоркай на гэтай маленькай кухні. Сяргею стала чамусьці непрыемна, раўніва: на самай справе яму ўжо тады захацела-

ся схапіць гэтую зорачку і ўцячы, каб атрымаць аднаму асалоду ад яе святла. Але ён, вядома, гэтага не разумеў, а калі б і разумеў, то ўсё роўна не прызнаўся б у такой непрыстойнасці нават сабе. Сяргей пайшоў з кухні ў залу і, пакапаўшыся сярод пласцінак, паставіў «Robby soul» «Бітлоў». Хутка яго паклікалі, налілі па новай, потым усе сталі хваліць песні Рыты. Сяргей упарта маўчаў, дэманстратыўна выказваючы сваю абыякавасць да дзяўчыны і да яе песень. О, калі б ён ведаў, што ўжо тады (адразу!) ён быў на кручку ў Рыты!..

Потым яны сустракаліся некалькі разоў — выпадкова. І гэтак жа загадкава расставаліся. Паміж імі расло нейкае ўзаемнае напружанне, якое ў рэшце рэшт скончылася адной студзеньскай ноччу. Сяргей з кампаніяй хіпі апынуўся ў Рыты на кватэры. Ён чытаў там свае вершы. Як заўсёды, шмат пілі, спявалі, шумелі, спрачаліся... Рыта зацягнула хлопца ў спальню і пачала распавядаць, якая яна на самай справе няшчасная, самотная і як не хоча жыць. Сяргей здзівіўся, бо на людзях Рыта была зусім іншай, і таму не адразу зразумеў, што яму прызналіся ў каханні. Ён пачаў суцяшаць дзяўчыну, расказваць пра сваё жыццё. Яна праспявала яму нешта «вельмі асабістае»... Разглядаючы Рыту ў святле начнога ліхтара з вуліцы, Сяргей разумеў, што менавіта такой і павінна быць яго каханая.

Тая ноч была, пэўна, адзінай, калі ён адчуваў сябе абсалютна шчаслівым. Потым усё жыццё Сяргей спрабаваў паўтарыць імгненне гэтага шчасця, як спрабуюць паўтарыць свой першы кайф наркаманы. Нічога не атрымлівалася. Выключэнне пацвярджае правіла: толькі праз шмат гадоў Сяргей здолеў праглынуць гэтую простую ісціну цалкам: ён зразумеў, што жыццё дае такія ночы толькі для таго, каб спазнаць прывіднасць любога зямнога шчасця…

Яны разышліся прыкладна праз тры месяцы. Сяргей катаваў Рыту ідыёцкімі сцэнамі рэўнасці: хацеў пасадзіць на ланцуг і неба, і сонца, і вецер... У рэшце рэшт ёй гэта надакучыла, і... яна адрэзала адразу — раз і назаўжды. Спачатку Сяргей не паверыў, а калі зразумеў, што ўсё па-сапраўднаму, жыццё для яго спынілася. Усё сапраўды сур'ёзнае не мае патрэбы ў шматлікіх словах: «я кахаю цябе», «ты — мой адзіны» і «ўсё скончана», «бывай». Чым менш слоў, тым больш скрышальны ўдар — нешта накшталт закону захавання энергіі. Яго першаму каханню хапіла гэтых скупых слоў, каб заблытаць свае сляды і знікнуць назаўсёды. Нешта знаёмае Сяргей адчуў толькі праз шмат гадоў, прачытаўшы словы Бернара Кляворскага: «Бездань маёй глыбокай пакуты заклікае Тваю бязмежную міласць…»

Сяргей з'ехаў на Браславы з сябрамі-байдарачнікамі. Яны падарожнічалі па бясконцых азёрах, начавалі на выспах, закопваліся ў цёплыя выдмы, палілі траву, чыталі гарачымі вечарамі Рэмбо, варылі юшку... Яе вобраз праследаваў Сяргея паўсюдна: ён гладзіў паверхню возера і адчуваў мяккую, далікатную скуру Рыты, падаў у траву і патанаў у валасах Рыты, дыхаў азёрным паветрам і адчуваў толькі пах Рыты. Цяпер ён адчуваў толькі страх. Усё, што засталося яму ад жыцця — лямант па Рыце...

Сяргей не ведаў, што далей рабіць з гэтым матэрыялам — так цяпер ён успрымаў сваё першае каханне і быў гатовы аддаць яго, як і любы іншы матэрыял, для публікацыі. Менавіта так і можна было канчаткова расстацца з мінулым: пакуль яно належыць толькі табе, пакуль яно жыве толькі для цябе, яно і валодае толькі табою. А потым... становіцца гісторыяй. І для кагосьці гэтая гісторыя заменіць сапраўднае жыццё, таму што як раз «сапраўднае жыццё» — невыносная рэч. Працей усведамляць, што ты жывеш ілюзіяй — у гэтым выпадку яшчэ можна на нешта спадзявацца...

Пасля некалькіх старонак напісанага тэксту Сяргей звычайна выходзіў па вуліцы Кардынала Лемуана да вострава Сэн-Луі, потым доўга гуляў уздоўж Сены, даходзіў да Новага моста з

помнікам Генрыху Чацвёртаму і спускаўся па лесвіцы ў сквер Вер-Галан. Ён вельмі палюбіў гэты сквер: тут заўсёды мелася для яго адзінокае месца на лавачцы, якая нагадвала яму колішнія лавачкі з мінскай Панікоўкі. У пахмурныя дні тут было асабліва хораша. Сяргей адчуваў сябе на носе карабля: вакол была Сена, яна брала яго ў сцюдзёныя абдымкі і бадзёрыла, цверазіла…

На некаторы час зноў станавілася молада і па-добраму непрадказальна. Сяргей любіў тут выпіць піва па-студэнцку — проста з бутэлькі — і пагартаць што-небудзь, набытае ў адной з букіністычных крамак. Ён не мог сабе адмовіць у гэтым задавальненні: доўга разглядаў старыя кніжкі, паштоўкі, плакаты і пастаянна нешта купляў. Так, аднойчы яму трапілася рэдкае выданне «Некалькіх палажэнняў» Пастэрнака — выданне 1922 года! Запала адна фраза адтуль: «Няўменне знайсці і сказаць праўду — недахоп, якога ніякім уменнем казаць няпраўду не пакрыць». Потым неяк Сяргей купіў «Калымскія апавяданні» Варлама Шаламава. Чытаючы гэтую бязлітасную (як раз па сваёй здольнасці сказаць праўду) кнігу, ён адчуваў пякучы сорам за ўсе свае «ўнутраныя пакуты і агоніі»: настолькі яго праблемы былі смешнымі і мізэрнымі ў параўнанні з праблемамі шаламаўскіх герояў...

Аднойчы Сяргей апынуўся на знакамітым мосце Мірабо — знакамітым тым, што Гіём Апалінэр, адзін з найлюбімейшых паэтаў Сяргея, прысвяціў мосту свой верш:

«Знікаюць дні і тыдні ўсе таемна.
Ні час і ні каханне
не вернуцца назад…
Над мостам Мірабо
адна нязменна
Струменіць Сена[2]».

Спачатку Сяргей быў расчараваны — тым, што нічога асаблівага ў мосце не было, але потым зразумеў, што справа ж не ў мосце як такім, а ў тым, што звязана ў Апалінэра з ім... Калі, напрыклад, успомніць Мінск дзевяностых гадоў — нічога больш бяздарнага Сяргей не мог уявіць, тут ён быў бязлітасны да сябе. І тым не менш яго зноў і зноў зацягвалі ў нейкую салодкую варонку ўспаміны пра дні, праведзеныя з Рытай, — пра, так бы мовіць, «вясёлую маладосць». Справа ў тым, што нічога вясёлага ў той маладосці не было... Як там у Морысана: «The days are bright and feeled with pane enclose me in your gentle rain...»[3] Не дачакаўся ён у гэтых распараных, пакутлівых ад летняй спёкі мінскіх начах свайго выратавальнага дажджу...

Так, справа не ў Мінску ці Парыжу, не ў мосце Мірабо ці якім-небудзь іншым мосце, не ў рацэ, вуліцы ці плошчы — справа толькі ў тым, *што* ты маеш сам у сваёй душы. Усё астатняе — толькі адлюстраванні. І нават якасць адлюстравання залежыць ад цябе самога! Сяргей быццам бы ўпершыню сустрэўся з гэтай банальнай, па сутнасці, думкай. Але ж у тым і справа, што за банальнасцямі і хаваецца спрадвечная ісціна, дакладней… хавае гэтую ісціну *той*, хто, напоўніўшы ўвесь свет банальнасцямі, сам асуджаны на вечны доказ сваёй адметнасці, выключнасці і г. д.

Зрэшты, ні ў чым чалавек настолькі не банальны, як менавіта вось у гэтым усведамленні сваёй выключнасці. І такую ролю яму ўвесь час навязвае *той*, хто першы лезе ў настаўнікі жыцця, а насамрэч можа толькі правільна «падаць сябе». Сяргей раптам зразумеў, што і ад

2 Урывак з верша Г. Апалінэра «Мост Мірабо» (пераклад Э. Агняцвет).
3 «Светлыя дні болем напоўнены, агарні мяне пяшчотным дажджом…» — урывак з песні Дж. Морысана «The Crystal Ship».

яго чакаюць толькі гэтага: правільна «падаць сябе». І тады ўсё будзе ОК! І на закуску заўсёды будзе хапаць таго, за што ён так трымаецца; усяго, што ён лічыць своеасаблівым аазісам душы («soul kitchen», кажучы па-морысанаўску). Усё гэтыя мройныя «астравы ў акіяне», што раз-пораз зацягваюць Сяргея ў салодкія ўспаміны: «Усё, што было паміж намі — гэта толькі сон, прыемны сон... І ўсё жыццё — «Just a dream, Jimmy, just a dream»[4], — такі знаёмы голас са старога стоўнаўскага фільма, які перакульчыў яго жыццё з усім, што ён тады лічыў хламам, а цяпер не мог, як ні намагаўся, сабраць па запчастках. О, гэты голас зноў закалыхваў Сяргея — голас сірэн, якія чакалі яго на тых астравах. І настолькі прыцягальным быў іх голас, іх выгляд, іх позірк, што ён зноў падаў у гэты зыркі дурманлівы паток:

«I had it through the grapevine»[5],
і, здавалася, гэты палёт ніколі не скончыцца...
Чарговая хваля вымывала яго на бераг.
І рытм сэрца зноў зрывала, зразала, рэзала музыка «Дарзоў» —
выносіла сваёй ударнай хваляй ваконнае шкло ў інтэрнаце «Кулька» —
музыка выкідвала яго на дах,
ён спатыкаўся там сярод антэн і недакуркаў,
шукаў сваю любімую Рыту — «You are lost little girl»[6] —
спрабаваў праспяваць ёй калыханку,
і тым самым супакоіць сябе,
але атрымлівалася так, што ён толькі прагна хапае паветра,
нібыта браслаўскія рыбіны, выкінутыя на бераг,
ці мінскія людзі-амфібіі,
**ці парыжскія клашары…**
«She’s not there»[7],
але ён ведаў, што яна насамрэч недзе побач,
толькі баяўся, што яна там застанецца назаўсёды...
Сяргею здавалася, што яна ўзяла «Ticket to ride»[8]
і з’ехала, не дачакаўшыся яго, —
таму яго несла на чыгуначны вакзал — «On the road again»[9], —
душа расцягвалася на ўвесь праспект Францішка Скарыны вабным ветразем —
«The Ballad of Easy Rider» і «Born to Follow»[10] у прыдачу,
дзьмуў спадарожны вецер,
яго раздзірала на часткі паміж гарачымі вуліцамі і праспектамі Мінска,
яму мала было жыцця —
ён прызямляўся ў інтэрнаце філфака БДУ на Карла Маркса,
дзе яго завіроўваў блюз «I can’t believe it»[11],

4 Гэта толькі, сон, Джымі, толькі сон… (англ.) — з фільма Олівера Стоўна «Дорз».
5 «Да мяне дайшлі чуткі» (англ.) — песня рок-гурта «The Creedence C.R.».
6 «Ты згубілася, маленькая дзяўчынка» (англ.) — песня рок-гурта «The Doors».
7 «Яе там няма» (англ.) — песня рок-гурта «The Zombies».
8 «Білет на паездку» (англ.) — песня рок-гурта «The Beatles».
9 «Зноў у дарогу» (англ.) — песня рок-гурта «The Canned Heat».
10 Песні рок-гурта «The Birds».
11 Блюз рок-гурта «The Animals».

а потым на маленькім пятачку Панікоўкі ён прачынаўся
і разумеў, што «He's a real no-where-man»[12]...

Але калі ў Сяргея атрымлівалася не клюнуць на гэты падманлівы голас, зачараванне маладосцю — уся гэтая кампанія «праклятых паэтаў», «дэманічных каханак» і інш., — карацей кажучы, усё надзвычайнае, што было там (бо, вядома ж, толькі надзвычайнае для мастака мае якасць добрай нажыўкі), паступова сыходзіла, як сыходзіць праз дзень-два пахмельны чад. Рэальнасць такая простая… Яны з Рытай былі маладыя, жыццё давала ім шанс, а яны так нічога і не зразумелі. Яны страцілі сябе, і што цяпер шкадаваць...

Сяргей прадчуваў, што, магчыма, не раз яшчэ вернецца ў Парыж, але Рыты з ім больш не будзе — будзе нешта зусім іншае. Зараз ён атрымліваў асалоду ад свабоды — ад таго, што напісаў яшчэ адно апавяданне; асалоду ад таго, што перавярнуў яшчэ адну цяжкую старонку свайго жыцця, ад таго, што выгрыз, нарэшце, старую стрэмку з сэрца…

Сяргей не ведаў, што будзе рабіць далей, але, каб нічым не сапсаваць гэтае парыжскае развітанне, хуценька сабраўся і паляцеў у Вільню, дадому.

12 «Ён насамрэч чалавек-нідзе» (англ.) — песня рок-гурта «The Beatles».



Гравюра Маргарыты Дабравольскай.



Мікіта Найдзёнаў

**нарадзіўся 12 ліпеня 1990 года ў Пінску. Паэт, журналіст, музыкант, лідар гурта HURMA. Уладальнік прэміі «Залаты апостраф» (2015) у намінацыі «Дэбют». Аўтар зборніка вершаў «Развітанцы» (2015).**

## Салёныя сны

***

А калі сур'ёзна
і безнадзейна:
мы з табой вельмі розныя
і не радзей на

два месяцы мусім
дзяліцца на часткі.

Дапусцім,
час ад часу
карысна быць сам-насам

дапусцім,
нават зрэдку
патрэбна
граць
п
а
э
т
к
у.

Але пасля пустэча,
і словы недарэчы.

І раз такога кошту,
то думаеш: навошта?

А калі спакойна
і ўраўнаважна:
не знайсці больш такой,
маё сэрца скажа.

***

Пад ноч сумую па табе
і сны салёныя прыходзяць.
І гэтак шмат, што мне іх хопіць
на пару фільмаў для ТБ.

І кожны раз былы сцэнар:
што мы рабілі, ты рабіла.
Гарчэй на ранку, чым рабіна,
і халадней, нібы сцяна,

што паміж намі, хоць і ты,
і я ўсё ведаю (амаль што).
Адчуем лёгка ноты фальшы,
хай і прайшло ўжо два гады.

А ў гэту ноч, як у той раз,
калі табе сказаў: «Кахаю».
У ванне хвалі калыхаюць,
і я не чую твой адказ.

***

Хочаш — пішы так.
Як у мяне?
Вершаў на сшытак.
Ведаў раней,
што гэтак скончацца
ўсе развітанцы:
ў коменты скоцяцца
вершы і танцы.

Хочаш — чакай так,
толькі чаго?
Новы пачатак
ёсць ва ўсяго.
Зараз агульныя
толькі знаёмыя.
Снежнымі гурбамі
мы замяцёныя.

## Дробнае хуліганства

Незвычайны пах у ямбаў,
дзіўны водар у харэяў.
Я збудую з вершаў дамбу,
калі сам не пастарэю.

Як замерзнеш — спі з дачкою,
будзе цёпла, дай пагрэцца.
У надыханым пакоі
моцна пахне цёртым перцам.

Спокі нокі, зая-буся,
я пісаць табе штовечар
буду, а пасля вярнуся
стрыгчы котак і авечак.

## Туман

Такі туман нібыта малако.
І хай не піць, але кранаць рукой
і патанаць у гэтым тумане,
як у мане.

Такі туман, нібыта малако,
разліўся скрозь па горадзе ракой,
заліў усё дамы амаль да дахаў —
і звыклы шлях стаў вечным Млечным шляхам.

## Веранічка

Веранічка,
верагодна, што лепей,
калі іранічна,
так лягчэй і начамі
ў палаце бальнічнай,
і калі аддае
недасыпам хранічным.

Як бы ведаць,
з чым гэтая ўсмешка мяжуе?
Як паверыць,
што зведаў цябе не чужую?
Кожны месяц
ці два на кватэру з кватэры.
З новым месцам
так хочацца ў новае верыць.

Веранічка,
назбіраць бы бітлоў
на паляне сунічнай,
памяняць бы ўсе дробныя звычкі
на Звычай,
ці згарэць запальнічкай,
упасці, як знічка.

Часам зводзіць,
але, як выходзіць, не з тымі.
Толькі годзе,
бо свет у тваім аб'ектыве.
Усё рацыю мае
чароўна, магічна,
бо прыдумана некім
касмічна, кармічна,
Веранічка.

***

Не пішы мне!
Пішы мне.
Чым болей — тым лепей.
Я хачу быць у кожным
тваім радку.
У калючай шыпшыне
хто дбае аб небе?
Дай руку.

Не кажы мне.
Кажы мне,
магчыма, пачую,
што калісьці не думаў,
ды і не мог.
Гэтак сталі чужымі,
з чужымі начую.

Пад дажджом у ажыне
увесь прамок.

Не сумую!
Сумую.
Штовечар чытаю,
што ў цябе адбылося,
мне скажа твіт.
Браў дарогу прамую
і не пытаю,
хто быў лепшы й чаму я
з табой so sweet.

## Адной левай

Калі ломіцца костка,
старыя праблемы
выглядаюць ўскосна,
вырашаюцца левай.

Калі ломіцца костка,
то ўсё нетаропка.
Сярод спраў стаіць коска,
мяркую, не кропка.

Доктар кажа спакойна:
«Пасля аперацыі
з вашай правай рукой
можа рознае здарыцца.

У каго два-тры месяцы
будзе кісць адыходзіць».
Музыкант ужо месца
сабе не знаходзіць.

Што скажу я дзяўчынам
сваім шасціструнным?
Як зраблю піяніна
маўклівым і сумным?

Спадзяванні не цешаць.
Няўжо мушу левай
я пісаць свае вершы,
зрываць яблыкі з дрэваў?

Але док мае рацыю
з пласцінай жалезнай.
І пасля аперацыі
ўсё працуе належна,

ды праходзіць удала,
зноў скачу, як той Прэслі.
Толькі шнар нагадае
мой няўдалы армрэслінг.



Гравюра Маргарыты Дабравольскай



Наталля Канстанцінава

**нарадзілася 16 ліпеня 1972 года ў Мінску. Працуе карэспандэнтам газеты. Захапляецца рашэннем судоку, музыкай, іграе на піяніна. Чытае дэтэктывы, замежную фантастыку і філасофію. Лічыць, што прызначэнне чалавека — прыносіць у свет нешта новае.**

## Не ведаю, калі вясна настане

Гэтую фотку на сайце знаёмстваў Вольга выставіла наўмысна, каб падражніць мужчын. Яна не збіралася адгукацца на інтымныя прапановы, але ёй падабалася выклікаць жаданне іх рабіць. Такая ў дзяўчыны была натура — са схільнасцю да гульні. Паказаць сябе дзёрзкай, амаль распуснай, прадэманстраваць вартасці сваёй фігуры, распаліць жарсць у самцоў — гэта ўзрушвала яе кроў. Магчыма, таму Улад і звярнуў на яе ўвагу, што адчуў у яе характары схаваных д'яблікаў.

«Ах, харошая, чартоўка!»— хацелася выгукаць Вользе, калі яна глядзела на сябе на гэтай фотцы, адначасова інтымнай і інтрыгоўнай. Доўгія зграбныя ногі ў чорных панчохах, з акругласцямі і звужэннямі ў патрэбных месцах, на вострых шпільках, што нібыта абвастраюць сексуальнае жаданне, чорныя майтачкі на клубах з карункамі і легкадумным банцікам, чорная аблеглая маечка да таліі з выразам такой глыбіні, каб з вабным абяцаннем толькі адкрываўся пачатак лагчынкі, паласа пляскатага жывоціка…

Колькасць каментарыяў за некалькі дзён перавалiла за дзве сотні. Часцей за ўсё сярод іх паўтараліся словы «шыкоўная жанчына», але меліся і іншыя блізкія паводле значэння эпітэты: «ашаламляльная», «ачмурэнная», «спакуслівая», «цудоўная». Худзенькі хлопчык з палкім позіркам напісаў: «Драпежна!» Але ніхто не апусціўся да непрыхаванай пошласці. Наадварот, траплялiся нават паэтычныя радкі: «Быццам з нябёс прыслаў яе лёс! Гэткія ногі даюцца нямногім! Далей ад зямлі плывуць караблі! А гэтыя ногі, ногі, ногі! Нібыта шчасце для дарогі! Ах, якія ногі…» Мужчына, падобны да суперагента: са стрыманым позіркам, высокімі скуламі, цвёрдым падбароддзем і ў цёмных акулярах — нават назваў яе «незямная фея». Нібыта наведнікі сайта адчувалі, што на гэтай знешне задзірлівай фотцы Вольга захiнулася флёрам рамантыкі і чагосьці пранізлівага, тонкага — нечага такога, што губляецца дзесьці ў вышыні…

Шчыра кажучы, яшчэ адной, магчыма, нават больш моцнай нагодай выкласці фотку на ўсеагульны агляд было якраз жаданне, каб пад сотнямі позіркаў «вецер развеяў» флюіднае поле цеплыні і інтымнасці, якое яднала іх з Уладам у той дзень, калі здымак быў зроблены, і відавочна на ім адбілася. Бо гэта менавіта Улад папрасіў яе сфатаграфавацца ў такім выглядзе. Ён патлумачыў, што панчохі хвалююць яго болей за ўсё, і што ён хоча мець магчымасць у любы момант атрымаць асалоду ад яе прыгажосці і эратычнасці падчас сваіх далёкіх падарожжаў. Іх стасункі тады знаходзіліся на ўзлёце, і Вольга з радаснай гатоўнасцю пагадзілася.

Улад быў байкерам, сапраўдным, заўзятым. Ён перарос стадыю прыпантаванага юнака, які лопаецца ад жадання заявіць пра сябе і робіць гэта зверскім рэвам матацыклаў па начах, замінаючы гараджанам спаць. На сваім улюбёным, з пяшчотай дагледжаным байку Улад выпраўляўся ў паездкі на некалькі дзён або тыдзень, без усялякай мэты, хоць і з пэўным канцавым пунктам маршруту. Ён проста атрымліваў асалоду ад язды і адчування хуткасці. Праца дазваляла яму знаходзіць час на вояжы: Улад, не маючы жорсткага графіка, свабодна круціўся ў нейкім бізнесе. Вольга так дакладна і не зразумела, у якім менавіта, дый асабліва не дапытвалася. Ёй было дастаткова, што Улад аказаўся самастойным хлопцам, сам сябе забяспечваў, і ў яго хапала грошай на іх супольнае прыемнае баўленне часу.

Выглядаў ён адпаведна: апранаўся ва ўсё чорнае, нават улетку насіў цяжкія боты на тоўстай рыфленай падэшве, галаву модна выгольваў па баках, пакідаючы ў цэнтры паласу шорсткіх валасоў, якія стаялі тарчма. Але Вольгу Улад пакарыў тым, што, нягледзячы на сваю брутальнасць, умеў быць культурным, ветлівым, галантным і нават пяшчотным. Ён не спрабаваў далучыць яе да сваіх байкерскіх інтарэсаў. Гэта можа падацца дзіўным, але разам яны хадзілі ў тэатры, кіно, на выставы і нават у заапарк. Зрэшты, для таго яны і пазнаёміліся — для культурнага, у прамым сэнсе слова, адпачынку.

Пазнаёміліся па абвестцы, якую Вольга давала ў інтэрнэце. Абвестка не суправаджалася задзірлівай фоткай, выява твару і фігуры да яе ўвогуле не прыкладалася. Дзіва, што яна прыцягнула ўвагу такога экстрэмала, як Улад. Але чымсьці ж прывабіла. Вольга, якая прыехала з невялічкага гарадка, пасля чатырох гадоў жыцця ў сталіцы і навучання ў адным з ВНУ так і не прывучылася да начных клубаў. «Шукаю хлопца, каб культурна бавіць час, — напісала яна, — гуляць, гутарыць». Магчыма, гэта зацікавіла Улада для разнастайнасці, па кантрасце з яго гарэзлівымі забавамі.

У першых лістах яны дамовіліся, што культурна — значыць менавіта культурна, без працягу, які заводзіць у ложак. Але потым усё павярнулася па-іншаму. Не, «адразу да справы» яны не перайшлі. Але ўжо на першай сустрэчы Вольга спадабалася Уладу менавіта як дзяўчына, пра што ён і сказаў ёй адразу. Акрамя культурнай праграмы, Улад пачаў дарыць ёй кветкі, частаваць у кавярнях. Ён аказаўся выдатным спадарожнікам, які ўмеў размаўляць пра нешта самае звычайнае так, што гэта захапляла, выклікала шчырую цікаўнасць і эмацыйнае суперажыванне — дзякуючы яго вялікаму слоўнікаваму запасу і жывой энергіі, якой, мабыць, быў перапоўнены яго арганізм і якую ён укладаў ва ўсе свае словы.

Гэты хлопец, з выгляду, здавалася б, далёкі ад сентыментальнасці, падарыў Вользе нямала рамантычных імгненняў. Яна дагэтуль прыгадвала, як Улад упершыню ўзяў яе за руку ў верхняй кропцы кола агляду, калі яны віселі над начным горадам у адкрытых кабінках, і ў яе замерла сэрца — крыху ад страху, крыху ад задавальнення; як ён упершыню пацалаваў яе ў парку на лаўцы над рэчкай, пасля таго, як яна правяла рукой па яго шорсткіх валасах і жартам сказала, што яны прыдадуцца ў якасці шчаціння для абутковай шчоткі; як ён упершыню ўзяў яе на рукі, каб яна не абцяжарвала сябе спускам з невялікага пагорка. Улад не толькі насіў Вольгу на руках, ён і цалаваў ёй рукі, нават, здавалася, без усялякай нагоды. Ці па шчырым жаданні, ці каб сыграць нейкую ролю, пакрасавацца перад самім сабою — Вольга так і не зразумела, але ўсё адно было страшэнна прыемна…

На той фотцы яна сапраўды выглядала дарослай упэўненай фемінай. Але тыя, хто пісаў «шыкоўная жанчына», не падазравалі, што насамрэч Вольга была ўсяго толькі дзяўчынкай. І ва Улада закахалася, як пятнаццацігадовае дзяўчо. Неяк, пракручваючы FM-станцыі,

Вольга пачула на «Хвалі ўспамінаў» песню Мадонны 1996 года «Crazy for you». Гэтая старая кампазіцыя падалася ёй вельмі сугучнай яе стаўленню да Улада. Пранікнёныя музыка і голас стваралі ўражанне, што юная дзяўчынка зачаравана глядзіць на хлопчыка, яе пачуцці настолькі моцныя, што робяцца мацнейшымі за сорам, і яна з глыбіні сэрца кажа шчырыя словы, вымаўляючы іх з прыдыханнем: «Я вар'яцею ад цябе, дакраніся да мяне адзін раз, і ты зразумееш, што гэта праўда». Менавіта так уздзейнічаў на Вольгу Улад.

Тым мацнейшым аказаўся для яе аглушальны ўдар дубінай па галаве.

Пасля некалькіх праведзеных разам начэй, напоўненых пяшчотай, Улада пацягнула ў чарговае падарожжа. Калі праз паўтара тыдня ён вярнуўся, у першыя хвіліны сустрэчы, на якую Вольга ляцела як на крылах, малады чалавек заявіў: «Я хачу быць адзін». «У сэнсе?» — разгубілася дзяўчына. «Што тут незразумелага? Нам трэба расстацца. Я хачу быць адзін». «Але чаму? Чым я цябе не задавальняю?» — толькі і здолела вымавіць дзяўчына. «Нічым. Справа не ў табе, а ўва мне. Проста я такі чалавек». «А як жа я? — асела Вольга. — Што ж мне рабіць, я ж кахаю цябе?!» «Што хочаш. Сыходзь у манастыр», — адчаканіў Улад, павярнуўся і сышоў.

Пасля гэтага Вольга і выставіла на сайце знаёмстваў эратычную фотку — у спадзяванні, што гульня адцягне яе ўвагу ад перажыванняў.

На ніводную прапанову аб сустрэчы яна не пагадзілася — усё думала пра Улада. Спачатку спрабавала з ім звязацца, пагутарыць, але той адразу заблакаваў яе нумар. Вольга паспрабавала пільнаваць Улада каля дома і некалькі разоў злавіла момант, калі ён аднекуль вяртаўся. Аднак Улад праходзіў міма з абыякавым выглядам, ніяк не рэагуючы на яе звароты. Дзяўчына страціла надзею.

Але ў гэты вечар Вольга зноў пайшла да Уладавага дома, ні на што не разлічваючы, проста жадаючы хоць крышку пабыць з каханым побач, хай сабе і будучы раздзеленай з ім бетоннымі сценамі. Улад жыў на першым паверсе. Вечар стаяў душны, і форткі ў яго вокнах аказаліся адчыненымі. Вольга прагульвалася пад імі і выдатна чула ўсё, што адбывалася ў кватэры. Улад зладзіў п'янку з сябрукамі. Наколькі Вольга ведала, алкаголь ён ужываў рэдка, але, калі хацеў, выпіць мог. Цяпер быў акурат такі выпадак. Відавочна, кампанія ўжо дайшла да адпаведнай кандыцыі. Улад, як прыроджаны лідар, саліраваў, узбуджана выкрыкваючы мацерныя выразы. Яго сябрукі толькі п'яна мыкалі. «Воўчык, хочацца ванітаваць — вазьмі пакет! — пракрычаў Улад. — Б…, ты што, такі файны напой!» І праз нейкі час: «Воўчык, калі б ты быў бабай, я б цябе зараз вы…ў!»

Вольга не верыла сваім вушам. Гэта былі словы яе героя, які заўсёды так элегантна выказваўся? Дагэтуль у дзяўчыны заставаліся рамантычныя ўспаміны, іх не здолела адразу перакрэсліць нават халодная жорсткасць Улада падчас расставання. Але цяпер яна адчула, як усё, чым жыла апошнія месяцы, што складала яе ўнутраны свет і звязвала з жыццём, бязлітасна разбураецца.

Калі Вольга прыйшла дадому, у яе пачалася істэрыка. Дзяўчына ўголас плакала, яе твар залівалі слёзы. Грудная клетка, здавалася, разрываецца ад болю. Гэты боль лягчэй было трываць у руху, таму Вольга безупынна хадзіла туды-сюды па пакоях, працягваючы плакаць. Праз пару гадзін яна паспрабавала прылегчы адпачыць. Але ў стане спакою боль стаў невыносным, і дзяўчына зноў устала і працягнула хадзіць, па-ранейшаму плачучы. Так ішлі гадзіны за гадзінамі. Вольга забылася, што трэба ісці на практыку, якую яна як студэнтка павінна была адпрацоўваць улетку. Яна нічога не ела і толькі зрэдку піла ваду. Супакоіцца ніяк не магла, надрыўна плакала і стагнала ад душэўнага болю.

Пасля двух сутак беспеpапынных праходак з ручаямі слёз Вольга раптам перастала бачыць вакол сябе звыклую абстаноўку. Кватэра знікла, і з'явілася неабсяжная прастора, у якой праз кожныя некалькі крокаў вісела на слупах альбо ўзвышалася над зямлёю вялікае павуцінне, сплеценае з буйных нітак. На ім сядзелі павукі. Дакладней, гэта былі людзі з павучынымі тварамі. Іх вялікія пукатыя вочы глядзелі на Вольгу з незразумелым выразам. Дзяўчына па інерцыі працягвала рухацца. Паступова павуцінне рабілася ўсё гусцейшым. Яно было розных колераў: белага, чорнага, зялёнага і залатога.

Рухаючыся ўсё далей, Вольга нарэшце ўперлася ў вялікую чорную сетку. На ёй сядзеў смуглявы чалавек з велізарнай чорнай каронай на галаве. Ад яго сыходзіла адчуванне чагосьці невыказна пагрозлівага, здавалася, атмасфера тут згусцілася і была прасякнутая электрычнасцю. Агромністыя пранізлівыя вочы чалавека прыцягвалі ўвагу, і Вольга міжволі зірнула наўпрост у іх. У той самы момант яго твар тарганууся і на ім з'явіўся выраз страшэннага гневу. Паветра са свістам рассекла чорная нітка і пачала абмотвацца вакол дзяўчыны. Нітка ўсё болей абвівала цела, і Вольгу пачало трэсці, як пад высокім напружаннем. Дзяўчына раптам адчула моцную знямогу, ногі абмяклі, і яна ўпала. Ужо трацячы прытомнасць, пачула спалоханы шэпт: «Нельга, нельга! Нельга глядзець у вочы Чорнага Цара!»

Калі Вольга апрытомнела, вялікага чорнага павуціння побач не было. Але яе цела абцягнула, як другая скура, трывалае палатно з чорнай ніткі. Дзяўчыну ўсё яшчэ трэсла, у целе адчувалася поўнае бяссілле. Яна паспрабавала варухнуцца і здолела гэта зрабіць толькі з вялікім намаганнем.

Раптам Вольга ўбачыла, што не адна. Побач сядзеў на зямлі малады хлопец з зялёнымі валасамі і ў невялікай зялёнай кароне. «Вітаю! — сказаў ён. — Я Зялёны Каралевіч». «Дзе я?»— ледзь варочаючы языком, прашаптала Вольга. «Ты ў Інтэрнэце».

Зялёны Каралевіч распавёў, што Інтэрнэт гэты — не створаны чалавечымі камп'ютарамі, а сапраўдны. Сусветная сфера думак, ідэй і пачуццяў. Яе жыхары — чалавекападобныя павукі — ткуць павуцінне, якое фарміруе свядомасць, вызначае погляды і шмат у чым — лёс. У кожным павуку сканцэнтраваная свядомасць мноства людзей. У зямным жыцці кожны чалавек абвіты нейкімі ніткамі, але ў нармальным стане людзі гэтага не бачаць. Белае павуцінне пакрывае ўсе жывыя целы, гэта — ніткі прыроды. Яно абуджае міласэрнасць і спачуванне ў дачыненні да жывой матэрыі, прызнанне яе патрэбаў. Зялёныя павукі — носьбіты ведаў, яны фарміруюць павуціну розуму, інфармацыі, усясветных законаў. Залатыя ніткі — для тых, каму прызначана заняць у свеце высокае становішча, вылучыцца з масы, карыстацца прыхільнасцю спадарыні Удачы. Залатыя ніткі выклікаюць павагу і захапленне. Чорныя — ніткі працы, намаганняў, «чарнавой работы».

У той ці іншай прапорцыі белыя, зялёныя і чорныя ніткі пакрываюць кожнага чалавека. Залатыя даюцца мала каму. Чорныя павукі выпраменьваюць электрычныя разрады, якія на людзях змякчаюцца белай тканінаю. Такія разрады выклікаюць стымул да працы, намаганняў. Калі чалавека занадта моцна заткуць чорныя павукі, гэта вызначае цяжкае, суровае жыццё, са шматлікімі турботамі, часта няўдзячнымі, а як чорная тканіна вельмі грубая — дык і з хваробамі. Калі чорныя павукі пакрываюць павуціннем вочы, гэта спараджае вар'яцтва.

— Праз пакуты ад няшчаснага кахання ты забылася на сваё цела, перастала пра яго клапаціцца, і белая нітка з цябе расплялася, — сказаў Зялёны Каралевіч. — Белыя павучыхі не любяць, калі з нейкай прычыны забываюцца на жыццё. Без гэтага покрыва ты стала перад павукамі як аголеная. Ты занадта сканцэнтравалася на сваім горы, перастала бачыць свет, таму

і трапіла ў Інтэрнэт. Тут ты, на сваю бяду, падышла да вялікага Чорнага Цара і зірнула яму ў вочы. Ты не ведала, што гэтага рабіць нельга. Ён жа — Цар жаху. Да таго ж ты апынулася перад ім аголенай, без белага покрыва, чым выклікала яго моцны гнеў, і ён аплёў цябе сваім павуціннем, быццам праклёнам. Цяпер тваё цела само стала прадметам працы. Яно павінна заўсёды знаходзіцца пад уздзеяннем электрычных разрадаў і даваць на іх рэакцыю: скарачэнне цягліцаў, кіпенне крыві… Гэта вельмі хутка знясільвае арганізм і прыводзіць да смерці. Але, калі я ўбачыў, як ты нерухома ляжала пад скіраваным на цябе гневам Чорнага Цара, мне стала шкада цябе. Я — зялёны павук, носьбіт розуму. Я даў табе веды пра Інтэрнэт, і цябе абвіла зялёная нітка. Яна змякчыць дзеянне чорнага павуціння, адцягне ад цела частку электрычнасці.

Вольга паглядзела на сябе. Сапраўды, на чорным хітоне з'явіўся і зялёны. Удары электрычных разрадаў адчуваліся слабей, нібыта прыглушана.

— І што мне далей рабіць? —спытала яна ўжо значна цвярдзейшым голасам.

— Давай пакуль проста пагутарым. І я падумаю, як дапамагчы табе.

Зялёны Каралевіч распавёў дзяўчыне яшчэ шмат чаго. Ён казаў пра ўладкаванне светабудовы, пра таямніцы космасу, тлумачыў загадкі сусветнай гісторыі. Вольга слухала гэта, як цудоўную казку. Па меры таго, як Зялёны Каралевіч гаварыў, зялёнае палатно на яе целе рабілася ўсё таўсцейшым, усё больш трывалым, электрычнасць амаль перастала на яе ўплываць. Да Вольгі вярталіся сілы. Яна жыва рэагавала на пачутае, выказваючы здзіўленне, спалох, захапленне.

— Цяпер ты раскажы пра сябе, — прапанаваў Зялёны Каралевіч.

Дзяўчыну ахапіла пачуццё нейкага дзівоснага даверу, і яна пачала аповед з дзяцінства. Апісала дзівацтвы, якія вырабляла,— а іх было нямала! Расказала, як даглядала хворую галубку, як у вёсцы ў бабулі ўладкоўвала магілу памерламу кураняці, як разам з сяброўкамі стварыла таемную арганізацыю для пошуку іншапланецянаў. Потым перайшла да сучаснасці. У падрабязнасцях распавяла гісторыю ўзаемаадносінаў з Уладам.

— Ты — дзяўчына з жывым сэрцам і дапытлівым розумам, — сказаў Зялёны Каралевіч напрыканцы іх гутаркі. — Ты мне сімпатычная. У мяне выклікае спачуванне трагедыя твайго кахання. Я хачу што-небудзь для цябе зрабіць. Калі ты выйдзеш з Інтэрнэту, табе сустрэнецца хлопец, у якім — часцінка маёй свядомасці. Ён пакахае цябе. Твая душэўная рана зацягнецца, і ў цябе болей не будзе нагоды забываць пра жыццё і трапляць да павукоў.

— Але як мне выйсці з Інтэрнэту?

— Дзеля гэтага ты сама мусіш захацець вярнуцца да жыцця. Акрамя таго, з цябе павінен быць зняты праклён Чорнага Цара. Зрабіць гэта здольная толькі вялікая Белая Царыца, калі абаўе цябе сваёй ніткай. Каб яна пашкадавала цябе, патрэбная просьба каго-небудзь з яе малодшых сёстраў. Я сябрую з адной белай павучыхай і паспрабую ўгаварыць яе дапамагчы табе.

Далей Зялёны Каралевіч паведаміў, што дабрацца да яе будзе складана. Бо, пакуль на дзяўчыне праклён Чорнага Цара, усе чорныя павукі будуць лічыць яе за мішэнь і імкнуцца ўджаліць — ударыць электрычнасцю. Трэба пастарацца не трапіць ім на вочы.

— А як я ўвогуле апынулася тут? Чаму я не побач з вялікім чорным павуціннем?

— Цябе перамясцілі служкі вялікага Цара, каб ты не раздражняла яго сваім выглядам. Аднеслі далей ад яго вачэй.

Вольга ўжо адчувала сябе дастаткова добра і здолела ўстаць. Яна заўважыла, што можа даволі ўпэўнена рухацца.

— Хадзем! — скамандаваў Зялёны Каралевіч.

Спачатку яны ішлі па адкрытай прасторы, неўзабаве зноў з'явілася павуцінне. Зялёны Каралевіч вёў дзяўчыну пакручастым шляхам, які абыходзіў жытло чорных павукоў. Усё ж пазбегнуць небяспекі ў іх не атрымалася. Збоку мільганула спляценне чорных нітак. «Асцярожна, ціха, каб чорны павук нас не пачуў!» — прашаптаў Зялёны Каралевіч. Але было позна. Побач з імі стаяў смуглявы мужчына з чорнымі валасамі і злосным павучыным тварам. Ён напружана ўзіраўся ў Вольгу. «Бяжым!» — таргануў яе за руку Зялёны Каралевіч. Яна пабегла з усіх ног услед за сваім імклівым праваднікам. Аказалася, што ў Вольгі ўжо дастаткова для гэтага моцы. Аднак такое адчуванне цягнулася нядоўга. У горле перасохла, сэрца надрыўна закалацілася, і дзяўчына адчула, што ўпадзе мёртвай, калі не спыніцца. Але нейкім звышнамаганнем яна працягвала бегчы. Да чорнага павука далучыліся сабраты, і за ўцекачамі нёсся ўжо цэлы натоўп смуглявых людзей з павучынымі тварамі.

Вольга з Зялёным Каралевічам падбягалі да белага павуціння. На ім сядзела, як падалося дзяўчыне на першы погляд, вельмі вытанчаная дама з абсалютна белым тварам і беласнежнымі валасамі. «Маранда, дапамажы!» — крыкнуў даме Зялёны Каралевіч. Дама падняла руку з вялікім белым пярсцёнкам на пальцы і зрабіла нейкі знак. Перад натоўпам чорных павукоў бліснула белая маланка. Яны спыніліся, нейкі час сярдзіта перамаўляліся, а потым паступова разышліся.

— Ты прывёў да мяне чалавека? — запыталася Маранда. Яна пільна глядзела на Вольгу, і дзяўчыне падалося, што белая павучыха выцягнула вонкі яе ўнутраны свет, як выцягваюць шуфлядку, і разглядае яго. Вольга ў адказ угледзелася ў вытанчаную даму і вырашыла, што яе можна назваць увасабленнем пачуццёвасці. Стваралася ўражанне, што пачуццёвасць напаўняе яе, як паветра — туга надзьмуты паветраны шарык.

Зялёны Каралевіч распавёў Марандзе гісторыю Вольгі. У позірку белай павучыхі з'явіўся агеньчык рэўнасці.

— Добра, я дапамагу табе, — звярнулася яна да Вольгі. — Але ўзамен ты мусіш аддаць хлопца, якога паабяцаў табе мой сябар. Зялёны Каралевіч — носьбіт высокай свядомасці. Людзі, у якіх яго часцінка, — годныя і цікавыя. Яны разумныя, арыгінальныя, высакародныя, добрыя. Вялікае шчасце — каб цябе пакахаў такі хлопец. І, магчыма, калі б ты не паглыбілася ў сваё гора і не забылася на жыццё, не трапіла ў Інтэрнэт, то сустрэла б яго і спадабалася яму. Але цяпер у цябе толькі дзве магчымасці. Першая — ты не хочаш аддаваць хлопца, і я не буду прасіць за цябе вялікую Белую Царыцу. Тады ты застанешся з праклёнам Чорнага Цара і памрэш у Інтэрнэце пад джаламі чорных павукоў. Але гэты хлопец адчуе, што недзе ёсць такая дзяўчына, як ты, і будзе шукаць цябе ўсё жыццё. Ён не пакахае па-сапраўднаму аніводную з дзяўчат, будзе імкнуцца да цябе, але ніколі цябе не сустрэне. Да самай смерці ён будзе па табе сумаваць. Другая магчымасць — я папрашу за цябе, і ты выйдзеш з Інтэрнэту. Але гэты хлопец пакахае не цябе, а адну з маіх падапечных, у якой — часцінка маёй свядомасці. А вось ты закахаешся ў яго і будзеш пакутаваць. Усе веды, перададзеныя табе Зялёным Каралевічам, ты забудзешся.

Вольгу ахапіла пачуццё жудаснай страты. Яна адчула, быццам дакранулася да чагосьці невымоўна прыгожага, што назаўсёды застанецца для яе недасяжным. Але дзяўчына думала нядоўга. Яна яскрава ўсвядоміла, які, па сутнасці, невялікі мае выбар, і зрабіла яго: «Я згодная з тваёй умовай!» Калі Вольга выйдзе з Інтэрнэту, дык будзе адна. Колькі часу — невядома. Але зямное жыццё, няхай і з пакутамі, лепшае за смерць сярод павукоў.

…Вольга апрытомнела на падлозе кватэры. У галаве квола шумела, цела ныла. Усё ж яна здолела падняцца. Унутры свядомасці роем лёталі слабыя ўспаміны пра нядаўнія прыгоды,

быццам скрозь смугу. Настойлівы голас казаў пра неабходнасць паўсядзённых спраў. Вольга прыняла душ, зварыла макароны, зрабіла гарбату, паела. «Хутка мяне зноў чакаюць любоўныя перажыванні, — думала яна, — але пакуль можна крыху адпачыць».

Дзяўчыне захацелася зайсці на сайт знаёмстваў. Яна ўключыла камп'ютар і прагледзела новыя падабайкі. Сайт запытваў стаўленне ў адказ, прапануючы націснуць кнопкі «падабаецца ўзаемна» альбо «не падабаецца». Сярод тых, хто выказаў ёй сімпатыю, аказаўся сівенькі дзядулька, які на фотаздымку сядзеў, відавочна, разам з унучкай. «Бач ты, дзядок павёўся на сексі-фотку! — мільганула думка ў галаве ў Вольгі. — Сівізна ў бараду, а чорт у галаву!» Першым яе жаданнем было націснуць кнопку «не падабаецца».

Але раптам яна спынілася. У дзядулевым абліччы Вольга нечакана пабачыла нешта вельмі мілае. Ён з яўным гонарам абдымаў сваю ўнучку. І дзяўчынка такая забаўная, з надзьмутымі шчочкамі… Вольга ўявіла, як, атрымаўшы ад яе «не падабаецца», дзядуля ўздыхне і падумае: «Вядома ж, чаго яшчэ можна было чакаць?» — згадае пра тое, што ён — стары. І ёй не захацелася, каб па яе віне чалавек зведаў такія пачуцці. Лепей няхай дзядок усміхнецца, атрымаўшы выказванне сімпатыі, хоць яно і мімалётнае, і зусім ні да чаго не абавязвае. Вольга яшчэ крыху павагалася і націснула «падабаецца ўзаемна». Калі-небудзь і для яе надыдзе час усміхацца.



Літаграфія Дар'і Чупрыс.



## Мікола Мятліцкі

**нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Паэт, перакладчык, публіцыст, журналіст. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларускай ССР (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013). Вершы М. Мятліцкага перакладаліся на рускую, балгарскую, сербскую, таджыкскую мовы.**

# Цветам чабору красуе душа...

### На Мойцы

На Мойцы, у кватэры Пушкіна,
Стаіць нямая цішыня.
І лямпа на стале патушана
З таго бязрадаснага дня,

Калі паэт зямной пуцінаю
Пайшоў, каб вечнасць перастрэць.
І тою чорнаю хвілінаю
Заехала на Мойку смерць.

Стаіць і цешыцца жылплошчаю,
Не выпускае з рук касы.
А над Сенацкай хмурай плошчаю
Ўскіпаюць гневу галасы.

Ажно затрэслася, спакусніца,
Ці зможа тут кватараваць?
Яна, Дантэсава хаўрусніца,
Змагла паэта пахаваць.

Ды вось адно зрабіць не здольная:
Тут пасяліцца на вякі,
Бо не даюць таго ёй вольныя
І бессмяротныя радкі.

Гучаць няспынна, абураюцца,
Што паступіла гэтак з ім.
З самога вечара да раніцы
Жыццю узносяць светлы гімн.

Нясходны страх працяў кашчавую,
Касу хапіла — і ўцякла.
Не пацягацца з гэткай славаю,
Што й смерці пяты апякла!

### Арэшкі

*З народнага*

Як хадзіў на рэчку Ясь,
Рослы сын Алешкі,
То ў кусты ля рэчкі — шась,
Ды ірве арэшкі.

Бліз цячэ, шуміць рака
І вядзе — гукае.
Леснікова зноў дачка
Яся прычакае.

Спелы жнівень на двары,
А ў вачах — зацьменне.
Кажа Ясь ёй: — Вось, бяры!
Шасне па кішэнях.

Закалоціцца ў хлапца
Сэрца неспадзеўкі.
Як на мёд ляціць аса,
Так і Ясь да дзеўкі.

Вусны вабныя яе
Не даюць спакою.
А як песню запяе,
Ступіць над ракою!

А як сядзе у гамак,
Калыхацца будзе!
Людзі кажуць: — Во, прымак,
І бацькоў забудзе!

Так і ходзіць днямі Ясь,
Рослы сын Алешкі,
Па кішэнях — шась ды шась.
Носіць ёй арэшкі.

Дахадзіўся да таго
Ля адкрытай брамы,
Што з-пад носу у яго
Дзеўку ўзялі замуж.

***

«І ўлежна, і ўежна…» —
Зімою суровай
У хаце гучала бабуліна слова.
Нібы папіканне малым нам, — на печы,
Вярнуўшыся з гойсанкі, грэліся ў вечар.
І гэтак шумліва, гарэзна дурэлі.
І вочы бабулі прыкметна макрэлі,
Там блікі святла запалілі іскрынкі.
Яна вытра вочы зноў рогам хусцінкі,
Прысядзе на ўслоне з пякучай журбою,
Маленства згадае — расла сіратою,
Ў падушку ў самотныя ночы рыдала,
Без вопраткі мёрзла, заўжды галадала.
Як выжыла толькі, мо Богу й вядома.
Туга падкацілася, сціслася комам.
Унукі смяюцца шумліва, гарэзна.
У хаце сягоння
І ўлежна, і ўежна.

## Сухі дождж

Над чэзлаю пустыняю бясплоднай,
Дзе шчэрацца барханамі пяскі,
Дыхне раптоўна вільгаццю халоднай,
Дажджу пральюцца гойстрыя цуркі.

Аднак пясок настолькі перагрэты,
Што на яго не ступіш басанож.
І нат не дакранецца долу гэты
Парывісты, неспадзяваны дождж.

Плыве увыш бялявай, волкай парай,
Не даляцеўшы нават да пяску.
І зноў снуе ў нябёсах шэрай хмарай,
Шукаючы за вёрстамі раку.

І там ужо свае абмочыць ногі,
Замоліць, глуха шэпчучы, грахі,
Сканаўшы ад бязмернае знямогі,
Ад прыпару пустыні, дождж сухі.

***

Раніца зазіхацела росамі кідка.
Сонца ўзышло.
Пастушыная мокрая світка.
Ў дрымоце сяло.

Жнівень выстудзіў росы,
Кінуў на луг.
Скінуўшы чаравікі,
Босы,
Крочыць пастух.

Гарланіць Янішын певень
Дзесь на сяле.
Свежа. Бадзёра. Спеўна.
Сонца —
Блік шле.

Вочы, поўныя промняў,
Ветрык прыціх.
Колькі гадоў,
А помню
Кожны той міг.

***

У Магілёве, над магілай Пысіна,
Асенняя халодная туга.
Паэтам колькі вершаў не дапісана,
Дзе болю чалавечага — уга!

Дзе мужнасці салдацкае — не мерана,
Дзе духу нескаронага — узлёт,
Дзе лёсам слова кожнае праверана,
І сэрца прабівае — навылёт.

Глухая восень у самотнай зацішы
Лісты страсае, быццам медалі.
Падзей грымотных шмат якіх пабачылі
Дняпровы воды, што даўно сплылі.

Хадзілі тут драпежнымі ватагамі
Захопнікі з няпамятных часін.
І пад крыжамі кмечанымі сцягамі
У жоўты жвір ляглі без дамавін.

Паэт жа змераў вёрстамі суровымі
Без ліку пыльных франтавых дарог,
Над водамі магутнымі Дняпровымі
У родны дол навечна спаць прылёг.

Гучыць радок хвалююча-прыцішана —
Павечны рэпартаж з перадавой.
Святло рабіны над магілай Пысіна,
І Магілёў — плацдарм узяты, свой.

***

Жоўтае вока рамонка
Зыркнула бліз ручая.
Дзе ты сягоння, Алёнка,
Краска лясная мая?

Тут мы, у зацені бору,
Помню, паляну знайшлі.
Пах духавіты чабору
Летам гарачым пілі.

Тут смакавалі суніцы —
Іх не было саладзей.
Тут я цябе, чараўніца,
Чэпка хінуў да грудзей.

Ты папікнула: — Не жонка!
Жэнішся — стану твая!
З кім ты вякуеш, Алёнка,
Краска лясная мая?

***

Сонца і сёння садзіцца за бор
У вабна чыстай, жывой пекнаце.
Казалі паэты, як пахне чабор,
Ды не казалі, як вабна цвіце.

Светла-ліловы, колеру зор,
Купкі раскінуў ля сцежкі лясной.
Чэрвень далоні над ім распасцёр,
Ўсцешаны бачнай красой незямной.

Аберагае ад джала чмялёў,
Што прыбылі па салодкі нектар.
Зыркі касцёр на паляне развёў
І захінае ад ветру і хмар.

Згледзіш ліловыя кветкі спярша,
Потым пачуеш зноў сэрца біццё.
Цветам чабору красуе душа,
Пахам чабору працята жыццё.

### На мосце ў парку

На гэтым мосце закаханыя,
Уступаючы ў шлюб,
На ўзорных загібах парэнчаў
Замком прымыкаюць
Няўлоўнае сямейнае шчасце.
І ўжо столькі розных вісячых замкоў
Нагрувашчана,
Што шчасце няўлоўнае
Крылы свае распасцерці
Не можа,
Не здатнае ўзляцець
У вышыні паднебныя.
Ляжыць ледзьве жывое,
Нагамі прахожых прытоптанае.

А я некалі
Проста зазірнуў табе ў вочы,
І ў іх сваё шчасце
Знайшоў.
Яно, вальнакрылае,
Лётае і вяртаецца,
Не прыкутае
Ніякімі замкамі.



Андрэй З-і

**нарадзіўся 26 сакавіка 1988 года ў Мінску. Паводле аўтарэмаркі, «у новай навеле сюррэалістычны лад напачатку — толькі сродак учыніць рэвалюцыю, каб падчас фізічнага блукання, што вярблюд у пустэльні, знайсці этычнае вызваленне».**

## Чалаблюд

Калі гэта адбылося, Каляда збіралася ісці ў свет.

Ды ўвесь дым[1] ад таго хадзіў ходырам, нібы грымоты скаланулі свет ажно на Грамніцы — уявіце сабе; целы блыталіся ў карагоды, што г*а*ды на Узвіжанне, ах ляпёшкі пякліся і закідваліся ў чэрава, гайда з пярлоўкі зляпляліся святлівыя, як пярліны, — новыя — людзі; было сусветнае пекла: зусім не Купалле — Мясаедзіца. Людзі забываліся ў самы холад і голад.

Грала буслава музыка, патыхала бубновай кроўю, грукалі ў дзверы чорт з вядзьмедзем, каза казань вяла:

Ты не драмі, мая драма,
Ты знасі, мая кручына.
Каб у хіжанькі ды ў новенькай
Пісар пісьмы піша.
Ой, рана, рана.

Стаяла елка у тым лесе,
Ляцела сорак па тым лесе,
Свяціла зорка па ўсім лесе,
Радзіла Божа па ўсім свеце.
Белае мора сышло на зямлю.

Па райскім садзе йдзе Мадона,
Па першай прыбралася модзе,
Спаткала антыхрыста Фрэйда —
Пазнанне спыніць тлума сненне.
Ча-ча, тлума сненне,
Ча́ча-ча́ча, тлумачэнне.
Ла-ла, тлума сненне,
Лав-лав, тлумачэнне.
Блю-блю, тлума сненне,
Блюз-блюз, тлумачэнне.

1 Тут і далей: у першасным значэнні «дом».

Свет станавіўся ліпкім, клейкім, і немагчыма было ў ім рабіць дакладныя рухі так, як хацелася б. У паглядзе з’явіліся і не знікалі твары, рылы, мызы, проста вочы; усё напоўнілася імі, і яны круціліся ды валіліся, і гэтак далей.

Саву зблажэла. Ён паспеў толькі выбегчы за парог, як хтосьці зачапіў крукам нутро і сутаргамі хацеў выдраць з рэбраў усе яго вантробы. Аднак жа за Савам ніхто не памкнуўся. І добра. Ванітаваць лепш у адзіноце.

Усё, гэта канец. Накідаўся плодам: злым плодам. Спачатку была першая — занюхаў хуценька валасамі суседа. Мусіць, з першай Саву і трэба было б закончыць. Але Сава паклаў у сваю талерку качку, фаршыраваную блінамі. (І скуль хто такое прыдумаў, зроду не еў такога, а тут вырашыў фарсануць: «Качку мне, качку!» Што ж, качку Сава і сапраўды атрымаў — гэта цяпер адчувальна і відно па фаршы.) Затым што — другая. Пасля картопля і свежаніна з хлебам. Навошта? Табе хлеба мала? Трэцяя і селядзец у футры. Ну, канечне, без футра ты б змёрз. Чацвёртая і халоднае. Аж узмакрэў, бедны, так працаваў сківіцамі, ды яшчэ ў футры — халоднае тут дарэчы. Пятая і «традыцыйны» гарошак, і цяпер ужо дакладна — пакаці гарошак: шостая і сёмая. Восьмая і тут недзе, у гэтых каардынатах ардынат — па вертыкалі — я даў маху. Быў дужа рэзкі пралік. А за дужа рэзкім пралікам адбываецца — што! — дужа рэзкі наганяй.

Але я яшчэ не ведаў пра сваё блудніцтва: паспытаў вэнджаных ці то рыб, ці то грыб, і ці то рыбаў, і ці то грыбаў, і яшчэ як заўгодна. Бо ўсе гэтыя парадкавыя лічэбнікі напаўняліся да краёў, да сваёй двузначнасці, якая вылівалася ў трохзначнасць і далей. А мочаныя яблыкі, а калядны пірог з яблыкамі, а яблыннікам усё запіваючы? Усё так і было — з крыкам, рогатам, пад рыфму і без яе, паступальна і... вяртальна. Калядны маскарад. Дык у самы, самы-самы бесклапотны момант, калі стан быў няважкім, Сава адчуў слінавыдзяленне, адчуў, як рагатая каза падкацілa да жывата і пачала пясціцца, бадацца, проста драць. Сава яшчэ думаў адужаць кліч, але змогся — паляцеў, паляцеў хаваць сваю наварочанасць, «мондрасць». І вось цяпер чорт ведама што адбываецца: ашчэраны твар зводзіць, вочы вылазяць з арбіт, нос цячэ. Хай бы ўсё згарэла! І гарэлка першая. Галоўнае, і праўда, што не адчувае Сава пад сабою зямлі. Гэта канец.

Пасля балявання, натуральна, што хацелася пераспаць усё, што тут адбылося. На панадворку цемра, не параўнаць з дымам: музыкай, звяр’ём, святлом. Што мяне чакае? Хто мяне чакае?! Я ўстаў і пайшоў спаць. Але аддаляўся і аддаляўся ад муроў. Аднак...

Ваніты — гэта толькі самы пачатак.

Сава мінуў сетку дзіцячага сада з горкамі і павуцінкамі, брукаванку і за ёю буралом, што прыхаваў у сваіх спляценнях бабровую гаць. Вядома, гаць цяпер, на сонцаспадзе, была бяспечнай любому пілігрыму, даючы масты і шляхі да ўсяго на свеце, — цяпла і святла хапала толькі да поўдня. Казаць цяжка, а ў такія хвіліны слабасці тым больш, навошта я ішоў тут і для чаго выйшаў за мяжу Сярэдняга (такую назву мела селішча), якой умоўна з’яўлялася ў гэтым баку рачулка-балацінка, рэчка Смярдзючка — такі ўніверсальны гідронім сустракаецца ці не ў кожнай мясціне замест свайго, тутэйшага. Проці сённяшняй Смярдзючкі тут цякла некалі Лошыца. Цяпер апошняе слова атаясамліваецца з прасцячком, ідыётам, іншыя паняцці пацяклі ў прасторах часу. Зрэшты, цераз замерзлую гаць я выбраўся ў поле. Магчыма, менавіта такое, пра што я цяпер расказваю, бывае раз на жыццё, і ў гэтым нельга набрацца досведу, вопыту. Гэта можна толькі запісаць і захапляцца на гэта. Ці не захапляцца.

Сава ішоў полем. Такі паход нельга параўнаць са шпацырам у прысадах, бо тут не было ніякіх шляшкоў, тым больш вычышчаных ці выкатаных. Хто не араў пустэльню, наўрад ці зразумее марнасць усяго, што адбывалася на тым полі. Нябесныя мірыяды былі так далёка, беспадстаў-

на далёка, што калолі сваёю марознаю недатыкальнасцю; а і моцы павярнуць назад не было. Як толькі Сава пачынаў уяўляць, які шлях трэба пракласці, каб вярнуцца ў Сярэдняе, апускаліся павекі і хацелася плюхнуцца ў снежны пыл, стаць забытай і, значыць, такой, што ніколі не існавала, з'явай. Ажно, як ні дзіўна, і наперадзе Сава бачыў цемру, чарнату, нягледзячы на снег, — ён ведаў, ведаў пра гэта, таму і бачыў. А думак у тым хаджэнні ў яго не было. Ніводнай думкі, якую можна было «заніткаваць» вось тут і цяпер. І хоць бы няхай знянацку яго заспела мятла[2], знічка — гэта можна будзе лічыць дасягненнем, збегам акалічнасцяў з відавочным вынікамі, нейкім здзяйсненнем цемрадзі, цемрашальства.

Гісторыя пад ціскам часу прыхавала за сабою права распавесці, колькі так прайшоў Сава: дванаццаць сягоў, дваццаць чатыры, дваццаць восем, шэсцьдзясят ці ўсе тры тысячы шэсцьсот. Бо гэта і не важна. Гісторыя змоўчвае і пра тое, што, уласна, адбылося. Але Сава ўстаў як укапаны, укапаны молах, ці камень, валун. Праз боязь да свайго ўчынку, праз мароз і ацверазенне Сава натапырыўся, запусціўшы глыбока ў кішэні рукі, і назіраў за пусткай, у якой хавалася пустоша. Нейкія таямнічыя жывому розуму сілы паўздзейнічалі на Саву: тое, што мы, людзі, аднолькава можам назваць звярыным альбо боскім, ніяк не звязваючы гэтыя два паняцці, а наадварот, ухіляючы іх у процілеглыя бакі, куты, не ўгадваючы, што стварыла нас «на свой вобраз і капыл», відаць, усё, што стала папярэднікам, відавочцам чалавечага нараджэння. Самі ж, самі ж якога-небудзь чалавека параўноўваем з лісою, пра другога кажам, што той яшчэ які жук, у трэцім бачым падабенства з дубам, рэдкага чалавека можам назваць божым, і гэтак далей.

Дык вось, Сава стаяў цяпер у полі і вязаў зоркі ў вянок. І раптам зніадкуль з павевам ці то ветру, ці то неапазнанага флюіду па спіне Савы прабеглася некалькі дрыжыкаў, як пры слабым пале, які толькі што выявіў сябе. Мусіць, гэта ўсё, што адбылося тады. Не, не ўсё: ён яшчэ заплюшчыў вочы, на адно маленькае імгненнне заплюшчыў вочы. Пасля Сава як ачуняў, злавіў сябе на думцы, каб ісці, тэрмінова ісці дадому. Было млосна ўсярэдзіне, аднак з гэтай млосцю адчувалася «малайчыннасць», што ніхто і ніколі не паплёўся б сюды вось так, а ты — зрабіў гэта. Толькі атрымалася, як у тым жарце: трэба цяпер разабрацца, што такое — *гэта*... Напраўду, стаяць больш не выпадала.

На небе цвіў сітнік — зорнае неба без месяца. Сёння зямля была царствам космасу, цывілізацыя знікла на ноч. Калі б я не так смачна дыхаў маразам, наўрад ці ведаў, што знаходжуся ўсё на той жа, усё на той жа зямлі. У гэтым зараджэнні трэба, проста неабходна распазнаць знакі і запісаць іх, магчыма, ніколі не прачытаўшы.

Але нікуды ісці не маглося. Наперадзе — усё ж такі заўсёды чакае смерць, пагадзіцеся. Назад азіраюцца адно старыя, ведаеце гэтыя размовы «а вось у мяне, а вось я...». І відаць, што паміж вечнасцю і чалавекам я стаў духам, зданню, і гэта край, рай... Чаго хаваць, я, мусіць, заблукаў.

Толькі мяне ахапіла яна: мая ты. Сава павярнуўся і тутсама спазнаў сваё пачуццё: ты ішла за мною, Поля!

— Я пайшла за табою, Сава, — сказала мне ты здалёк, набліжаючыся.

І гэта забіла замілаванне Савы табою. Калі б ты спытала: «Дурны, што ты тут робіш?» — альбо проста пацвердзіла: «Дурны!» — гэта лагічна, як калі веруеш, ударыцца чалом вобзем ці хаця б аб сцяну. А так ты нібы зразумела, што тут можна рабіць. «Яна ведае таямніцу, — думка ўдарыла ў галаў Савы, — ведае маю ненармальнасць». І непазбежны рэфлекс схапіў Саву загрудкі: забіць, забіць разам з сабою. Чалавек, напоўнены крывёю, паляцеў на цябе, Поля. Дзяўчына

2 Камета

адчула жах, які перадаўся ёй з пагляду Савы. Ты спынілася, ад пэўнай разгубленасці так і стаяла, усміхаючыся. Аднак гэта Полі не дапамагло. Сава наваліўся на цябе, абхапіўшы, сціснуўшы далонямі — ледзь не ў кулакі — тваю шыю: «За-душу, за-душу...» — цадзіў скрозь зубы чалавек і нібы дыхаў (не бачыла — вочы заплюшчыла) у падбароддзе, скроню, вуха і за ім. А ты ўсё ўсміхалася ад ведання таямніцы — саўдзельніца. Поля. Ты залілася ціхенькім смехам...

— Навошта ж ты пайшла за мною? — я згуляў у дурня, каб выведаць, што з усяго гэтага зразумела яна.

— Ты не рады? — узняла з яго грудзей галаву Поля.

— Цяпер ты павінна быць маёю! — Сава ведаў: пунсовая кроў, што на ветразях, — гэта хоць і ўсё, але не зусім. Яму патрэбна было слова, без яе, Полі, дэкларацыі нельга было і думаць пра іх будучыню. Вечную будучыню. Словам кіруецца свет, на яго, слова, вобразе трымаецца. Без вашага подпісу свет не скранецца з месца.

Поля няўпэўнена, марудна, як камера назірання, пакруціла галавою ў адзін бок, нібы падумаўшы, таксама запаволена пакруціла ў другі — адмова! Яна нібыта запісвала тое, што адбывалася наўкола ў гэты час. Вялікая сіла — сіла волі.

— Э-э не, не буду, — трымала свой адказ.

Не чортава і не боскае, чалавечае, сексуальнае вальнадумства — разбуральнік маралі, але і амаралі, сям'і, але і цэлібату.

— Як жа так, Поля? — узбунтаваўся Сава. — Я быў падумаў, ты ўжо мне аддалася... — усё ж я хацеў злавіць яе на слове.

Дзе там:

— Я аддалася на сваю волю, разумееш? — і хоць Сава разумеў, што шукае ветру ў полі, а ўсё ж такі было цяжкавата, нібы мне тут цяпер казалі, што ніякі я не Сава, хоць і тысячы гадоў мяне так звалі.

— І добра, — усміхнулася ты. — Ва ўсялякім разе, ты свой, — перасмыкнула Саву — кідае з крайнасці ў крайнасць дзеўку: чорт яе тут выгадаеш. — Лічы, ты ўжо і не чалавек, а секс.

— Хто-што?! — Сава ўжо падсядаў на крыўду, як ні дзіўна, за Полю менш, чым за сябе, разяву: гэта дзеўка абярнулася дурнічкай, дальбог! во выбраў!

Аднак Поля, засаромеўшыся, мусіла ўсё патлумачыць, як магла, канешне:

— Я, як і кожны... чалавек — не чалавек, божы эксперымент, задумваюся пра будучыню, Сава... — «і чым мы зоймемся?» — Чалавека ўжо цяпер імкне за чалавечыя межы, тады калі яшчэ не кожны люд, людзішка стаў ім. Іх адзінкі, але яны — яны пракладаюць шлях. Гэта ўжо не людзі, не чалавек, яны зусім, зусім іншыя, нібы заблукалі з іншых планет, вымярэнняў, — памаўчалі: што можна было тут казаць, думаць? — Не крыўдуй, любошчы тут не зусім да месца, я кажу пра секс, які пішуць у пашпарце, мужчынскі ці жаночы, «м» ці «ж»... Справа акурат у жанчыне. Сексуальнасць рэабілітавала жаночы род, — падумала. — Сексуальнасць — «М» і «Ж»... МіЖнацыянальнае, гендарнае адзенне.

Ды маўчаў Сава, як і не чуў, а можа, і нізвання не чуў цябе. Найсмутнейшыя часіны зышлі на зямлю; о Божа, о Д'ябал — вам здрадзілі: вас аб'яднолі. Абодвух! Не — абоіх! Што ён, то-бок я, Сава, вінен адказаць? Сказаць праўду, што Поля сексуальная? Ці зманіць праз сціпласць, паводле этыкету — не, не! не хачу сексу!?..

Гэта не глупства і нават не дурноцтва. Гэта... гэта — непаразуменне. Ажно як хочацца быць з табою! А ты, а Поля — усё далей, усё далей:

— ...Задумваюся, задумваюся над будучым і разумею: чалавек ужо не чалавек, і свет — не сам па сабе свет. А хто тады, Сава? Што?

Сава хацеў вымоўчвацца, каб не нарабіць злыбеды, не выказаць таго, што і напраўду нікому не трэба слухаць, акром сябе. Ды ці трэба яно і мне? Жыві і жыві...

— Звышчалавек... — неяк само выскачыла з рота, але нават і не скончыў — Поля як чакала гэтага адказу:

— Хочаш сказаць, чалавек паляціць, — «ці ж гэта я меў на ўвазе?» — Вырастуць крылцы, як у птушкі, як у анёла?.. — «скуль яна ведае пра анёла, пра здань?» — Дык як, якім чынам — паляціць? Таварыства птушына-чалавечых генаў? Мараў, Ладаў[3], Космасаў?

Не ачуняўшы ад пытанняў, ад слоў, пачуў наступныя:

— Глядзіш на мяне?.. Правільна! Нашыя вочы, нашая дальназоркасць... — запнулася. — Думаеш: што гэтая шэльма ад мяне хоча?

— Не, не-не...

— Так, так... — зрабіла паўзу, і яе панесла: — Ты ж сам даў мне слова, — «у якім сэнсе? я табе нічога не абяцаў». — Чалавек паляціць; так, чалавек — паляціць, але як кабачок, як гарбуз; жыцьме ў камеры, як у парніку, у камеры-скрыні: тэлевізія абернецца ягоным жыццём. У ёй, чуеш, у тэлевізіі ён будзе вандраваць, думаць, кахаць, загараць. А-а! — як апяклася ад апошняга (пры чым тут «кабачок», прычым «загараць»?) слова, ускрыкнула яна. — Нават не чалавек — у тэлевізіі... Тэлевізія будзе глядзець чалавека, тэлевізія будзе акаляць чалавека, як нас акаляе сонечнае святло: чалавек у тэлевізіі будзе люб*ы*м, з людзьмі ці адзінокі, у розных месцах Зямлі, і Космасу, і Часу, — яна маўчала доўга, падалося, што яе сэрца не вытрымала; я спужаўся, сціснуў яе ў абдымках, а яна ўсё роўна маўчыць. Я прыняў яе, каб зазірнуць у твар, а яе вочы — яе вочы вырачаныя, як у савы. Як у сыча вырачаныя. Як у савы... Ссільнічаў...

— Поля? — клікнуў я. — Поля! — Поля згубіла святло!

Гэта край, нічога больш і не будзе! Новы час паводле нашай эры — тэлевізійная эра. І тэлевізар (лямпа, манітор, экран — тое, што перадае свет і святло) тут не проста аб'ект, а суб'ект, не так сабе прылада — частка цела: канечнасць уяўлення.

— Рай не ў мінулым, Сава, Рай наперадзе, — шапнула яна. — Паяднання целаў не будзе. Мы станем празрыстымі рэчывамі, якія будуць умець усё, але нічога не рабіць пры гэтым. Магчыма, нават дзіця, — як жа пафасна працягнула яна, а я ажыў. — А самае жахлівае для мяне, што ў гэтым мурашніку — ад слова «мур» — будзе ачалавечаная дзікасць, ачалавечаная прырода, не мая — нічыя! — свабода. Навошта, завошта? — Поля заплакала. Заплакала!

— Поля... — але яна перабіла мяне, Саву, вымучыўшы ў плачы яшчэ адну, яшчэ адну фразу:

— Тэлевізія, — уздых, — наш Закон, — усхліп. — Секс, — плач, — выратуе чалавека, — рыданні.

Гэта было яе слова, яе дэкларацыя была?..

Я не ведаю, што адбылося. Такое здараецца — і такое здарылася цяпер. Сава быццам бы на кароткае імгненне заснуў; хутчэй, страціў над сабой уладу, а набыўшы свядомасць, адчуў подых.

Вецер! Поля! І я глытаў слёзы, піў твае шырокія, начныя вочы, піў цябе самую. Дрыжака, ззянне прайшло па нашых адзінокіх целах. Сэнс нам і не можа быць вядомым. Кажуць, загараліся зоркі і сыходзілі з небасхілу. Зямля верціцца: вакол восі сваёй, вакол Сонца, вакол Галактыкі, а Галактыка ў Космасе. Бусі паляцелі ў вырай і вернуцца неўзабаве, і далёка не ўсе. А ў нашых — маёй правай, тваёй левай — руках, што спляліся пяцiканечнасцямі — ды кісцямі, кісцямі — гарэла гарбузовай кветкай веданне, звяз: не зорка, якіх процьма не толькі ў небе; а Звязда. Ведай, Поля, ад нас, але агульная Звязда.

3 Лад — тут: «рай».



## Томас Гнілка Thomas Gnielka

**Томас Гнілка нарадзіўся ў 1928 годзе ў Берліне. Ён быў вучнем гімназіі імя Канта, настаўнікі якой вызначаліся непрыманнем гітлераўскага рэжыму і выхоўвалі гімназістаў у духу гуманізму. У пачатку 1944 года Томаса і яго аднакласнікаў прызываюць на вайну ў якасці памочнікаў зенітчыкаў. Хлопчыкі яшчэ вельмі мала ведаюць пра жыццё. Ім цяжка захаваць гуманістычныя ідэалы сярод ваеннай жорсткасці і грубасці. Ім нават няма ў каго спытаць, што добра, а што кепска. Батарэю перакідваюць у раён канцлагера Асвенцім. Там хлопчыкі сустракаюць тых, хто афіцыйна лічыцца «недачалавекамі»: змучаных вязніц і вязняў канцлагера, савецкіх ваеннапалонных... Гэтыя пакутнікі не заўсёды здольныя зберагчы чалавечую годнасць у нечалавечых умовах. Але хлопчыкі бачаць, што гэта ў першую чаргу людзі — такія ж, як і яны.**

**Гэты агромністы і цяжкі вопыт вызначыў далейшы лёс падлетка. Пасля вайны Томас Гнілка стаў журналістам, займаўся выкрыццём нацысцкіх злачынстваў. Яго журналісцкае расследаванне стала штуршком для буйнога Франкфурцкага судовага працэсу (1963—1965) над былымі асвенцімскімі наглядчыкамі. У фільме 2014 года «У лабірынце маўчання», прысвечаным гэтым падзеям, ён выступае як адна з гістарычных фігур.**

**Адразу пасля вайны юнак пачаў пісаць раман на аснове сваіх успамінаў. Гэта павінна была быць «кніга супраць вайны». У 1952 годзе Томас Гнілка чытаў урыўкі свайго рамана на сходзе знакамітага аб'яднання нямецкіх пісьменнікаў «Група 47», куды быў запрошаны. Але, заняты журналісцкай дзейнасцю, ён не паспеў завяршыць кнігу і ў 1965 годзе памёр ад раку. Фрагменты рамана надрукаваныя толькі ў 2014 годзе пры дапамозе дачкі аўтара Керстын Гнілка.**

## Гісторыя аднаго класа

Берлін, 10 студзеня 1944 года

— Па стойцы «смірна» не стойце. І не служыце! Вам патрэбна свабода! Ім гэта пакажыце!

Наш стары настаўнік стаіць з кнігай у руках каля акна. Ён праглынае сліну. Акуляры ён ссунуў высока на лоб — як і заўсёды, калі чытае. Яны амаль знікаюць у яго густых валасах.

— Глядзі, — кажа маленькі Меліс, які стаіць побач са мной, — ён чытае па памяці.

І калі яны прыйдуць, грозячы руляй, за вамі —
Не ідзіце! Няхай паспрабуюць узяць вас самі!
Рэкрутчыну прэч! Ніякіх салдатаў!
Ніякіх з маноклямі ў воку магнатаў!
Ніякіх ордэнаў і лампасаў!
Ніякіх афіцэраў запасу!
Вы — будучыня!

Я гляджу на яго і бачу, што ён плача. Кніга зусім мокрая. На вільготных старонках адбіваецца сонца, якое зазірае ў акно. У маім горле камяк. Так няёмка. Не, зараз ні ў якім разе нельга глядзець на Мутэра: у яго заўсёды такая нахабная морда. Але я ўсё ж такі гляджу на яго і заўважаю, што ён бледны як смерць. Шоерман, які стаіць перада мной, нешта ліхаманкава шукае ў кішэні пінжака і не знаходзіць. «Ды што ён там шукае», — думаю я.

Вам належыць краіна!
Вам рабскі ланцуг трэба ўрэшце адкінуць!
Варта схацець — і ўсе станеце вольны!
Годзе браць у гэтым удзел! Ваша будзь воля!
Варта схацець — і спраўдзяцца сны!
***Хай больш ніколі не будзе вайны!***[1]

Ён голасна крычыць апошнія словы. Яшчэ колькі часу не сціхае іх рэха. «Не варта так крычаць», — думаю я. Па вуліцы праязджае трамвай. Відаць, як яго штанга слізгоча міма па провадзе. Я ўсхопліваюся, бо чую, як недзе грукнулі дзверы. Каля акна ўжо пуста. Устае цыбаты Шпенглер, павольна падыходзіць да кафедры і бярэ ў руку невялікі стосік складзеных аркушаў паперы.

Ён кажа, што надрукаваў верш на пішучай машынцы: «Дваццаць аркушаў, па адным на кожнага».

Я падаю маці руку, бяру партфель і выходжу праз сад на вуліцу. Маці якраз гатуе чырвонакачанную капусту. Пах далятае аж дасюль. Я хачу яшчэ зайсці па свайго сябра Вольфганга і таму званю ў восьмы дом па нашай вуліцы. Знутры даносіцца плаксівы голас фраў Шоерман, якая гаварыць без перапынку. Вольфганг адчыняе дзверы.

Абедзве яго сястры пакуюць у вялізны чамадан разнастайны хлам, які ім дае маці. Ён стаіць побач, раз'юшаны. Я заўважаю гэта па тым, што ён час ад часу хапаецца за мочкі вушэй. Маці клапатліва круціць яго за плечы, нібы ён манекен, і правярае, ці ўсе гузікі добра прымацаваныя. Мне шкада яго, і я хачу дапамагчы.

— Навошта вы гэта робіце? — гучна кажу я. — Заўтра вам усё роўна прыйдзецца зноў забраць увесь гэты хлам, бо яму нічога з гэтага не спатрэбіцца.

Фраў Шоерман глядзіць на мяне, не разумеючы. «Вось дурніца», — думаю я. А потым яна пачынае плакаць. Гэта выглядае непрыстойна. Яе тоўстыя грудзі ўвесь час гайдаюцца ўверхуніз у такт усхліпам.

— Ах, божухна, божухна, божухна, — кажа яна безупынна.

Я адварочваюся і гляджу ў акно.

— Давай хутчэй, — кажу я, — мы павінны быць там а дзясятай гадзіне.

У адбітку на шыбе мне відаць, як фраў Шоерман усоўвае ў напалавіну ўпакаваны чамадан псалтыр.

— Пайшлі, — кажу я і бяру Вольфганга за руку.

За намі з трэскам зачыняюцца дзверы.

1 Радкі з верша Курта Тухольскага «Тры хвіліны ўвагі« («Drei Minuten Gehör»).

На Біркенвег нам насустрач ідзе фрау Шульц. Яна таксама ўжо ведае. Мусіць, чуткі разышліся хутка. У адной руцэ ў яе засаленая скураная сумка для пакупак, а ў другой — талоны.

— Я так рада за вас, — піскліва кажа яна.

Голас — што садовая лейка, як заўсёды гаворыць Вольфганг. У яе трошкі касых, пукатых ад базедавай хваробы вачах — непрыемная расчуленасць. Паміж крысамі паліто відаць брудная белізна ніжняй спадніцы.

Яе сын загінуў тры тыдні таму на зенітнай вежы каля заапарка. Прамое пападанне.

У аб'яве пра яго смерць у мясцовай газеце «Шпандауэр Цайтунг» стаяла: «У гордым смутку! Кіраўніца нацыянал-сацыялістычнай жаночай арганізацыі раёна Шпандау-Хакенфельдэ».

Яе муж — паштовы служачы, ён збірае ў нас харчовыя ахвяраванні для бедных. Ён заўсёды просіць прабачэння, калі звоніць нам у дзверы.

У трамваі мы сустракаем Кнаўфта. Ён сядзіць ля акна, паставіўшы сваю школьную сумку на калені, і задуменна жуе лусту хлеба.

— Я б таксама не адмовіўся, — кажу я ціха. Вольфганг дастае з пінжака бумажнік, каб аплаціць праезд.

Пры гэтым на падлогу падае невялічкі сшытачак.

— Глядзі ты, у мяне тут яшчэ шпаргалка пра Юлія Цэзара захавалася, — кажа ён Кнаўфту.

Мы стаім у кабінеце нашага дырэктара вакол вялікага пісьмовага стала. Оберштудыендырэктар Кругер сядзіць у сваім мяккім крэсле. Ён заняты сваімі рукамі. Вельмі ўважліва разглядае кожны пазногаць. Ён так заўсёды робіць, калі чымсьці незадаволены. Потым ён падымае позірк.

— Гер лейтэнант, дазвольце прадставіць вам мой дзявяты клас, — кажа ён.

Малады лейтэнант удзячна кланяецца.

«А ён прыгожа выглядае ў гэтай сваёй уніформе», — думаю я мімаволі.

Доктар Кругер устаў. Яго доўгая, хударлявая постаць нахілілася ўперад. Штаны-трубы пузырацца на каленях. Яму няма чаго есці і ён курыць мятную гарбату. Гэта я ведаю ад яго дачкі, якая, бывае, гутарыць з намі. Правую руку ён паклаў на галаву статуі грэчаскага юнака, якая стаіць на стале. Юнак трымае ў руцэ меч, на які абапіраецца.

— Гэтага рашэння кіраўнікоў нашай гуманнай сістэмы выхавання, — кажа ён ціха, — я зразумець не магу.

Ён зноў пазірае на свае рукі. Яны зусім вузкія і белыя.

Мутэр, які стаіць ззаду, за ім паўтарае: накіроўвае позірк на свае рукі і пачынае чысціць свае брудныя пазногці. Шпенглер штурхае яго локцем у бок, і ён, скрывіўшыся ад болю, перастае.

— У мяне ёсць для вас невялікі збор прамоў нашага сябра Сакрата. Гэта выданне палявой пошты. Яно лёгка ўмесціцца ў кішэні.

Ён падыходзіць да кожнага і дае кнігу. Перад маленькім Мелісам ён затрымліваецца крыху даўжэй. Потым ён вяртаецца да стала і пачынае займацца сваімі паперамі.

Мы чакаем яшчэ колькі часу, а потым услед за лейтэнантам выходзім з кабінета. Я ціха зачыняю дзверы. За пісьмовым сталом я яшчэ раз бачу доўгую, тонкую фігуру.

Фігура не абарочваецца.

Сходзячы з лесвіцы, Вольфганг гартае атрыманую кнігу. Потым я заўважаю, як ён чамусьці раптам насцярожваецца і паспешліва совае яе ў кішэню паліто.

У аўтобусе я раскрываю томік. На першай старонцы стаіць некалькі радкоў, напісаных акуратным, дробным почыркам нашага дырэктара.

«Калі я табе калісьці спатрэблюся», — чытаю я.

А потым стаіць адрас загараднага дома ў Мекленбургу. Гэты дом яму два гады таму пакінула ў спадчыну нейкая сваячка.

Я вырываю старонку і засоўваю яе ў бакавы аддзел свайго бумажніка.

————————

Зенітка паварочваецца, як я хачу. Я павінен наводзіць яе так, як паказвае маленькая стрэлка на прыёмніку перада мной. Такая ў мяне інструкцыя. Шпенглер сядзіць побач са мной на другім сядзенні і рэгулюе наводку па вышыні. Ён спакойны і глядзіць толькі на сваю стрэлку.

Я думаю аб тым, ці баіцца ён грукату ад стрэлаў. Я баюся. Мы яшчэ ніколі не былі каля зеніткі падчас стральбы. Кажуць, грукат вельмі моцны. А яшчэ ў момант стрэлу трэба адкрываць рот — так сказаў унтэр-афіцэр Вюншэ.

Ён стаіць у навушніках на прыступцы каля затвора. Усе яго цярпець не могуць, і астатнія спачувалі мне, што я трапіў да яго. Учора ён не дазволіў мне пайсці ў кіно, таму што я не навёў парадак у пакоі, а ён гэта заўважыў.

Здаецца, самалёты набліжаюцца. Зараз мая стрэлка не варушыцца. Шпенглер падымае ствол усё вышэй. Гэта налёт на батарэю, разумею я.

Калі я змяню наводку на пяць рысак, снарады ўзарвуцца амаль за пяць кіламетраў ад цэлі. Гэтага ніхто не зможа заўважыць. Нават унтэр-афіцэр. Са свайго месца каля затвора ён не можа бачыць маёй шкалы.

— Пакуль што страляць не будзем, — кажа Вюншэ.

Я пракручваю зенітку да адмысловай меткі. У гэтым напрамку ствол павінен быць павернуты заўсёды, калі не вядзецца стральба.

С боку горада чуваць стрэлы і выбухі бомб.

— Гэта зенітная вежа каля заапарка, — гаворыць унтэр-афіцэр. — Мы дастанем іх, калі яны будуць вяртацца.

— Як думаеш, моцны будзе грукат, калі пачнём страляць? — пытаюся я ў Шпенглера.

Ён дастае з кішэні кавалак хлеба і ўгрызаецца ў яго.

— Не ведаю, — адказвае ён. — Ды і якая, зрэшты, розніца. У крайнім выпадку мазгаўня лопне — а горш за гэта з табой нічога не здарыцца.

Я заўважаю, што ён напхаў ваты ў вушы. Але Баўм сказаў, што гэта лухта, што ад гэтага толькі горш. Аднак я не кажу гэтага Шпенглеру. Ён заўсёды прыкідваецца гэтакім спакойным, і Вюншэ яго за гэта хваліць. Але я ведаю, што яму страшна.

Баўм ваюе ўжо тры гады. У яго ёсць падворак і хлопчык сын, якому столькі ж, колькі і нам. Але ён хворы і яго не прызвалі. Астатнія яго дзеці яшчэ меншыя. Баўм — зараджальшчык. У яго чырвоны патрэсканы твар і нос кручком. «Морда, як у Пятрушкі», — кажа пра яго Шпенглер.

— Тры самалёты справа, — гаворыць Вюншэ.

Я кручу зенітку і наводжу яе згодна з новымі паказаннямі стрэлкі. «Калі загадаюць страляць, вазьму на пару рысак убок», — думаю я. Я не хачу страляць. Ад гэтага такі моцны грукат.

Баўм тугаваты на вуха. Гэта, канешне, з-за грукату.

— Страляем беглым агнём, — кажа унтэр-афіцэр.

Я гляджу ўверх і бачу самалёт. Ён у перакрыжаванні чатырох прамянёў пражэктараў. Амаль над намі.

«Рыхтуйся!» — камандуе унтэр-афіцэр.

Чуецца рокат. Ён заглушае матоpы зеніткі і нарастае.

— Прыгніся! Вось свінні! Ён закідвае нас бомбамі! — крычыць Баўм.

Зусім блізка разрываецца бомба. Я адчуваю парыў ветру, узняты выбухам. У тым баку паміж дамоў шугае полымя пажару.

— Агонь! — камандуе Вюншэ.

У той час, калі ён гэта гаворыць, гучыць сігнал пажарнай трывогі.

«Закідваюць нас не бомбамі! Свінні!» — думаю я і наводжу зенітку дакладна, у адпаведнасці з паказаннямі стрэлкі.

— Прыняць гільзы, — загадвае Вюншэ, — толькі асцярожна: гарачыя.

Мы бяром гільзы і перакідваем цераз бруствер.

— Ты што-небудзь паспеў зразумець? — пытаю я Шпенглера.

— Не, — кажа ён і кусае свой акраец.

— Я таксама не. Хацелі нас бомбамі накрыць. Вось свінні, — кажу я.

Бекман, які заўсёды падносіць боепрыпасы, палічыў гільзы.

«Трыццаць шэсць стрэлаў», — кажа ён Вюншэ[2].

Ён такі дужы, што можа ўзяць у кожную руку па снараду і з імі рабіць прысяданні. Ён ні з кім не сябруе, а ў шафцы ў яго ёсць карцінка, на якой намаляваная рыбацкая лодка. Кожны дзень пасля пад'ёму ён яе разглядвае. Са сваімі таварышамі па пакоі ён размаўляе рэдка. Усё гэта мне расказаў Баўм.

— Ну, як яно было? — пытаецца Вюншэ.

Ён стаіць паміж мной і Шпенглерам.

— Лепш і не трэба, — адказваю я. — Далі ім дыхту! Пазіцыю нашу хацелі накрыць. Свінні!

— Ну-ну, — кажа Вюншэ, — менш гарачнасці, мой юны сябра.

— Пакінь, — пярэчыць Бекман. — Гэта нармальна.

Мы бяжым у напрамку чыгуначнага насыпу. Кожны раз, калі обер-лейтэнант загадвае, я, як і ўсе, падаю на зямлю. Вольфганг ляжыць наўскасяк перада мной і рые маленькія ямкі. Можна прасачыць шлях, якім мы прабеглі напрасткі праз пустыр, — яго адзначылі ямкі, зробленыя Вольфгангам.

Яго рукі зграбаюць зямлю ўбок, а твар ён у гэты час робіць такі, як у чалавека, у якога скралі мазгі. Добра гэтак ляжаць і пераводзіць дух.

Обер-лейтэнант праходжваецца паміж намі і правярае, ці ўсе ляжаць так, як трэба.

— У вашай галаве, верагодна, завяліся мухі, — кажа ён Вольфгангу, калі бачыць ямкі. — Калі вы пад кулямі гэтак разляжацеся, вам маслакі паадстрэльваюць.

Яго голас — як луска акулы. Кожны раз, калі гэты голас пранікае ў маю свядомасць, ён нібы наждаком здзірае крупінку таго, аб чым гаварылася ў вершы. Сёння раніцай я яшчэ раз прачытаў яго. Ён цудоўны, але ён недарэчы. Ён ніяк не спалучаецца з тым, што я думаў учора, калі на нас кідалі бомбы.

2 Каб паспяхова паразіць цэль у паветры, неабходна было пры дапамозе спецыяльнага вылічальнага ўстройства — «прыбора кіравання зенітным агнём» — улічыць шэраг параметраў: не толькі вышыню, напрамак, адлегласць, хуткасць і г. д., але і тэмпературу і вільготнасць парахавога зарада, а таксама ступень зношанасці ствала, для чаго і вёўся падлік зробленых стрэлаў.

— Устаць, марш, марш! — камандуе обер-лейтэнант.

Мы дабягаем да насыпу — гэта канечны пункт нашага маршруту. Назад нам звычайна дазваляюць проста маршыраваць.

— Легчы! — загадвае обер-лейтэнант.

Не, не ўсё можна здзерці наждаком. Чым болей я забываю верш, тым мацней становіцца лютасць ад таго, што я ніяк не магу гэтаму перашкодзіць. Яе ўзмацняе і тое, што мне няма каго спытаць. Але лютасць — гэта, магчыма, лепш. Магчыма, лепш адчуваць лютасць, чым быць вышэй за ўсё гэта. Не ведаю.

Шоерман зноў выкалупаў ямку. У яго спацеў лоб і ён цяжка дыхае. Калі б яго зараз убачыла яго маці, у яе б здарыўся ўдар.

— Вашы паганыя хадулі вы можаце спакойна выпрастаць, — кажа обер-лейтэнант Шпенглеру.

Прынамсі мае думкі ён не можа здзерці наждаком. Добра, што я гэта ведаю. І страшна яму таксама было, калі ўчора на нас сыпаліся бомбы. Гэта мне расказаў Вольфганг — ён бачыў.

— Пастроіцца ў паходную калону, марш, марш! — камандуе обер-лейтэнант.

Мы пачынаем маршыраваць, а ён ідзе перад намі. Час ад часу ён пачынае бегчы побач з намі задам наперад, сочачы, ці роўны наш строй.

— Далёка пад Седанам… — пяём мы[3]. Да першага акопа нашай батарэі, у напрамку якога мы шыбуем, застаецца яшчэ пяцьдзясят крокаў. Обер-лейтэнант усё яшчэ бяжыць побач задам наперад, кантралюючы роўнасць нашага фланга. Ён выцягнуў галаву, не адстае і сапе носам, як сабака. Быццам хоча знюхаць непарадак.

Я аднойчы чуў, што, калі ўпарта думаць аб чымсьці, яно абавязкова здзейсніцца. Я думаю аб тым, што ён мусіць упасці ў акоп.

— Яшчэ крышку, — кажа Юнэ, які маршыруе каля мяне.

Обер-лейтэнант аглядае наш строй. Засталося яшчэ пяць крокаў. Кожны з іх я ступаю сапраўды старанна, бо мне неабходна захаваць іх у памяці. Гэты ўспамін мне яшчэ спатрэбіцца.

Акоп глыбокі і вузкі. Я бачу гэта, калі мой рад яго пераскоквае.

Мне не смешна, калі обер-лейтэнант валіцца ў акоп. Я не ўяўляю таксама, ці балюча гэта. Я перастаўляю ногі ў такт з астатнімі і пяю. Наш спеў не больш гучны, чым заўсёды. Мы маршыруем, як механічная мнаганожка.

Перад бліндажамі мы разыходзімся.

Каля кухні звоніць званок, які абвяшчае, што пачынаецца выдача ежы, і я адчуваю сябе прыблізна як пасля добра выкананай кантрольнай, якую я не спісаў у Вольфганга.

— Сёння вы атрымліваеце падарунак ад Германа Герынга, — кажа з раздатачнага акенца яфрэйтар Фрынгз. — Паўфунта пячэння і кулёк цукерак.

————————

— Калі мы і далей будзем ехаць па гэтай ветцы, — кажа Баўм, — то праедзем мой дом у Айленбургу.

Мы стаім на адкрытым таварным вагоне-платформе, на якім умацаваная наша зенітка. Старшы сказаў, што ад такіх паездак з'яўляецца шмат іржы. Мы павінны драіць усе прыборы на працягу дзвюх гадзін. І так кожны дзень, пакуль мы ў дарозе.

3 Нямецкая салдацкая песня часоў франка-прускай вайны (1870—1871).

Сонца пячэ так, што рэзкі сустрэчны вецер здаецца прыемным. Баўм з люлькай у зубах шаруе затвор. Яму прыходзіцца трымацца адной рукой. Старыя вагоны трасе так, што можа вышпурнуць вонкі, калі за гэтым не сачыць.

— А дзе той Айленбург? — пытаюся я.

— Ды дзесьці на гэтай ветцы, — адказвае Баўм. — Наш дом стаіць каля пуцей. Мы яго не празяваем.

Вюншэ пераскоквае да нас з задняга вагона, на якім умацаваны радыёлакатар. На гэтым вагоне стаіць і курыць Шоерман. Анучу, якую ён трымае ў руцэ, палошча вецер.

— Ну, — пытаецца Вюншэ, — яшчэ ніхто не апынуўся за бортам?

— Нідзе няма ніякай іржы, — кажу я, — і ўчора таксама не было.

— Не мянці языком, тры, — кажа Вюншэ. — Але глядзець пры гэтым па баках і махаць маленькім дзяўчаткам я табе не забараняю.

— Яшчэ трыццаць кіламетраў засталося, — кажа Баўм. — Вунь той ветраны млын мне знаёмы.

— Да чаго трыццаць кіламетраў засталося? — пытаецца Вюншэ.

— Ды ні да чаго, — кажа Баўм. — Затвор начышчаны.

Цягнік едзе па мосце. Унізе рака, па якой плывуць баржы. Вюншэ плюе цераз парэнчы. Спачатку плявок недзе метр пралятае разам з цягнікам, а потым хутка адстае і знікае з вачэй.

Вюншэ выцірае рот. «Шкада», — кажа ён.

— Не турбуйся, ён даляціць, — гаворыць Баўм і адпускае затвор — той з трэскам зачыняцца.

Вюншэ ляпае яго па плячы.

— Праўда твая, Антон. — кажа ён. — Гэта ўсё вецер.

— Не, — кажу я, — справа не ў ветры.

— Ды лухта ўсё тое, што вы там гаворыце, — адказвае Баўм. — Ну, унтэр, хадзі назад. Мы тут ужо самі як-небудзь закончым.

Вюншэ дае кожнаму з нас па цыгарэце і сноў скача да Шоермана, на вагон з радыёлакатарам.

— Яшчэ, самае большае, дзесяць кіламетраў, — кажа Баўм над маім вухам.

— Так, я ўпэўнены ў гэтым на ўсе сто. У яго саламяны дах і ён цалкам пабудаваны з клінкеру. Мая жонка — ведаю, гэта ідыёцтва — яна заўсёды мые клінкеры звонку мыльнай вадой. І часам нават робіць гэта губкай. Ёсць у нас конь у хляве, але хлеў ад чыгункі не відаць: ён за домам. Там і дзвюх каровак трымаем. Трошкі цесна, але прыбудову зрабіць яшчэ не паспелі.

— Ану, патрымай тут: крыху падцягнем брызент і прывяжам.

Ён зноў набівае люльку.

— Гэта Гросраўшвіц. Сюды мае хлопчыкі ходзяць у школу, — кажа ён і паказвае муштуком люлькі на некалькі дамоў, якія стаяць навокал невялічкай царквы.

— Мой старэйшы, Герхард, змайстраваў хатку для трусоў, з цэглы. Раствор цягаў з будоўлі — побач тады якраз будавалі нацыянал-сацыялістычны Дом маці. Цудоўная хатка выйшла. Рабіў з ватарпасам і ўсімі іншымі хітрыкамі. А жонка мая так лаялася з-за таго, што ён запэцкаў вапнай дыван у гасцінай.

— Пацягні брызент трохі больш на сябе. Тут у мяне яшчэ не нацягнуўся.

Я бачу, што Шоерман на другім вагоне махае і нешта крычыць. Баўм таксама гэта заўважыў.

— Хай раве, — кажа ён, — я мушу табе ўсе гэта паказаць. Ды і павінен жа я ўбачыць, ці зрабіў ужо швагер новы дах. Яшчэ кіламетраў пяць засталося.

Шоерман кінуў крычаць і пераскоквае да нас.

— Я крычу, а вы ўсё не чуеце, — кажа ён. — Усім прыйсці ў вагон-сталовую — загад старшага. Толькі хутка. Ён ужо двойчы пра вас пытаўся.

Мы паволі ідзём па вагонах міма зенітак і прыбораў. На канцах вагонаў мы чакаем, пакуль трасяніна прыціхне на якое імгненне, і тады пераскокваем. Маленькі Меліс учора ледзь не зваліўся. Юнэ ўдалося схапіць яго ў апошні момант.

Усе ўжо сабраліся ў крытым вагоне для скаціны, у тарцы якога праламаны ўваход. У куце стаяць піўныя бочкі Рэфельда.

— Давайце, давайце, трошкі хутчэй, — кажа старшы.

— Сядайце. Зашмат вольнага часу — будзем праводзіць яго з карысцю. Тэорыя стральбы зенітнай артылерыі. Вымярэнне вуглоў. Баўм, сядзьце на месца! Паглядзець у акенца зможаце і потым. Зразумела?

— Так точна, — адказвае Баўм.

Ён марудна паварочваецца і вяртаецца да свайго месца. Яго чырвоны твар змяніў свой колер.

— З вамі нешта не так? — пытае старшы і б'е сабе па боце сабачым павадком.

— Ужо нічога, — павольна адказвае Баўм.

Ён глядзіць на старшага. Такім позіркам, як у чалавека, які кагосьці хоча забіць.

— Што такое вугламеры зенітнай артылерыі? — запытвае старшы. — Адказвайце, Плог.

————————

Я заўважаю, што цягнік стаіць. Праз прарэх каля дзвярэй унутр пранікае святло. Астатнія яшчэ спяць. Пахне саломай і рэшткамі піва, якія яшчэ засталіся ў кацялках пасля ўчарашняга[4].

Каля мяне ўстае Шоерман. Хапаючыся за сцяну, я таксама ўстаю і іду да дзвярэй, бо я ведаю, што ён зараз будзе рабіць. Яму няёмка, калі за ім у гэты час назіраюць.

Звонку я бачу некалькі пакгаўзаў і закрыты семафор. Па вуліцы ўздоўж пуцей едзе нейкі чалавек на невялікіх калёсах. Кудлаты конік цяжка крочыць у аглоблях. Ён не паскарае ход, калі пуга трапляе па яго крыжы. Чалавек лаецца, але я не магу зразумець, што ён кажа.

Я трошкі паварочваюся ў бок і магу цяпер бачыць, што робіць Шоерман. Ён павыбіраў салому з валасоў і сядзіць на сваім рукзаку. На яго каленях ляжыць чорная кніга з крыжам на вокладцы, з якой ён, здаецца, чытае. Яго рукі малітоўна складзеныя. Час ад часу ён разнімае іх, каб перахрысціцца. Затым ён укладае ў кнігу маленькую картачку з намаляванымі кветкамі і нейкім выслоўем і загортвае яе.

Я хутка паварочваюся назад, бо ведаю, што зараз ён пачне аглядацца, каб упэўніцца, што ніхто за ім не назіраў.

— А, ты ўжо прачнуўся, — кажа ён.

— Так, — адказваю я. — Паглядзі, якія дзіўныя калёсы едуць там знадворку.

Шоерман рыецца ў сваіх рэчах. З сумкі для сухога пайка ён дастае хлеб і чырвоную бляшанку з маслам. Ён пачынае есці і запівае півам з кацялка.

Удалечыні чуецца спеў. Нібыта шмат дзіцячых галасоў. Я саджуся ў дзвярах і звешваю ногі. Далёка ў канцы вуліцы віднеецца доўгая чарада постацей. Па баках ідуць асобныя фігуры, яны час ад часу нешта крычаць.

4 Згодна з задумай аўтара, папярэднія, ненапісаныя, часткі тэксту павінны былі змяшчаць расказ пра папойку, якую афіцэры ўчынілі для хлопчыкаў, каб «падняць баявы дух» і «далучыць да салдацкага жыцця».

— Гэта дзеці. Яны ідуць на экскурсію, — выказваю я здагадку.

Шоерман ківае і адсёрбвае трохі піва. Ён жуе кожны кавалак значна даўжэй за мяне. Калі я бачу, як ён гэта робіць, мне часам хочацца даць яму ў морду. Ён кажа, што гэта добра для страўніка. Іх трое дзяцей у сям'і, і мне забаўна ўяўляць, як яны ўсе разам сядзяць за сталом і вось так жуюць. Асабліва смешна ўяўляць за гэтым заняткам яго маці. Я смяюся.

Ён запытальна глядзіць на мяне і запавольвае жаванне.

— Нічога, — кажу я, — ты еш, еш.

Калона людзей наблізілася. У іх голеныя галовы, яны крочаць у нагу. Кожны раз, калі яны ставяць ногі на зямлю, раздаецца грукат. Яны ідуць марудна. Ствараецца ўражанне, быццам кожны нясе за плячамі мех бульбы. Але на іх ссутуленых плячах нічога няма.

Рэзкі жаночы голас аддае каманды. Бакавыя фігуры носяцца туды-сюды, як вартавыя сабакі. Часам яны забягаюць у калону. Тады чуюцца крыкі — быццам кагосьці б'юць.

Толькі цяпер я заўважаю, што гэта жанчыны. Яны маршыруюць міма нас, зусім блізка. Каля трохсот жанчын. Яны апранутыя ў паласатыя рабочыя блузы, а на нагах у іх драўляныя чаравікі.

Шоерман, які стаў побач са мной ля дзвярэй, дрыжыць. Я заўважаю гэта дакладна, таму што ён паклаў мне руку на плячо, каб нахіліцца і выглянуць. Ён дастае чорную кнігу з кішэні кіцеля і сутаргава сціскае яе.

Жанчыны ўсё ідуць і ідуць міма нас. У многіх на голай скуры галавы пабліскваюць белаватыя плямы. Мне робіцца кепска.

Адзін з канваіраў узыходзіць на схіл чыгуначнага насыпу. Гэта жанчына. На ёй форменны чорны кіцель, вакол таліі — рэмень з пісталетам. Яе светлыя валасы — відавочна, доўгія — сабраныя на патыліцы ў вузел. З запясця звісае арапнік, прымацаваны да скураной дзяжкі. Ён павольна гайдаецца з боку ў бок, калі яна праводзіць рукой па валасах, папраўляючы іх.

Потым яна набліжаецца да нас. Яна даволі немаладая. Недзе пад сорак, як мне здаецца.

— Ну, хлопчыкі, — кажа яна, — куды едзеце?

— Не ведаю, — адказвае Шоерман.

Цяпер ён трымае кнігу з крыжам перад грудзямі, быццам хоча за ёй схавацца.

Жанчына кідае на яго востры позірк.

— Ну-ну, — кажа яна і ляскае арапнікам па боце.

— Што гэта за месца, — пытаюся я.

— Што, не бачыш? — адказвае жанчына. — Аўшвіц-Біркенау.

Яна смяецца і адварочваецца ад нас.

— Спяваць! — раве яна ў бок калоны.

Пярэднія жанчыны задаюць тон. Потым пачынаюць падпяваць і астатнія. Спеў гучыць вельмі ціха і стомлена. «Млынар так любіць вандраваць…» — пяюць яны[5]. Дзве ці тры жанчыны — яны, відавочна, ідуць далёка ззаду — пяюць другім голасам.

— Дзярмо, а не спеў! — крычыць канваірка. У яе хрыплы голас.

«Сорак цыгарэт у дзень», — думаю я. Яна стаіць так, як наш фельдфебель, калі ён прымушаў нас займацца страявой падрыхтоўкай.

Раптам я заўважаю, што побач са мной стаіць Юнэ. Ён пазяхае і прычэсвае валасы.

— Глядзі ты, сапраўдны салдат у спадніцы! — гучна кажа ён.

5 Першая песня з вакальнага цыкла Франца Шуберта «Прыгожая млынарыха».

— Зяпу заткні! — кажа жанчына і паварочваецца.

— Ну, чакай, — ашаломлена кажа Юнэ.

Ён саскоквае на насып і пацягваецца.

Жанчына бярэ арапнік у руку і ўтаропліваецца ў Юнэ.

Ён робіць — як і заўсёды раніцай — некалькі прысяданняў, пару разоў нахіляецца і колькі часу бяжыць на месцы. Потым ён набліжаецца да яе. Ён спыняецца толькі перад самым яе носам.

Такія паводзіны мне знаёмыя. Юнэ — самы моцны ў нашым класе. Ён заўсёды так пачынае, калі хоча кагосьці адлупцаваць.

— Ты хочаш нешта сказаць? — пытае ён.

Жанчына ўзнімае руку з арапнікам.

— Ты ўпэўнена? — кажа Юнэ.

Затым ён падымае руку і б’е. Жанчына хістаецца назад.

— Пайшла прэч, старая каза, — гаворыць ён, — інакш я раззлуюся і дам табе чосу!

Ён прыхінаецца да вагона і назірае, як жанчына бяжыць вялікімі скачкамі, даганяючы калону. Правую руку — з арапнікам — яна прыціснула да твару.

— Бач, як панеслася, — кажа Юнэ. — Дарэчы, нічога сабе баба: бачыў, якія ў яе грудзі?

Шоерман усё яшчэ стаіць побач са мной у дзвярах, прыхіліўшыся да вушака. Ён знерухомеў і глядзіць налева — туды, дзе апошнія жанчыны павольна знікаюць за паваротам.

Я дакранаюся да яго пляча.

— У тваёй кнізе пра гэта таксама нешта напісана? — пытаюся я.

Ён прымае плячо, быццам яму непрыемны мой дотык, і хутка совае кнігу ў кішэню.

Юнэ разгарнуў на зямлі карту.

— Да Асвенціма яшчэ дваццаць кіламетраў, — кажа ён.

————————

— Чуў? — звяртаецца да мяне цыбаты Шпенглер. — Сёння атрымліваем групу зняволеных з лагера — для будаўніцтва ўмацаванняў.

— Ды яны ж пападаюць, як толькі паспрабуюць узяць у рукі рыдлёўкі, — кажу я. — Чаму старшы не хоча даручыць гэта іванам? Яны хаця б дастаткова жаруць на кухні[6].

— Нічога не знаю, загад зверху. Ад кожнага разліку адзін чалавек застаецца за галоўнага. Трэ сачыць, каб яны нічога не папсавалі. Каб ніякага сабатажу. Лейтэнант Вагнер кажа, зусім небяспечныя тыпы. Спрэс прафесійныя злачынцы і «сто семдзесят пятыя».[7]

Шпенглер ухмыляецца. Учора пасля адбою ён наглядна растлумачыў нам, што гэта такое. Ён гэта ведае ад бацькі. У таго ўрачэбная практыка ў нас у Шпандау. Маленькі Меліс пры гэтым зусім пачырванеў, а потым лёг на ложак і нацягнуў коўдру на вушы. Я ўхмыляюся Шпенглеру ў адказ.

— Слухай, няўжо яны сапраўды робяць гэта так — ну, я маю на ўвазе, ззаду?

Шпенглер робіць таямнічую міну і двухсэнсоўна ўсміхаецца.

— Сачы за імі пільна падчас працы — у іх такі ружовы трохвугольнік на рукаве. Як быццам за маёй сястрычкай, калі б паслаў яе з сякерай калоць дровы. Ну ўсё, бывай, мне трэба да Антона. Ідзі да нашай Берты — загад Вюншэ. Ён сёння дзяжурны па батарэі.

6 Маюцца на ўвазе так званыя «хіві« — «добраахвотныя памочнікі Вермахта», якіх набіралі (у тым ліку прымусова) на акупіраваных тэрыторыях СССР.

7 Г. зн. асуджаныя згодна з «супрацьгомасексуальным» 175 параграфам крымінальнага кодэкса Германіі.

Я павольна пераступаю цераз траншэі для кабеляў і іду да нашай зенітکі. Там чакае шарфюрар СС з васьмю паласатымі постацямі.

— Вось людзі для пабудовы ўмацаванняў. Калі нехта паспрабуе збегчы ці пачне наравіцца — дай яму як мае быць па мордзе. Размаўляць няма сэнсу, не разумеюць ні славечка па-нямецку. Усё ясна?

— Так точна, гер шарфюрар!

Пакуль шарфюрар са мной размаўляе, людзі стаяць, безудзельна абапёршыся на свае рыдлёўкі. Яны чакаюць, што я нешта ім скажу. Іх гладка выгаленыя галовы блішчаць на сонцы. Ад іх смярдзіць парашком для знішчэння вошай. Я падзываю іх жэстамі і паказваю, што яны павінны рабіць. Адзін з іх, з вялікімі чорнымі рагавымі акулярамі і бугрыстым чэрапам, дае мне кавалачак паперы і агрызак алоўка і робіць такі рух, быццам нешта рысуе. Я разумею яго і рысую план бруствера вакол зеніткі: выгляд зверху і збоку. Ён бярэ паперку, нешта падпраўляе і потым дае ўказанні астатнім на незнаёмай мне мове. Яны бяруць лапаты і паспешліва прымаюцца за працу.

Я сяджу на платформе для зараджання, куру і назіраю за імі. Той, што ў рагавых акулярах, працуе недалёка ад мяне. Як і іншыя, ён зняў куртку. «Цела як у клячы», — думаю я мімаволі. На руках засталіся адны сухажыллі. Час ад часу ён азіраецца і глядзіць, ці не дакурыў я яшчэ цыгарэту. Я дакурваю яе да паловы і кідаю яму.

Ён падбірае яе, тройчы глыбока — набіраючы дым аж у самыя лёгкія — зацягваецца і перадае яе суседу. Мая маці прыслала мне шэсцьдзясят штук. Я адлічваю з пачкі восем, кладу на штабель боепрыпасаў каля зеніткі і адварочваюся. Калі я праз нейкі час зноў гляджу на штабель, цыгарэт няма.

Той, што ў рагавых акулярах, раптам кажа нешта для мне незразумелае, працягваючы паспешліва працаваць. Потым яшчэ нешта коратка дадае. Я разумею слова «СС».

Я ўзнімаю позірк і бачу, што з сярэдзіны батарэі да нас ідзе шарфюрар.

— Глядзі ты, — крычыць ён ужо здалёк, — ад гэтых хлопцаў зноў тхне, як ад заводскіх комінаў. У іх жа цэлы дзень толькі і работы, што бычкі страляць. Штурхані іх у зад як мае быць, калі працаваць не хочуць.

— Праца ідзе надта добра, гер шарфюрар, — кажу я, — яны ўжо кучу ўсяго зрабілі.

————————

— Падымем бакалы, падымем бакалы! — крычыць Вюншэ і дзьме ў свой свісток.

Я ўзнімаюся з ложка. Побач са мной устае Хуга і пачынае спробы выціснуць свой фурункул.

— Схадзі прынясі кавы, — кажа яму Эдэ, — толькі лапы спярша памый.

Пасля снедання я іду на агнявую пазіцыю. Я выцягваю батарэйны тэрмометр з кантрольнай гільзы і здымаю яго паказанне. «Тэмпература пораху — трыццаць градусаў», — кажу я ў палявы тэлефон.

— Чартоўскі горача! — крычыць Вюншэ, які раптам з'яўляецца на брустверы і саскоквае да мяне на пазіцыю.

— Сёння да нас зноў прышлюць партыю гэтых убогіх тыпаў з лагера. Цьфу, мізэрныя бедачыны! Лепш бы нам самім дарабіць умацаванні.

Ён узбіраецца на платформу для зараджання, адцягвае затвор і правярае, ці хапае ў зараднай каморы гарматнага сала.

— Я адчуваю сябе тут папраўдзе няўпэўнена ад таго, што ўмацаванні збудавалі гэтыя хлопцы. Сапраўды было б лепш, калі б мы маглі зрабіць гэта самі.

Ён зачыняе затвор і саскоквае на зямлю.

— Але чорт з ім. Сачы, каб яны чаго не нарабілі. Гэтыя эсэсаўскія шышкі раз'юшацца, калі заўважаць нешта не тое.

Ён ляпае мяне па спіне і ідзе да канцылярыі, куды ўжо прыйшла машына з лагера.

Гэта зноў тыя ж самыя людзі. Чалавек у рагавых акулярах размяркоўвае астатніх, і яны пачынаюць капаць, робячы паспешлівая рухі, — нібыта лялькі.

Я кладу восем цыгарэт на старое месцы і гэтым разам ужо не адварочваюся, а назіраю, як кожны бярэ адну.

Яны кураць. Гэта падобна на сцэну ў нямым кіно, якое круцяць занадта хутка. Мне хочацца засмяяцца.

З сярэдзіны батарэі даносіцца шум. Я бягу туды і бачу, што гэта трое зняволеных.

Яны б'юцца. Голеныя галовы пачырванелі ад натугі. Яны крычаць, і двое з іх спрабуюць нешта адабраць у трэцяга. Ён ніцма ляжыць на зямлі. Баўм стаіць побач і ўхмыляецца.

Я падыходжу да яго.

Яны б'юцца за мой недакурак, — кажа ён. — Накінуліся на яго, як гіены. Фу-ты чорт, яны ж ужо не людзі!

Двое адпускаюць таго, што ляжыць на зямлі.

Ён павольна ўстае і адкрывае левую руку. Недакурак брудны і мокры ад поту. Ён пастуквае ўказальным пальцам па яго канцах і засоўвае яго паміж губ. Двое астатніх стаяць побач, цяпер ужо зноў безудзельныя. Адзін з іх дастае з кішэні стары пачак запалак і дае яму прыкурыць. Яны пільна, нахіліўшы галовы, сочаць, як ён удыхае дым. Баўм стаіць побач са мной, назірае і круціць галавой.

— Вось чорт, яны ўжо больш не людзі, вось чорт… — гаворыць ён.

————————

Дзяўчынка падае мне цукар.

— Дзве лыжкі? — пытае яна.

— Так, — адказваю я і размешваю цукар у сваім кубку.

Ад яе пахне школай. На яе жакеце значок «Гітлерюгенда».

— Дык вось, калі ваша рука падчас практыкаванняў трапіла ў гармату… Ці было тады вядома, ці ёсць перелом?

— Не, — кажу я, — таму мяне і паслалі сюды, у Катавіцы. На рэнтген.

Мая цётка гутарыць з фрау Дэгенхард пра сённяшні дэфіцыт служанак. Падчас расказу яна часта паўтарае словы «мая прыгожая кватэра».

Я буду спаць у ложку свайго стрыечнага брата. Ён ужо даўно на фронце. Дзядзька сядзіць у куце і курыць люльку.

— Сыграй нам што-небудзь, — кажа ён дзяўчынцы.

Рука баліць, я не магу паварушыць пальцамі. Пасля дзяўчынка падсядае да мяне.

— Мяне завуць Катарына, — кажа яна. — А цябе?

— Дай мне цыгарэту, Катарына, — кажу я, — і агню.

Яна засоўвае мне ў рот цыгарэту і чыркае запалкай.

— Дзякуй, — кажу я, — ты вельмі мілая.

— Мне столькі ж, колькі і табе, — кажа яна.

— Здорава, — кажу я і працягваю курыць.

Дзядзька і Катарынін бацька ўселіся за курыльны столік, каб згуляць партыю ў шахматы. Паміж хадамі яны абмяркоўваюць палітычнае становішча.

— Ім не ўдасца далей пранікнуць у Польшчу, — кажа мой дзядзька. — Наш фронт зноў стабілізаваўся.

— Праўда, канечне, ваша, — кажа гер Дэгенхард, — але трэба яшчэ ўлічыць, што…

Але ён не дагаворвае. Ён павольна перасоўвае фігуру на тры клеткі ўперад.

— Ты ўмееш танцаваць? — пытае Катарына.

— Не, — адказваю я, — але я добра ўмею страляць. Я навучу цябе.

— Мяркую, гэта таксама трэба ўмець, — кажа яна задуменна.

На яе лбе дзве складкі. Гэта робіць яе падобнай да таксы.

— Я буду зваць цябе Кэт.

— Добра, калі ты так хочаш, — кажа яна, бярэ са стала пячэнне і кладзе мне ў рот.

— Хіба яны не мілыя — гэтыя двое? — кажа мая цётка.

— Так, так, з дзяцей вырастаюць людзі, — адказвае фрау Дэгенхард і прыхільна нам усміхаецца.

Наступнай раніцай я іду ў шпіталь. Салдат на прахадной запісвае нумар маёй часці і кажа: «Трэці паверх, кабінет сто дванаццаць».

— Ну што там, — пытаюся я, — паклаўшы руку пад рэнтген.

— Табе падфарціла, — кажа мужчына ў белым халаце. — Пералому пясцевых касцей няма. Праз восем дзён зможаш зноў выступаць у якасці першай скрыпкі.

— Я граю на піяніна, — адказваю я.

Мужчына смяецца.

— У наступныя тры дні прыходзь на масаж. Адпускное пасведчанне мы табе прадоўжым.

— Яшчэ тры дні, — кажа Кэт. — Потым я ўжо не змагу забыць твой твар. Так многа твараў мільгае перад вачамі, і так мала з іх запамінаецца.

Пакой, у якім мы сядзім, прасторны. Усе яго сцены застаўлены мэбляй. На стале стаіць ваза з трыма штучнымі апельсінамі.

Я мушу сядзець надта роўна, бо інакш разная спінка ўціскаецца мне ў паясніцу.

— Хадзем? — пытаю я.

— Схаджу яшчэ па канькі, — кажа яна.

— Не трэба, — кажу я, — хадзем.

Мы ідзём па вуліцы.

У канавах ляжаць кучы снегу, якія нагрэблі лапатамі. Праз кожныя дзесяць метраў узвышаецца брудная гара.

— Не будзем вяртацца ў пакой, — гаворыць яна. — Там мне прыходзіцца казаць столькі глупства.

— Добра, Кэт, — пагаджаюся я.

Мы збочваем у завулак. На рагу вуліцы бачым піўную. Праз адчыненыя дзверы, зацягнутыя табачным дымам, відаць салдаты. Яны сядзяць вакол вялікага круглага стала, п’яныя.

— Капейка і паўрубель… — пяюць яны[8].

Кэт ціха падцягвае.

8 Нямецкая студэнцкая песня.

— Пазаўчора вы адбілі моцную атаку, — кажа яна.
— Так, — адказваю я, — сто сорак восем стрэлаў за паўгадзіны.
— Гэта цяжка — страляць? — пытае Кэт.
— Нармальна, — кажу я. — Адзін снарад важыць восемдзесят фунтаў.
— Ну, — гаворыць яны, — але ж ты дужы.
Яна кладзе сваю руку ў маю, і мы ідзём нага ў нагу. Мы праходзім міма афішнай тумбы. «Усе адпускнікі — на багатэль», — напісана на крыклівым стракатым плакаце.
— Чаму ты зноў моршчыш лоб, нібы такса, Кэт? — пытаюся я.
— Мне трэба падумаць.
— Падумала?
— Так.
— І?
— Заўтра мы ўцячом.
— Куды? — пытаюся я.
— Пабачыш. — кажа яна. — Ты згодзен?
— Так, Кэт, — адказваю я, — з табой — згодзен.
Мы спыніліся.
— Я хацеў бы пацалаваць цябе, Кэт, — кажу я.
Яна ківае і глядзіць на мяне. Яе губы цёплыя і шчыльна стуленыя. На душы ў мяне лёгкасць.
— Заўтра, — кажа яна.

————————

— Маці ў курсе, — кажа Кэт, распакоўваючы рукзак.
— Яна кажа, што цяпер, калі хутка прыйдуць рускія, ёй ужо на ўсё пляваць.
— Яна разумная жанчына, — кажу я.
Праз дзверы хаціны відаць, як сонца паволі выходзіць з-за горнага масіву Высокіх Татраў. На дварэ марозна і ясна.
— Там у куце стаяць лыжы маіх бацькоў, — кажа Кэт.
— Слухай, Кэт.
— Што?
— Цяпер гэта наш дом і мы будзем па-сапраўднаму жыць тут разам.
Яна падыходзіць і прыхінаецца да мяне. Потым гладзіць мяне па валасах і цалуе.
— Сядай, будзь як дома, — кажа яна, — а я ўжо аб табе паклапачуся. Хутка ежа будзе.
Яна зачыняе дзверы і пачынае раскладваць агонь. Полымя з трэскам разгараецца. Паціху становіцца цёпла. Кэт укленчвае перад дзверцамі печкі і падкладвае палена.
Я ўспамінаю сённяшнюю паездку. Калі мы хацелі сесці ў цягнік, да нас падышоў афіцэр ваеннай паліцыі. Обер-яфрэйтар. Ён запытаў дакументы. «Мы сёння пажаніліся», — сказала Кэт і хутка павесілася мне на шыю. «Ах вось яно што, — ухмыльнуўся афіцэр , — ну тады ўсяго найлепшага.»
Усю дарогу Кэт не вымавіла ні слова. Яна саромелася.
Мне робіцца ад гэтага смешна, і я смяюся. Кэт глядзіць на мяне.
— Як хутка адбываецца жаніцьба, — кажу я, — Яшчэ ўчора нічога пра гэта і ведаць не ведаў, а сёння ўжо раз — і гатова.
Яна чырванее. Потым хутка нахіляецца і кідае ў мяне патухлы вугольчык.

— Балбатун, — кажа яна.

Я дастаю з кішэні сваю люльку і накіроўваю муштук на яе.

— Яшчэ слова — і расстрэл на месцы.

Яна паказвае мне язык і пачынае нешта руплiва памешваць у сваiм гаршку.

Звонку чуваць шум цяжкiх самалётаў.

Я выходжу на двор. Дваццаць машын. Трохматорныя. Выхлапы малююць на небе ўзор.

Там, на агнявой пазіцыі, хутка пачнуць страляць, думаю я. Шпенглер памыліцца пры наводцы, і Вюншэ будзе лаяцца, што мяне няма.

— Я хачу заставацца тут, пакуль усё не скончыцца, — кажу я.

Я зацягваю мацаванні на нагах Кэт. Ёй не цярпіцца хутчэй паехаць.

— Пачакай, — кажу я. — Калі будзе занадта хутка, карыстайся тормазам. Тым, што на попе.

Кэт смяецца.

Я бяру палкі і адштурхоўваюся.

Кэт едзе перада мной.

— Сагні калені, — крычу я.

Яна абарочваецца і ківае.

На вяршыні, недзе за дзвесце метраў ад нас, стаіць казуля і паглядвае на нас. Час ад часу яна нахіляе галаву і нешта дастае з-пад снегу.

— Глядзі, — кажа Кэт, — яна не ўспрымае нас сур’ёзна. Яна думае, што мы бяскрыўдныя, хоць у цябе ёсць пісталет.

— Дарэчы, — кажу я, — я хацеў яшчэ навучыць цябе страляць.

— Здорава, — гаворыць Кэт, — мы зробім снегавіка перад хацінай і ў нас будзе добрая мішэнь.

Кэт устаўляе снегавіку два вугольчыкі на месца вачэй, а ў якасці носа — моркву. Я вымаю з кабуры пісталет і ўзводжу курок.

— Ты з’едлівая, Кэт.

— Не, проста ты дурны.

— Што сёння адбудзецца?

— Не пытай, я дакладна не ведаю. Цяпер, у гэты час, — і з той пары, як я пазнаёмілася з табой, — я нічога больш не ведаю дакладна.

— Я дакладна ведаю, што кахаю цябе.

— Гэта, знаеш, многа.

— Глядзі, Кэт: свечка амаль дагарэла.

— Так. Давай ляжам і працягнем размаўляць.

— Я пагашу святло.

— Не, пакінь, я хачу бачыць, як ты раздзяваешся. Я хачу паглядзець, ці не здасца мне гэта дзіўным.

— I што тады?

— Тады я буду ведаць, што кахаю цябе.

— Ну што, табе дзіўна?

— Так, вельмі!

— Дзякуй.

— Хадзі сюды на хвілінку і сагрэй мяне.
— Але Кэт…
— Шкада.
— Я ўжо іду.
— Цяпер мы пад адной коўдрай.
— Так.
— Што за вуглы ў цябе ўсюды? Калі б ты патаўсцеў, я б больш не ведала, дзе ты.
— Табе трэба заўсёды ведаць, дзе я, Кэт.
— Кінь, гэта таксама няважна.
— Кэт, я хачу дакрануцца да тваіх грудзей, каб адчуць, ці мяккія яны.
— Я дазваляю.
— Яны мяккія. Я магу пакрыць іх адной далонню.
— Ну, у цябе вялікая далонь.
— Цяпер ты сагрэлася?
— Так. Навошта ты пытаеш?
— Тады я магу пайсці ў свой ложак. У мяне ж так многа вуглоў.
— Ідзі, калі хочаш.
— А чаго хочаш ты?
— Гэта няважна.
— Дабранач, Кэт.
— Дабранач.

———————————

— Цябе хоча бачыць старшы, — кажа Вюншэ.

Ён стаіць перад маленькім люстэркам, якое ён павесіў на тарэц ложка, і збіраецца галіцца.

— Чаму? — пытаюся я. — Я ж нічога не…

— Ды не, — кажа Вюншэ, — Не для ваеннага агляду і не каб цябе распякаць. Так, проста. Я яму прапанаваў, каб ты заняўся рускімі. Бо Брэнэра пераводзяць у іншую часць.

Ён бярэ з шафы небяспечную брытву і пачынае тачыць яе аб унутраны бок рэменя.

— Ну як, хочаш? Ці не?

— Хачу, — адказваю я.

— Ну вось і добра. Вам, зялёным, заўсёды спачатку патрэбна цёпленькае месцейка, інакш вы губляецеся. Увесь дзень батарэйную службу табе несці цяпер не трэба. Але ў выпадку трывогі — павінен быць каля зеніткі.

— Ну што ж, тады зазірну да старшага, — кажу я.

Я шыбую праз пазіцыі да камандзірскага бліндажа. Амаль у сярэдзіне батарэі, каля будкі з размеркавальным шчытом, пахавалі Кельбера. Над магільным насыпам тырчыць крыж, а на ім вісіць яго каска. Эдэ расказаў мне, што добра спець песню на пахаванні не атрымалася[9]. Старшы вельмі лютаваў і загадаў усім поўзаць па-пластунску. Унтэр-афіцэры павінны былі поўзаць таксама. Вакол адкрытай магілы. А потым ён казаў нешта пра «вялікую Германію» і прабраў Шоермана за тое, што той маліўся, стоячы ў страі. Урэшце магілу закідалі зямлёй рускія — і яшчэ паклалі зверху яловыя галінкі, якія ляжаць і дагэтуль.

9 Кельбер — адзін з хлопчыкаў, які загінуў у выніку няшчаснага выпадку. Камандзір батарэі хацеў, каб на яго пахаванні хлопчыкі выканалі вядомую пахавальную салдацкую песню «Быў у мяне таварыш».

— Старшага няма, — кажа Хірш, калі я ўваходжу ў пярэдняе памяшканне бліндажа.— Я тут боты шарую. Сядай, пасядзі хвілінку.

Ён нагрувасціў перад сабой кучу ботаў і сцізорыкам саскрэбвае з іх зацвярдзелы бруд.

— Ты глянь толькі, — абураецца Хірш, — от фарсун! Сем пар. І кожны дзень не менш за пяць — у брудзе. Маскарад ды й толькі!

— Пайду я лепш, — кажу я. — Калі ён мяне тут знойдзе, зноў лазню дасць.

— Зараз, толькі перадам табе сёе-тое ад яго імя, — кажа Хірш. — Пачкай крышку.

Ён ссоўвае фуражку на нос і чухае патыліцу.

— Будзь напагатове! Ты павінен, улічваючы той факт, што гаворка ідзе пра рускіх недачалавекаў, гэта значыць пра індывідуумаў, чыя вартасць мнагакратна саступае вартасці нашай германскай расы, якіх мы, аднак, у дадзены момант вымушаны выкарыстоўваць у барацьбе супраць Расіі і з гэтай нагоды мусім зрабіць ім некаторыя ўступкі….

— Спыніся, — перабіваю я, — табе ж ужо не хапае дыху.

— Дзіўна, — кажа Хірш.

— Што дзіўна?

— Ён яшчэ і далей гаварыў, не ўдыхаючы.

— Карацей, я павінен абыходзіцца з імі разумна і тады не атрымаю па рэпе?

— Так, прыблізна гэта ён і хацеў сказаць.

— Ведаеш, — кажу я, — сярод іх ёсць харошыя хлопцы.

— Ідзі, — кажа Хірш, — скажы гэта ім — яны парадуюцца. А яшчэ ім цяпер будуць выдаваць больш жратвы.

— Эдэ хоча ўрэзаць старшаму па мурле, — кажу я, адчыняючы дзверы.

— То добра, — кажа Хірш, — Ва ўсякім разе, я гатоў спачатку трошкі падрыхтаваць яго для Эдэ, каб з гэтай ідэі выйшаў толк. Сем пар ботаў! От фарсун.

————————

— Яе міласць у салоне, — кажа маладзенькая дзяўчына, адчыняючы дзверы. На ёй невялічкі фартух і каптурык. Я праходжу за ёй.

Ігнат і Красянкоў стаяць разам з астатнімі на вялікай рашотцы для чысткі абутку і выціраюць ногі. Здаецца, яны зусім не плануюць заканчваць гэты занятак. Ігнат да ўсіх падыходзіць і аглядае падэшвы.

— Ну, хадзем, — кажу я і дадаю па-руску: — Давай!

Мы ідзём па доўгім калідоры, усланым дыванамі. Ігнат і астатнія трымаюць шапкі ў руках і гужом ідуць збоку — па вузкім краі, не пакрытым дыванамі.

— Вам сюды, — кажа мне дзяўчына і адчыняе дзверы.

У мяккім скураным крэсле сядзіць старая дама з маленькім сабачкам на каленях. Калі я ўваходжу, яна ўзнімае позірк.

— Я чакала вас, — кажа яна.

— Спадар Вюншэ папярэдзіў, што вы прыйдзеце. Я рада вітаць вас у гэтым доме.

Яна падае мне руку. Сабачка трохі расплюшчвае адно вока і глядзіць на мяне.

— Унтэр-афіцэр Вюншэ сказаў, што я павінен піць з вамі чай, — кажу я.

— Так, — кажа яна, — спадар Вюншэ нярэдка заходзіць да мяне — выпіць чаю.

Апошнія словы яна трошкі расцягвае.

— Я прывёў дваццаць трох рускіх. Ці павінен я?..

— Кіньце, — перапыняе старая дама, — яны ў добрых руках.

На ёй чорная сукенка з карункавым каўняром. У яе на шыі на шнурку вісіць ларнет. Яна бярэ яго ў руку, каб мяне разгледзець. Самацветы пярсцёнкаў на яе руцэ бліскаюць маленькімі маланкамі ў сонечным святле, якое пранікае праз акно. Яна канчае свой агляд і прыбірае шкельцы ад вачэй.

— Прыгожы, — кажа яна, — але яшчэ занадта малады.

І яна злёгку ўсміхаецца.

— Ну, давайце спачатку пазнаёмімся. Як завуць вас, я ўжо ведаю: спадар Вюншэ сказаў мне гэта па тэлефоне. Але вам трэба знаць, хто я. Маё прозвішча — фон Эрдзёдзі.

Кажучы гэта, яна трошкі нахіляе галаву.

Я працягваю ёй руку.

— Вельмі прыемна, — кажу я.

— Я рада, што вам прыемна, — гаворыць яна і зноў усміхаецца.

— А зараз давайце ўсядземся, нап'ёмся чаю і пра што-небудзь пагутарым.

Я саджуся ў крэсла насупраць. Маленькі сабачка саскочыў на падлогу і павольна падыходзіць да акна, дзе на невялікім століку стаіць шкляная банбаньерка. Ён заскоквае на столік і задняй лапай чухае сабе вуха. Затым пярэдняй лапай адкрывае шклянку і вымае кавалак нейкага ласунку, які потым з чмяканнем разжоўвае.

— Спадар Вюншэ вам больш нічога не паведаміў? — пытае старая дама. Пры гэтым яна неяк дзіўна на мяне пазірае.

— Не, — адказваю я.

— Ну, тады давайце сапраўды піць чай, — кажа яна.

Дама адкручвае кранік на меднай ёмістасці, пад якой гарыць спіртоўка, і падстаўляе кубак.

— Гэта самавар, — кажа яна, — старая фамільная рэч. Вам падабаецца?

— Так, — кажу я і аглядаю пакой, — мне ўвогуле ў вас падабаецца. Тут утульна.

Я дастаю з кішэні падораны фельдфебелем пачак цыгарэт. На ім стаіць надпіс: «SulinaRekord».

— Хочаце пачаставацца? — пытаюся я і распячатваю пачак.

— Пачакайце, — кажа дама і адкрывае скрыначку, што стаіць на стале, — Давайце спачатку пакурым мае.

Я адкідваюся ў крэсле і сачу, як яна назірае за дымам сваёй цыгарэты, — з такім выразам на твары, быццам яна ведае ўсё.

— У вас сапраўды можна спытацца пра ўсё, — кажу я.

— Чаму вы так кажаце? — пытае яна. — Вы жадаеце пра штосьці даведацца?

— Ды не, я сказаў гэта проста так. Я назіраў за вашым тварам і падумаў гэта.

— Цікава, — гаворыць старая дама.

— Праўда, — кажу я, — гэта на самай справе так.

— Вы прыемны суразмоўца, — кажа яна. — Таму я налью вам яшчэ адзін кубак чаю. Другі кубак я наліваю толькі маім прыяцелям.

Дзверы адчыняюцца і заходзіць маладая дзяўчына. На ёй стракаты ранішні халат з шоўку, шырока адкрыты на грудзях, — відаць, што на ёй няма сарочкі. Яе ногі абутыя ў маленькія хатнія туфлі, абшытыя футрам. У яе прыгожы твар і нафарбаваны рот.

— Я чула, тут наведвальнікі, — кажа яна. — Я не замінаю? Як справы? У мяне добра — як заўсёды!

Яе голас гучыць крыху задзірліва.

Потым яна садзіцца мне на калені. «Таму што крэслаў больш няма», — тлумачыць яна і закідвае нагу за нагу. Халат трохі саслізгвае ўбок, і я бачу бядро.

— Мяне завуць Кетэ. Я табе падабаюся? — пытае яна.

Яна скідвае з ног хатнія туфлі і аблакочваецца на мяне.

Я выпростваюся ў крэсле: дзяўчына цяжкая і пачынае адціскаць мне калені.

— Кетэ, ану выйдзі, — рэзка кажа дама, — спадар не кліент.

Яе голас набывае іншую, непрыемную для мяне, інтанацыю. Дзяўчына падхопліваецца і паспешлівым рухам закрывае халат. Я заўважаю, што яна злёгку чырванее.

— Прабачце, — коратка кажа яна і хутка выходзіць з пакоя.

— Чаму вы прагналі гэту дзяўчыну? Яна была даволі мілая, — пытаюся я.

— Вось як? — кажа старая дама — Яна такая да ўсіх кліентаў.

— Але ж вы сказалі, што я не кліент?

— Іменна, таму яна і выйшла.

— Не магу зразумець, — кажу я.

— А гэта і не трэба, — адказвае старая дама.

— Спадар унтэр-афіцэр загадаў піць чай. Вось і вазьміце кубак. Трэці кубак я наліваю толькі маім добрым сябрам. А вы можаце пачаставаць мяне цыгарэтай.

Калі я даю ёй прыкурыць, яна, смеючыся, выдыхае дым мне ў твар.

— А вы — цудоўная ўцеха для такой старой шрапнелі, як я. Гэта быў камплімент. Калі вы ведаеце, што гэта такое.

— Шрапнель — гэта снарад, начынены свінцовымі шарыкамі, які разрываецца на невялікай вышыні над жывой сілай праціўніка, — кажу я. — Мы можам дасягнуць таго ж эфекту пры дапамозе зенітных снарадаў. Гэта называецца «высокі разрыў».

— Вы жа не будзеце сцвярджаць, што я начыненая свінцовымі шарыкамі? Гэта бестактоўна, галубчык! — кажа дама.

— Не, што вы, — адказваю я, — вы ж не шрапнель. Шрапнель выглядае зусім па-іншаму.

— Вы цешыце маё самалюбства, — адказвае яна, — але я ведаю, што вы папраўдзе так лічыце, і гэта міла.

Я ўстаю і падыходжу да акна. Сабачка сядзіць на століку і глядзіць у пустую банбаньерку.

— Я вымушаная кожны дзень купляць паўфунта пралінэ, — кажа старая дама, — інакш ён не пакіне мяне ў спакоі. А пралінэ так цяжка зараз даставаць. З Францыі ж больш нічога не прыходзіць.

Раптам я чую голас Красянкова. Здаецца, ён даносіцца аднекуль нездалёк. Разам з ім чуецца і жаночы голас. Жанчына смяецца. Паміж смяшкамі яна некалькі разоў гучна ўскрыквае.

— Што робяць астатнія? — пытаюся я.

— Яны таксама п’юць чай, — кажа старая дама, — але ў больш прыемнай кампаніі, чым вы.

— Не думаю, што гэта так, — кажу я. — Калі вы маеце на ўвазе такіх дзяўчат, як тая, што заходзіла да нас, то ведайце, што вашу кампанію я знаходжу больш прыемнай.

— Вы ўражваеце мяне сваёй адкрытасцю, — кажа яна, бярэ са стала паперу і дае мне, — але пасля таго, як мы ўладзім гэту дробязь, я буду вымушана з вамі развітацца. Разумееце, справы. На жаль, нават у мае гады я мушу працаваць дзеля лусты надзённага хлеба.

Я бяру паперу і чытаю: «460 марак за абслугоўванне 23 рускіх атрыманыя…»

— А за сябе мне не трэба плаціць? — пытаю я.

— Не, — кажа дама, смеючыся, — гэта я ў даўгу перад вамі за асалоду ад нашай размовы.

Я вымаю з кішэні пяць купюр па сто марак і даю ёй. Яна падыходзіць да маленькага сакрэтніка, што стаіць каля дзвярэй, і дастае са скрыначкі грошы, каб даць рэшты.

— Калі вы зноў захочаце напіцца са мной чаю — заходзьце, — кажа яна і падае мне руку, — маленькі агеньчык пад самаварам для вас заўсёды запалены.

Калі дзяўчына ў каптурыку зачыняе за мной дзверы, астатнія ўжо стаяць звонку. У іх вясёлыя твары, яны смяюцца і штурхаюць адзін аднаго ў бок.

Да мяне падыходзіць Красянкоў.

— Здарава было? — пытае ён.

— Так, — адказваю я, — я добра правёў час.

**Апошнія. Асвенцім, 24 студзеня 1945 года.**

Калі мы праз расчыненую браму ўваходзім у лагер, то не бачым там ніводнага чалавека. Пры кожным кроку снег рыпіць, як крухмал.

Крычыць варанне. Я бачу, што птушкі сядзяць вялізнай кучай перад дрывяным складам. Здаецца, яны нешта ядуць. Мусіць, хтосьці насыпаў ім корму. Час ад часу некалькі птушак узнімаюцца, апісваюць, каркаючы, кароткі круг у паветры і зноў садзяцца на тое ж месца.

— Сёння ў іх шчаслівы дзень, — кажа Вюншэ. — Хлопцы з кухні, напэўна, вышпурнулі ўсё, што не змаглі прыхапіць з сабой.

Мы ідзём міма эсэсаўскіх казарм. Дзверы ва ўсіх казармах расчыненыя.

— Наклалі поўныя штаны, — кажа Баўм. — Палову свайго барахла проста пакідалі.

Часткі амуніцыі і форменнага адзення раскіданыя па вуліцы і памяшканнях.

На лагерным пляцы відаць адбіткі шматлікіх ног. Адбіткі поўнасцю гладкія. Драўляныя чаравікі. Яны ўтвараюць вялізнае карэ. На лагернай вуліцы, што ідзе побач з пляцам, ногі пратапталі дарогу, якая вядзе да брамы. На невялікім участку ў сярэдзіне чатырохвугольніка снег шчыльна ўтаптаны. Там адбіліся асобныя сляды ботаў.

Вюншэ спыняецца і пачынае аглядацца. Па некаторых слядах яшчэ можна зразумець, у якім напрамку яны вядуць, і Вюншэ ўважліва ўзіраецца ў гэтыя бакі.

Снег зноў пачынае падаць маленькімі сняжынкамі, згладжвае краі і запаўняе паглыбленні. І калі мы ідзём скрозь лагерны пляц да харчовага склада, то відаць ужо толькі тая чарада слядоў, што застаецца за намі.

Дзверы адчыненыя насцеж. Чуваць звон посуду. На твары Вюншэ ўзнікае здзіўленне і ён бярэ ў руку аўтамат.

У складскім памяшканні сядзяць чатыры мужчыны ў паласатых лагерных куртках і ядуць. Яны трымаюць перад сабой кансервавыя бляшанкі і скрэбаюць па іх лыжкамі. Ядуць яны паспешліва.

— Смачна есці, — кажа Вюншэ, калі мы заходзім.

Чатыры мужчыны рэзка спыняюць яду.

Мы стаім каля дзвярэй і глядзім на іх. Яны нагадваюць мне скульптурную групу, якую я бачыў, калі мы з бацькамі аднойчы былі ў музеі васковых фігур. Яна называлася «Аблава паліцыі на незаконны начны клуб».

На іх тварах такі ж самы выраз, а іх рукі, што сціскаюць лыжкі, застылі ў паветры.

Хіба што паласатыя курткі ў латах парушаюць падабенства, бо фігуры ў тым балагане былі апранутыя ў вячэрнія касцюмы. І твары ў іх былі больш свежыя.

Адзін з іх — ён сядзіць на табурэтцы, павярнуўшы да нас твар, — раптам пачынае ванітаваць. Ён зноў і зноў курчыцца і давіцца ад ванітаў. На яго лбе выступае пот, з яго рота штуршкамі выходзіць непераатраўленая ежа, а ён усё не зводзіць з нас вачэй.

— Нельга есці на пусты страўнік гэтакую тлустую ежу, — кажа Баўм і падыходзіць да стала, за якім сядзяць мужчыны.

Ён заглядвае ў адкрытыя бляшанкі, што стаяць на стале.

— Свіная тушонка, — кажа ён нам і круціць галавой.

Самы стары з чатырох устае і падыходзіць да Вюншэ. У яго сівыя валасы. Ён апусціў галаву, склаў рукі і нерухома стаіць перад ім.

Вюншэ здымае фуражку. Потым чухае карак.

— Хочаце цыгарэту? — нерашуча пытаецца ён і дастае з кішэні пачак.

Стары глядзіць яму ў твар. У яго вялікія карыя вочы з маршчынкамі ў вугалках — як у дзядуляў, што ўмеюць баяць казкі.

— Дзякуй, — кажа ён, — дзякуй.

Ён цягнецца да пачка і вымае цыгарэту. Я чыркаю запалкай. Ён злёгку нахіляе галаву ў знак падзякі, бярэ запалку з маёй рукі і падносіць яе да цыгарэты.

— Цікава, ці шмат засталося тушонкі, — кажа Баўм.

Калі яму ніхто не адказвае, ён праходзіць у другое памяшканне. Адтуль даносяцца грукат і бразганне.

— Лагер пакідалі вельмі хутка, — кажа стары, які зноў вярнуўся на сваё месца. — Мы схаваліся ў туалеце. Туды не зазірнулі. Многіх расстралялі, таму што яны не маглі ісці. Сёння раніцай лагер пакінулі апошнія. Нават не вывезлі харчы са склада.

Пакуль стары гаворыць, Вюншэ падыходзіць да стала і дае па цыгарэце тром астатнім.

— Харчы нам спатрэбяцца, — кажа ён.

Стары паказвае рукой на дзверы, за якімі знік Баўм.

— Там харчоў даволі, — кажа ён і трохі ўсміхаецца.— Ваш калега ўжо ўзяўся за справу. Мы не можам многа есці, і ў нас усё роўна ўжо хутка будзе іншая ежа.

І ён паказвае на акно — удалечыні чуваць грукат рускай артылерыі.

— Яны хутка будуць тут.

Чалавек, якога ванітавала, калі мы зайшлі, глядзіць на старога.

— Калі мы вернемся дамоў, прыходзьце да нас на абед, прафесар, — кажа ён. — Ялавічны рубец, ведаеце. Звараны ў кісла-салодкім соусе. Мая жонка смачна яго гатуе. Так, да нас заўсёды шмат гасцей заходзіла. І было ў нас дома прыгожа, мушу я сказаць, вельмі прыгожа.

Стары падыходзіць да яго і кладзе руку яму на плячо.

— А запіваць мы будзем каньяком, Пауль, — гаворыць ён. — І вы ўбачыце, што вам не стане кепска.

Баўм ужо напакаваў поўную скрыню харчоў. Ён перацягвае яе цераз дзвярны парог. Бекман дапамагае яму, і яны ўдвух выносяць скрыню на вуліцу. Праз дзверы, якія застаюцца адчыненымі, я бачу, як яны нясуць яе праз пляц да лагернай брамы.

— Дзякуй, — кажа Вюншэ і прыкладае два пальцы да краю фуражкі. — Ідзіце зноў у туалет і заставайцеся там. Сюды яшчэ прыйдуць некаторыя — з нашых.

Я акуратна зачыняю са сабой дзверы.

Мы падыходзім да месца перад дрывяным складам, дзе, збіўшыся ў кучу, усё яшчэ сядзяць вароны і дзяўбуць нешта, што мы не можам убачыць. Калі мы набліжаемся, яны прыходзяць у неспакой. Некаторыя птушкі ўзлятаюць. Яны шалёна каркаюць і носяцца вакол нашых галоў.

Вюншэ, які ідзе перада мной, нечакана спыняецца і разварочваецца.

Я бачу перад ім глыбокую яму. Недзе чатыры на чатыры метры. Па яе краях ляжыць свежавыкапаны пясок.

— Мы ідзём да транспарту, — кажа ён і штурхае мяне перад сабой.

Мы ідзём назад тым жа шляхам, і я стараюся трапляць у нашы ўласныя сляды. Вюншэ выцірае твар футровай пальчаткай і некалькі разоў глыбока ўдыхае. Потым зноў закурвае. Толькі ад чацвёртай запалкі ўдаецца прыкурыць. Тры папярэднія зламаліся.

Я абарочваюся і гляджу на яго. Калі ён заўважае гэта, то адварочваецца ўбок.

— Чаго вылупіўся? — кажа ён і праглынае сліну.

— Дапамажыце пагрузіць скрыню, — просіць Бекман, калі мы выходзім з брамы. — Хутчэй! Зараз тут будзе горача.

Шафёр заводзіць матор, каб даць яму прагрэцца, а мы тым часам паднімаем скрыню на прычэп.

— Лажыся! — крычыць Вюншэ.

Я чую гул і кідаюся ў кювет. Гул становіцца ўсё вышэй, а разрыву няма і няма. Гэта нясцерпна.

Я хачу ўскочыць. Бекман мяне трымае. Вюншэ хапае маю руку. Ён паказвае на харчовы склад. Усё добра відаць. Над тым месцам стаіць воблака дыму, а сцены будынка паваліліся вонкі. Іншыя разрывы прарабілі ў лагерным пляцы чорныя варонкі. З іх узнімаюцца маленькія воблачкі дыму — нібы чалавечае дыханне.

— Добрая была тушонка, — кажа Баўм і страсае снег з шыняля.

— Паехалі! — крычыць Вюншэ і бяжыць да цягача.

Я залажу апошнім.

Вюншэ сядзіць у куце, ён нацягнуў на галаву коўдру.

«Напэўна, хоча паспаць», — думаю я. Але потым разумею, што памыліўся. Яго плечы рыўкамі калоцяцца пад коўдрай. Мы едзем, і рыўкі паступова заціхаюць.

— Мая жонка таксама часта гатуе рубец, — кажа Бекман.

— Але каб у кісла-салодкім соусе… — ён паціскае плячамі. — Такога мы яшчэ ні разу не елі.

*Пераклад з нямецкай Аляксея Дзенісенкі*



## Эдвін Мадрыд Edwin Madrid

**Эдвін Мадрыд нарадзіўся ў Кіта ў 1961 годзе. Яго кнігі ў адваротным парадку: «Індычка, якая памерла дзеля кахання» (Аргенціна, 2012), «Шырата нуль» (Калумбія, 2005), «Куслівы мароз» (Іспанія, 2004), «Адчыненыя дзверы» (Эквадор, 2001), «Адчыненыя дзверы» (ЗША, 2000), «Спакуса іншага» (Эквадор, 1995), «Святы барабан і іншыя вершы» (Эквадор, 1995), «Коні і ігуаны» (Эквадор, 1993), «Знакамітасць» (Эквадор, 1992), «Закаханы ў прывід» (Эквадор, 1990), «О! Смерць маленькіх залатых грудзей» (Эквадор, 1987). Яго вершы можна знайсці ў некалькіх анталогіях сучаснай паэзіі Лацінскай Амерыкі: «Вершнікі ў паветры» (RIL Editores, 2011), «Паэзія ў Лацінскай Амерыцы сёння» (Ediciones fósforo, 2011), «Уяўная краіна» (Ruido Blanco, 2011), «Множнае цела» (Pre-Textos, 2010), «Сваімі словамі: пакаленне вызначае самое сябе» (MW Enterprises, 2010), «Вясёлая гравітацыя» (Difácil, 2007), «Ляўшы» (Paradiso, 2004), «Паварот і пераход» (Siglo XXI editores, 1997). Працуе дырэктарам Майстэрні творчага пісьма у Доме культуры Эквадора ў Кіта. Кіруе рэдакцыяй паэтычнага зборніка «Выдавецтва ўяўнай лініі». Творы перакладзены на арабскую, англійскую, партугальскую, нямецкую ды італьянскую мовы. Прапанова змясціць пераклад верша на беларускую ў часопісе «Маладосць» была прынятая Эдвінам Мадрыдам вельмі прыязна, пра што сведчыць і дасланы ў рэдакцыю фотаздымак.**

## Начная музыка

Дождж барабаніць у дах,
зліваецца па вадасцёках,
гэта цяжкая музыка,
якую не змагло стрымаць неба;
здаецца, ты павінна ўжо спаць,
але я не магу без цябе.
Я памятаю, як мы ставілі дах,
каб ён абараніў нас
ад дажджу ды ночы. А побач
адпачывае наша дачка і
спіць котка на жоўтай канапе.
Мы добра зрабілі, што пабудавалі дом,
мы былі шчаслівыя, калі слухалі
шум свету і музыку дажджу.
Вада бяжыць і знікае ў садзе.
Яе я слухаю ў цемры, і вобраз твой у мяне ўваходзіць,
быццам ты абгортваеш сваё цела маім,
шукаеш у ім ратунку. Нам падабаецца дождж,
калі мы ў хаце. Вяртайся, паслухаем,
як дождж барабаніць у дах.

*Пераклад з іспанскай Аляксандра Салдаценкі*



Алесь Дуброўскі

# Што такое рэдагаванне

**Пры знаёмстве з падручнікамі, прысвечанымі тым ці іншым аспектам рэдактарскай прафесіі, мы сутыкаемся з даволі дзіўнай сітуацыяй: аказваецца, што ў многіх з іх проста няма нармальнага, разгорнутага азначэння самога рэдагавання. Таму сёння існуе, калі можна так сказаць, вялікая свабода ў яго разуменні. З аднаго боку, гэта зручна. З іншага — праз гэта ўзнікаюць абсалютна рэальныя, практычныя праблемы, у тым ліку ў прафесійнай дзейнасці рэдактараў.**

Перш чым працягнуць нашы разважанні, звернемся да той крыніцы па тэорыі рэдагавання, якая выгадна адрозніваецца ад многіх іншых менавіта пільнай увагай да вызначэння самой гэтай дзейнасці. Гаворка ідзе пра падручнік А. Э. Мільчына «Методыка рэдагавання тэксту» [гл. 3]. Па сутнасці, цяжка прывесці прыклад больш грунтоўнага разбору названага паняцця.

А. Э. Мільчын ідзе па абсалютна правільным шляху ў пошуку азначэння, якое было б не фармальным, а па-сапраўднаму змястоўным і нават вычарпальным. Ён ідзе ад парадыгматыкі да сінтагматыкі. Што маецца на ўвазе?

Многія думаюць, што ўсе пытанні, звязаныя з вызначэннем тых ці іншых паняццяў, вырашаюцца пры дапамозе звароту да слоўнікаў. Але згадаем адну рэч: слоўнікі не даюць нам *сэнсу* слоў. Яны даюць толькі *значэнне*. Значэнне — катэгорыя парадыгматыкі, сэнс — сінтагматыкі. Слова валодае сэнсам *толькі ў тэксце*. Сёння функцыю «парадыгматычнага азначэння» часта выконваюць рэсурсы інтэрнэту, якім карыстальнікі залішне паспешліва давяраюць. Як можна ацаніць наступнае азначэнне рэдагавання ў «Вікіпедыі»: «…Род профессиональной деятельности (преимущественно в области периодической печати, книгоиздательского дела, кинематографии, телевидения, радиовещания), связанной с подготовкой к выпуску печатных изданий, теле- и радиопередач, кинофильмов»? Абсалютна відавочна, што азначэнне так не можа быць дадзена. Што значыць «*связанной*»?

Падкрэслім, што *асэнсоўваецца* паняцце рэдагавання ў адным канкрэтным кантэксце — у кантэксце *наяўнай методыкі рэдагавання*. І пра гэта пойдзе гаворка далей.

А. Э. Мільчын прыводзіць слоўнікавае азначэнне і дэманструе яго абсалютную недастатковасць. Паводле слоўніка, *рэдагаваць* — правяраць і выпраўляць які-небудзь тэкст, падвяргаць яго канчатковай апрацоўцы. «Ці правільнае такое азначэнне?» — пытаецца даследчык і дае адказ: «Сумніўна па многіх прычынах». Далей, назваўшы гэтыя прычыны, аўтар падручніка пераходзіць да наступнага (і таксама слоўнікавага, узятага з энцыклапедыі) азначэння, паводле якога рэдагаванне — «приведение содержания и формы любого документа… в соответствие с общепринятыми или специально установленными требованиями и нормами». Дарэчы, і гэтае азначэнне сёння можна знайсці ў «Вікіпедыі» на той жа старонцы, што і папярэдняе. «И это представление о редактировании текста не выдерживает серьезной критики», — адзначае Аркадзій Эмануілавіч [3, с. 31].

Аргументаваўшы і гэтую думку, Мільчын супрацьпастаўляе «агульнапрынятым патрабаванням» патрабаванні крыху іншыя: «…Требования к произведению… редактору надо определять самому на основе изучения произведения и хорошего знания автора» [3, с. 32].

І вось тут з'яўляецца тая катэгорыя, ад якой і залежыць пераход нашага разумення рэдагавання з парадыгматычнага ўзроўню на сінтагматычны, — катэгорыя аўтара. Праз адзін абзац пасля працытаванага тэксту Мільчын піша: «Редактирование и есть по преимуществу критика работы автора с позиции интересов читателя, общества и собственных интересов автора» [3, с. 32]. Прысвяціўшы яшчэ дзве старонкі разбору гэтага палажэння, Мільчын дае сапраўды рэдкае па сваёй змястоўнасці (у іншых крыніцах такога не атрымалася знайсці) азначэнне: «…Основа редактирования как деятельности — *критический анализ предназначенного к изданию произведения с целью его правильной оценки и помощи автору в совершенствовании содержания и формы произведения ради интересов читателя, издателя и автора*» [3, с. 35]. Але і на гэтым даследчык не спыняецца, а вельмі падрабязна разбірае і аргументуе выказанае палажэнне, прычым ужо толькі з выкарыстаннем катэгорыі *аўтара*. Вось яшчэ

некалькі цытат: «Сам процесс совершенствования (исправления рукописи) включается в редактирование непосредственно, если редактор помогает **автору** правкой, косвенно — если по замечаниям редактора совершенствует произведение сам **автор**. <…> …Лучше всего, если рукопись будет исправлять сам **автор**. В принципе это его дело. <…> …Редактирование… это своеобразный вид интеллектуального испытания рукописи, в основе которого лежит редакторский анализ, помогающий рукопись оценивать, определять причины недостатков, подсказывать **автору** пути и средства их устранения, совместно с **автором** совершенствовать рукопись. Таким образом… редактирование складывается из редакторского анализа рукописи, ее оценки, а также из **помощи автору** в выработке программы ее совершенствования, из непосредственного совершенствования рукописи **автором** (совместно с редактором или под влиянием его обоснованных, опирающихся на анализ замечаний) или редактором (**при обязательном утверждении автором всех редакционных изменений**)» [3, с. 35—39] (вылучана намі. — *А. Д.*).

З катэгорыяй аўтара непасрэдна звязана катэгорыя *пасрэдніцтва*. Рэдактар — гэта пасрэднік паміж аўтарам і чытачом, які абараняе інтарэсы абодвух, прагназуе ўздзеянне тэксту, прафесійна ажыццяўляе «зваротную сувязь», будучы «першым крытыкам» твора. Як піша К. М. Накаракава, рэдактар — гэта і «медиатор, сознательно влияющий на коммуникацию в направлении от автора к читателю», і «представитель интересов читателя перед автором» [4, с. 28].

Такім чынам, з усяго сказанага вынікае, што на сучасным этапе развіцця тэорыі рэдагавання проста немагчыма разумець і *апісваць* яго без выкарыстання катэгорыі *аўтара* і катэгорыі *пасрэдніцтва*. Разам з тым мы бачым, што нават людзі, якія працуюць на пасадах рэдактараў, часам дэманструюць даволі дзіўнае стаўленне да працэсу рэдагавання. Сёння трэба *ўпрошваць* рэдактараў тых ці іншых выданняў, каб яны ўзгаднялі з табой як аўтарам праўкі перад тым, як аддаць твор у друк. І практыка паказвае, што гэтыя просьбы яшчэ і не выконваюцца. Наступствы такой працы ўсім цудоўна вядомыя. Нам здаецца, што чыста з прагматычных меркаванняў ёсць сэнс папулярызаваць



думку пра тое, што ***без аўтара*** *можа адбывацца які заўгодна працэс працы з тэкстам і называцца ён можа як заўгодна, але толькі не рэдагаванне*.

У кантэксце ўсяго сказанага мы абсалютна заканамерна прыходзім да неабходнасці вырашэння праблем, звязаных з намінацыяй тых відаў працы з тэкстамі, якія ажыццяўляюцца *пры адсутнасці аўтара*. Прасцей кажучы, відавочна, што агульная методыка рэдагавання (дарэчы, выкладзеная абсалютна ва ўсіх падручніках і дапаможніках) **абавязкова** прадугледжвае наяўнасць аўтара: ***усе ўласна рэдактарскія праўкі*** *ў нармальных умовах працы рэдактара абавязкова зацвярджаюцца аўтарам*. Тады што азначае слова *рэдагаванне* пры выкарыстанні яго ў словазлучэннях тыпу *рэдагаванне класічных твораў*, *рэдагаванне старажытных твораў*, *рэдагаванне твораў фальклору*? Нельга сказаць, што слова не азначае нічога. Але менавіта тут адбываецца *вяртанне ад сэнсу да значэння, ад сінтагматыкі да парадыгматыкі*. І вяртанне гэтае не такое бясшкоднае. Строга кажучы, сёння можна рэдагаваць *выданне твораў Караткевіча*, але не *творы Караткевіча*, можна рэдагаваць *выданне Біблії* ці *пераклад Біблії*, але нельга рэдагаваць *Біблію*. Яшчэ больш складана з творамі фальклору, бо там аўтарства калектыўнае, а самі творы існуюць толькі ў выглядзе варыянтаў[1]. У адносінах менавіта да *твораў* фальклору працуе правіла, якое фармулюецца фалькларыстамі дастаткова зразумела: рэдагаванне фальклорных твораў не дапус-

1 «Вариантом в фольклористике принято называть тот вид произведения, который оно имеет в каждый конкретный момент устной передачи. Текст в фольклоре, как утверждают фольклористы, это словесное воплощение варианта» [2, с. 24—25].

каецца[2]. Іначай самога твора чытач не ўбачыць; ён убачыць тэкст, прыведзены да нейкіх (згадаем «парадыгматычныя», слоўнікавыя азначэнні) «агульнапрынятых» патрабаванняў, але гэта не будзе сапраўдны фалькларны твор. А вось рэдагаваць *выданне* фальклорных твораў можна…

Калі мы хочам захаваць *аўтарства тэксту* як цалкам акрэсленую катэгорыю, мы павінны разумець, што *рэальная* методыка рэдагавання без наяўнасці менавіта *рэальнага, жывога аўтара* проста немагчымая.

Вось ілюстрацыя. Існуюць чатыры віды праўкі: праўка-вычытка, праўка-апрацоўка, праўка-перапрацоўка і праўка-скарачэнне. З гэтых чатырох хіба што праўку-вычытку можна паспрабаваць уявіць як нешта такое, што можа адбывацца без аўтара. Хоць і тут рэальная практыка прыводзіць да разумення вялікай праблематычнасці гэтага працэсу, а самі класічныя тэксты, да прыкладу, захавалі сведчанні таго, як дрэнна зробленая пры жыцці аўтара праўка-вычытка прыводзіць да фатальных праблем, «сэнсава-тэкстуальных» лакун, якія зараз, пасля смерці аўтара, часам не могуць быць выпраўлены нават пры дапамозе кан'ектуры.

Адсюль вынікае цікавае пытанне: што застаецца з усёй методыкі рэдагавання пры «адкіданні» *рэальнага, жывога аўтара*, калі нават самыя базавыя паняцці — віды праўкі — ужо не могуць быць увасоблены ў працы рэдактара? А як рэдактар можа выправіць фактычную памылку памерлага аўтара, лагічную памылку, няўдалую кампазіцыю? Аўтарскіх правоў яшчэ ніхто не адмяняў.

На ўсе гэтыя пытанні ёсць адказы, але ў межах зусім іншай дысцыпліны — тэксталогіі. Заўважым, што тэксталогія ніколі не вызначаецца як частка рэдагавання, раздзел рэдагавання і г. д. Ні ў адным падручніку па рэдагаванні мы не знойдзем спроб уключыць яе «ўнутр» рэдагавання (бясспрэчна, і ў падручніках па тэксталогіі яна не разглядаецца як частка рэдагавання[3]). Гэтыя сферы дзейнасці не знаходзяцца ў адносінах часткі і цэлага, але мы цудоўна разумеем, што іх нешта аб'ядноўвае. І акрэсліць гэта «нешта» не так складана. Для гэтага трэба звярнуцца да паняцця рэдактарскай дзейнасці, якое, аказваецца, не тоеснае паняццю рэдагавання. (Назва аднаго з параграфаў у падручніку Мільчына — «Редактирование — лишь часть работы редактора».)

*Рэдактарская дзейнасць* мае чатыры сістэматворныя напрамкі: уласна рэдакцыйны, арганізацыйна-кіраўніцкі, інфармацыйны, маркетынгавы [гл. 1, с. 289]. Гэта не складнікі рэдагавання! Рэдагаванне — праца рэдактара над творам — адзін са складнікаў (не адзіны) уласна рэдакцыйнага напрамку. Дарэчы, зноў звернем увагу на тое, што *працаваць над творам* рэдактар можа пры наяўнасці жывога аўтара, бо катэгорыя аўтарства (суадносная менавіта з творам!) не распаўсюджваецца на рэдактара. Пасля таго як аўтар памёр, можа адбывацца толькі праца над *тэкстам* (твор і тэкст — розныя паняцці). Гэтая праца ажыццяўляецца па методыцы тэксталогіі, а не рэдагавання. Прычым нават гэтая, тэксталагічная, праца ажыццяўляецца толькі пры падрыхтоўцы *крытычнага* выдання. Астатнія тыпы выданняў рыхтуюцца без выкарыстання методыкі тэксталогіі (у *масавым* выданні тэкст перадрукоўваецца з крытычнага, у *дакументальным* выданні тэкст аднаўляецца з максімальным набліжэннем да арыгінала) [гл. 5, с. 172]. Такім чынам, тэксталагічная праца з'яўляецца часткай рэдактарскай падрыхтоўкі выдання ў тых выпадках, калі ўласна рэдагаванне адсутнічае з

2 Гл., напрыклад: «Точность — одно из главных качеств любой записи фольклорного произведения. Точность предполагает полную идентичность записанного текста тому, что услышал собиратель. Адаптация, редактирование фольклорного материала не допускается. Записи фольклорных произведений должны сохранять речевые особенности респондентов (диалектизмы и пр.). …Запись должна сохранять особенности диалекта, говора, ударения, произношения и правописания в транскрипции фольклороносителя» [7]. Разглядаць у межах нашай тэмы пытанне пра адаптацыю фальклорных твораў для дзіцячага чытання вялікага сэнсу не мае па многіх прычынах. Назваць тут можна адну з іх: сама такая адаптацыя разглядаецца ў рамках не столькі рэдагавання, колькі рэдактарскай падрыхтоўкі тэксту, пра што пойдзе гаворка ніжэй і пра што напісана ў адпаведным падручніку, які так і называецца — «Редакторская подготовка изданий» [гл. 6, с. 266].

3 У навучальным дапаможніку Я. І. Прохарава па тэксталогіі чытаем: «…Текстолог, готовя подлинно авторский текст, не имеет права ни одно из использованных автором слов, ни одну синтаксическую конструкцию, показавшиеся ему ошибкой, исключать или «подправлять» — это было бы недопустимым посягательством на своеобразие языка и стиля художника, на то, в чем выражается его личное, индивидуальное мастерство, в конечном счете — его мышление» [5, с. 94].

прычыны элементарнай немагчымасці рэалізацыі наяўнай яго методыкі, але пры гэтым тэкст твора мае патрэбу ў спецыяльнай падрыхтоўцы да выдання.

Нарэшце, нельга абысці праблематычнасці такога паняцця, як «самарэдагаванне». Згадаем, што рэдактар — пасрэднік. Аўтар не можа быць пасрэднікам паміж самім сабою і чытачом. Задача рэдактара — менавіта паглядзець на твор з боку. Што б ні рабіў з творам аўтар, нават калі гэта перапрацоўка твора, стварэнне другой, трэцяй і г. д. рэдакцыі, — усё гэта працяг аўтарскай (а не рэдактарскай) працы над творам[4]. Таму формула, якая кажа: «Няма аўтара — няма рэдагавання», цудоўна дапаўняецца другой відавочнай формулай: «Няма рэдактара (як медыятара, як персоны, адрознай ад аўтара) — таксама няма рэдагавання». Без абедзвюх формул уся канцэпцыя рэдагавання, як яна выкладзена ў наяўных навукова-метадычных крыніцах, рассыпаецца.

На ўсё сказанае ёсць і лёгка прадказальнае пярэчанне: у рэальнасці *адбывалася* рэдагаванне і Бібліі, і фальклору, *адбываюцца* ***спробы*** рэдагаваць «без аўтара», *адбываліся* і *адбываюцца* ***спробы*** самарэдагавання. Але з гэтым ніхто і не спрачаецца. Спрачацца можна толькі наконт ступені катастрафічнасці наступстваў (Л. М. Талстой рэдагаваў і Біблію, і афарызмы вялікіх людзей, надаючы гэтым тэкстам супрацьлеглы сэнс). Скажам больш — усё гэта нават можна вывучаць, толькі трэба вырашыць — *у якой сінтагматыцы*, то бок, — у метадалогію якой дысцыпліны ўпісаць. Упісваецца гэта, у прынцыпе, у дысцыпліны гістарычныя — у гісторыю рэдагавання (дарэчы, дысцыпліна павінна паказваць, у тым ліку, *як не трэба* рэдагаваць, — на адпаведных гістарычных прыкладах) ці ў гісторыю літаратуры. Але як павінна гучаць фармулёўка тэмы навуковага даследавання, каб такое ўпісванне адбылося? Параўнаем наступныя пары: «Рэдагаванне старажытных летапісаў» і «Рэдагаванне летапісаў у <канкрэтныя стагоддзі ў канкрэтнай дзяржаве>», «Рэдагаванне фальклорных твораў» і «Рэдагаванне фальклорных твораў <канкрэтным літаратарам (адлюстраванае ў канкрэтнай публікацыі ці ў канкрэтных тэкстах самога гэтага літаратара>». Другія тэмы ў кожнай пары валодаюць той *асэнсаванасцю*, якая магчымая менавіта і толькі на сінтагматычным узроўні. Але калі даследаванне адбываецца ў межах такой дысцыпліны, як методыка рэдагавання, то відавочнай аказваецца немагчымасць упісаць у гэты кантэкст тое, што гэтаму кантэксту ўнутрана супярэчыць. Наяўная методыка дазваляе, напрыклад, сфармуляваць такія тэмы даследавання: «Рэдактарская падрыхтоўка выданняў фальклорных твораў», «Тэксталагічная (ці рэдактарская) падрыхтоўка твораў старажытнага пісьменства (класічнай літаратуры і да т. п.)».

Такім чынам, аб'ектам рэдагавання можа быць толькі аўтарскі твор, недатыкальнасць аўтарства якога гарантуецца абавязковым удзелам яго ствральніка ў працэсе рэдагавання[5]. Пры гэтым важнай умовай ажыццяўлення рэдагавання з'яўляецца, як банальна гэта б ні гучала, сама наяўнасць рэдактара, які не тоесны аўтару.

Рэдактарская дзейнасць, у тым ліку рэдактарская падрыхтоўка выданняў, — паняцце больш шырокае і можа ажыццяўляцца і ў тых выпадках, калі не ажыццяўляецца ўласна рэдагаванне твора.

**Літаратура**

1. Антонова, С.Г. Редактирование: общий курс : учеб. для вузов / С.Г. Антонова, В.И. Соловьев, К.Т. Ямчук. — 2-е изд., испр. и доп. — М. : Школа издательского и медиа бизнеса: Университетская книга, 2011. — 314 с.
2. Лихачев, Д.С. Текстология: краткий очерк / Д.С. Лихачев. — М. : Наука, 2006. — 166 с.
3. Мильчин, А.Э. Методика редактирования текста / А.Э. Мильчин. — Изд. 3-е, перераб. и доп. — М. : Логос, 2011. — 524 с.
4. Накорякова, К.М. Литературное редактирование материалов массовой информации : учеб. пособие / К.М. Накорякова. — М. : Изд-во МГУ, 1994. — 189 с.
5. Прохоров, Е.И. Текстология / Е.И. Прохоров. — М. : Высш. шк., 1966. — 226 с.
6. Редакторская подготовка изданий : учеб. / под ред. С.Г. Антоновой. — М. : Логос, 2004. — 496 с.
7. Фольклорная практика : учеб.-метод. комплекс дисциплины [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://cok.opredelim.com/docs/400/index-1779736.html. — Дата доступа : 27.04.2015.

4 «…Доработка и переработка текста при новых изданиях является продолжением **работы автора** над **произведением**, продолжением истории **создания** (*а не рэдагавання. — А. Д.*) **произведения**» (вылучана намі. — *А. Д.*) [5, с. 25].

5 «Редактору необходимо помнить, что правка без согласования с автором является нарушением личного (неимущественного) права на неприкосновенность произведения, из которого следует, что никто без согласия автора не вправе вносить изменения в текст его произведения» [1, с. 291].

# Жураўліным шляхам…

Летась 25 мая споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння вядомага заходнебеларускага паэта і грамадскага дзеяча Сяргея Хмары (сапраўднае прозвішча — Сіняк).

Ён нарадзіўся ў вёсцы Казлоўшчына былога Слонімскага павета (цяпер гарадскі пасёлак у Дзятлаўскім раёне Гродзенскай вобласці) у сялянскай сям'і. Падчас Першай сусветнай вайны разам з бацькамі апынуўся ў бежанстве ў Расіі. Жылі спачатку ў Казані, затым у Растове-на-Доне. Пачатковую школу закончыў у Варонежскай губерні.

У пачатку 1920-х гадоў, з наступленнем голаду і эпідэмій на Паволжы, Сяргей Хмара з маці і малодшай сястрой вярнуўся на радзіму, якая к гэтаму часу знаходзілася ўжо ў складзе Польшчы. Бацькі не стала яшчэ ў 1918-м. Працягнуць вучобу дапытліваму і здольнаму юнаку не давялося — трэба было зарабляць на жыццё, дапамагаць родным.

Ён працаваў пастухом, землякопам, будаўніком, актыўна займаўся самаадукацыяй, пісаў вершы, абразкі, замалёўкі. Будучы няўрымслівым па натуры, настойлівым і мэтанакіраваным, носьбітам шматлікіх ідэй і задум, Сяргей Хмара хутка адаптаваўся да новага грамадска-культурнага асяроддзя. Ён уключыўся ў работу нізавых гурткоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, пазней быў выбраны сакратаром пасольскага клуба «Змаганне», працаваў інструктарам галоўнай управы Таварыства беларускай школы ў Вільні. За актыўную грамадска-культурную дзейнасць неаднаразова арыштоўваўся польскай дэфензівай і знявольваўся ў турму (сядзеў на Лукішках, у Гродне, Каранове, у канцэнтрацыйным лагеры Картуз-Бяроза).

Сяргей Хмара браў актыўны ўдзел у літаратурна-мастацкім жыцці Заходняй Беларусі, друкаваўся ў віленскіх перыёдыках, у 1939 годзе апублікаваў зборнік вершаў «Жураўліным шляхам».

Вершы Сяргея Хмары поўняцца пачуццём духоўнага і сацыяльнага незадавальнення і пратэсту. Яны калі не адкрыта выяўляюцца, дык прытоены ў сюжэтыцы лірычнага роздуму, эмацыянальна-вобразных структурах, падтэксце, так ці інакш насычаюць сабою карціны і малюнкі, робяць іх адметнымі і характарыстычнымі. Мы бачым, лірычны герой паэта хацеў выйсці за межы грамадска-сацыяльнай абумоўленасці і зададзенасці, пераадолець вострыя жыццёвыя праблемы і супярэчнасці, вырвацца «за дні нашы цёмныя ў сіня-блакітную даль…» («У горадзе»). «Ладункам слоў, тарпэдамі паэмаў і баляд, ўзарвем мы нашы дні… — сцвярджаў ён, маючы на ўвазе прадстаўнікоў літаратурнай сялянскай моладзі Заходняй Беларусі. — Глухія, мёртвыя пачуюць наш прызыўны сьпеў стальны. Сьляпыя на'т пабачуць даль блакітных йдучых дзён…» «Рве жылы кроў… Сьвет б'ецца на нажы…» («Ладункам слоў…»).

Аналізуючы кнігу Сяргея Хмары «Жураўліным шляхам», Рыгор Бярозкін абгрунтавана падкрэсліваў: «Усё лепшае, што ёсць у зборніку, звязана з інтанацыяй барацьбы, з настроем радаснага прадчування і надзеі». Многія вершы паэта адметныя «сваёй бунтарнай тэматыкай, подыхам той «лапцюжнай» стыхіі, што бурлела пад стрэхамі Заходня-Беларускіх хатаў, вырываючыся часам з пад ланцугоў акупацыі крывавымі спалохамі збройных народных выступаў…» (В. Вір). Яны сведчылі імкненне да радыкальных перамен і абнаўлення ў жыцці Заходняй Беларусі. Убіраючы ў сябе неўтаймоўна-бурлівую энергетыку народнага асяроддзя, поўнячыся духам рамантычнага пратэсту, лірычны герой Сяргея Хмары быў падпарадкаваны ўнутранай сіле душэўнага гарэння, сцвярджэнню стыхіі сацыяльнай актыўнасці і грамадскага руху, бадзёрасці і аптымізму. Ён прытрымліваўся той думкі, што трэба «не чакаць вясны з замкнутымі вачамі, ня сьніць аб ёй начамі» («бо сны і будуць сны»), а дзейнічаць, рэальна і актыўна працаваць на перамогу народнай справы. «Мы выкуць мусім дні сэрц нашых жар-вуглямі, — чытаем у вершы «Нам не чакаць вясны», — ня мроямі! — рукамі! Дні нашае вясны».

Паэтыку Сяргея Хмары вызначалі вобразы буры-навальніцы, шляху, віхурнага часу, што «Жмені дзён буйных калосься» «ў вір кідаў сьцяўшы», велічных барацьбітоў, якія горда ішлі «пад скрып перакладзін… сталі… Грудзі ранячы аб скалы, сонца, сонца здабывалі» («Жмені дзён буйных калосься…»). «Крычым. Б'ём… ў эпохаў звон…», — казаў паэт, якому быў «ад бегу зямлі чуваць стогн…» «…Час, стагодзьдзі што ломіць, ў нашы вершы урос», — чытаем у вершы «Мы». А гэта з іншага твора («Кажуць: гора заела…»):

Трэба? — голавы зложым; —
трэба? — целам, касьцьмі!
Шлях бяздоньням пралoжым.
Нам палаць, а ня цьміць!

Якраз дадзенай асаблівасцю быў абумоўлены і псеўданім паэта, які, па словах з аўтабіяграфіі, «гневу народнага Хмарай хацеў быць, навальніцаю, пярунамі ворагаў біць».

Сябе і сваіх аднадумцаў, прадстаўнікоў пакалення маладых сялянскіх паэтаў Заходняй Беларусі, Сяргей Хмара называў «Маладой Ускалоссю Вялікай Сябрыны» («Мы»), «авангардам веснавым» («Чуеш?») і бачыў у велічным паходзе ў будучыню, у сцвярджэнні новага тыпу адчуванняў з'яў і працэсаў рэчаіснасці, характару духоўна-сацыяльных адносін. Няпросты гэты паход, цяжкі, цярністы. «Саколіць» «вецер вышэй стрэх і хатаў», шуміць вецце, «хмары чоўнам б'юцца», але «Дарогай шырокай пад шопат лазовы ідзе цяжкім крокам паход наш лапцёвы». «Ой, ты доля, доля, палыновы цьвеце! — звяртаўся паэт. — Ці-ж то нам ніколі сонца не засьвеціць?!» («У паходзе»).

Сяргей Хмара спалучаў народна-паэтычныя матывы і вобразы, сродкі і прыёмы фальклорнай выразнасці, лёгкі рытміка-інтанацыйны радок і характэрныя рысы раскаванасці мастацкага мыслення, пэўныя мадэрнісцкія тэндэнцыі, асаблівасці авангарднага стылю, вядомай графічнай формы верша Маякоўскага.

Варта заўважыць, што ў грамадска-культурных колах Заходняй Беларусі Сяргей Хмара меў неадназначную і супярэчлівую рэпутацыю. Адны досыць высока цанілі яго дзелавыя і чалавечыя якасці, бачылі ў ім дынамічную і мэтанакіраваную, апантаную высокімі ідэямі натуру, як сведчыў А. Чэмер, скрупулёзную ў «пытаннях чэснасьці, справядлівасьці, — асабліва, калі гэта датычылася патрыятычнай і нацыянальнай дзейнасьці». Другія, наадварот, адносіліся да яго з выразнай падазронасцю і недаверам, як да авантурыста, аўтара «бессаромных опусаў» пра свае «дасягненні» ў грамадска-культурнай працы, па словах Максіма Танка, «з хваравітай амбіцыяй самарэкламшчыка і правакатара». Як бы там ні было, паэтычныя пошукі Сяргея Хмары заслугоўваюць увагі літаратуразнаўцаў, з'яўляюцца прыкметнымі ў заходнебеларускай мастацкай творчасці.

Падчас вайны Сяргей Хмара жыў у Слоніме, удзельнічаў у выданні газеты «Слонімскі кур'ер», выступаў на раённым радыё. З 1944 года — у эміграцыі. Спачатку жыў у Германіі, дзе пэўны час з'яўляўся рэдактарам газеты «Голас беларусаў», затым у Таронта (Канада). Там ён выдаваў часопіс «Баявая ўскалось» і газету «Беларускі голас». Апублікаваў зборнік вершаў «Мы» (1944), кнігі даследаванняў беларускай міфалогіі «Сказы Бацькаўшчыны» (1976) і «Аб Багох крывіцкіх сказы» (1988).

Памёр 4 верасня 1992 года ў Таронта, пражыўшы 87 гадоў.

Даследуючы літаратуру Заходняй Беларусі і вывучаючы шматлікія архіўныя матэрыялы, звязаныя з яе развіццём, нядаўна ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі я натрапіў на рукапісы невядомых вершаў Сяргея Хмары 1920—1930 гадоў, якія ён дасылаў у заходнебеларускія перыёдыкі, у прыватнасці, у часопіс «Калоссе». Гэтыя вершы невядомыя не толькі шырокаму чытачу, але і спецыялістам, гісторыкам літаратуры. Прапаную некаторыя з іх чытачам «Маладосці».

*Мікола Мікуліч*

## Сяргей Хмара

### Краты

Краты на вокнах, ў дзвярах, ў калідорах.
Краты і краты і краты!
А там за кратамі свет так багаты —
Сонца праменняў там мора.

Хоць бы адну як спаймаць дзе касулю
Цераз матовыя шкліны!
Вока да шчыліны ў бліндах прытуліш,
Бачыш — дзве клёну галіны.

Коцяцца месяцы... Коцяцца годы...
Рыюць на лбу каляіны.
Ловіш ўсцяж вухам шумы свабоды —
Жджэш той Вялікай Хвіліны,
Як бухне хваля ў жалезную раму,
Скруціць саломкаю краты.
Выйдзем на вуліцу з песняю самы.
Спаткаюць — рабочы, араты.

Каранова, 1927

## Трыолет

Чырвоным водбліскам на сцёклах вокан
Пунсовее ад Ўсходу кругазор.
І згінула на небе стада зор —
Вітае ўсход пташына песняй звонкай.

Шагае мерна па двары дазор,
І спіць вастрог ацапянелым сном глыбока.
Чырвоным водбліскам на сцёклах вокан
Пунсовее ад Ўсходу кругазор.

Гародня, 1927

## Талока

Выйшлі талокай да працы у поле
На зсірацелы загон,
Бо гаспадар ўжо тры года ў няволі,
Дзесь там пакутуе ён.

Жонка з малымі засталась на волі
Без гаспадарскіх ... без рук.
Выйшла ўся вёска ... выйшла пасполам.
Сеюць, валочаць,
гаруць...

Помняць: пайшлі за грамадскае дзела!..
Кінулі дзетак і жон...
Выйшлі талокай...
І зсірацелы
Будзе засеян загон.

Казлоўшчына, 1935

## Санет

Схілілісь над ракой плакучыя вярбіны,
Бы нечага на дне яе шукаюць.
І ў серабры струмы купаюць
Свае абвіслыя галіны.

А з неба глыбіні бяздоннай, сіняй
Паўднёвым жарам сонейка палае,
І вецярок не ўскалане, закалыхае
Лістом задуманай каліны.

А там вунь у канцы даліны
Кіпіць надорліва работа.
І, вочы абціраючы ад пота,
Жнуць збожжа панскае жанчыны.
Аслабла ўсё! Няма ўжо мочы!..
Заходзяць кроўю ад натугі вочы...

Казлоўшчына, 1935

## Вясна

Сцежка ласачкай выгнулась ў даль,
Кучаравяцца дзеўкі-бярозы.
Па валошкавым розгуллі галь
Сонца ходзіць хадой нецвярозай.

Вецярок шоўкатун, веснавей
Ў лазняка пазаблутваўся вецці.
Забруілась музыка чмялей,
Жар-агнямі лугі май уквеціў.

А у шэрым бяздольным сяле
Веснаход закукуе зязюляй.
Сэквестратара май там прышле,
Перадновак галодны прытуліць.

Закукуе зязюляю маць
Па забранаму радасці-сыну...
Ды драты зацвітуць-заагняць
Макам красак чырвона-малінным.

Казлоўшчына, 1935

## Верасень

Прыйшоў верасень ў рабін полымі,
Лес абрызгала чырвань-кроў брусніц
Ды між дротамі тэлефоннымі
З сцягаў, поклічаў палкі бунт бруіць.

Маладняк бяроз стаў у шэрагі
З жарам-стужкамі лісця на галлі.
Рве парывамі вецер злы, ліхі,
Каб спыніць рады, маладняк зваліць.

І адказвае ветру жандару
гулам-пошумам, лес пагрозаю
Пястукоў-галін процьмай у гару...
Хмара маткаю, плача слёзамі.

Казлоўшчына, 1936

## Восень

Зацвілі верасы.
Паланулі пажарам асіны.
Роем схілены ў полі жанчыны
Падалі галасы.

Зацвілі верасы.
Лязгацяць аб каменне капачкі...
Хмары сумныя мжакаю плачуць.
Плачуць лісцем лясы.

Зацвілі верасы.
І закапалі кроўю рабіны.
Плача маці старая па сыну,
Што палёг ад сталёвай асы.

Зацвілі верасы.
Запалалі лясныя паляны.
Полем-вёскай праклёны на пана...
І лятучак бунтарная сып.

Казлоўшчына, 1936

## Прадвесне

Вые сабакаю вецер паўночны,
Правіць зіме хаўтурыны.
Што! Калі слепіць мяцеліца вочы,
Прыйдзе йшчэ золак малінны!

Прыйдзе! Нядоўга засталась чакаці.
Буйным ўзмятне крыгаломам.
Сына свайго дачакаецца маці...
Знойдзе радзіму бяздомны.

Сонца забрызгае з сцягаў-асцёнаў
Зорамі-полымем вочы.
Пойдуць праз межы трактар калоны.
Новым жыццём край закрочыць.

1936

## Гэта мы

Ад сахі, ад сярпа, ад варштата, гарна,
Перацёртыя колам нядолі-жарна, —
Гэта мы!
І каму, як не нам, голад кішкі круціў,
Мёртвай хваткай душыў?..
І знаёмы каму сцены, краты турмы?
Гэта мы!
І над кім, і над кім бізун панскі гуляў?..
У акопах гібеў хто?..
грыз зямлю, паміраў?..
І абходзяцца з кім, як з скацінай, звярмі?..
Гэта мы?

Казлоўшчына

## Горад

Зноў, як даўней, я па вулках шагаю,
Свой адбіваючы ў цэменце шаг.
Зміі неонаў стажарам палаюць,
Граюць вясёлкай ў вачах.

Вось і Лукішкі — панурай грамадай
Вылез з завулка знаёмы мой гмах.
Блымаюць вогнікі доўжэзным радам.
Глуха булькоча турма...

З шчылін ўспаміны паўзуць чарадою:
Першы, другі павільён...
Згінула места... Ты зноў за сцяною...
Покуль не збудзіць клаксон.

Зноў, як даўней, я па вулках шагаю.
Рытм баявы адбівае мой шаг.
Чую, як сілы ў грудзях прылівае...
Моц вырастае ў грудзях.

Вільня

## Косім

Брызнула сонца ўніз зіхаццю палкаю,
Перляцца буйныя росы.
Стужкаю белаю сталі мы валкаю,
Косім.

Косы на сонцы заграюць маланкамі…
Шопатам ласкі папросіць
Пук трасціны… задрыжыць ліхаманкаю…
Косім.

Лягуць пракосы ў зялёныя шэрагі.
Стадам капён апаросіць
Заўтра луг ўвечары, ў бераг па бераг
Косім.

Вырастуць копы стагамі ў абшарніка,
Ў рэзгінах мы сваё зносім…
Бусел аконамам ходзіць… начальнікам…
Косім.

Казлоўшчына, 1936

*Публікацыя Міколы Мікуліча.*

**Анастасія Васілевіч**

# Вызначыць мэты

**Асаблівай рысай леташняй (ужо леташняй) праграмы «Белай вежы» стала яе разнанакіраванасць: паўдзельнічалі драматычныя, вулічныя, музычныя, пластычныя, лялечныя спектаклі… Але ў гэтай разнанакіраванасці і хаваўся асноўны недахоп форуму. Няроўнасць якасці спектакляў, адсутнасць крытэрыяў іх ацэнкі, тэхнічныя праблемы і недахопы. Фармат фестывалю застаўся незразумелым.**

«Белая вежа — 2015». XX Міжнародны тэатральны фестываль, што ператварыўся ў форум, як і леташні «M@rt.кантакт». Таксама абышліся без журы, не было сістэматычных майстар-класаў, амаль адсутнічаў калятэатральны рух. Добра, што засталіся крытычныя абмеркаванні, на якіх кожную раніцу можна было пачуць экспертны аналіз пастановак. Але ж першараднымі заўсёды застаюцца спектаклі: дзевятнаццаць пастановак з розных краін свету — і астатняе ўжо не так важна. Але гэтым разам так здавалася толькі спачатку.

Адразу насцярожыла перакроеная афіша і сем беларускіх спектакляў у яе складзе. Як трапілі туды «Самазванец» Брэсцкага тэатра лялек і «Дзяды» Брэсцкага драматычнага тэатра — гэта зразумела. Так атрымалася, што спектаклі гаспадароў вылучаюцца цікавай рэжысёрскай інтэрпрэтацыяй тэксту, складанай драматургіяй, формай. Але, напрыклад, «Паўлінка» Нацыянальнана акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы — чаму яе было вырашана ўключыць у праграму? Застаецца загадкай. Як і ўласна крытэрый адбору. Паводле ідэі арганізатараў, удзельнікі мінулых гадоў (тыя, што атрымалі гран-пры) павінны былі прывезці на юбілейны фестываль свае новыя спектаклі. Узнікла адчуванне, што калектывам паверылі на слова: ніхто не правяраў іх выбар і мастацкі ўзровень пастановак.

Лепшым спектаклем форуму стаў «Фро» Рыжскага рускага тэатра імя М. Чэхава. Рэжысёр Руслан Кудашоў вельмі арганічна перанёс на сцэну тэкст аповесці Андрэя Платонава. Яна была менавіта пастаўлена, а не інсцэніравана. Лейтматывам пастаноўкі стала песня «Bella ciao» — яна падтрымлівала стылістыку плаката, у якой вырашаны спектакль. Яскравая гульня акцёраў, арыгінальныя сцэнаграфічныя прыдумкі, рэжысёрскі гумар. Гісторыя пра каханне і ўсеагульную электрыфікацыю вырашана вельмі метафарычна і з азартам гульні. Самая відовішчная сцэна — фінальная, калі Фро разам з мужам падчас акта кахання круціць вялікае механічнае кола, на якім запальваюцца маленькія лямпачкі. Становіцца зразумела, што зусім не ўсеагульная электрыфікацыя, а каханне стварае электраэнергію і цяпло, якога хопіць на ўсю краіну.

Цікавым падаўся туніскі монаспектакль Меера Авахры «Д-Сізіф». Блэкбокс, адзін акцёр і драўляная дошка даўжынёй каля трох метраў. Сучасная інтэрпрэтацыя міфа аб Сізіфе, які тут аказваецца простым будаўніком. Герой намагаецца разабрацца ў рэлігіі, жыцці, самім сабе, і ў яго гэта атрымліваецца. Пад нацыянальную музыку артыст узаемадзейнічае з дошкай, якая з'яўляецца то будматэрыялам, то яго каханай, то ўвогуле жыццём. У фінале ён падымае яе з неверагоднай лёгкасцю і кружыцца ў танцы суфій. Гэтаму спектаклю не займаць шчырасці, да якой імкнецца сучасны тэатр.

Увогуле ж, многім спектаклям юбілейнай «Белай вежы» шчырасці выказвання не хапала. Тыя пастаноўкі, у якіх была зроблена заяўка на «чыстасардэчнасць», мелі небяспеку ператварыцца ў даволі пафасныя. Так, напрыклад, сталася з «Размовай уначы» Роберта Акапяна (Арменія). Не вельмі добра напісаная гісторыя пра старэнне імпазантнага мужчыны і яго страчанае каханне. У артыста амаль адсутнічала ацэнка ўчынкаў ягонага персанажа, з-за гэтага дзеянні выглядалі схематычнымі, а паверыць у глыбіню пачуццяў было цяжка. Але нельга не адзначыць, што публіка пастаноўку прыняла. Калі адчуваецца спроба дыялогу, калі артыст ці рэжысёр дзеліцца набалелым — гэта прываблівае. Аднак цалкам ад гэтага якасць спектакля, на жаль, не залежыць.

Самым слабым стаў спектакль «Адам і Ева» Рэспубліканскага тэатра «Лучафэрул» (Малдова), які даваўся ў адзін дзень з «Размовай уначы». Цікава, што на фестывалі былі дні «слабыя» і «моцныя». Такое размеркаванне пастановак у афішы таксама з'явілася нейкай тэндэнцыяй леташняй «Белай вежы». Каля трох гадзін ішоў нібыта пластычны спектакль, які распавядаў пра Адамаў пошук Евы ў розных рэінкарнацыях. Млявы тэмпарытм, паў-

торы ў розных касцюмах падобных адзін да аднаго танцавальна-пластычных элементаў, амаль што аднолькавыя мізансцэны. Трэба адзначыць, што артысты не былі «ў форме». Пазней высветлілася, што рэжысёр перанёс спектакль з малога «чорнага кабінета» на вялікую сцэну. Дзеля чаго? Напэўна, на невялікай пляцоўцы ўсё было б па-іншаму... Але і гэта сцвярджаць цяжка. Тое, што адбывалася на сцэне, складана было вытрымаць, каб не заснуць.

Не вельмі моцнымі спектаклямі былі «Вераніка вырашае памерці» тэатральнай майстэрні Н. Башавай (Мінск) і «Лялькі» Белгарадскага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. С. Шчэпкіна (Расія). Напоўненыя тэатральнымі клішэ, нягледзячы на цікавыя тэмы, яны выглядалі груба на фоне астатняй праграмы.

У процівагу такім пастаноўкам былі тыя, якія прымушалі разважаць і дзівіцца. Мінімальнымі сродкамі зроблены спектакль «Кыся» «Свайго тэатра» Усевалада Чубенкі (Расія). Гамак, малая сцэна, на якой месціцца таленавіты акцёр (Усевалад Чубенка), — і рэжысёр (Якаў Рубін) можа зрабіць монаспектакль, які цалкам захапляе гледача. Прасякнутая гумарам гісторыя пра піцерскага ката, які размаўляе з людзьмі, падалася адной з лепшых.

Прадстаўніком добрага традыцыйнага тэатра стаў спектакль «Халстамер. Гісторыя каня» Тбіліскага дзяржаўнага акадэмічнага рускага тэатра імя А. С. Грыбаедава. Вельмі эстэтычная пастаноўка з шыкоўным святлом, дакладнай гульнёй акцёраў і атмасферай светлага суму. Рэжысёр Аўтандзіл Варсімашвілі расклаў «партыю» Халстамера на трох персанажаў — маладога, сталага і старога. Перад гледачом выбудоўвалася трагедыя маленькага чалавека. Пластычныя ўстаўкі, калі акцёры грацыёзна скакалі па сцэне, увасабляючы коней, уражвалі метафарычнай дакладнасцю.

Шматлікімі сімваламі і метафарамі быў напоўнены спектакль «Вішнёвы сад» Дзяржаўнага Маладзёжнага тэатра Літвы ў пастаноўцы Альгірдаса Латэнаса. Пастаноўка пакінула адчуванне супакаення, насычанасці, выклікала жаданне разгадваць дадатковыя сэнсы, якія заклаў рэжысёр. Напрыклад, паміж звыклымі чэхаўскімі персанажамі ён стварыў любоўныя сувязі, якія і тлумачылі паводзіны герояў. Ранеўская часам перамяшчалася на хадулях, уздымаючыся над усімі, што сімвалізавала яе пэўную ўладарнасць. Але ў фінале яна прадстаўляецца маленькай «шэрай» жанчынай без парыка. Потым, вырашыўшы жыць далей, зноў надзявае парык, выпростае спіну і ідзе са сцэны. Гэты спектакль накіраваны менавіта на «прасунутага» гледача. Марудны тэмпарытм і нязручныя для чытання цітры з перакладам прымушалі непадрыхтаваную аўдыторыю пазяхаць ці пакідаць залу.

Музычны тэатр на фестывалі быў прадстаўлены спектаклямі «Вецер» кінакампаніі «Саюз Марынс груп» (Расія) і «Тая самая мелодыя» тэатра Гошэн (Ізраіль). Першы складаўся з невялічкіх шоу-эпізодаў і больш нагадваў добрую выпускную працу рэжысёраў эстрады. «Тая самая мелодыя» ўвогуле аказаўся прызначаным для дзяцей і быў падобны да канцэрта. Калі казаць пра тэатр лялек — беларускія спектаклі рэжысёра Аляксея Ляляўскага здзівілі сваёй складанай першаасновай, глыбінёй сэнсаў і стыльнасцю. Спектакль «Тарас» Валынскага акадэмічнага абласнога тэатра лялек прызначаўся больш для дзяцей, што зняло актуальнасць параўнання. Вулічны тэатр быў прадстаўлены сярэдне. Два польскія спектаклі — «Сатырыяда» тэатра «На валізках» і «Развітальная песня» тэатра «Бюро падружы» — захапілі інтэрактыўнасцю, прычым, небанальнай, і добрай працай акцёраў з публікай.

Канешне, тут згаданы не ўсе спектаклі, але тыя, што засталіся незгаданымі, не «зачапілі» (у добрым ці дрэнным сэнсе гэтага слова — няважна). Галоўнае для фестывальнага спектакля — выклікаць эмоцыю, жаданне асэнсоўваць і разумець. На жаль, не ўсе пастаноўкі былі такія.

Вельмі хочацца спадзявацца, што гэта — часовыя праблемы, а не свядомы выбар арганізатараў. Зразумела, што сфастрыгаваць добрую афішу за невялікую суму — складана. Фестывалю цяпер цяжка ўтрымацца «на плыву». Добра, што праз усе выпрабаванні «Белая вежа» дайшла да свайго дваццацігоддзя. Але трэба аднаўляць практыку дасканалага адбору спектакляў, разважаць пра майстар-класы і дакладна вызначыць фармат мерапрыемства. Давер гледача цяжка заваяваць і лёгка страціць. Асабліва, калі глядач ужо выхаваны добрым тэатрам падчас не адной «Белай вежы».

Паліна Піткевіч

# Дарослыя гуляюць у дзяцей

**Маладзёжны тэатральны форум летась сабраў 13 пастановак маладых рэжысёраў, кожная з якіх прадставіла адну з краін-удзельніц. Заўважана, што азначэнні «малады», «маладая», «маладое» сталі асноўнымі хэштэгамі і адмысловымі паролямі ў справе прагляду, вытлумачэння і ацэнкі спектакляў форуму.**

Маладое — зразумела, новае, «свежае»: імёны рэжысёраў, пастаноўкі з экзатычных краін, у рэшце рэшт, новыя погляды на актуальнае тэатральнае мастацтва. Гэтым разам досвед лёгка саступае месца эксперыменту, пошуку, гульні. І канечне — творчай свабодзе і незаангажаванасці.

Маладосць востра перажывае працэс сталення, часткова знаходзіцца ва ўлонні дзіцячых успамінаў. Умоўна кажучы, ніхто ніколі не сталее. Наша «ўнутранае» дзіця, хлопчык ці дзяўчынка, нікуды не знікла — яно да пары прыхавана пад цяжарам дарослай адказнасці і звычайна праяўляе сябе падчас экзістэнцыйных, духоўных крызісаў. Такі «выхад» на паверхню інфантыльнага, інтымна-дзіцячага ў асобе сучаснага чалавека можна было назіраць адразу ў некалькіх пастаноўках форуму. Пра гэтыя спектаклі з нагоды вынайдзенай у іх заканамернасці і пойдзе гаворка.

## Горкі «смак мёду»

Васямнаццацігадовая англічанка Шэйла Дзілені ў канцы 1950-х напісала п'есу пра занядбаную дзяўчынку, яе эгаістычную маці-алкагалічку і сябра-гея. І п'еса з прыгожай назвай-перыфразам «Смак мёду» (першага пацалунка для ангельцаў) хутка стала звышпапулярнай і была экранізаваная. У наш час азербайджанскі рэжысёр Гор Маргаран паставіў «Смак мёду» ў Ерэванскім дзяржаўным Тэатры юнага гледача, а цяпер паказаў спектакль на Маладзёжным тэатральным форуме.

Сюжэт немудрагелісты, нешта такое часткова бачылі ў фільме «Стылягі» (хлапец згаджаецца прыняць каханую з яе чарнаскурым дзіцем) ды ці мала дзе яшчэ. Гераіня-падлетак з бясполавым імем Джо расце сама па сабе, у бядноце, бясконцых пераездах з месца на месца па волі маці, занятай выключна сабою і кавалерамі. Яна вучыць дачку свайму дэвізу: «Можна нарадзіць дзіця, але гэта не значыць, што ты павінна за яго адказваць». Джо адкрыта ненавідзіць Элен (інакш яна да маці не звяртаецца), адракаецца ад яе, аднак ужо зацягнута ў гэтую сямейную кабалу, таму не можа ўберагчы ўласны лёс ад паўтарэння бацькоўскіх памылак. Сумная гісторыя ранняга, вымушанага абставінамі сталення нежаданага дзіцяці, якому несці праз усё жыццё горкую крыўду недалюбленай малой дзяўчынкі. А можа, і перадаць яе, быццам нейкую «сямейную каштоўнасць» (антыкаштоўнасць), свайму яшчэ ненароджанаму дзіцёнку, якога Джо займела на Каляды ад чарнаскурага карабельнага кока. Больш у жыцці Джо і, адпаведна, у спектаклі ён не з'явіцца.

Адзіны, хто падтрымлівае цяжарную расчараваную дзяўчыну, — гэта добры і гаспадарлівы валацуга Джэф, старэйшая сястра — для Джо, бесхрыбетны недамужчына — для яе маці. Пажаночаму мяккі характар і дзіцячая даверлівасць Джэфа робяць яго безабаронным перад Элен: яна адчытае яго, нібы шкаляра, і, у рэшце рэшт, прагоніць ад дачкі. Збліжэнне Джо і Джэфа адбываецца, калі яны разам успамінаюць і выконваюць адзін перад адным дзіцячыя куплецікі. Джо для смеху нават прымушае Джэфа стаць на зэдлік. Іх улюбёны вершык распавядае пра сустрэчу хлопчыка і пекнай паненкі на пагорку Піпін-Хіл. Калі становіцца асабліва цяжка, Джо прамаўляе яго, гэты «дурны дзіцячы вершык», нібы малітву або заклён.

Спробы гераіні спектакля «Смак мёду» пазбавіцца няшчаснага дзяцінства праз адразанне валасоў, падсвядомае і наўмыснае перайманне матчыных звычак, жаданне падабацца чарговаму мужу Элен (які страціў вока з-за эдыпавага комплексу) прыводзяць толькі да новых пакут. Выйсце адно: «кінутыя дзеці», Джо і Джэф, павінны ствараць сваю сям'ю, якая будзе грунтавацца на сапраўдных, не «анты», каштоўнасцях.

## Любоў… дзяцей

У дзяцінстве ўсе пачуцці абсалютныя ў сваёй першаснасці, незамыленасці, а пераходы паміж імі хуткія і лёгкія: любоў і нянавісць, сяброўства і варожасць, радасць і гора імгненна перацякаюць адно ў адно. А што калі перанесці гэтыя пачуцці ў пэўнае невялікае грамадства дарослых, аўтаном-

ную сістэму вёскі, у нечым падобную арганізацыяй стасункаў да дзіцячага садка? Вынік атрымаецца нечакана жорсткі, псіхалагічна выпрабавальны, па-шэкспіраўску трагічны. Асабліва калі за рухавік у гэтым шчыльным пачуццёвым механізме — умовы сезоннага дэфіцыту сонечнага святла і перманентнага дэфіцыту чалавечай цеплыні і любові.

Гэта пра ўкраінскі спектакль «Любоў людзей», прывезены на Маладзёжны тэатральны форум Кіеўскім акадэмічным Маладым тэатрам (як высветлілася, з мэтаю звезці дадому срэбраны «парасон» — другое месца). Аднайменная п’еса нашага сучасніка і суайчынніка Дзмітрыя Багаслаўскага дзякуючы рэжысёру Станіславу Жыркову, які зрабіў яе пераклад, загучала са сцэны на ўкраінскай мове і тым самым набыла вельмі свойскі каларыт.

«Карціны з жыцця людзей напярэдадні зімы і ў чаканні лета» (так аўтарам вызначаны жанр п’есы) распавядаюць няпростыя гісторыі простых людзей з глыбінкі. Хтосьці з іх верыць у адзінае на ўсё жыццё каханне і гатовы змагацца за яго да скону, як участковы міліцыянт Сяргей і яго маці; іншыя па-свойму, як умеюць, шукаюць яго — прадаўшчыца Машка і донжуан Чубасаў, бяздзетная пара Насця і Ваня. А кагосьці, як каханую Сяргея Люсю, гэтае «адзінае на ўсё жыццё каханне» да скону мучыць і пераследуе: прывід забітага ёю мужа Колі, горкага прапойцы, не «адпускае». Нават Сяргей, які дараваў каханай страшнае злачынства, прыняў яе, — не здольны ўратаваць Люсю: яна ўжо не належыць гэтаму свету. У фінале спектакля побач кладуцца тры целы — Сяргея, Люсі, якую ён забіў у адчаі, і прывіднага Колі.

Недзіцячая гісторыя, персанажы якой часам паводзяць сябе зусім як малыя. Пасля п’янай сваркі Сяргея з лепшым сябрам Ванем, які ўпэўнены, што Люся Сяргею не падыходзіць, міліцыянт жаліцца маці і з характэрнай крыўдай ў голасе заяўляе: «Я больш не буду з ім сябраваць!» Асабліва кранае сцэна: пасля забойства Люсі Сяргей становіцца пад лямпай, уздымае рукі і цягнецца да святла, шэпчучы «Хачу лета. Хачу лета. Хачу лета. Я не магу сагрэцца…» Замест сур’ёзнага мужчыны ў форме — гаротны хлопчык. Таму — «любоў дзяцей», але з дарослымі праблемамі.

## Гамлет — супергерой

Трагіфарс «Гамлет» Магілёўскага абласнога тэатра лялек уразіць сваёй эпатажнасцю, бадай, толькі новага гледача, які па нейкай прычыне яшчэ не бачыў яго, або, можа, не ведаў і не чакаў, што існуюць лялечныя спектаклі для дарослых. Дарэчы, на сайце Магілёўскага тэатра лялек ён адзіны ў інтрыгуючай рубрыцы «ад 18 гадоў». І адзіны, які прадстаўляў беларускі тэатр на Маладзёжным тэатральным форуме, прычым удала — адхапіў бронзавы «парасон». Зухаватая інтэрпрэтацыя найвялікшага шэкспіраўскага твора, зробленая Ігарам Казаковым, два гады таму атрымала Гранпры тэатральнага форуму «М@рт-кантакт». І зразумела, чаму. «Гамлет» — пастаноўка з выклікам, бадзёрай шокатэрапіяй. Праўда, як і ў гарачага юнака, у спектаклі ўсяго залішне. Асабліва замінаюць хуткасць і няўстойлівая частотная амплітуда чытання (мармытання) акцёрамі тэксту і падкрэслена дэманстратыўнае вар’яцтва Гамлета.

Галоўны герой тут інфантылізаваны да крайнасці. Здаецца, трагічная завязка дзеяння — толькі падстава для спраўджвання Гамлетам мары хлопчыкаў усяго свету аб супергеройскай будучыні. Утаймаванне дзіцячых амбіцый адбудзецца, калі Гамлету паведамяць пра самагубства Афеліі. Тады ён будзе гатовы на нейкі час кінуць гульню ў няўлоўнага мсціўца і прамовіць знакаміты маналог, аднак не адмовіцца ад сваёй традыцыйнай паўгістэрычнай манеры.

А яшчэ дарослыя героі гуляюць у лялькі. Звычайна — у «сваю», якую носяць з сабой, то-бок, са сваім альтэр эга. У напружаныя моманты блізкага ўзаемадзеяння — бяруць у рукі ці адбіраюць, як Гамлет — ляльку маці Гертруды, «асабістыя» лялькі іншых персанажаў. За сваю ляльку Гамлет чапляецца, нібы напалоханы дзіцёнак, а ляльку-Гертруду не шкадуе, толькі што ў рог не скручвае, быццам яна сапраўдная лялька вуду.

Да спісу разгледжаных спектакляў можна было б яшчэ дадаць расійскі «Воблака-рай» Лысьвенскага тэатра драмы імя А.А. Савіна: тут табе і наіўныя героі, чые жыцці завязлі ў зыбкіх абдымках вялікай пясочніцы, і нявінны падман з-за дзіцячага недахопу ўвагі, і пакаранне за яго адзінотай.

У тэатры людзі могуць сталець на дзесяцігоддзі нават не па гадзінах — па хвілінах. Скажам, цягам антракту. Сталеюць і тэатры-ўдзельнікі — назапашваюць уражанні і вопыт.

Алесь Карлюкевіч

# Пабрацімства колераў

**Даволі часта здараецца так, што ведаеш творчасць кагосьці з мастакоў, не аднойчы ўглядаўся ў яго карціны ці малюнкі, а вось галоўнага — не заўважаў. Чамусьці не бачыў раней таго, што адкрылася праз некаторы час, праз гады ці нават дзесяцігоддзі.**

Нешта падобнае здарылася у мяне з асэнсаваннем творчасці туркменскага мастака Сапармамета Мерэдава. Яго маляўнічыя палотнішчы, рэпрадукцыі яго карцін былі знаёмыя мне і раней. Разумнае, зусім не кідкае спалучэнне колераў і раней прыйшлося да душы. А вось сэрца прыняло яго творчасць напоўніцу, найболей шчыра, зусім нядаўна.

Такім метамарфозам, пагадзіцеся, павінны быць прычыны. І акрамя ўнутранага зруху душэўных струн (што і растлумачыць не так проста), быў на тое пяршаштуршок. Раней я не ведаў Сапармамета Мерэдава як графіка. А тут раптам…



Свет мастака. 2008. Палатно, алей. 129x200

Паэт Касым Нурбадаў, ведаючы, што я збіраю кожны факт, кожную драбнічку, звязаныя з жыццём і творчасцю светлай памяці народнага паэта Туркменістана Керыма Курбанняпесава (1929—1988), пры нашай агульнай сустрэчы ў Ашхабадзе ў час дзён Беларусі ў Туркменістане з паважаным Сапармаметам, коратка заўважыў: «У яго ж ёсць і партрэт Керыма…» Работа нядаўняя, таму, пэўна,



У маёй майстэрні. 2003. Палатно, алей.  135x205



Паклон Зямлі. 2005. Палатно, алей. 125х200



Вечарам. 2002. Палатно, алей. 179х202

яна і адклалася ў памяці літаратара, які, дарэчы, як мастацтвазнавец з'яўляецца яшчэ і членам Саюза мастакоў Туркменістана. А мо яшчэ і таму, што надзвычай уразіла, захапіла і яго як чалавека, які неаднойчы, на працягу многіх гадоў бачыў шаноўнага Керыма Курбанняпесава.

У любым выпадку ў мяне перад вачыма раптоўна, зусім нечакана з'явіўся графічны партрэт «Шахір Керым Ага» (2011). І паплылі ўспаміны. Дзесьці яны плылі ракой, шчыльнай, насычанай вадзяной плынню, дзесьці журчалі ручаём. А ў некаторыя хвіліны слаліся туманам. Мне падалося нават, што следам за лаканічнымі, выразнымі лініямі, якія генерыравала ў наступныя жыцці мастацкае мысленне графіка (а раней жа ведаў яго, паўтаруся, толькі як жывапісца), я адкрываў новага Керыма Курбанняпесава. І, відаць, яно сапраўды так. Я пазнаёміўся з паэтам позняй восенню 1985 года. Аўтар «Дзеда Таймаза» і іншых неўміручых твораў ужо хварэў. Прайшоў праз адзін інфаркт. Шмат суму і трывогі было ў яго вачах у той час. А мастак, відавочна, пазнаёміўся з народным шахірам раней, шмат раней адкрыў для сябе і яго шчырую, сардэчную паэзію. Вось і ў партрэце Керыма ў капелюшы Сапармамет бачыць шырока пастаўлены позірк, глядзіць на свет шырокімі вачыма. Усмешка стрыманая, так бы мовіць, не шырокая ўсмешка… Але, калі і пэўная іронія ў ёй прыхаваная, яна адкрытая, усмешка для ўсіх



Шчаслівае дзяцінства. 2012. Палатно, алей. 180х182



На той. 1988—1989. Палатно, алей. 116х116



Жыццё. 1996. Палатно, алей. 146х165

роднымі. У розных штрыхах і някідкіх графічных лініях я адчуваў цеплыню, бачыў святло. Вось якраз гэтай невядомай сілы прыцяжэння цеплыня і святло і дапамаглі мне ўжо па-новаму зірнуць на жывапіс Сапармамета Мерэдава. Праз графіку творца зрабіўся мне шматкроць бліжэйшым, шмат болей адкрытым і болей зразумелым. У нашага беларускага мастака Леаніда Шчамялёва ёсць досыць цікавы партрэт легенды беларускай літаратуры, аўтара твораў на ўсе часы — «Чорнага замка Альшанскага» і «Дзікага палявання караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча. У думках я стаўлю гэты партрэт побач з партрэтам Сапармамета Мерэдава «Ата Каушутаў». Як чытачу і мне знаёмая творчасць туркменскага пісьменніка Аты Каушутава. Скажу нават болей: яго проза, як і проза Уладзіміра Караткевіча, — мне да душы. І два партрэты, два адкрыцці, два прачытанні (Шчамялёвым — Караткевіча, Мерэдавым — Каушутава) мне таксама вельмі да душы. Цяпер ужо жывапісныя, багатыя на колеравыя рашэнні работы. Але зноў жа самай яркай праявай, што зблізіла маё ўзнёслае мысленне, мае ўяўленні пра глыбінnасць шчырага судакранання жыцця і мастацтва, сталі вочы. І ў беларуса Караткевіча, і ў туркмена Каушутава. Два вялікія мастакі слова прыцягваюць, бяруць у палон найперш вачыма. Адкрытымі, шчырымі, удумлівымі вачыма пісьменнікаў-філосафаў. Вачыма, якія разглядзелі, з якімі сутыкнуліся і таленты мастакоў-жывапісцаў.

і адначасова для самога сябе. Мне здаецца, што гэтая ўсмешка вяртае мяне ў тыя даўнія гады, калі і ў мяне было шчасце штодзённых стасункаў з вялікім паэтам. І яшчэ я ўспомніў вось што… У другой палове 1980-х у адной з ашхабадскіх газет я надрукаваў артыкул «Вочы паэта». Пра Керыма Курбанняпесава. Пасля прачытання яго кнігі паэзіі «Доўг». Ілюстрацыяй да публікацыі стаў здымак паэта, зроблены вядомым фоталетапісцам туркменскай літаратуры Амарам Сахатклычавым. Вочы… На тым здымку (я памятаю!) былі зусім іншыя вочы, а вось пісаў я якраз пра такія, якія разгледзеў на графічным малюнку Сапармамета Мерэдава «Шахір Керым ага». Дзякуючы мастаку, што падарыў мне такое адкрыццё, я нарадзіўся яшчэ адзін раз. Нарадзіўся з новай верай у жыццё. У яго светлыя колеры. У шчырыя і сардэчныя памкненні мастацтва і літаратуры.

Вобразна кажучы, «вачыма Керыма Курбанняпесава», вачыма таленту я пачаў аглядаць іншыя адкрыцці мастака. З таго ж 2011 года — графічны партрэт Бяшыма Нуралі… Вядомыя і невядомыя мне персанажы туркменскага мастацтва, туркменскай культуры — усе яны сталі мне блізкімі і

Эвалюцыя майго засваення творчых пошукаў Сапармамета Мерэдава працягваецца. Я захоплена ўглядаюся ў Туркменістан, у яго краявіды праз мысленне мастака, дзякуючы яго ўласнаму асэнсаванню сваёй роднай старонкі. І пачынаецца ўжо іншы этап разумення мастацкіх здабыткаў туркменскага жывапісца, графіка, а яшчэ — і скульптара. Дарэчы, пра Мерэдава-скульптара… Тыя работы (я ведаю, бачыў работы, зробленыя творцам у 1970-я) здзіўляюць, заварожваюць сваёй стылістыкай, грацыёзнасцю. І яны — следам за графікай, жывапісам — нагадваюць пра бязмежнасць мастацкага мыслення творцы з яскрава выяўленым светапоглядам, са сваімі глыбокімі перакананнямі ў жыцці і мастацтве.

Людка Сільнова

# Пераменная велічыня агню: Зьніч

**Мы ўсе створаны з першароднай гліны, абпаленыя боскім агнём, прамытыя зямной вадой і пушчаныя ў свет — круглы, як яблык; які так хочацца з'есці — па-сапраўднаму зведаць… Не нам, дык нашым далёкім продкам, а мы — іх сучасныя копіі. Размножаныя копіі копій, з некаторымі абнаўленнямі…**

Калі людзі прыручылі аранжавую стыхію агню, яны пачалі яго выкарыстоўваць у штодзённых патрэбах: абагрэцца, згатаваць мяккую ежу, прагнаць дзікіх звяроў. І — пакланяцца яму, задобрываць яго абяцанкамі і ахвярамі, каб не згас, не знік назаўсёды. А ён быў схільны знікаць — гэтак жа нечакана, як і з'яўляцца зноў. Ён быў рассыпаны яркімі «кветкамі», шырокімі «плямамі» па зямлі — і далёкімі «кропкамі» па небе… І адно з імёнаў у агню было Зьніч.

Як падземная Вогненная Змяя, ці вогненная рака-лава, ён хаваўся ў святых гарах, чорных пячорах і млосных, задушлівых норах — і зрэдку паказваў людзям сваю вузкую, вусатую галаву з небяспечным пякучым джалам у пашчы. А бывала, што і адразу некалькі галоў: тры, шэсць, дзевяць, «зацякаючы» ў вольныя паветраныя прасторы вогненнымі ручаямі… Так людзі кажуць. Бабулі, поўныя казак, як пчоламі вулей, расказваюць. Унукам і ўнучкам, студэнтам на фальклорнай практыцы, заезджым сентыментальным падарожнікам з тэлебачання — у круглых акулярах, з тэатральным сакваяжам у руках.

Так сталася, што і сын слыннага беларускага мастака, былы студэнт энэргетычнага факультэта БПІ (Мінск), потым — кансерваторыі, затым малады навуковец акадэмічнага інстытута Алег Бембель, паэт Зьніч, інак Мікалай і манах Іаан — гэта адна асоба.

Ён любіць чырвоны колер. І сваё паэтычнае (запаветнае) імя Зьніч, выкананае чырвонай фарбаю. У апошнія гады на вокладках яго кніг яно заўсёды набрана нейкім энергетычна насычаным, завостраным, «пякучым» шрыфтам. У свеце найноўшых тэхналогій можна падумаць, што гэта яго «электронны подпіс». Нават — каляровы «брэнд» яго вельмі дзіўнай асобы.

Я гляджу на вокладкі новых кніг Зьніча — кніг апошняга дзесяцігоддзя, што сабраліся з розных крыніц на маім пісьмовым стале. Гэта «За мурам» (2007), «…Між тэктанічных пліт…» (2011), «…Шляхам сумоўя…» (2015). Назвы апошніх дзвюх, аточаныя знакам шматкроп'я, таксама выклікаюць асацыяцыю з вогненнай ракой ці лавай, якая цячэ… А адна са Зьнічовых кніг — нават з такой сімвалічнай «вогненнай» назвай: «Крэсіва» (2012). Крэсіва — кавалак металу, які высякае агонь з каменю. «З людскіх сэрцаў», — тлумачыў сам Зьніч. Але я не згодная з такім абагульненнем наконт людскіх сэрцаў: яны з такіх розных рэчываў — ваты, пластыку, ёсць нават з пялёсткаў ружы…

Усе гэтыя кнігі, маленькія (па аб'ёме, не па змесце!) і вялікія (а гэтыя — падобныя да шырокіх белых «цаглін» у шырокую сцяну Беларускага Храма), выдадзены ў Слоніме. Там, у вядомым Жыровіцкім Свята-Успенскім манастыры жыве ўжо



амаль дваццаць гадоў манах Іаан (ён жа Зьніч, ён жа Бембель; і кім жа ён яшчэ, можа быць, неўзабаве пакажацца перад намі?) Жыццё кароткае, затое мастацтва вечнае, як гаварылі мудрыя мужы ў цудоўныя часы Антычнасці. Калі багі яшчэ жылі і дзейнічалі недзе побач з маленькімі людзьмі, яшчэ мяккімі і падатлівымі для стварэння легенд і міфаў старажытнага свету (нам ніколі не зразумець боскай задумы гэтай грандыёзнай, у нечым бліскучай тэатральнай пастаноўкі!) Праўда, там былі яшчэ і героі. Напрыклад, Праметэй — выкрадальнік агню ў багоў для людзей… Так, людзям заўсёды быў вельмі патрэбны агонь.

Як сведчыць аднолькавы радок недзе каля анатацый усіх гэтых кніг, яны па жанры — зборнікі: «Зборнік надрукаваны па заказе літаб’яднання «КРЭСІВА». «КРЭСІВА» прыдумаў і ачоліў Зьніч — шмат гадоў таму высек і раздзьмуў у гэтым месцы ўнікальны паэтычны агонь, як адсунуўшы ўбок цяжкую заслонку Слоніма. Пераехаўшы, моцна хворы, са сталіцы жыць (ці паміраць?) сюды, у праваслаўны манастыр, Алег Андрэевіч Бембель, былы акадэмічны філосаф і паэт, сын мастака, у святых сценах духоўна і фізічна акрэп, усмірыў гардыню, стаў паслушнікам, пачаў выдаваць свой багаслоўска-літаратурна-мастацкі лісток «Жыровіцкая абіцель», старонкі якога былі шчодра перасыпаны маленькімі праваслаўнымі крыжамі. Першыя нумары лістка — праз мяне, вашую пакорную служку, некалі няўрымслівую ў пошуках «цікавостак» бібліятэкарку, — клапатліва збірала ў сваю калекцыю нацыянальнага дакумента і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. (Потым наладзілася прамая сувязь.)

Помню, як аднойчы «пад стары Новы год» (так назваў пасля свой артыкул адзін з удзельнікаў падзеі паэт і журналіст Серж Мінскевіч, які працаваў тады, у далёкім 1999-м, у штотыднёвіку «Культура») Зьніч стаў адным з арганізатараў паэтычнага свята «Слонімскія каляды — 1999». Яно ладзілася ў слонімскім Цэнтры дзіцячай і юнацкай творчасці, дзе «перад моладдзю выступалі беларускамоўныя і рускамоўныя паэты, перакладчыкі, барды, музыкі», «таксама ў зале прысутнічалі і навучэнцы Жыровіцкай духоўнай семінарыі», а «паэтычная вечарына была вельмі насычанай, што зрабіла б гонар нават сталічнай імпрэзе» (Культура. 1999. 23—29 студз.). Было шмат імправізацыйных нумароў… Тады і мне пашчасціла быць на той сцэне. Спецыяльна для «Слонімскіх калядаў» я падрыхтавала нізку вершаў і нават запісала іх на белых папяровых сняжынках, якія потым раздала слухачам.

Можна сказаць, што, як і ягоныя кнігі, Зьніч сам быў тады для нас у нейкім сэнсе Чалавекам-зборнікам: збіраў пад адным дахам (вокладкай) нераўнадушных да самых розных праяў жыцця людзей.

Зьніч, як былы музыкант, унікальна адчуваў «музыку нябёсных сфер», або той ідэальны свет, які павінен быць, але ўсё ніяк не настане, ніяк не «ўцялесніцца» на зямлі. Паэт, закінуўшы ўгору прасветлены твар, здаецца, раз-пораз ловіць велічныя акорды Боскага Аргана… Гадоў дваццаць таму ў Мінску я прысутнічала на адным невялікім хатнім канцэрце, які даваў маэстра Зьніч. Дакладней — гэта быў снежань 1994 года. Сёння я гартаю старонкі свайго пісьменніцкага дзённіка тае пары — пачынаючай паэткі, з толькі адной яшчэ паэтычнай кніжкай… Вось гэты дзённікавы запіс.

«Тое, што адбылося, быў сапраўдны цуд.

Я апранулася ў доўгую серабрыста-вішнёвую сукенку, як і трэба слухаць класічную музыку. На шыі — нітка белых перлаў.

Я, прыляцеўшы з работы, напякла пячэння: у выглядзе месячыкаў, зорачак, сэрцаў (любові) і — поўняў.

Я накінула чорную «народную» хустку з махрамі на паўфутра і прыехала, цёмная, «глыбокая» ад хвалюючых прадчуванняў на месца сустрэчы… Галінка была ўся ў нечым светлым і ў белай хустцы. Быў моцны мароз. З вуліцы мы затэлефанавалі на кватэру аднаго са знаёмых, дзе Князь (мы так шаноўна Зьніча тады называлі. — *Л.С.*) ужо рэпеціраваў свой вячэрні канцэрт.

А гэта быў сапраўдны канцэрт! Нягледзячы на бедную абстаноўку (у параўнанні з той музыкай), «мастацкі хаос», пэўнае разбурэнне парадку рэчаў («У нас рамонт», — патлумачыў яго сябра-мастак) — усё было зроблена Зьнічам вельмі ўрачыста, чыста як на вялікую публіку. Ён сам аб’яўляў і трохі тлумачыў кожны твор; яго майстэрства (і пачуццё, з якім ён іграў) было ашаламляльным. Я ведала і раней, што калісьці, яшчэ да таго, як ён стаў паэтам, навукоўцам, паслушнікам… ён скончыў кансерваторыю. Але каб праз столькі гадоўператварэнняў і фізічных пакут — так іграць класічныя творы на памяць!..

Цуд быў яшчэ і ў тым, што ўсё, што маэстра граў, былі мае любімыя творы, і найперш Бетховен — «Саната поўні», Шапэн; нават дзіцячае «Йонда аля туйка» (так вымаўляе, сказаў ён, яго ўнучка) падалося мне тут дарэчы!

Сам маэстра быў такі малады, і я яго так любіла!.. Мне падалося, што фартэпіяна — гэта жанчына (гэта я), і ён, на нетутэйшай мове, расказвае, як ён умее кахаць — і праз гэта быць шчаслівым, разумець свет. («Хто разумее мяне, хай цешыцца з гэтага»…) І я — цешылася, раз-пораз пазіраючы на здранцвелую, цнатлівую Галінку і на хваравітага яго сябра, у параўнанні з якім Маэстра здаваўся моцным, вечным, «класічным», як гэтая музыка… Музыка і мова маюць аднолькавыя гукавыя пачаткі і канцы. Успомніла, што ўвосень я падарыла Зьнічу сваю рукапісную кніжачку «Бацькава мова». І вось яна, «бацькава мова» — у адрозненне ад «матчынай»: музыка!

Напачатку, слухаючы твор і злёгку недарэчнае рыпенне крэсла і педаляў інструмента, я падумала: «Якія цесныя, рыпучыя матэрыяльныя чаравікі у гэтай цудоўнай нябачнай Лэдзі — музыкі!..» Хацела нават сказаць гэта ўсім услых, але не асмелілася.

Затое ў другім аддзяленні, калі, на заканчэнне, Маэстра зноў пачаў граць «Санату поўні», у пакоі раптоўна згасла электрычнасць (перагарэла лямпачка), ён… працягваў!.. іграць!.. нам!.. (сабе?..) у поўнай цемры… Ніхто не зварухнуўся. Гэта было неяк сімвалічна і страшна (і «страстна»…)… Калі выкананне было скончана і ўмомант запалілі дадатковае святло, я не вытрымала, ускочыла і, пасля слоў падзякі, хутка спыталася: «Можна мне вас абняць?» («Так») і прыхінулася да яго ў нейкім неадольным парыванні.. Злёгку аслабанілася, і ён сам абняў мяне другі раз… Гэта ўсё было так нечакана, і ў той жа час так натуральна («Паэтам можна амаль усё, а паэткам — усё», — гаварыў нам з Галінкай калісьці ён), і мне ад гэтага стала так лёгка, што я зразумела: гэта яшчэ адзін цудоўны кантакт з блізкім па духу чалавекам, з «роднай» стыхіяй, Братам, можа, самым старэйшым…

Я нічога нікому не тлумачыла. Усе раптам загаварылі, таксама сталі дзякаваць, жартаваць, смяяцца. І я старалася быць, як усе.

<…>

У начным тралейбусе, дзе мы зноў былі ўжо ўтраіх, развітваючыся, я вельмі сур'ёзна яму сказала: «Я — шчаслівая, што паслухала ваш канцэрт…» І выйшла на сваім прыпынку. Гэта была чыстая, як снег, праўда. І яна моцна «кусалася», як мароз.

З таго вечара некалькі дзен запар горад быў ва ўладзе моцных маразоў. І гэта было яшчэ адным дзівам нашай сустрэчы. (Дарэчы, мы заўсёды сустракаемся ўтраіх у час нейкіх рэдкіх прыродных з'яў: то моцная спёка, то вясёлка над горадам пасля дажджу, то надзвычайныя маразы…)

Мне зараз зноў хочацца паглядзець на знакамітую «Тройцу» Андрэя Рублёва. Адчуваю нейкую траістасць свету…»

Сёння я б дадала тлумачэнне да апошняй фразы з дзённіка: яго, свету, «фундаментальны акорд», адначасовае гучанне трох нотаў… Але няўстойлівае, ноты пастаянна саслізгваюць у суседнія чвэрць- і паўтоны — і варочаюцца зноў да першапачатковага гучання…

Гэтая рыса натуры Зьніча — свяціць і мігцець пераменным агнём (існуе нават такая астранамічная з'ява: Эпсілан Ліры!) натхніла мяне на наступныя абагульненні ў своеасаблівым маніфесце-эсэ «Крышталёвы сад», напісаным на зломе тысячагоддзяў.

Дваістасць яго асобы (гэта многімі адчуваецца, але цяжка выказаць словамі; прыблізна: «Чалавек-Паэт») з'яўляецца неабходнай рысай яго як увасаблення першакрыніцы, бацькоўскага пачатку, бацькавага і матчынага адначасова, адкуль некалі пабеглі ў прастору зялёныя галінкі кволага куста, адкуль нацэлілі свой вектар росту грані будучага крышталю…

Ён зараз у вобразе старца з паслухмянай ветру доўгай сівой барадой, быў для нас тады, у 1980—1990-х гадах, драздовічавым Дзедам-Космасам. А па метафорыцы (метафорыка — мэта, імкненне, якое дазваляе даць фору…) нашага ваярскага прызвання — Дзядзькам-Чарнаморам, які ішоў спераду, вёў нас, новае паэтычнае воінства, з чорнага, таямнічага Мора Памяці на бераг Рэальнасці (Актуальнасці).

Ішоў спераду, а з першага ж моманту апынуўся ззаду. У самым для нас мінулым.

Такая доля ўсіх папярэднікаў: быць у пачатку і стацца адначасова ў самым канцы. Быць скрайнім».

У мяне захавалася некалькі кніг Зьніча с дарчымі надпісамі. Вось адзін з іх, апошні, пра паэтычнае радство (ці сваяцтва): «Сястрычцы Людцы

Сільновай на паэтычны роздум і ўспамін… 7 ліпеня 2007 г.» (на маленькай, перададзенай праз добрыя рукі кніжачцы «За мурам»).

Нарэшце, пра яго Ліру. Пра вершы Зьніча, у сілу якіх ён непахісна верыць. Пра яго знакамітую кароткую страфу-стрэл (або страфу — выбліск маланкі), багата перасыпаную шматкроп'ямі. Радкі яго вершаў вельмі метафарычныя і афарыстычныя, аформленыя рознымі па памерах літарамі, нават шрыфтамі — быццам створаныя для аратарскіх прамоў і павучанняў. Напрыклад, такія радкі з кніжкі «За мурам» (у аўтарскай арфаграфіі):

…зямную сьцяжыну завершы
раскаянным сэрцам, найперш…
маленьні — вышэй за вершы…
хай стане маленьнем — верш!..

Або:

…лагодную… нязманную
намацваю струну…
х а л о д н у ю… м а й д а н н у ю… —
ч а с з а в я р ш а ц ь в а й н у…

Многія сучасныя вершы Зьніча датычацца царкоўнай і дзяржаўнай гісторыі, палітыкі, выхавання моладзі і праблем сям'і, маральных пытанняў. З вышыні пражытых гадоў адказвае на іх паэт Зьніч. Часам грозна, сурова; часам ласкава, прыцішана. Пачатак верша з кніжкі «…Між тэктанічных пліт…»

… такі наш лёс бязьлітасны…
такая наша доля… :
…яшчэ не запалілася
СТАГОДЗЬДЗЯЎ
ЖЫРАНДОЛЯ…

Рыфма, сястра Рытму, заўсёды яго любіла. Зьніч — муж і музыкант, рыфмар і рыбар — «лавец душаў» чалавечых: слухачоў і чытачоў. Нас з вамі.

Ікс, Ігрэк… Эпсілан… Пераменная велічыня агню: Зьніч.



Графіка Алесі Галоты

**Паліна Лісоўская**
maladost@zviazda.by

# Двое ў шведскім музеі без уліку чучала

**Ніколі не думала, што паеду ў замежную практыку. Само так атрымалася. Інстытут журналістыкі БДУ накіраваў мяне і маю аднакурсніцу ў Швецыю. Два тыдні мы правялі ў рэгіянальных шведскіх газетах невялікага горада Кальмара. Працавалі з тамтэйшымі журналістамі, абмяркоўвалі праблемныя пытанні і вандравалі. У адзін вольны дзень наведалі самы незвычайны (на мой погляд) замак свету…**

## Першыя ўражанні

На вуліцы Кальмара сонейка. Здаецца, было б і вельмі цёпла, калі б не вецер з мора…

Мы едзем у машыне Ларса. Мы – гэта я і мая сяброўка, аднакурсніца Ліля Гайдаржы. Ларс – гэта немалады худы швед з разумнымі і хітрымі вачыма. Сёння наш першы поўны дзень у Швецыі. Пасля ланчу па распарадку мы павіны разглядаць шведскія і беларускія газеты (бо гэта ж не вандроўка-адпачынак, а вандроўка-практыка!), але Ларс са словамі «Пасля добрага сняданку лянота рабіць нешта сур'ёзнае, лепш я вас пакатаю!» распачаў наша аўтамабільнае знаёмства з горадам.

Прадзіраемся маленькімі вулкамі. «О, божа мой, о, божа мой!» — увесь час усклікае Ларс. Ён амаль не ведае рускай мовы, але ж гэты рускамоўны выраз зазубрыў на «выдатна» і ўсклікае з вялікай асалодай. Усё рускамоўнае абурэнне шведа накіравана на будаўнічыя рыштаванні, якія акупіравалі гістарычны цэнтр горада.

— Калі ўжо скончацца гэтыя рэканструкцыі, рамонты ды будоўлі? Дзяўчаты, я вас запэўніваю, што гэта вельмі незвычайна для Кальмара, у нас такога будаўнічага буму ніколі не было!

Але жвавае жыццё панядзелкавых кальмарскіх вулак з іх рэканструкцыямі застаецца за нашымі спінамі. Нас жа сустракае іншае — ціхае, велічнае. З аднаго боку — зялёны парк і могілкі, адасобленыя ад свету жывых кронамі вялізных дрэў, з другога — акуратныя дамкі багатых шведаў. Ларс паркуецца, і мы выходзім. За паркам і могілкамі немагчыма не ўбачыць вежу і сцены старажытнага замка. Ён — першае, з чым хоча пазнаёміць нас швед у Кальмары.

Ідзём па мосце, што злучае замак з паркам. Пад ім — маленькія хвалі вялікага мора. Я пытаюся ў нашага праваднік\u0430, хто з турыстаў часцей за ўсё прыязджае, каб пабачыць такое дзіва.

— Канешне, тут можна сустрэць многа шведаў з усёй краіны. Таксама прыязджае шмат датчан і нарвежцаў. Ды і немцаў хапае.

Але ж пакуль амаль нікога не сустрэлі. Хіба што адзінкі прайшлі ў вароты замка. Мо з-за таго, што сёння панядзелак?

Прайшоўшы чорным калідорам babаротаў, апынаемся ў дворыку. Ён меншы за дворыкі нашых замкаў, Нясвіжскага і Мірскага, і гэты невялікі памер робіць яго больш утульным. У цэнтры, як і у нашых замках, — прыгожы калодзеж. І нічога больш — ні кавярні, ні месца для фотасесій. Толькі каля адной сцяны ўзвышаюцца сінія будаўнічыя



Ідзём па мосце, што злучае замак з паркам. Пад ім – маленькія хвалі вялікага мора.



Прайшоўшы чорным калідорам варотаў, апынаемся ў дворыку.

рыштаванні, што, канешне, адразу прыкмячае Ларс: «О, божа мой!»

У дворыку нічога не затрымлівае — і мы знаходзім уваход у замак.

Сустракае лаўка з сувенірамі. Іх не вельмі шмат, затое розныя. І, што вельмі зручна, кожны можна памацаць і паглядзець з усіх бакоў: яны стаяць не за прылаўкам, а па ўсёй зале. Тут і прысмакі, і кніжкі, і «стандартныя» магніты... Вось зіхоткі жоўты стэнд — жоўтыя кнігі, гульні, лялькі, адзенне з выявай смешнай, гарэзлівай дзяўчынкі с рудымі коскамі. Паўсюль подпіс: Pippi. Ларс бачыць нашы твары пытальнікамі і сам задае пытанне:

— Як вы думаеце, што гэта за дзяўчынка?

— ??? — здаецца, ну вельмі знаёмая дзяўчынка, але ўспомніць ніяк не атрымліваецца.

— Вы не пазнаяце яе? Я не ведаю, як у Беларусі, але ў нас яна — самы папулярны дзіцячы літаратурны персанаж! Мо вы і Астрыд Ліндгрэн не ведаеце, нашу знакамітую аўтарку?

— Ведаем, канешне!

— У вас вельмі папулярны яе персанаж Карлсан. У нас ён не такі папулярны. А гэтая дзяўчынка…

І тут мы ўспамінаем! Гэта ж Пэпі! Пэпі Доўгая Панчоха! Цікава, што ў нас яна менавіта Пэпі, а не Піпі, як тут. Ну, і сапраўды, Карлсана мы любім больш.

Амаль у кожнай краме Кальмара мы потым знаходзілі сляды Піпі. Што яна рабіла ў сувенірнай краме замка, чытач зразумее пазней.

На змену першай радасці — першае расчараванне: сувеніры ў замку каштуюць так, як ва ўсіх музеях свету, — шмат. А Ларс ужо запрашае ісці да машыны — нас чакаюць газеты. Я спытала, у які час працуе музей (не знайшла гэтай інфармацыі на дзвярах). Адказ мяне вельмі здзівіў. Музей працуе толькі да чацвёртай гадзіны! Ды і пачынае працу позна — аб адзінаццатай.

Іншыя ўстановы Кальмара працуюць максімум да шостай, вельмі рэдка — да сёмай гадзіны вечара. Гэта горад сямейнай утульнасці. Тут працуюць і адпачываюць інакш і ў іншы час.

Давялося ісці ў музей у суботу…

## Заваёва замка

Шчасце, што сёння субота. Цела ўжо стамілася ад напружанага працоўнага тыдня, а сэрца, шчыра кажучы, ужо вельмі прагне свабоды. Практыка ў газеце, безумоўна, і карысная, і напоўнена ўражаннямі і адкрыццямі, але… Але я яшчэ амаль не пазнаёмілася з горадам! Жыла ўвесь час па схеме «рэдакцыя — гатэльны дом».

Памятаючы пра «дзіцячыя» часы працы ўстаноў у Кальмары, мы спешна кіруемся ў горад. Па дарозе да замка сустракаем KalmarKonstmuseum, мастацкі музей. Усе шведы, з якімі я размаўляла пра адметнасці Кальмара, адгукаліся пра гэты музей крытычна: маўляў, там сабрана абстрактнае нікому не зразумелае мастацтва, якое і мастацтвам не назавеш. Да таго ж акалічнасці стрымліваюць: і той самы непрацяглы час працы (як за дзень агледзець два музеі, а яшчэ пакаштаваць шведскай кавы і паспець прайсціся па парках?), і, паўтаруся, кошт (колькі сувеніраў для родных




Па дарозе да замка — KalmarKonstmuseum, мастацкімузей.



Паўзверх аўтэнтычнай, старажытнай, сапраўднай замкавай лесвіцы пабудавалі новую, простую, драўляную — каб ногі шматлікіх наведвальнікаў не псавалі гістарычную каштоўнасць.

можна накупіць замест квітка!). Таму, сфатаграфаваўшы чорны будынак KalmarKonstmuseum, мы рушым у парк, які вядзе нас у Кальмарскі замак.

Экспазіцыя на першым паверсе ўключае старажытныя прадметы (вопратку, посуд, зброю і г. д.), макет даўнейшага Кальмара і макеты будынкаў мінулых гадоў. Здаецца, стандартны набор, звыклы для беларускіх музейных установ. У кожным зале — электронны «экскурсавод».

Здзівіла мяне «індывідуалізацыя» залаў: у кожным — свая атмасфера. Быццам вялікі музей складаецца з мноства маленькіх музеяў. Гэта ад сцен — рэстаўратары захавалі іх у першапачатковым выглядзе, і ад паліц — яны таксама паўсюль розныя. У адным зале нас сустрэў чалавек-чучала. Мы нават спужаліся — настолькі ён падобны на жывога насельніка замка. Я не змагла адолець цікаўнасць і дакранулася да рукі. Не, дакладна не з воску. Мо з нейкай гумы?

У зале, які дэманструе кухню замка, штучны агонь суправаджаецца аўдыяінсталяцыяй — гукамі палаючага дрэва. У наступным зале замест столі — сонечная сістэма. Маленькія шкляныя планеты зіхацяць і пераліваюцца рознымі колерамі ад сонечных прамянёў, што падаюць на іх з акна.








Піпі, прыдуманая дачкой Ліндгрэн, дапрацаваная фантазіяй самой Ліндгрэн і па-мастацку ўвасобленая Інгрыд, — паўсюль.

Двое ў шведскім музеі без уліку чучала

Нават са старажытных строяў, якія экспануюцца ў кожным музеі і ўспрымаюцца наведвальнікамі звыкла, Кальмарскі замак стварыў «разынку»: самая велічная сукенка ўсталявана на паваротным крузе, і можна бачыць яе з усіх бакоў. Мне нават падалося, што перад намі круціцца не сукенка, а яе гаспадыня. Сукенкі, якім не пашчасціла стаяць на паваротным крузе, таксама здаліся «жывымі» — з-за асвятлення: яно атмасфернае — недзе больш цьмянае, таямнічае, недзе — урачыстае, велічнае. Дзякуючы менавіта атмасфернасці ўсё ў музеі выглядае шчырым, а экскурсія перастае быць экскурсіяй — ператвараецца ў падарожжа.

Варыянтаў пад'ёму на другі паверх два: ліфтам і лесвіцай. Ліфт у замку на два паверхі ўсталявалі для таго, каб людзі сталага ўзросту і з інваліднасцю маглі без перашкод па ім перамяшчацца. Мы выбралі лесвіцу. І яна таксама нас здзівіла. Паўзверх яе — аўтэнтычнай, старажытнай, сапраўднай замкавай, пабудавалі новую, простую, драўляную, каб ногі шматлікіх наведвальнікаў не псавалі гістарычную каштоўнасць.

На другім паверсе мы трапілі ў зал, цалкам прысвечаны творчасці Ліндгрэн. Дакладней — ілюстрацыям да кніжак. Усе зрабіла Інгрыд ван-Ньюман — мастачка, асабліва знакамітая сваімі ілюстрацыямі да кніг пра Піпі, першая з якіх убачыла свет ажно ў 1945 годзе. Піпі, прыдуманая дачкой Ліндгрэн, дапрацаваная фантазіяй самой Ліндгрэн і па-мастацку ўвасобленая Інгрыд, — паўсюль. То вудзіць рыбу, то гуляе з дзецьмі, то з сур'ёзным выглядам ідзе да школьнай дошкі. Мы ўбачылі і іншыя ілюстрацыі Інгрыд да твораў Ліндгрэн. Чорна-белыя і рознакаляровыя, маленькія і вялікія, яны дадалі музею часцінку яшчэ адной атмасферы — літаратурна-мастацкай.

Мы вельмі ўзрадаваліся, калі адчулі атмасферу Піпі ў яшчэ адным зале. Хоць слова «зал» тут не вельмі пасуе. Хутчэй, дзіцячы пакой. Конікі, посуд, настольныя гульні, кнігі з выявамі Піпі, цэлыя скрыні з забаўкамі… Рукі цягнуліся да ўсяго, успомнілася дзяцінства. І калі б у пакой не ўвайшла маленькая дзяўчынка з бацькамі, я (шчыра кажу!) не ўтрымалася б ад дэталёвага даследавання цацак. Ох, шкада…

Залы другога паверха ўяўляюць з сябе рэканструкцыю старажытных памяшканняў. Спальня, гасцёўня, сталовая… Мы паглыбляемся ў жыццё даўно мінулае. Нават трошкі стамляемся. І стомлена даходзім да замкавай капліцы. Ніводнага турыста побач. Сядаем на лаўку, сыходзім кожная ў свой унутраны свет, знікаючы на нейкі час з рэальнасці.

У сутарэнні, дзе раней была турма, спускаліся асцярожна — памяталі пра турмы ў нашых замках, дзе людзі фоткаюцца з прыладамі для катавання, прасоўваюць галаву ў гільяціну і старанна вымалёўваюць пакуты на тварах. Такі тэатр ды з непрафесійнымі акцёрамі зноў бачыць не хацелася. І не давялося. Замест гэтага бачылі сапраўдны якасны тэатр, ад якога дрыжыкі па целе і пакутлівыя думкі ў галаве. Праз акенца з кратамі на нас пазірала… нават не камера — яма. Ад яе несла сырасцю, холадам, страхам. Калі ўважліва ўглядзецца ў цемру, можна бачыць у самым яе закутку захутанае ў покрыва Нешта. Фантазія пачынае працаваць: хто гэта Нешта, хто той няшчасны і за што яго зняволілі? А калі на хвіліну перастаць дыхаць, можна пачуць піск мышэй. Можа нават падацца, што адна з іх толькі што прабегла… Ву-унь там. Бачыш, праляцеў доўгі хвост? Ад ямы адыходзім змрочныя, размаўляць не хочацца.

Ветлівы хлопчык у старажытным убранні спытаў, ці спадабалася нам у музеі. Толькі цяпер я заўважыла, што экскурсія скончылася. «Так, вельмі спадабалася!» — ад нечаканасці нічога больш не выдала.

***

Я паспела наведаць многа музеяў і замкаў. Нашы — у Нясвіжы і Міры, полацкую Сафію, расійскія (Пецярбург, Тула, Ноўгарад) і не памятаю, колькі еўрапейскіх… Але гэта не галоўнае. Галоўнае — я не памятаю свае ўражанні. Я памятаю экспазіцыі, залы, арганізацыю экскурсій, памятаю нясмачныя чабурэкі, памятаю, як тата завіс у зале зброі, а мы, стомленыя, яго чакалі. Але гэта сямейнае, бытавое. Уражанняў ад экспазіцый проста няма. Пасля Кальмарскага замка — мноства. Чаму? Бо залы тут прыдумлялі, афармлялі, аздаблялі не таму, што гэта трэба было зрабіць, а таму, што па-першае, было проста цікава гэтым займацца, а па-другое, было дакладнае разуменне таго, навошта гэта патрэбна наведвальніку.

Сучасны музей у атмасферы мінулага. Мінулае ў абдымках сучасных вырашэнняў. Цікавыя фармулёўкі будучыні.

Леанід Лаўрэш

# Мінская электрастанцыя

**У Расійскай імперыі электраэнергія выраблялася на дзяржаўных, гарадскіх (ці муніцыпальных), а таксама прыватных электрастанцыях, прычым колькасць прыватных электрастанцый значна перавышала колькасць дзяржаўных і гарадскіх. Так, па звестках Рускага тэхнічнага таварыства, у 1913 годзе з двух дзясяткаў буйных электрастанцый шаснаццаць з'яўляліся прыватнымі. Электрастанцыя ў Мінску была муніцыпальнай.**

Першыя вопыты па электраасвятленні ў Мінску праводзіліся на вадакачцы Лібава-Роменскай чыгункі тэхнікам Кабяком 21 снежня 1886 года. Электрамашына прыводзілася ў рух паравым рухавіком вадакачкі. У гэты дзень паглядзець на навінку сабралася шмат мінчан. У 1892 годзе гарадская ўправа разглядала пытанне аб увядзенні ў горадзе электрычнага асвятлення. Праз два гады было куплена абсталяванне з усімі прыладамі за 10,5 тысячы рублёў у Лібаўскага казённага порта. Разам з мантажом размеркавальных сетак яно абышлося гораду прыкладна ў 20 тысяч рублёў.

Электрастанцыя пачала працаваць 12 студзеня 1895 года. Яна знаходзілася на правым беразе ракі Свіслач разам з вадапомпавай станцыяй. У горадзе было ўстаноўлена 390 лямпачак напальвання: 140 для асвятлення вуліц Петрапаўлаўскай, Праабражэнскай, Губернатарскай, Захар'еўскай, 80 — у зімовым тэатры, 60 — у летнім і 110 у прыватных спажыўцоў. Гараджане хутка ацанілі перавагі новага асвятлення — ужо праз тры гады горад меў 1 100 лямпачак напальвання: 240 на вуліцах, 420 у тэатрах і 430 у прыватным спажыванні. Пасля 1905 года з'явіліся і першыя электралямпы вольтавай дугі. Яны перыядычна запальваліся ў тэатры, цырку, на гуляннях.

Аднак амаль што адразу набытае абсталяванне электрастанцыі вычарпала свае магутнасці. Частковыя ўдасканаленні ў 1897 і 1900 гадах далі часовы эфект. На пачатку стагоддзя электрастанцыя знаходзілася ў крызісным становішчы. Запыты спажыўцоў не задавальняліся, даходы скараціліся з 16,3 тысячы рублёў у 1903 да 13,5 тысячы у 1904 годзе[1].

З 1905 года Мінск быў ахоплены рэвалюцыйным рухам. 31 жніўня вуліцы не былі асветлены, баставалі нават ліхтаршчыкі, якія павінны былі запальваць нафтавыя лямпы[2]. Узбуджаныя і незадаволеныя дырэктарам электрастанцыі інжынерам Корзунам рабочыя вырашылі *«паступіць з ім як прынята на фабрыках — вывезці яго на тачцы... Як толькі ён з'явіўся на станцыі, працоўныя акружылі яго, накінулі на галаву мяшок, паклалі на тачку і вывезлі яго на вуліцу са словамі: «Такіх нам не трэба». Сп. Корзун сам вызваліўся з мяшка і ўцёк»*[3]. Яго месца заняў інжынер Маркевіч, але ў сакавіку 1908 года ён з'ехаў з Мінска. Наступным дырэктарам электрастанцыі стаў інжынер Грабоўскі, саўладальнік электратэхнічнага бюро[4].

У канцы 1907 года была праведзена рэканструкцыя мінскай электрастанцыі. Прэса пісала, што ў пастаўленых на гарадскую электрастанцыю «Усеагульнай Электрычнай кампаніяй» машынах знойдзены істотныя няспраўнасці, але на працягу двух тыдняў машыны павінны быць адрамантаваныя[5]. Зімой 1907—1908 гадоў паведамлялася, што *«электрычныя правады, якія да гэтага часу пастаянна кралі, цяпер увесь час ірвуцца пры скіданні снегу з дахаў»*[6].

У сакавіку 1908 года «Кур'ер Літэўскі» надрукаваў вялікі аналітычны артыкул аб праблемах электрыфікацыі Мінска. Спачатку невядомы аўтар адзначыў, што гарадская электрастанцыя *«гэта з усіх пунктаў гледжання вельмі карысная інстытуцыя, аднак узнікае шмат пытанняў, якія лепш вырашыць зараз, бо заўтра будзе позна. Сучасная станцыя была пабудавана і пачала працаваць каля трох гадоў таму на месцы ранейшай — ненадзейнай і састарэлай, з высокім сабекоштам электраэнергіі. Пры гэтым былі пашыраны электрычныя сеткі, усталяваны новыя машыны і генератары, акумулятары і гэтак далей, усё гэта зроблена вельмі рацыянальна. Члены электрычнай камісіі, утворанай гарадской радай, разумелі,*

1 Шибеко З. В., Шибеко С. Ф. Минск: Страницы жизни дореволюционного города. Мінск, 1990. С. 130—132.
2 Kuryer Litewski № 3, 3(16) września 1905.
3 Kuryer Litewski № 151 (252), 8(21) lipca 1906.
4 Kuryer Litewski № 41, 19 lutego (3 marca) 1908.
5 Kuryer Litewski № 286, 21 grudnia (3 stycznia) 1907.
6 Kuryer Litewski № 12, 15(28) stycznia 1908.

*што не могуць правесці рэканструкцыю ўласнымі сіламі і вырашылі перадаць усе работы сур'ёзнай спецыялізаванай фірме. Вялікая ўвага была нададзена складанню правільнага кантракта, і гэту працу камісія выканала добра. Па кантракце работы праводзіла «Усеагульная Электрычная кампанія», і ў выніку горад атрымаў добра пабудаваную, сучасную і надзейную станцыю.*

*Заслуга за добрае правядзенне работ належыць камісіі, якая складаецца з сп. Эмануіла Абрампольскага (старшыня) і чальцоў, сп. К. Плаўскага і інж. Лісоўскага.*

*Важна таксама гэтак жа добра арганізаваць эксплуатацыю — як у тэхнічным плане так і ў фінансава-эканамічным. Тут пачынаюцца вельмі важныя памылкі, якія з'явіліся з-за адсутнасці адмысловых ведаў у галоўных кіраўнікоў (электрычная камісія), або з-за стандартна нерацыянальнай эканоміі (камісія фінансавая), якая можа давесці да развалу такую справу, як электрастанцыя.*

*Адной з асноўных памылак, якая мае нават грамадскае значэнне, ёсць неразуменне важнасці ўжывання электраэнергіі для прамысловых мэт. Як вядома, ужыванне рухавікоў мае велізарнае значэнне для развіцця ўсякай прамысловасці. Электраматоры — гэта той клас рухавікоў, якія, пачынаючы ад швейных машын і заканчваючы самымі магутнымі фабрычнымі рухавікамі, найбольш зручныя ў выкарыстанні. Аднак з эканамічнага пункту гледжання ўжыванне электраматораў мэтазгодна ў прамысловасці толькі тады, калі электраэнергія досыць танная, не даражэй 15 капеек за кілават-гадзіну. Але камісія ўсталёўвае кошт у 27 капеек за кілават-гадзіну, г. зн. гэтулькі, колькі бярэцца за асвятленне памяшканняў. Мела б сэнс энергію для працы рухавікоў прадаваць танней, што спрыяла б развіццю прамысловасці, дало дадатны эканамічны эфект і ў канчатковым выніку спрыяла б развіццю горада.*

*З пункту гледжання сабекошту энергіі рашэнне камісіі не вытрымлівае крытыкі. Электрычная нагрузка нераўнамерная на працягу дня, але нават пры нізкай нагрузцы станцыі даводзіцца падтрымліваць пастаянную работу. Выгадней было б мець больш раўнамерную нагрузку і для таго са скідкай прадаваць энергію для працы рухавікоў падчас мінімуму нагрузкі. У часы мінімуму можна было б прадаваць энергію па 6 капеек за кілават-гадзіну ці нават яшчэ танней.*

*Другі, вельмі слабы бок электрычнай гаспадаркі — поўнае ігнараванне важных патрабаванняў станцыі фінансавай камісіяй і недастатковы адпор супраць яе смяротнай эканоміі з боку электрычнай камісіі... Калі не будзе вырашана кадравае пытанне... гарадская станцыя можа хуткаператварыцца ў руіны.*

*Той, хто мае элементарнае ўяўленне пра эксплуатацыю электрычнай станцыі, ведае, што станцыя такога памеру, як мінская, можа існаваць нейкі час без дырэктара-інжынера з вышэйшай адукацыяй і вялікімі грашовымі патрабаваннямі, адсутнасць жа добрага, высокакваліфікаванага манцёра, здольнага прысвяціць станцыі ўвесь свой час, можа самым адмоўным чынам адбіцца на яе лёсе. Тым больш, калі сярод астатняга персаналу няма дастаткова кваліфікаваных людзей. … Наогул, для горада было б выгадней аддаць станцыю ў прыватныя рукі»*[7].

Нягледзячы на пашырэнне энергетычнай гаспадаркі, слабым месцам заставаліся размеркавальныя электрычныя сеткі: «*У шматлікіх месцах горада адчуваюцца моцныя ваганні напружання (ад 175 да 250 В, у той час калі звычайнае напружанне павінна быць 220 В), напрыклад у раёне тэатра, кінематографа і г. д. Пры гэтым мае месца цьмянае ці наадварот, празмернае свячэнне лямпаў*»[8]. Таму ў сакавіку 1908 года электрычная камісія «*прымае энергічныя меры для атрымання ад гарадскіх улад сумы ў 29 500 р. за гарадскія сеткі*»[9].

Аднак і ўвосень 1908 года сітуацыя не палепшылася: «*Мінск. Непарадкі з электрычнасцю. У апошні час электрычнае асвятленне моцна міргае, напружанне вагаецца і лямпы вулічнага асвятлення псуюцца, з-за чаго нявінныя перад Богам абывацелі трапляюць у бруд, б'юць насы і г. д. Усё гэта ў Мінску ёсць «хлеб штодзённы» і гараджане з гэтым збольшага звыкліся. Але электрастанцыя змагла зрабіць і больш вялікія непрыемнасці — поўнае адключэнне электрычнага току, нягледзячы на дамовы па энергазабеспячэнні. Нядаўна ў выніку невыканання станцыяй сваіх абавязкаў кансіліум з трох дактароў на працягу гадзіны ча-*

7 Kuryer Litewski № 42, 20 lutego (4 marca) 1908.
8 Kuryer Litewski № 48, 27 lutego (11 marca) 1908.
9 Kuryer Litewski № 63, 16(29) marca 1908.

*каў з'яўлення току, каб ужыць рэнтгенаўскі апарат. Факт не патрабуе каментарыяў»*[10].

У сакавіку 1908 года было афіцыйна дазволена падключаць электрычныя рухавікі і плаціць пры гэтым 29 капеек за першую тысячу кілават-гадзін і па 16 капеек за наступныя кілават-гадзіны, што, відавочна, было не выгадна для прамысловасці горада[11].

У выніку «*кінематограф Штрэмера, не задаволены тарыфам на электраэнергію, усталяваў уласную дынама-машыну з нафтавым рухавіком, які забруджвае паветра для некалькіх суседніх хат. Гараджане скардзяцца і патрабуюць ад ўлад прыняць меры*»[12]. У маі 1908 года газеты паведамілі, што нафтавы рухавік кінатэатра Штрэмера на рагу вуліц Захар'еўскай і Францішканскай, адрэгуляваны. Рухавік меў атрутны выхлап з-за недапалу паліва ў цыліндрах[13]. Але справа гэтым не закончылася. Нават адрэгуляваны рухавік усё роўна атручваў паветра сваім суседзям, і таму ўладальнік кінатэатра ўсталяваў высокую трубу для выхлапу. Гэта не спыніла скаргаў. Тады Штрэмер праз прэсу патлумачыў, што яго праследуюць суседзі за тое, што ён немец[14]. Праз некалькі тыдняў прэса працягвала пісаць: «*Нафтавы рухавік Штрэмера застаецца галоўнай тэмай спрэчкі паміж уладамі горада і ўладальнікам кінематографа. Ніяк не атрымліваецца, каб рухавік працаваў без дыму і смуроду. Здаецца такая гаспадарчая справа павінна вырашацца без палітыкі, але вакол яе разварочваюцца нейкія незразумелыя кабінетныя гульні*»[15].

Энергасістэма горада мела праблемы з улікам электрычнай энергіі: «*Мінск. Ад абанентаў мясцовай электрастанцыі прыходзяць частыя скаргі на пастаяннае парушэнне нормаў у адносінах паміж станцыяй і абанентам. Лічыльнікі — нагода для канфліктаў. Падлучэнні прыватных сетак у шматлікіх месцах прыводзяць да няправільнай працы лічыльнікаў і да вялікіх рахункаў на спажытую энергію. У дадатак, няма інструкцый, па якіх можна было б адсачыць правільнасць працы лічыльнікаў. Усё гэта можа прывесці да таго, што станцыя так і застанецца напаўзаконнай, напаўсямейнай і толькі на чвэрць прафесійнай справай*»[16].

Увосень «Кур'ер Літэўскі» адзначыў, што у Мінску развялося шмат самазваных электраманцёраў, якія займаюцца мантажом унутраных праводак з розных няякасных матэрыялаў і таму бяруць за працу значана меней, чым кваліфікаваныя электрычныя бюро. Для выканання электратэхнічных прац патрэбны добрыя тэхнічныя веды і адпаведны інжынерны нагляд — усе тое, чаго няма ў «танных» работнікаў. Напрыклад, такія работнікі ніколі не выконвалі ахоўнага занулення абсталявання і іншых неабходных тэхнічных мер бяспекі. Таксама з-за недакладнага мантажу прыбораў уліку, розных хітрыкаў з нулявым дротам гарадская электрычная кампанія ці, наадварот, спажыўцы энергіі мелі вялікія грашовыя страты. «*Выкананне электратэхнічных работ патрабуе добрага матэрыялу, акуратнасці і высокай кваліфікацыі*». У якасці прыкладу прыводзіўся яўрэйскі шпіталь, які, сэканоміўшы на мантажы праводак, з-за памылак мантажнікаў плаціў шалёныя грошы па лічыльніку[17].

У 1909 годзе электраэнергіяй карысталіся: 11 цэркваў, касцёлаў, сінагог, 137 крам, 84 прыватныя кватэры, 16 фабрык, 8 клубаў і спартыўных таварыстваў, 7 тэатраў і кінематографаў, 6 цырульняў, 19 банкаў, 17 рэстаранаў і гасцініц, 7 навучальных устаноў, 4 бальніцы і лячэбніцы, дабрачынныя ўстановы, казармы, лазня, фатаграфія.

Ускраіны горада па-ранейшаму асвятляліся газавымі ліхтарамі. У 1892 годзе іх было 647, а праз дзесяць гадоў — 960. У далейшым колькасць газавых ліхтароў скарачалася ў сувязі з увядзеннем больш сучасных напальных ліхтароў[18], якраз у 1910 годзе для асвятлення раёнаў горада, дзе няма электрычнасці, гарадскія улады закупілі нафтавыя напальныя лямпы[19].

У сакавіку 1910 года з'явілася інфармацыя аб чарговай рэканструкцыі мінскай электрастанцыі, для чаго адбыліся кансультацыі з вядучымі замежнымі фірмамі[20]. Хутка стала вядома, што для

10 Kuryer Litewski № 245, 24 października (6 listopada) 1908.
11 Kuryer Litewski № 63, 16(29) marca 1908.
12 Kuryer Litewski № 65, 19 marca (1 kwietnia) 1908.
13 Kuryer Litewski № 104, 7(20) maja 1908.
14 Kuryer Litewski № 157, 11(24) lipca 1908.
15 Kuryer Litewski № 174, 31 lipca (13 sierpnia) 1908.
16 Kuryer Litewski № 129, 7(20) czerwca 1908.
17 Kuryer Litewski № 282, 7(20) grudnia 1908.
18 Шибеко З. В., Шибеко С. Ф. Минск: Страницы жизни дореволюционного города. Мінск, 1990. С. 132.
19 Kuryer Litewski №20, 17(30) stycznia 1910.
20 Kuryer Litewski №69, 27 (9 kwietnia) marca 1910.

рэканструкцыі патрэбна 160 000 рублёў[21], але гарадскія ўлады палічылі магчымым выдзяліць толькі 105 000 рублёў[22]. У маі 1910 года запрашэнне на тэндарныя таргі атрымалі 24 фірмы-вытворцы энергетычнага абсталявання. У планах рэканструкцыі была закупка дызельнага рухавіка магутнасцю 230 к. с.[23]

На пачатку кастрычніка ўжо актыўна вяліся работы па рэканструкцыі станцыі, але новы дызельны рухавік і новы генератар яшчэ не былі змантіраваныя[24].

У канцы верасня 1910 года «Кур'ер Літэўскі» пісаў: «*Станцыя водаправодна-электрычная. Пашырэнне станцыі выклікала вялікі рост абанентаў. У апошні час да размеркавальных сетак далучана 160 абанентаў. Наогул іх зараз 500, а ў мінулым годзе было 240. За пашырэнне станцыі трэба быць удзячнымі энергіі і высілкам сучаснага старшыні Электрычнай камісіі інжынера Вацлава Цывінскага, які прыйшоў у Электрычную камісію на месца К. Плаўскага і цяпер стаў яе старшынёй. Для далучэння ўсіх перспектыўных абанентаў павіны быць усталяваны новыя машыны. Машыны паставіць фірма Нобеля, якая перамагла свайго канкурэнта фірму «Вестінгаўз», бо мела неабходнае абсталяванне на складах і магла хутка даставіць рухавік сістэмы дызель.*

*Пачаліся работы па пракладцы новых кабеляў па асноўных вуліцах горада: Захар'еўскай, Францішканскай, Падгорнай і на Нізкім Рынку. Новыя кабелі могуць прапусціць у тры разы большы ток, чым існуючыя.*

*За апошні год ад электрычнасці брута-даход склаў 75 000 рублёў (у папярэднім годзе 56 000 руб.). Вада прынесла даход у 60 000 рублёў (у папярэднім годзе 59 000 руб.). Чысты даход ад продажу электрычнасці і вады склаў 79 000 рублёў (у папярэднім годзе 67 000 руб.)… Знізіўся сабекошт (калі не ўлічваць амартызацыю машын і працэнты па крэдыце) кілават-гадзіны з 9,5 да 7 капеек. Поўны сабекошт роўны 13 капеек за кілават-гадзіну, у папярэдні год — 15 капеек*»[25].

У кастрычніку былі пераабраны члены гарадской Электрычнай камісіі. «*Грабоўскі да апошняга часу быў дырэктарам электра-вадастанцыі, а зараз, пасля абрання ў камісію, пакінуў пасаду дырэктара. ... Важкай праблемай станцыі з'яўляецца адсутнасць здольных манцёраў — самага неабходнага персаналу на кожнай сучаснай электрастанцыі, якая патрабуе добрага абслугоўвання. Мінская станцыя мае патрэбу ў кваліфікаваных манцёрах яшчэ больш, чым іншыя, бо мае велічэзную акумулятарную батарэю, якая без якаснага абслугоўвання хутка сапсуецца.*

*Можа, пасля пашырэння станцыя дачакаецца рацыянальнага продажу электраэнергіі для механічных мэт — да гэта часу ў нас не ужываюцца электрарухавікі і электрычнасць не выкарыстоўваецца ў прамысловасці*»[26].

Праз некалькі дзён паведамлялася, што ў горадзе пашыраюцца электрычныя сеткі, а на гарадской электрастанцыі ўсталёўваецца рухавік Дызеля. Персанал станцыі пачаў пракладваць магістральныя кабелі па вуліцах горада[27].

У канцы лістапада 1910 года «*ўсталяваны віленскай фірмай Маліноўскага і Гушчы рухавік сістэмы «дызель» пачаў працаваць. Усе мантажныя работы выкананы дасканала. Сам рухавік выдатнай якасці і працуе стабільна. Рухавік будзе прыводзіць у дзеянне дынама-машыну фірмы Сіменс, якую таксама ўсталявала тая ж віленская фірма*»[28]. Аднак вечарам 29 снежня горад апанавала цемра — нядаўна ўсталяваны «*рухавік сістэмы «дызель» лёгка пашкоджаны і часовы не працуе*»[29]. Хутка стала вядома, што паломка рухавіка адбылася з-за дрэннай ачысткі паліва[30].

Ужо на пачатку наступнага, 1911 года стала вядома, што магутнасці станцыі хутка зноў будзе недастаткова для ўсіх жадаючых далучыцца да размеркавальных сетак. З гэтай нагоды «Віленскі кур'ер» паведаміў цікавую інфармацыю з гісторыі электрыфікацыі горада: «*Першае электрычнае асвятленне ў Мінску было зроблена ў аптэцы Гутоўскага. Электратэхнічныя працы ў аптэцы*

21 Kuryer Litewski №80, 9(22) kwietnia 1910.
22 Kuryer Litewski №85, 15(28) kwietnia 1910.
23 Kuryer Litewski №88, 21 kwietnia (4 maja) 1910.
24 Kuryer Litewski №216, 24 września (7 października) 1910.
25 Kuryer Litewski №220, 29 września (12 października) 1910.
26 Kuryer Wileński № 25, 31 października (13 listopada) 1910.
27 Kuryer Wileński № 30, 7(20) października 1910.
28 Kuryer Wileński № 43, 23 listopada (6 grudnia) 1910.
29 Kuryer Wileński № 72, 30 grudnia (12 stycznia) 1910.
30 Kuryer Wileński № 2, 4(17) stycznia 1911.

*праводзіліся за кошт горада — для рэкламы, але ўладальнік аптэкі ўсё роўна не згаджаўся нават на такі варыянт. Зараз у любой, нават самай малой краме ёсць некалькі лямпаў. Людзі зразумелі вялікую спраўнасць такога асвятлення, а калі падлічыць усе выдаткі — дык нават і таннасць электрычнага святла. Асабліва пачало развівацца электрычнае асвятленне, калі былы старшыня Электрычнай камісіі, інжынер Вацлаў Цывінскі вырашыў здаваць лічыльнікі электрычнай энергіі ў арэнду. Хутка станцыю зноў трэба будзе пашыраць у 2—3 разы»*[31].

У студзені 1911 года на станцыі прыступіў да працы новы дырэктар — інжынер Тадэвуш Корзун, а былы дырэктар Грабоўскі пачаў кіраваць службай водазабеспячэння горада. *«Новы дырэктар скончыў тэхналагічны інстытут у Пецярбургу. На працягу года ён ужо кіраваў мінскай станцыяй, але ў 1906 годзе пакінуў гэтую пасаду і да апошняга часу працаваў у Германіі на паважных пасадах. Можна чакаць, што новы дырэктар наладзіць выпрацоўку і перадачу электрычнай энергіі і правядзе новую рэканструкцыю станцыі. На апошнім пасяджэнні гарадской рады гучалі галасы перадаць станцыю ў прыватныя рукі»*[32]. Гэта той самы чалавек, якога рабочыя вывезлі на тачцы падчас рэвалюцыйных хваляванняў.

Практычна адразу новы дырэктар станцыі загадаў узяць усе працы па мантажы ўнутраных правадак у прыватных дамах і ўстановах пад пільны тэхнічны кантроль, *«гэта правільна, бо існуючыя тэхнічныя бюро не паспяваюць выконваць такія працы для ўсіх жадаючых, а аднаасобнікі-прыватнікі, часцей за ўсе яўрэі, абсалютна не ведаюць электратэхніку. З-за гэтага ўзнікае вялікая колькасць канфліктаў паміж станцыяй і спажыўцамі электраэнергіі»*[33]. Новы дырэктар адразу пачаў шукаць высокакваліфікаванага старшага электраманцёра станцыі[34]. Здаецца, што знайсці на добрыя грошы інжынера было лягчэй, чым кваліфікаванага манцёра.

На пачатку лютага 1911 года прэса надрукавала фінансавую справаздачу электрастанцыі, з якой было відаць, што справа выпрацоўкі электраэнергіі вельмі выгадная[35].

Ужо 22 сакавіка 1911 года ў гарадской управе прайшоў тэндар на пастаўку і мантаж другога рухавіка сістэмы «дызель» з дынама-машынай. Удзельнічалі фірмы: нямецкая «Альгемайне Элетрыцытас-Гесельхафт», амерыканская «Вестінгаўз» і віленская «Віленскае будаўнічае бюро». Выйграла віленская фірма, якая за 43 180 рублёў прапанавала рухавік фірмы Нобеля (250 конскіх сіл) з дынама-машынай фірмы Сіменс[36].

У канцы чэрвеня зноў пачалася копка траншэй, *«у найбліжэйшы час электрычныя кабелі будуць укладзены пад зямлю на галоўных вуліцах цэнтра горада»*[37]. Работамі кіраваў дырэктар станцыі інжынер Тадэвуш Корзун: *«Ад аўторка ўкладзена ўжо 8 000 метраў кабелю. Укладка ідзе камерцыйным спосабам, таму кошт укладкі — 5 капеек за метр замест 18 капеек за метр, якія прыйшлося б заплаціць, калі б укладкай займалася тэхнічнае бюро. Горад будзе выглядаць больш эстэтычна, калі не толькі сілавыя кабелі будуць схаваныя пад зямлю, але замест ліній на слупах пад зямлёй пракладуць і размеркавальныя сеткі»*[38].

У ліпені 1911 года на новыя сілавыя кабельныя сеткі пададзена напружанне: *«Праз некалькі дзён працы новых сетак тэхнічны персанал станцыі адзначыў меншыя страты электрычнай энергіі. Калі раней на станцыі трымалі 240 вольт, каб у спажыўцоў было 220 вольт, дык цяпер станцыя трымае напружанне 230 вольт»*[39].

Пасля заканчэння прац па мадэрнізацыі гарадской станцыі яе агульная магутнасць дасягнула 950 конскіх сіл. Да станцыі былі падлучаны Вілен-

31 Kuryer Wileński № 10, 14(27) stycznia 1911.
32 Kuryer Wileński № 20, 26 stycznia (8 lutego) 1911.
33 Kuryer Wileński № 26, 2(15) lutego 1911.
34 Kuryer Wileński № 29, 6(19) lutego 1911.

35 Кошт асноўных сродкаў электрастанцыі ў 1906 г. складаў 178 292 рублі, у 1909 г. — 194 540 рублёў (дадаўся кошт акумулятараў) а ў 1910 г. — 234 151 рубель (дадалася вартасць новага дызельнага рухавіка і новай дынама-машыны)

Чысты прыбытак
1906 г. — 1 317,95 руб.
1907 г. — 3 824,48 руб.
1908 г. — 11 574,07 руб.
1909 г. — 24 240,14 руб.
1910 г. — 32 408,72 руб.

Гл: Kuryer Wileński № 49, 2(15) lutego 1911.
36 Kuryer Wileński № 69, 27 marca (9 kwietnia) 1911.
37 Kuryer Wileński № 18(138), 22 czerwca (5 lipca) 1911.
38 Kuryer Wileński № 19(139), 23 czerwca (6 lipca) 1911.
39 Kuryer Wileński № 32(152), 10(23) lipca 1911.

скі вакзал, земскі шпіталь і тыя спажыўцы, якія паспелі скласці ўсе неабходныя дакументы.

Здаецца, гэта стала апошняй мадэрнізацыяй станцыі перад Першай сусветнай вайной.

Але ў канцы 1911 года магутнасць станцыі была зноў вычарпана. З улікам неабходнасці пашырэння трамвайных ліній планавалася пабудаваць другую электрастанцыю ў раёне Брэсцкага вакзала.

Выпрацаваная ў 1913 годзе на гарадской станцыі электраэнергія размяркоўвалася наступным чынам: 68,5 % — абанентам, 10,2 % — для асвятлення вуліц, 2,3 % — на патрэбы гарадского кіравання, 18,7 % — страты[40].

Нягледзячы на практычна выбуховае развіццё электраэнергетыкі, у Мінску ўсё яшчэ выкарыстоўваўся пастаянны ток, з-за чаго было немагчыма вырашыць шматлікія тэхнічныя праблемы і што прадвызначала тэхнічнае адставанне.

40 Шибеко З. В., Шибеко С. Ф. Минск: Страницы жизни дореволюционного города. Минск, 1990. С. 133.



Шчыт упраўлення электрычнай станцыі канца XIX ст.



Мінская электрастанцыя № 1 (“Эльвод”). Фота 1930-х гадоў.



Рэшткі пабудоў электрастанцыі Фота 2011 г.

**Кірыл Мяцеліца**

# Паляванне на зубра

Калі 15 жніўня 1915 года перадавыя часці 9-й германскай арміі ўступілі на тэрыторыю Белавежскай пушчы, ад яе ранейшага хараства мала што засталося. Адступаючы, рускія войскі пакінулі пасля сябе разбураныя масты, паваленыя ўпоперак дарог ствалы векавых дрэў і апусцелы паляўнічы палац, з якога за тыдзень да гэтага ў спешцы былі эвакуяваны ўсе каштоўнасці. У Маскву з чыгуначнай станцыі Белавежа адправіліся творы мастацтва, раскошная мэбля, паляўнічыя трафеі цароў і нават памятны абеліск, усталяваны ў гонар караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III, які паляваў у гэтых мясцінах у 1752 годзе. Кайзераўскія афіцэры з гідлівасцю адзначалі, што ад выдатнай рэзідэнцыі не засталося і следу — печы былі разбітыя, дзверы знятыя з завесаў, латуневыя ручкі адкручаныя, а пакоі патаналі ў брудзе. Камандаванне 9-й арміі распарадзілася прывесці ў належны стан палац і яго наваколле. Вельмі хутка Белавежская пушча даведалася, што значыць знакамітае нямецкае Ordnung muss sein.

Новым гаспадаром Белавежскай пушчы стаў састарэлы камандуючы 9-й арміяй прынц Леапольд Баварскі, які паходзіў са старажытнай дынастыі Вітэльсбахаў. Як і ўсе прадстаўнікі гэтага роду, ён валодаў тонкім густам, меў цягу да мастацтваў і схільнасць да мецэнацтва. Ад сваіх вытанчаных продкаў прынц адрозніваўся толькі тым, што быў заўзятым паляўнічым. Спіс паляўнічых дасягненняў Леапольда сапраўды ўражвае — 1947 аленяў, 1630 сарнаў, 832 глушцы і тысячы больш сціплых трафеяў. Нядзіўна, што нашы рэліктавыя лясы падаліся яму зямлёй запаветнай. Краса і гонар пушчы — зубры, якія даўно прывыклі да чалавека, самі падыходзілі да немцаў на адлегласць 10 крокаў. Хтосьці з акупантаў проста фатаграфаваўся з дзіўнымі жывёламі, іншыя ж пускалі ў ход вінтоўкі. Ужо ў канцы жніўня ў войскі паступіў загад, які строга забараняў адстрэл зуброў. Як першакласны паляўнічы, прынц Леапольд разумеў значэнне такіх унікальных лясных угоддзяў, таму прыклаў максімум намаганняў для захавання гэтага кутка старажытнай Еўропы.

Зрэшты, немцы разглядалі Белавежскую пушчу перш за ўсё як крыніцу сыравіны (драўніны) для патрэб дзеючай арміі. Было створана спецыяльнае Ваенна-лясное ўпраўленне, у задачы якога ўваходзіла арганізацыя ўсіх неабходных мерапрыемстваў па асваенні пушчы. Узначаліў яго вядомы лесавод доктар Георг Эшэрых, які ўжо меў вопыт вядзення падобнай гаспадаркі ў афрыканскіх калоніях Германскай імперыі. Гэты сапраўды таленавіты чалавек мог бы застацца ў гісторыі як адзін з самых дасведчаных спецыялістаў сваёй справы, калі б не адзін змрочны факт яго наступнай біяграфіі — Эшэрых стане адным з піянераў нацысцкага руху ў Германіі. Але гэта адбудзецца потым. Пакуль жа ён, прызнаны нягодным да нясення вайсковай службы з-за атрыманага ў першы месяц вайны ранення, прыбыў у палац у Белавежы для выканання сваіх новых абавязкаў. Пазней новы кіраўнік Белавежскай пушчы ўспамінаў, што ніколі да гэтага ён не сустракаў у Еўропе «лес такой прыгажосці, магутнасці і разнастайнасці».

Эшэрых, пасяліўшыся ў паляўнічым павільёне Аляксандра II, падрыхтаваў для прынца Леапольда шырокі даклад, які ўтрымліваў прапановы па арганізацыі ваенна-лясной гаспадаркі. Паводле задумы лесавода, пушчу варта было падзяліць на 7 лясных акруг, кожную з якіх павінен быў узначаліць афіцэр у званні не ніжэй за капітанскае. Як правіла, на гэтыя пасады стараліся браць тых прадстаўнікоў германскага афіцэрскага корпуса, якія па стане здароўя былі прызнаныя нягоднымі да нясення страявой службы. У падначаленні кожнага з іх павінны былі знаходзіцца 10 леснікоў, на плечы якіх і ўскладалася асноўная задача па ар-

Згодна са старым паляўнічым рытуалам, Эшэрых паднёс манарху яловую галінку, змочаную ў крыві забітай жывёлы: «Гэта самы буйны звер з тых, што Ваша Вялікасць забіў на сённяшні дзень». Кажуць, што ў гэты момант імператар магутнай Германскай імперыі радаваўся як дзіця

ганізацыі будаўніцтва лясных дарог, нарыхтовак драўніны і кіраўніцтве на лесапільных заводах.

Што датычыцца арганізацыі паляўнічай гаспадаркі, то тут першаснай задачай Эшэрых лічыў барацьбу з браканьерствам, якое паставіла пад пытанне само існаванне зуброў. Кіраўнік распрацаваў праект паляўнічай інструкцыі, які рэгламентаваў парадак палявання ў Белавежскай пушчы і быў накіраваны на захаванне папуляцыі зуброў. У дакуменце прама гаварылася: «Мы хочам, хоць гаворка ідзе пра варожую краіну, па магчымасці захаваць пагалоўе зуброў, каб пакінуць для нашчадкаў адзіны ў сваім родзе помнік прыроды». Дазвол на адстрэл зуброў выдаваў асабіста прынц Леапольд, які на той момант ужо стаў Галоўнакамандуючым Усходнім фронтам. Права на падобны прывілей атрымалі толькі самыя высокапастаўленыя вайскоўцы і грамадзянскія чыны Германскай імперыі. Адзіным «простым смяротным», ушанараваным такім правам, быў Эшэрых, які, зрэшты, добраахвотна адмовіўся ад гэтай своеасаблівай ліцэнзіі на адстрэл зуброў.

Першым з германскай шляхты, хто прыехаў у Белавежскую пушчу па каштоўны трафей, стаў сам германскі імператар Вільгельм II. Нягледзячы на свой фізічны дэфект (з-за атрыманай пры нараджэнні траўмы яго левая рука высахла і была карацейшай за правую на 15 см), кайзер быў цудоўным паляўнічым — за ўсё сваё жыццё ён падстрэліў каля 75 000 звяроў і птушак. Ён ужо паляваў на беларускіх землях, калі ў 1886 годзе па запрашэнні сяброў, князёў Радзівілаў, гасцяваў у Нясвіжскай ардынацыі. Тое знакамітае паляванне ўвекавечыў на сваіх карцінах вялікі польскі мастак Юліан Фалат. Вільгельма, тады яшчэ прынца, настолькі ўразілі акварэлі Фалата, што ён запрасіў яго ў Берлін у якасці прыдворнага жывапісца.

Да прыезду кайзера супрацоўнікі Ваенна-ляснога ўпраўлення рыхтаваліся з усёй нямецкай педантычнасцю. Лясныя дарогі былі вычышчаны і адрамантаваны, а жыхары бліжэйшых дамоў выселены, «каб пазбегнуць непрыемных інцыдэнтаў». Калі, нарэшце, манарх аб'явіўся і выказаў жаданне папаляваць на зуброў, узнікла невялікая замінка. Справа ў тым, што частка світы Вільгельма II палічыла, што кайзер ніякім чынам не павінен асабіста страляць у зуброў, паколькі гэта будзе выглядаць як аплявуха рускаму цару. Як вядома, зубры знаходзіліся пад аховай Мікалая II. Гэта, аднак, не перашкаджала расійскаму самадзержцу ладзіць пышныя паляванні ў Белавежскай пушчы і асабіста адстрэльваць няшчасных жывёл, якія знаходзіліся пад яго ж «аховай». У рэшце рэшт вырашана было адкінуць у бок дыпламатычныя ўмоўнасці, тым больш што Германія і Расія знаходзіліся ў стане вайны. Для самога кайзера гэта было прынцыповым пытаннем, паколькі калісьці ён ужо спрабаваў дамагчыся дазволу на паляванне ў Белавежскай пушчы, але атрымліваў адмову ад цароў Аляксандра III і Мікалая II.

Нямецкая сякера секла без разбору як маладыя дрэўцы, так і векавыя дубы, якія памяталі каралёў Рэчы Паспалітай. Беларускі лес ішоў не толькі на будаўнічыя матэрыялы, але і на вугаль

Вільгельм II выйшаў на паляванне, узброіўшыся цудоўным штуцарам ручной работы з аптычным прыцэлам. Сваю ахвяру ён сустрэў на лясной паляне і, падышоўшы на адлегласць у сотню метраў, стрэліў зверу прама ў лапатку. Аднак для таго, каб зваліць велічнага зубра, спатрэбіўся яшчэ адзін стрэл. Эшэрых так успамінаў пра гэты эпізод: «І вось ужо звер разварочваецца на нас. Затым ён насцярожваецца і паварочвае галаву ўбок. Ён, здаецца, не мае яснага ўяўлення, дзе вораг. Але цяпер самы час. «Яшчэ адну кулю ў шыю», — шапчу я кайзеру. Асечка! Толькі гэтага не хапала. Але ўжо ў наступнае імгненне куля раздзірае магутныя цягліцы на шыі; з раструшчаным шыйным пазванком лясны волат падае, як удараны маланкай». Далей, згодна са старым паляўнічым рытуалам, Эшэрых паднёс манарху яловую галінку, змочаную ў крыві забітай жывёлы: «Гэта самы буйны звер з тых, што Ваша Вялікасць забіў на сённяшні дзень». Кажуць, што ў гэты момант імператар магутнай Германскай імперыі радаваўся як дзіця.

Услед за кайзерам паляўнічыя ўгоддзі наведалі ўсе вяршкі тагачаснага германскага грамадства: каралі Саксоніі і Баварыі, спадчыннік аўстра-венгерскага прастола эрцгерцаг Карл, шматлікія

> Драпежніцкая эксплуатацыя некранутых лясоў была па душы далёка не ўсім немцам. Па меры поспехаў кайзераўскіх войскаў на франтах Першай сусветнай вайны ў Нямеччыне сталі задумвацца над тым, што будзе з Белавежскай пушчай пасля таго, як змоўкне зброя

прынцы і генералы. Пабывалі ў Белавежскай пушчы знакаміты фельдмаршал Пауль фон Гіндэнбург, легендарны лётчык-ас «чырвоны барон» Манфрэд фон Рыхтгофен і многія іншыя. Пакуль нямецкія арыстакраты атрымлівалі асалоду ад палявання, супрацоўнікі Ваенна-ляснога ўпраўлення рукамі ваеннапалонных і прыцягнутых для працы мясцовых жыхароў неміласэрна знішчалі лясныя масівы Белавежскай пушчы. За ўвесь час гаспадарання акупацыйнай адміністрацыі было высечана каля 4,5 мільёна кубаметраў драўніны, г. зн. прыкладна столькі ж, колькі за папярэднія сто гадоў. Нямецкая сякера секла без разбору як маладыя дрэўцы, так і векавыя дубы, якія памяталі каралёў Рэчы Паспалітай. Беларускі лес ішоў не толькі на будаўнічыя матэрыялы, але і на вугаль. Так, у пасёлку Гайнаўка была ўсталяваная самая вялікая ў Еўропе ўстаноўка па выпальванні вугалю, здольная перапрацоўваць да 250 тысяч кубаметраў драўніны ў год. Горкая іронія заключаецца ў тым, што для разагрэву самой гэтай машыны патрабавалася 150 тысяч кубаметраў драўняных парод.

Вядома, такая драпежніцкая эксплуатацыя некранутых лясоў была па душы далёка не ўсім немцам. Па меры поспехаў кайзераўскіх войскаў на франтах Першай сусветнай вайны ў Нямеччыне сталі задумвацца над тым, што будзе з Белавежскай пушчай пасля таго, як змоўкне зброя. Ва ўяўленні нямецкіх палітыкаў узнікалі карціны пасляваеннага ўладкавання Еўропы. Сёння са шматлікіх дакументаў мы ведаем, што ў выпадку ўдалага для немцаў выніку вайны тэрыторыі, на якіх сёння размяшчаецца запаведнік, павінны былі трапіць у сферу ўплыву Германскай імперыі. А калі пушча патрапіць пад уладу кайзера, то навошта ж сваімі рукамі знішчаць такое багацце? Прыкладна так разважаў Эшэрых, калі запрасіў у Белавежу святілаў нямецкай навукі, такіх, як знакаміты батанік Петэр Грэбнер, славуты навуковец-лесавод Конрад Рубнер, біёлаг Яна Бойт, якая адмыслова прыбыла з Амерыкі, і многія іншыя. Гэтымі людзьмі былі складзеныя ўнікальныя калекцыі беларускай флоры і фаўны, якія папоўнілі потым шматлікія музеі ў Берліне, Дрэздэне, Лейпцыгу, Мюнхене, Франкфурце-на-Майне і Штутгарце.

Яшчэ ў лістападзе 1915 года ў Белавежу прыбыў заснавальнік сучаснага нямецкага прыродаахоўнага руху прафесар Гуга Конвенц. Ведаючы пра тое, які прыродны помнік так бязлітасна эксплуатуюць яго суайчыннікі, ён выступіў з ініцыятывай па стварэнні ў пушчы «Парка дзікай прыроды». У Берліне вельмі доўга думалі над прапановай навукоўца, аднак, калі Конвенц атрымаў нарэшце станоўчы адказ, было ўжо занадта позна. Германія прайграла вайну і па ўмовах падпісанага 11 лістапада 1918 года Камп’енскага перамір’я абавязана была вызваліць усе акупаваныя тэрыторыі. Літаральна на наступны дзень войскі, якія базаваліся на тэрыторыі Белавежскай пушчы, сталі вяртацца дадому. Напрыканцы дэмаралізаваныя акупанты, сярод якіх жахліва ўпала дысцыпліна, падстрэлілі некалькіх зуброў. П’яная салдатня зняла з забітых звяроў скуры і парэзала іх на сувеніры для сваіх фрау. Гэты апошні варварскі штрых паставіў кропку на ўсіх марах Эшэрыха і Конвенца. У гісторыі Белавежскай пушчы пачыналася новая і, мабыць, самая змрочная яе глава.

Калі ў 1914 годзе ў пушчы налічвалася 727 зуброў, то ў 1918, нягледзячы на дэклараваны немцамі клопат пра іх папуляцыю, засталося ўсяго 76 асобін. Пройдзе год, і іх застанецца ўсяго дзевяць. У гады рэвалюцыйнай разрухі нікому не было справы да гэтых жывёл. 9 лютага 1921 года ляснік Барталамеус Шпаковіч забіў апошняга ляснога гіганта. З гэтага моманту зубр перастаў існаваць як від у натуральных умовах. Спатрэбіліся доўгія гады карпатлівай працы, перш чым каралеўскі звер зноў змог вярнуцца дадому. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

*У тэксце выкарыстаны матэрыялы кнігі В. Семакова і В. Рыпергера «Мара аб першабытным лесе».*

**Яўген Цішчанка**

# Першая муніцыпальная бальніца ў Гродне

**У пачатку XX стагоддзя ў Гродне працавалі чатыры аптэкі, акруговая лячэбніца Прыказа грамадскага апекавання (1837), яўрэйская бальніца (1802), ваенны шпіталь (1808). Уласных лячэбных устаноў горад не меў.**

Увядзенне ў Расійскай імперыі, у тым ліку на тэрыторыі Гродзеншчыны, гарадскога самакіравання, якое рэгламентавалася гарадскім палажэннем 1870 года (са зменамі і дапаўненнямі 1892 і 1906 гадоў) абумовіла з'яўленне новай арганізацыйнай формы медыцынскай дапамогі насельніцтву — гарадской (муніцыпальнай) медыцыны. Гэта важна і таму, што земскае самакіраванне (а значыць, і земская медыцына) у Беларусі ўведзена было ў 1912 годзе і толькі ў Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях. Гарадская медыцына ўяўляла з сябе сістэму бясплатнай медыцынскай дапамогі насельніцтву горада за кошт сродкаў гарадскога бюджэту. Яна ўключала, з аднаго боку, аплату медыцынскай дапамогі ў існуючых лячэбных установах, з другога боку, фінансаванне адкрыцця новых медыцынскіх устаноў. Трэба ўлічваць, што ў 1909—1910 гадах у Гродне ўзнікла і працяггла існавала пагроза халеры, у сувязі з чым арганізоўваліся і праводзіліся супрацьэпідэмічныя мерапрыемствы, у тым ліку і па стварэнні медыцынскіх устаноў (так званых халерных баракаў).

З гістарычных крыніц вынікае, што ў 1912 годзе ў Гродне адкрыта гарадская лячэбніца для заразных хворых на дваццаць коек. У даведніку Гродзенскай губерні на 1914 і 1915 гады у раздзеле адрасоў урадавых устаноў знаходзім звесткі пра гарадскую лячэбніцу ў Гродне з указаннем адраса — Загарадная Слабада. На плане горада 1912 года пад № 25 па ўказанай вуліцы адзначана гарадская бальніца заразных хворых. Згодна з планам, Загарадная Слабада — гэта раён сённяшніх вуліц Лермантава і Камунальнай.

Прамых і ўскосных архіўных звестак пра наяўнасць гарадской бальніцы раней 1912 года мы не знайшлі. Такім чынам, можна сцвярджаць, што адрытая ў гэты год гарадская бальніца для заразных хворых з'яўляецца гістарычнай папярэдніцай Першай Гродзенскай клінічнай бальніцы імя З.П. Салаўёва.

Наследуючы гістарычную праўду, неабходна адзначыць, што ў даведніку Гродзенскай губерні на 1913 год указаны толькі Савет гарадской лячэбніцы ў Гродне. Заўважым таксама, што ў справаздачы Гродзенскай урачэбнай управы за 1914 год прадстаўлена: «У Гродне працавалі 28 урачоў, 20 фармацэўтаў, 15 дантыстаў, 22 акушэркі, 13 фельчараў і дзейнічалі акружная лячэбніца (120 ложкаў), яўрэйская (60 ложкаў), турэмная (40 ложкаў), псіхіятрычная (35 ложкаў) бальніцы, прыватная лячэбніца (5 ложкаў), радзільны прытулак (10 ложкаў)». То бок, няма звестак пра дзейнасць гарадской лячэбніцы. Гэта можна патлумачыць часовым характарам яе працы (для ізаляцыі заразных хворых) і тым, што другі корпус бальніцы знаходзіўся ў працэсе будаўніцтва, на якое паўплывала Пер-



Першая гарадская бальніца ў Гродне ў нашы дні.

шая сусветная вайна. З прычыны ваенных дзеянняў Гродзенская акружная лячэбніца ў 1915 годзе была эвакуіравана ў Калужскую губерню. Гэты факт абумовіў тое, што асноўным стацыянарам для гаспіталізацыі грамадзянскага насельніцтва Гродна была гарадская бальніца.

Недахоп архіўных матэрыялаў ускладняе характарыстыку дзейнасці бальніцы ў ваенныя гады (1914—1920). Аднак мы сустрэлі некаторыя цікавыя факты.

19 снежня 1918 года на пасяджэнні часовага Гродзенскага гарадскога камітэта абмяркоўвалася пытанне «Пра стан гарадской бальніцы». У прыватнасці, пры абследаванні было высветлена, што «з 5 аддзяленняў гарадской бальніцы 2 абстаўлены цярпіма. Інфекцыйнае аддзяленне толькі "на паперы". Разлічана на 120 ложкаў, на самай справе ёсць 40. Бялізны да крайнасці мала. У аптэцы справаздачнасць не вядзецца. Тынктураў, парашкоў хопіць на 3—4 дні, перавязачнага матэрыялу — трохі больш». Пытанне пра бальніцы горада абмяркоўвалася і 31 снежня: «У горадзе 200 ложкаў і 90 чалавек медыцынскага персаналу. На іх утрыманне няма грошай». Было вырашана стварыць камісію, якая б вызначыла магчымую колькасць ложкаў і персаналу. Гэта пытанне яшчэ раз уздымалася 6 лютага 1919 года.

Падкрэслім, што ў гэты перыяд востра стаяла праблема барацьбы з сыпным тыфам. Адным з пунктаў распрацаванай у пачатку 1919 года праграмы барацьбы з сыпным тыфам з'яўлялася «бясплатнае лячэнне усіх сыпнатыфозных хворых у гарадской лячэбніцы».

У міжваенны перыяд (1920—1930-я гг.) у Гродне працавалі тры асноўныя стацыянары — 3-і акруговы ваенны шпіталь (400 ложкаў, новы замак), гарадская бальніца (120 ложкаў), яўрэйская бальніца (60 ложкаў). Акрамя таго, некаторы час дзейнічалі эпідэмічны шпіталь (1920—1923 гг., 50 ложкаў), лячэбніца Гродзенскага аддзялення Польскага таварыства Чырвонага Крыжа (1920-я гг., цяпер — ваенны шпіталь), лячэбніца для невылечных хворых (1920-я гг., цяпер — вуліца Антонава), прыватныя лячэбніцы хірургічнага і акушэрска-гінекалагічнага профілю (1930-я гг., цяпер — гарнізонная гасцініца, Гродзенская абласная МРЭК, Гродзенская абласная станцыя пералівання крыві).

У пачатку 1920-х гг. гарадская бальніца размяшчалася ў раёне вуліцы Батанічнай. У 1921 годзе у ёй было развернута 150 ложкаў, а далей іх колькасць паменшылася (у 1924-м — 125, у 1932-м — 75).

У бальніцы ў асноўным лячыліся хворыя агульнага профілю, паменшылася доля скурных і венерычных хвароб, адзначалася тэндэнцыя росту шпіталізацыі цяжарных. Назіралася зніжэнне колькасці пралечаных. Смяротнасць вагалася ад 3,8 % у 1922-м да 7,4 % у 1926 годзе. Бальніца набыла характар стацыянарнай установы для шпіталізацыі ў першую чаргу гарадскога насельніцтва. Аднак у яе працягвалі шпіталізавацца і іншагароднія.

На 1926 год гарадская бальніца (галоўурач А. Тальгейм) мела тэрапеўтычнае і акушэрскае аддзяленні (урач А. Тальгейм), хірургічнае аддзяленне (урач Ю. Шляшынскі). Да 1930 года дзейнічала




Дом урача Тальгейма. Пабудаваны ў 1911 годзе з улікам прафесіі гаспадара: на першым паверсе размяшчаліся працэдурныя і прыёмны пакоі.

аддзяленне для псіхічнахворых, размешчанае ў другім бальнічным будынку (плошча Тызенгаўза). У гэтым аддзяленні працаваў галоўурач яўрэйскай бальніцы А. Ліпнік. Аддзяленне для заразных хворых, створанае пасля рэфармавання эпідэмічнага шпіталя, таксама было разгорнута ў асобным будынку (вуліца Піянерская, інфекцыйная бальніца, цяпер вуліца Дзяржынскага, ваенны шпіталь).

З 1923 года пры гарадской бальніцы пачынае дзейнічаць амбулаторыя. Колькасць зваротаў расце, звяртаюцца пераважна жанчыны і з захворваннямі агульнага профілю. Разам з тым, у амбулаторыю звяртаюцца дзеці, а таксама з мэтай атрымання спецыялізаванай дапамогі ў сувязі з дзевяццю групамі захворванняў.

Бальніца падпарадкоўвалася гарадской управе. У кастрычніку 1926 года на пасяджэнні гродзенскай гарадской управы абмяркоўвалася пытанне пра стварэнне ў Гродне псіхіятрычнай бальніцы для Беластоцкага, Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў. Меркавалася абсталяваць яе па-за горадам, а комплекс «даўніх бальнічных будынкаў» аддаць па іх першапачатковым прызначэнні — для гарадской бальніцы. Гэты комплекс (на плошчы 1 га 615 м$^2$) складаўся з дзвюх двухпавярховых камяніц, трох аднапавярховых мураваных (у тым ліку пральня, морг) і чатырох аднапавярховых драўляных гаспадарчых пабудоў і размяшчаўся ў першапачатковым месцы (у міжваенны перыяд — вуліца Мясабойні, 6). Яго і заняла гарадская бальніца. У 1929 годзе нерухомая маёмасць яе ацэньвалася ў 221 810 злотых. На 1930 год пры бальніцы дзейнічалі аптэка і лабараторыя. Штат установы ўключаў галоўурача, дзяжурнага ўрача, 4 урачоў-ардынатараў, 11 медыцынскіх сясцёр, аптэкара.

У 1936 годзе гарадская бальніца мела два тэлефоны і была разлічана на 120 ложкаў. Працавалі галоўурач, тэрапеўт А. Тальгейм, хірург Ю. Шляшынскі, акушэр-гінеколаг С. Абрэмбоўскі, інфекцыяніст М. Ленартовіч, дэрматавенеролаг А. Хігер. Іх дзейнасць не абмяжоўвалася працай у бальніцы. Тальгейм (1873—1937) быў адным з кіраўнікоў аховы здароўя Гродна (1920-я гг.), удзельнічаў у стварэнні і ўваходзіў у склад камітэта гарадскога музея прыроды, старшынстваваў у таварыстве дапамогі беспрацоўным, быў членам Савета варшаўска-беластоцкай урачэбнай палаты. Яго дом захаваўся — цяпер гэта помнік архітэктуры пачатку XX стагоддзя (у гэтым жа доме жыў і Ленартовіч). Памёр у Гродне, пахаваны на каталіцкіх могілках. Імя Тальгейма заслугоўвае ўвекавечання. М.Ленартовіч (1875—?) быў галоўурачом Гродзенскай страхавой касы (адкрыта ў 1924 годзе) і старшынёй Гродзенскага супрацьтуберкулёзнага таварыства (у 1926-м заснавана, у 1936-м аб'ядноўвала 120 членаў). Урачамі-спецыялістамі страхавой касы былі С. Абрэмбоўскі (1904—?) і А. Хігер (1887—?). У 1930-я гг. Хігер з'яўляўся сакратаром Гродзенскага аддзялення Польскага таварыства Чырвонага Крыжа, а С. Абрэмбоўскі — кіраўніком пункту апекі маці і дзіцяці гэтага таварыства. Ваенны хірург, падпалкоўнік, Ю. Шляшынскі (1888—?) выкладаў на штогадовых курсах медсясцёр Чырвонага Крыжа.

Лячэнне ў гарадской бальніцы было платным. У 1938 годзе ложка-дзень каштаваў ў хірургічным аддзяленні — 6 злотых, у акушэрска-гінекалагічным — 6, тэрапеўтычным — 4,5, інфекцыйным — 3,5. Гэтыя кошты былі другімі сярод шпіталяў Беластоцкага ваяводства (максімальныя дзейнічалі ў Беластоцкай гарадской бальніцы). Аднак у 40,8 % выпадкаў сродкі за лячэнне паступалі з фонду страхавой касы і дзяржбюджэту, 34,2 % — аплачвалі хворыя, 25 % — тэрытарыяльныя самакіраванні. Пры гэтым штодзённая фрэквенвенцыя («напаўняльнасць») была адной з самых высокіх у ваяводстве. Сярэдняя працягласць знаходжання ў бальніцы складала: 16 дзён — пры аплаце тэрытарыяльнымі самакіраваннямі, 11 — пры аплаце з фонду страхавой касы і дзяржбюджэту, 9 — пры самааплаце. Сапраўды, адчувалася недастатковая забяспечанасць ложкавым фондам, але прыведзеныя факты можна тлумачыць у нейкай ступені і якасцю дапамогі, якая атрымлівалася, то-бок, аўтарытэтам стацыянара, а таксама эканамічным механізмам уздзеяння на стаўленне хворага да знаходжання яго ў бальніцы.

Гродзенская гарадская бальніца мела рэнтгенаўскі апарат (у Беластоцкім ваяводстве іх мелі 8 бальніц з 34), забяспечвалася медыкаментамі з мясцовых аптэк, а харчаваннем — па дамове з прыватнымі асобамі. Бальніца не мела ўнутранага рэгламенту. У справаздачы аб дзейнасці шпіталяў Беластоцкага ваяводства за 1938 год пісалася: «Гродзенская гарадская бальніца мае недахоп бялізны, ложкаў, патрабуе рамонту кухоннае абсталяванне. Неабходна правесці яе пашырэнне і будаўніцтва».

**Віктар Кошаль**

# Камчатка. Экспедыцыя, 2015 год. Спроба бэкпэкінгу

***Ад рэдакцыі***

*Кожны чалавек бавіць вольны час па-свойму. Аднаго разу Віктар Кошаль, з якім мы хочам пазнаёміць шаноўнага чытача, падчас адпачынку рушыў пешшу ў Петрапаўлаўск-Камчацкі. Свае прыгоды ён апісаў у дзённіку, які вёў у гэтай вандроўцы. Аўтар не проста апісваў падарожжа, а закрануў яшчэ і яго медыцынскі бок: Віктар Кошаль па прафесіі ўрач — у 1991 годзе ён скончыў Гродзенскі медыцынскі інстытут і працаваў па спецыяльнасці ў Беларусі, на Чукотцы і Камчатцы. Прымаў удзел у міжнароднай медыка-экалагічнай экспедыцыі «Паўночнае кальцо — 2006» і ў экспедыцыі РАН ІПЭЭ на Камчатцы ў 2011 годзе.*

Задумка дайсці пешкі ад Маніл да Петрапаўлаўска ўзнікла ў 2010 годзе. Цяпер, падчас адпачынку, я здолеў яе ажыццявіць. Праўда, як звычайна, не абышлося без праблем. Я хацеў знайсці аднадумцаў на сайце «Скиталец» , але праз кепскі інтэрнэт і недасканалае валоданне ім не атрымалася. Быў напарнік — адмовіўся. Ісці аднаму — авантура. Аднак слабы шукае апраўданне нявыкананай справе, а моцны — спосабы выканаць яе.

25 чэрвеня я рушыў у дарогу. Са спецрыштунку былі: фальшфеер (як сігнальная ракета: гарыць ярка, доўга і з моцным шыпеннем — але трэба трымаць у руцэ), сігнал паляўнічага, чатырохколавы вазок — каціць на ім заплечнік па прыбойцы, свісток — для адпалохвання мядзведзя і кап'ё — для барацьбы з касалапым, калі ўсё роўна нападзе. Паколькі мясцовасць ненаселеная, прадукты купіць няма дзе, а цягнуць з сабой нерэальна, то меркаваўся «бэкпэкінг» — хада ўлегцы, то-бок, есці ў дарозе тое, што дае прырода: дзічыну, рыбу, ягады, грыбы, арэхі, травы, карэнне і дары мора — марскую капусту, мідый, крабаў — калі пашанцуе. Для пачатку я вырашыў даляцець да Маніл, там парыбачыць са знаёмым паляўнічым (дарэчы, і земляком, яго завуць Аляксандр Журба), размяцца, праверыць рыштунак і рушыць далей.

**25 чэрвеня** — фальшстарт. Паколькі я ўрач, буду апісваць **медыцынскія аспекты** экспедыцыі. Я шмат працаваў фізічна, як звычайна, не хапала часу, і тры ночы запар я практычна не спаў, перагрузіўся і, калі ў аэрапорце падняў цяжкі заплечнік, штосьці раптам як кальне ў вобласці сэрца: ну ўсё, думаю, хлопец, прыплыў — інфаркт? Ніколі такога моцнага болю не адчуваў. Вярнуўся ў Цілічыкі ў бальніцу, абследаваўся — усё нармальна. Неўролаг сказала, што міяфасцыяльны сіндром (для расшыфроўкі — хвароба тых, хто мала рухаецца).

**26 чэрвеня** — старт. У абед я выйшаў з бальніцы. Падумаў, што трэба тыдзень адпачыць. Паехаў у аэрапорт забраць з багажу бутэрброды, каб не пратухлі. Пытаюся пра верталёт на Манілы — кажуць, першы паляцеў, зараз будзе другі. Па прылёце мы з Сашам парыбачылі на рацэ Айпын, правым прытоку Талоўкі. Рыбалка была цікавай. На невялікай пратоцы за 30 хвілін я злавіў на спінінг з дзясятак добрых шчупакоў. Мы перагарадзілі пратоку сеткай: ну, думаем, заўтра будзе многа рыбы. А назаўтра глядзім: сеткі няма — мядзведзь зацягнуў яе ў кусты, а рыбу з'еў. Потым трыбушу шчупака, бачу: у страўніку — цэлая мыш.

А найцікавей было на рацэ Каневаям. Стаю я на правым беразе, абрыў — метры 4, вады — метры 2, ветру няма, вада як люстэрка. Бегаю па беразе туды-сюды, закідваю розныя блешні і ажно падскокваю ад рыбацкага азарту. Пада мной, як на далоні, ходзяць чароды вялізных харыусаў і не



Паўвыспа Гавена, рака Японка. Лоўля арктычнага гальца.

звяртаюць на блешню аніякай увагі. Тады я лаўлю таўшчэзнага авадня, чапляю яго на кручок, кідаю ў ваду і адпускаю лёску. Авадзень, памалу варушачыся на плыні, падае на дно, і ўслед за ім на адлегласці сантыметраў 10 ідзе вялізны прыгажун харытон (як іх тут называюць), але не нападае, бо ён не галодны, а проста цікуе: што ж гэта там упала ў ваду? А ў мяне ўжо не толькі далоні, але і пяткі пачалі свярбець ад азарту. Вось жа яна, рыбіна — за 5 метраў відаць кожны плаўнічок! Паляўнічы азарт яе і згубіў. Я пацягнуў за лёску, рыбіна маланкай кінулася на здабычу і імгненна апынулася на беразе. Так за 10 хвілін я злавіў 4 рыбіны вагой каля кілаграма кожная.

Раён Пенжынскай губы вельмі складаны ў плане надвор'я. Там грунтоўныя прылівы — да 12 метраў — і, адпаведна, вельмі моцныя плыні, вятры, велізарныя водныя акваторыі з водмелямі, перакатамі (водмелямі з моцнай плынню) і вялікімі хаатычнымі хвалямі. Надвор'е можа змяніцца раптоўна, і за дзень — па некалькі разоў. Там, на вадзе, загінула шмат людзей.

**2—3 ліпеня** — вяртанне з Айпына. Трэба было падгадаць пачатак прыліву, каб вада закрыла стрэлку — доўгую водмель паміж рэкамі Пенжына і Талоўка, якая на некалькі кіламетраў сыходзіць у мора. Падгадалі ноччу, але на падыходах да стрэлкі ўсхадзіўся моцны сустрэчны вецер, лодку пачало заліваць, і Саша вырашыў павярнуць направа ў маленькую пратоку (куюл), каб там схавацца ад хваляў. Але не атрымалася: мы наляцелі на мель, лодку развярнула бокам да хвалі і пачало залівать. Велізарныя хвалі за некалькі хвілін разбілі б і лодку, і ўвесь наш рыштунак. Мы скокнулі ў ваду і рукамі перасунулі лодку на 50 метраў да куюла. Гэта было ранкам.

Мы развялі вялікае вогнішча з плаўніка, мокрую вопратку павыкручвалі і павесілі сушыцца. Быў вельмі моцны прыліў, вада падкралася да вогнішча, і я перанёс яго далей. Мы там кукавалі суткі. Дзьмуў моцны заходні вецер, не было ніводнага камара — усе пахаваліся. Але яны з'явіліся пад ноч: вецер сцішыўся. Лодка стаяла на сушы, за метраў 100 ад вады. Гразь — дзе па шчыкалатку, дзе па калена, а дзе і без дна. Мы накідалі плаўніка і хадзілі па ім. Па ім жа сапхнулі лодку бліжэй да вады, каб з прылівам рушыць далей.

**4 ліпеня** атрымалася дабрацца да Маніл. Я развітаўся з Сашам і рушыў на базу вучоных з



Рака Японка. Палонная ліса.

Масквы і Петрапаўлаўска. Яны даследавалі раку і рыбу. Я атрымаў ад іх навуковую задачу: калі дарогай будзе трапляцца рыба, фатаграфаваць яе і ўзважваць, адразу і пасля трыбушэння. Надышоў час рушыць на поўдзень. Я вырашыў, што пробным маршрутам будзе візіт да манільскіх аленяводаў, якія знаходзіліся ў раёне паўвыспы Мамет. Амаль тыдзень вецер не даваў пераадолець стрэлку, але мне пашчасціла — ішло судна з грузам у бухту Чамурнаўт.

**12 ліпеня** — старт у бухту Чамурнаўт на параходзе «Грузавы 5». За суткі мы прайшлі 250 кіламетраў. Сталі на якар за некалькі кіламетраў ад берага і яшчэ суткі стаялі, чакаючы высокага прыліву, каб з ім падысці да берага бухты на разгрузку. У час адліву вада адыходзіць ад берага больш, чым на кіламетр, і караблі стаяць на сушы, можна без праблем разгружацца. Каб зноў выйсці ў мора, трэба чакаць суткі ці болей высокага прыліву. Экіпаж з трох чалавек і капітан былі вельмі добразычлівымі. Час прайшоў хутка. На Чамурнаўце я пазнаёміўся з супрацоўнікамі метэастанцыі Сяргеем і Кірылам ды з геафізікамі, якія разгружалі салярку з караблёў. Спачатку, для размінкі, я вырашыў схадзіць за 12 кіламетраў у Ракінікі. Гэтае сяло ліквідавалі ў 1982 годзе. Цяпер там жыве сям'я — Дзіма і Соня: улетку нарыхтоўваюць рыбу і сена, а ўзімку трымаюць коней для аленяводаў.

**14 ліпеня.** Я стартануў пасля абеду без вазка. Прайшоў кіламетраў 5, упаў на купіну і хвілін 20 ляжаў, не мог варухнуцца — так моцна стаміўся.

Заплечнік важыў кілаграмаў 25. У Ракініках я быў 3 дні: сена касіў, на рыбалцы дапамагаў. Мы пракаціліся на сабачай запрэжцы па дровы. Я зразумеў, што ісці на поўнач да аленяводаў нелагічна — на поўдзень бы рушыць. Падарыў Дзіму добрыя, але цяжкія горныя боты. Яны далі мне пластыкавыя тапачкі і каля кілаграма сушанага мяса і рыбы.

**19 ліпеня** я вярнуўся на метэастанцыю. Па дарозе ўпершыню сытна пад'еў марошкі, хоць яна яшчэ была чырвоная, няспелая. Балгаркай разрэзаў вазок і пашырыў яго да 1 метра з дапамогай уставак з алюмініевай трубы. Вазок — 4 надзіманыя колы ад дзіцячага ровара, звараныя з поліпрапіленавых труб дыяметрам 32 міліметры. Але ён аказаўся вузкі — падаў на бок на кожным пагарачку. Сяргей даў мне балончык з перцавым газам — бараніцца ад касалапых — і салёнага сушанага мяса.

**21 ліпеня** рушыў на паўднёвы ўсход да геолагаў. Быў анекдот: страляў з рагаткі, метраў з 8, па курапатцы, патрапіў з шостага разу, яна пакрыўдзілася і зляцела. У геолагаў вялікая база, яны займаюцца сейсмаразведкай. Я дайшоў да іх увечары. Прайшоў 14 кіламетраў па навігатары і 25 — фактычна (з улікам пагоркаў ды паваротаў дарогі).

**22 ліпеня** пайшоў на базу да аленяводаў на раку Ткаправаям, якая знаходзілася за 3 кіламетры — гадзіна хады. Там таксама жыве сям'я: Міша, Вера і іх дзеці Аляксей, Ігар ды аднагадовы хлопчык Славік з тоўстымі шчочкамі, пакусанымі камарамі. Яны нарыхтоўвалі рыбу. Я гасцяваў у іх некалькі дзён, дапамагаў з рыбалкай, дровамі, вадой. Рыбу фатаграфаваў і ўзважваў. Яе было многа: кета, гарбуша, кунджа, нерка, харыус, кіжуч. Лавілі сеткай штук па 30 за дзень — гэта каля 100 кілаграмаў. Цяпер пробным маршрутам стаў паход да табуна, які знаходзіўся ў раёне бухты Падкагернай. Мне далі ездавога сабаку па мянушцы Бакс з наказам пакінуць яго ў табуне.



Бухта Чамурнаўт. Перакачка дызпаліва.

**26 ліпеня**. Правільна кажуць: самая вялікая перамога — гэта перамога над сабой. Я планаваў старт раніцай, але ішоў дождж, і не хацелася нікуды выходзіць з цёплага намёта. Аднак я прымусіў сябе і пасля абеду рушыў. Адразу сустрэў аленявода Мікалая на кані, які ехаў на базу па цыгарэты. Ён выглядаў стомленым, і я вырашыў яго доўга не распытваць пра дарогу, месцазнаходжанне табуна і маршрут яго руху. А дарэмна: на працягу наступных 33 дзён я шукаў у тундры 1700 аленяў, як іголку ў стозе сена, хоць наіўна думаў, што падрымуся на самую высокую ў тым раёне гару і адразу пабачу табун. Спачатку я ішоў па нейкім падабенстве дарогі. Трапляліся сляды каня, аленяў і аленяводаў.

**27 ліпеня.** Дарога вывела мяне да ракі і згубілася. Рака літаральна нашпігаваная кетай. Хацеў здабыць рыбіну кап'ём, але яны разбягаліся, блізка не падпускалі. Блешню ігнаравалі. Ставіць сетку было рана, бо абед, чакаць вечара — без сэнсу, трэба рухацца далей. Некалькі кіламетраў прайшоў па рацэ. Гэта зусім кепска, бо яна моцна пятляла, кожныя 500 метраў — пераход убрад. Потым з'явілася суцэльнае густое кустоўе, мядзведжая сцежка наўпрост па кустах і сям'я мядзведзяў-рыбаловаў на перакаце, метраў за 150. Я вырашыў на іх не нападаць, сышоў налева ў тундру. Заплечнік на спіне, ззаду вазок, які адчайна чапляецца за ўсе купіны і кусты, гарачыня, пот залівае вочы. Камарыхі. Сляпні. Я натыкнуўся на старую дарогу.

**28 ліпеня.** Па дарозе я дайшоў да хаткі аленяводаў. Яна стаяла на пагорку ў лесе. Улегцы схадзіў на разведку. Дарога брала крыху ўлева. Але я вырашыў, што яна вядзе ад першай хаткі да другой у вярхоўі Аранаваяма. Там былі прадукты. Вярнуўся, зварыў кісель, потым макароны. З сабой узяў трошкі макаронаў і 4 шклянкі цукру. Злавіў птушаня куліка. Фота на памяць. Яму пашчасціла, што я не быў галодны і не з'еў яго.



Сяло Ракінікі. «Собачкі, везущие хворосту воз».

**29 ліпеня.** Прайшоў кропку ўчарашняй разведкі. На наступным пагорку дарога ператварылася ў сейсмапрофіль. Але ўсё адно гэта было лепш, чым ісці па купінах і кустах. Мінуўшы геадэзічны знак № 57 на вышыні 206 метраў па мапе (202 па навігатары), я начаваў на рацэ Кічанваям. Паставіў дробную сетку.

**30 ліпеня**. Рыбы няма. Падцягнуў спіцы на вазку. Падняўся на пагорак. Стала канчаткова зразумела, што гэтая дарога мне не падыходзіць, і я збочыў направа. Пайшоў наўпрост — дакладней, напралом. З якім замілаваннем згадваўся мне гэты ледзь заўважны след трактара, дзе хоць неяк можна было каціць вазок з заплечнікам! Купіны, яры, кусты, рэкі, балоты. Моцная спёка. Сабака намагаецца нырнуць у любы цень. Суцэльная паласа перашкод. І як узнагарода — выпаўзаеш на чарговую 2-метровую тэрасу і мордай твару (у прамым сэнсе) падаеш на велізарную паляну марошкі. Ягад столькі, што няма дзе ступіць. За вечар і раніцу я з’еў 13 поўных жменяў. Вельмі цяжка ісці. Пакінуў там лішні груз — рагатку, запасныя газавыя балоны і г. д. — каля кілаграма.

**31 ліпеня.** Чысцец. Малюсенькі кружочак пекла. Раніцай я нахіліўся і жорсткім паясным рамянём нацiснуў на піпсель балончыка з пярцовым газам у левай кішэні штаноў. На самым блізкім балоце вывернуў кішэню і прамыў тканіну і скуру. Усё бессэнсоўна — наймацнейшая пякота, ад якой я перыядычна дзіка роў і лямантаваў. Добра, што хоць менш свістаць трэба было, таму што, калі я ішоў па кустах, мог сутыкнуцца з мядзведзем нос у нос, і таму перыядычна дзьмуў у свісток.

Я ўпёрся ў страшэнна цяжкапраходны ўчастак, дзе чаргаваліся густое кустоўе і гразкія балоты, якія перыядычна, праз небяспеку праваліцца, даводзілася абыходзіць, прадзіраючыся цераз кусты. Я вымушаны быў збочыць налева, вярнуцца ў даліну ракі і ісці далей па мяжы кустоўя і тундры. Сонца падыходзіла да зеніту. Спёка стаяла градусаў 28. Вецер — ледзь-ледзь. Да ракі 1700 метраў па навігатары. Тундра. Зрэдку — кусты па калена. Схавацца ад сонца няма дзе.

Яшчэ адна хіба ў экіпіроўцы — не было біклагі ці хаця б бутэлькі з вадой. Калі да ракі заставалася 1000 метраў, я зваліўся на чарговую купіну і не мог устаць — зарабіў цеплавы ўдар. Прытомнасць не страчваў, але ўсё было як ватнае і быццам у тумане. Я пасікаў на пальчаткі, паклаў іх на галаву — трошкі палегчала. Потым стаў на карачкі, пастаяў так хвілін 5, пасля на заплечнік запоўз, затым паставіў яго вертыкальна, стаў каля яго на калені і, нарэшце, падняўся і прыняў вертыкальнае становішча. Пажаваў салёнага сушанага мяса, сабаку даў — ён не ўзяўся есці. Дыхаў я каля 100 разоў за хвіліну.

Заплечнік на спіну і — да выратавальнай ракі. З гэтых 1000 метраў кожны быў прачуты, але я крочыў бесперапынна. Дайшоўшы да ракі, распрануўся і скокнуў у ледзяную ваду. Вось яна, асалода! Глыбіня — каля метра. Пасля я начапіў на кап’ё лёску з блешняй (спінінг падарыў Мішавым дзецям) і цэлую гадзіну спрабаваў злавіць хоць аднаго харыуса, якія нахабна шнарылі па рацэ. Але марна: яны былі абажраныя камарамі. Добра, думаю, прайду яшчэ трошкі і ўвечары сетку пастаўлю дробную. Яшчэ раз пакупаўся і рушыў далей. Дарогай згубіў дробную сетку — выпала з бакавой кішэні. Вырашыў не вяртацца.

**1 жніўня** рушыў уверх па рацэ. Тут, бліжэй да водападзела, характар тундры змяніўся: трава стала вышэйшай, і з’явіліся шырокія палосы рэдкага ўчэпістага кустоўя — лазы з паўметра ростам (калі б быў метр, то пусты вазок давялося б праносіць на руках). За гадзіну я прайшоў 887 метраў. Гляджу — наўпрост угору, сярод кустоўя, ідзе прамая, як страла, паласа зялёнай травы шырынёй метраў 100 і даўжынёй метраў 800. Вырашыў пайсці па ёй і пашукаць праход сярод кустоў.

Чым далей я ішоў, тым вышэй падымаліся кусты па баках. Нарэшце ўпёрся ў сцяну хмызняку, метры 3 вышынёй. Паспрабаваў знайсці праход — марна: суцэльная сцяна.

Але я прыйшоў сюды не дарма: на вадацёку, сярод гразі пабачыў найпрыгажэйшую смарагдава-зялёную клумбу нейкай расліны, у цэнтры якой віднеліся невялікія нябесна-блакітныя кветачкі. Проста не адвесці вачэй. І пах — не перадаць словамі. Палюбаваўся. Сфатаграфаваў, але (і гэта яшчэ адна хіба ў экіпіроўцы) фотаапарат просценькі, і здымак перадаў адсоткаў 10 усёй прыгажосці.

Я вярнуўся назад і ўзяў лявей, на седлавіну. Калі раніцай глядзеў у бінокль, там кусты былі не такія густыя. Зірнуў па навігатары: да Аранаваяма 3 кіламетры, а да ракі Якякваям (у перакладзе з каракскай мовы — рака Чаяч'я) — 1. Я вырашыў спусціцца на Чаяч'ю, па ёй уверх — да гары Агільчыкінан і з яе пабачыць аленяў (наіўныя мары). 1000 метраў спуску да ракі прайшло за 3 гадзіны 40 хвілін. Гэта быў трайны пранос: я адносіў на метраў 100 заплечнік, як арыенцір уторкваў там кап'ё і вяртаўся па вазок, пасля з вазком ішоў да заплечніка — то-бок фактычна прайшоў 3000 метраў.

На гэтым водападзеле вельмі шмат марошкі. Я са смехам згадваў, як пару гадзін таму думаў пра тое, як ненавіджу гэтыя лазовыя кусты. Цяпер успамінаў пра іх з лёгкім смуткам. Я зразумеў, што кусты нельга ненавідзець. Іх, як і ўсю навакольную прыроду, трэба любіць. Бо гэта ж іх дом, і яны выраслі тут, як атрымалася. Цяпер я змяніў тактыку: як толькі ўлазіў у такія нетры, дзе не адразу мог зразумець, як жа праз іх прайсці, я спыняўся і размаўляў з імі. Казаў, якія яны прыгожыя, як добра, што яны тут выраслі і даюць мне магчымасць імі палюбавацца і выпрабаваць сябе, прайшоўшы праз іх. На гэта сыходзіла некалькі хвілін: я паспяваў адпачыць, агледзецца і спакойна пайсці далей. Чаяч'я рака вялікая. На павароце я перагарадзіў яе сеткай на глыбіні 1 метра, хоць не спадзяваўся, што нешта злаўлю, бо ніжэй быў даўгі, дробны і круты перакат.

**2 жніўня.** Раніцай — прыемны сюрпрыз: 2 кеты кілаграмы па 3. Пакуль я разбіраў рыбу і гатаваў сняданак, два разы на пах зверху падыходзілі мядзведзі. Але мы іх не бачылі — кустоўе было вельмі густым. Сабака брахаў, я свістаў, і мядзведзі сыходзілі. Мы паелі і пайшлі за імі: спачатку берагам, да адвалу наеўшыся бружмелю, потым скокнулі ў раку. Пачаўся дождж, які не спыняўся да 2 гадзін ночы. Я прамок наскрозь. Распрануўся і надзеў на голае цела вадалазны швэдар Сярожы Горына — майго сябра, навуковага супрацоўніка НДІРА з Масквы.

Калі я ўцягнуўся ў каньён, рух рэзка запаволіўся. Пачаўся трайны пранос. Я зноў пачаў мерзнуць, бо калі заплечнік быў на спіне, ён грэў, а калі я зняў яго, каб ісці за вазком, мокрая спіна імгненна пачала ледзянець. Я дайшоў да прыжыма — месца, дзе сыходзяцца берагі і па беразе прайсці нельга: трэба альбо плысці альбо абыходзіць гэты ўчастак верхам. Глыбіню, большую за 2 метры, абысці немагчыма — стромыя скалы. Паколькі я змёрз і заледзянеў, то вырашыў гэты прыжым не пераплываць, каб не падхапіць пнеўманію.

У разведку пайшоў без заплечніка, бо калі б высветлілася, што верхам абысці немагчыма, давялося б вярнуцца трошкі назад, разбіць лагер, абсушыцца, абагрэцца і назаўтра фарсіраваць гэты ўчастак уплаў. Я падняўся направа па вельмі крутым асыпку, метраў на 70, потым мяне чакала метраў 100 кустоў і спуск на раку траверсам (калі вельмі круты спуск ды пад'ём і нельга рушыць напрасткі, то ідзеш зігзагамі). Далей — яшчэ метраў 150 угару па найпрыгажэйшых шыверах (гэта больш, чым парог, але яшчэ не вадаспад), камянях і водазлівах на тэрасу правага берага. Улегцы я прайшоў бы гэты шлях хвілін за 15, а з трайным праносам выйшла гадзіны 3. А ўвесь каньён даўжынёй у 1500 метраў па навігатары мы прайшлі за 7 гадзін.

Я стаў на тэрасу а 20-й гадзіне. Месца для начлегу аказалася вельмі невыгодным: густая высокая трава, шыпшына, дождж і адсутнасць сушняку. Але выбару не было — хутка сцямнее. Я знайшоў сухую палку, настругаў з яе трэсак і расклаў велізарнае вогнішча з сырой вольхі і лазы. Зварыў рыбу, і мы паелі. А 2-й гадзіне ночы, калі спыніўся дождж, я высушыў на сабе ўсю вопратку. Намёт вырашыў не ставіць, пакуль не развіднее. Паліў вогнішча: сек дрэвы метры па 4 і кідаў іх цалкам у агонь. Гадзіне а 3-й ночы зверху падышлі мядзведзі. Падышлі блізка, бо сабака проста кідаўся на іх. Я пасвяціў налобным ліхтарыкам — куды там, нічога не відаць (яшчэ адзін недагляд у

экіпіроўцы — патрэбны добры ліхтар). Давялося акрамя свісту і крыкаў пусціць у бок мядзведзяў маленькую ракету (сігнал паляўнічага). Усё гэта доўжылася хвіліны 3. Потым Бакс хвілін 5 пабурчаў і супакоіўся. Жывёлы сышлі.

**3 жніўня**. Днёўка. Развіднела. Я нацягнуў дзве пары пальчатак, выдраў паляну сярод шыпшыны і паставіў намёт. І своечасова: пачаўся дождж. Я заваліўся спаць. Прачнуўся ў абед. На месцы вогнішча — вялізная куча распаленых вуглёў метра паўтара дыяметрам: можна было цэлага аленя засмажыць. Мы зноў паелі, я нарыхтаваў дроў. Вазок паламаўся там, дзе быў пашыраны — на стыках труб. Я выразаў 9 палачак і ўсе трубы шыніраваў, увязаў вяровачкай.

**4 жніўня**. Пад'ём — а 9-й, выхад — у 11.30, прыпынак — 19.30, адбой — 00.14. Рэкордны дзень: за 8 гадзін мы прайшлі 2430 метраў па навігатары (фактычна — 6 кіламетраў). Гэта быў наш мінімальны фарсанг — дзённы пераход каравана. Спачатку каля гадзіны мы ішлі па тэрасе правага берага, прычым трава і баршчэўнік месцамі былі вышэйшыя за рост чалавека. Потым цясніна звузілася, пачаўся другі каньён. Мы дайшлі да прыжыма, метраў 20 трэба было адолець уплаў, але дзьмуў моцны халодны вецер. Я вырашыў зноў абысці верхам.

Я пайшоў з заплечнікам. Аднак тут было значна вышэй і цяжэй, чым заўчора. Ледзь атрымалася падняцца на тэрасу. Я патрапіў наўпрост на вялікую мядзведжую лежню. Агледзеўся. Правы бераг значна ніжэйшы і кіламетры праз паўтара можна выходзіць наверх: пачынаецца тундра. Спуск таксама цяжкі. Я спусціўся за 60 метраў вышэй за вазок. Зноў абыходзіць верхам нелагічна. Дзявацца няма куды. Распрануўся і — у ваду. Пасля нацягнуў швэдар на голае цела, але праз 20 хвілін зняў — горача. Пачаўся каменны хаос. Ісці можна было толькі па вадзе альбо, калі глыбока, скакаць па камянях памерамі ад метра да метраў 5. На правым беразе ланцужком вадаспадзікаў сцякаў па невялікім конусе з камянёў, пакрытых імхом, раўчук. Ён гучаў, як мелодыя з хрустальных званочкаў. Хвілін 5 я глядзеў і слухаў. Мы пайшлі крыху далей. Сустрэлі маленькую качачку. Я з ёй пагаманіў, зняў на відэа, як яна плавае, але тут прыбег Бакс і пагнаўся за ёй. Калі ён вярнуўся, я правёў з ім тлумачальную размову пра бессэнсоўнасць ганяцца за дарослымі птушкамі, але ён не зразумеў.

Сталі на начлег каля вялікага куста кедрача, які гады 2 таму ў паводку прыбіла да велізарнага каменя і ў якога злупілася ўся кара аж да драбнюткіх галінак. Так я знайшоў цудоўныя сухія, як порах, дровы. Наогул, гэта была найлепшая мая «кватэра». Першы камень, дзе я зняў заплечнік, — вітальня; на другім, дзе паставіў намёт, — спальня; і трэці камень — кухня, прычым з дзвюма пасудзінамі і агменем. У паводку на вялікім плоскім камені вада высвідравала з дапамогай дробных камянёў тры нішы. Адну — наскрозь, яна была сухой і з'яўлялася агменем, астатнія дзве — пасудзіны з вадой, літраў па 50. Сцямнела, і я адразу заўважыў, што моцна стаміўся, бо спатыкаўся на камянях і атрымаў траўму, калі адломваў галінку: не ўтрымаўся і носам ударыўся аб ствол кедрача. Адразу пацякла кроў, але нядоўга. І яшчэ была смешная сітуацыя: у цемры я не здолеў знайсці, дзе роўна паставіць міску, і давялося прытрымліваць яе, пакуль Бакс не паеў. Добрае месца, калі прыйсці сюды групай. У гэтым агмені можна засмажыць цэлага аленя. А ўвогуле, на праходжанне двух каньёнаў — 4930 метраў па навігатары — у мяне сышло трое сутак (два пераходы плюс днёўка).

**5 жніўня** мы падняліся налева ўгору і пайшлі правым берагам па тундры. Гэта было ўжо весялей. Адолелі 11 кіламетраў. У мяне моцна балелі мышцы пасля ўчарашніх скачкоў па камянях, дый горача было. Я вырашыў з'есці паўснікерса. Дапамагло. Упершыню сабраў з дзясятак падбярозавікаў. Забаўная думка: калі дзяцей з сярэдняй паласы Расіі папрасіць намаляваць грыбы ў лесе, яны намалююць вялікія дрэвы і маленькія грыбы, а дзеці з Поўначы — наадварот. І сапраўды, тундравыя грыбы было відаць здалёк. Начлег — на вытоку ракі Якякваям на вышыні 469 метраў. Дроў не было. Я выкапаў яму, з наветранага боку выклаў вал з камянёў і зямлі — атрымалася завіхрэнне ветру, кшталту паддувала. Замест дроў я выкарыстоўваў ягель і мох, за 2 гадзіны (замест адной) прыгатаваў вячэру. Уначы было холадна.

**6 жніўня.** Я вырашыў не губляць час: папіў вады з цукрам, з'елі з сабакам па кавалачку мяса ды рыбы і — на перавал. Мы ўжо ў басейне ракі Падкагернай. Быў прыкол: гляджу — злева, метраў за 50, куча пяску. Адразу думка — самазвал высыпаў. Наступная думка — самазвалы тут не ездзяць. Падышоў паглядзець — высветлілася, што

мядзведжы бярлог. Па дарозе ягад не было, толькі ў адным месцы з'еў жмені 3 талакнянкі, таму, калі ў лагчынцы за метраў 200 ад перавалу ўбачыў невялікую палянку няспелай дробнай марошкі, то з'еў усю, жмені 3, прычым разам з чашалісцікамі, як мядзведзь. Прайшлі 13 кіламетраў. Начылі на вышыні 564 метраў. Вогнішча я не разводзіў ні ўвечары, ні ўранні: няма дроў, ды і есці няма чаго.

**7 жніўня.** Падняліся на гару Агільчыкінан — 749 метраў (748 па навігатары). Сюды прыходзяць: мы пабачылі выкладзеныя з каменю кругі і выдраны геадэзічны знак (хтосьці добра папрацаваў, знак жа быў забетанаваны). Хвілін 10 я глядзеў у бінокль — на жаль, нікога. Пакінуў запіску і цукерку, і мы рушылі ўніз. Вырашыў выйсці на сутокі Падкагернай і Ратэгіваама ды там паставіць сетку. Трэба было з гор вырвацца на аператыўную прастору тундры. Увесь шлях зверху не прыглядаўся і павярнуў не туды — налева, а трэба было направа. Я патрапіў у такі густы лес, што 2 разы залазіў на алешыну метраў 5 і аглядаўся, дзе лепей прайсці. У прамывіне сеў адпачыць, і ў галаву прыйшла такая думка: калі штосьці здарыцца, так тут і застанешся, не адшукаюць ніколі. Аднак я адпачыў і праз паўгадзіны выбраўся ў тундру. Тут — царства марошкі, шыкшы і дурніц. Проста бязмерная колькасць. **Медыцынскі аспект:** сюды трэба накіроўваць на лячэнне людзей з запорам. У сярэднім за дзень я з'ядаў 1,5 літра ягад: марошка, дурніцы, шыкша, бружмель, рабіна, брусніцы, княжаніка, талакнянка. Вынік — штодзённы «ягадны» стул, як у мядзведзя, а то і 2 разы.

**8 жніўня —** марш-кідок па тундры да сутокаў рэк. Я назіраў цікавую атмасферную з'яву: халоднае і сырое марское паветра ў выглядзе туману паўзло нізка над зямлёй двума языкамі, па вусці Падкагернай і праз вярхоўе Ратэгіваама, а тут сухое і цёплае паветра яго «з'ядала». Натуральна, туман даходзіў да пэўнага месца і раставаў на вачах. Сутокі рэк сустрэлі нявetла. Нас паглынуў туман — бус, як яго называюць. Моцны вецер у твар і драбнюткія кроплі вады, якія ляцяць гарызантальна над зямлёй. Дажджу няма, але ўсё навокал мокрае. Я паставіў сетку. Праз гадзіну — кета з ікрой і самец гарбушы. Адразу ж зладзілі «свята жывата».

**9 жніўня**. У 4 гадзіны 30 хвілін зверху, па рацэ, падышоў мядзведзь. Я кінуў дроў у вогнішча, пасвістаў, пакрычаў і — спаць. Раніцай зняў сетку.




Метэастанцыя базы Чамурнаўт.

Улоў — 2 кеты з ікрой і самец гарбушы. Пакуль я гатаваў юшку, два разы знізу набягалі мядзведзі.

Далей я вырашыў ісці па тундры, каб не размінуцца з аленяводамі. Падняўся налева на сопку, сеў зірнуць у бінокль. Гляджу — на Падкагернай рыбачыць той мядзведзь, які а палове на 5-ю бег да нас на юшку. Але малайчынка, зразумеў, што «халявы» не будзе, пайшоў сам прамышляць. Гляджу на Ратэгіваам — двое людзей сядзяць на беразе. Узрадаваўся. Але далёка было, кіламетры 2. Разоў 5 праціраў і вочы, і шкло, пакуль не лёг, локцямі не ўпёрся ў зямлю, каб ветрам не хістала і не ўпэўніўся, што гэта сядзяць мядзведзі і пра нешта гамоняць. Начылі мы на перавале ад сярэдняй плыні Ратэгіваама ў бок мора. Адзін з экстрэмальных начлегаў. Пад ноч вецер сцішыўся.

**10 жніўня** пад раніцу ўсхадзіўся вецер, моцны, з парывамі. Я думаў, што зламае дугі і заваліць намёт: усё хадзіла ходырам. Але абышлося. Дарогай з'еў пучок дзікай цыбулі. Пачынаючы ад гэтага дня я пачаў пастаянна есці кедравыя арэхі — альбо сырымі, альбо ля вогнішча падсушваў. Ну, і здзейснілася мая мара: я выйшаў да мора, запрог Бакса і ён з гудзеннем 5 кіламетраў цягнуў вазок з заплечнікам, часам дакорліва пазіраючы, як я іду і пасвістваю. Мы сталі на беразе ў маленькай «кішэні», куды не даставаў прыліў. Я злазіў угору, на абрыў вышынёй 68 метраў. Нос у нос сутыкнуўся з суслікам, але пацалавацца не паспелі — ён скокнуў у нару. Аленяў не відаць. Я зрабіў ветрахоўную сценку з бочкі і плаўніка. Расклаў вя-

лізнае вогнішча. У гадзіну ночы прачнуўся — вада хвошча па намёце, выскокваю — а гэта вецер зрывае верхавіны хваляў: прыбой за 10 метраў.

**11 жніўня** — новы **медыцынскі аспект:** калі падымаў заплечнік, моцна разануў боль у вобласці левага пахвіннага кольца. Памацаў — кілы няма, значыцца расцяжэнне ці надрыў звязак. Сітуацыя цікавая, адразу ў галаве мільгануў ланцужок думак: працягнуць нагрузку — магчымая пахвінная кіла — магчымае ўшчамленне — далей, без аперацыі, смерць ад перытаніту на працягу 48 гадзін. Перспектыва няправільная, лепш — поўны спакой, 1—2 тыдні пачакаць, пакуль загаіцца. Але вось есці — няма чаго.

Я вырашыў вярнуцца ў бухту Падкагерную да тых дзвюх хатак, якія заўважыў учора ў бінокль. Гэта 6—7 кіламетраў. Бакс пацягнуў вазок назад. Надвор'е кепскае: вецер, нізкія аблокі. Гляджу — у іх разрыў у бок мора. Раптам з'яўляецца «зуб дракона» — выспа Енгалычва. Разрыў рухаецца далей, і з'яўляецца «мядзведзь, укушаны ў нос пчолкай» — мыс Бажадомава. Я прайшоў міма стаянкі аленяводаў на невялікай рачулцы. Падняўся на пагорак, насупраць касы. Размясціўся ў маленькай хатцы 3 на 3 метры. Я думаў, гэта хатка аленяводаў і тут мяне, як звычайна, чакаюць харчы. Але не, гэта была даўно кінутая метэастанцыя. Дах дзіравы, падлога напалову разабраная. Побач стаіць 40-метровая мачта, якая перакрывілася і на якой круцяцца верхавіна і флюгер. Што здолеў, я адрамантаваў. Паставіў усярэдзіне намёт. Наклаў эластычным бінтам тугую павязку на левую пахвінную вобласць. Правёў рэвізію прадуктаў: шклянка цукру, 5 супавых пакецікаў, грам 300 сушанай рыбы і мяса, столькі ж ледзянцоў і паўтара снікерса. Надзея толькі на рыбалоўны промысел.

**12 жніўня.** Паставіў на раку сетку. Позна выйшаў. Ісці, як высветлілася, у два разы болей, чым я думаў, таму вярнуўся прыцемкам. Але было весела: ненавязлівы сэрвіс ад чаек, на літаралі (прыбярэжнай паласе марскога дна, якая агаляецца ў час адліву) я ледзь не наступіў на велізарную, кілаграмы 2, камбалу. Свежая. Толькі выдзеўбаныя вочы і кішкі — трыбушыць не трэба. Ніколі не думаў, што камбала такая смачная. Мяса далікатнае, лепшае за чарапашае. Як жэле, можна дадаць перапёлчыных яек, узбіць міксерам — і гатовы бялковы кактэйль для культурыстаў. Праўда, ішоў дождж, і пакуль я гатаваў, печка стаяла на дварэ, таму я ўвесь прамок. Спаць лёг у мокрым, раніцай прачнуўся ад холаду. Усё, што было, на сябе нацягнуў, але сагрэцца не атрымалася.

**13 жніўня.** Давялося падняцца і раскласці вялікае вогнішча. Я сагрэўся, абсох і заняўся будаўніцтвам. Паклаў у куце кавалак падлогі, засыпаў яго камянямі, паставіў печку, зрабіў адтуліну ў даху, паставіў трубу, замазаў яе глінай вакол і дах залатаў кавалкамі пластыку (з прыбойкі прынёс). Мы пайшлі правяраць сетку, а там — маленькая камбала. Пераставілі метраў на 400, вышэй па рацэ. Сёння я з'еў літры 2 княжанікі, марошкі, дурніц і шыкшы, на вячэру — камбала 50 грам, грыбы, марская капуста. Ну, і кедравыя арэшкі грыз увесь час. Дарэчы, сабака есць ягады, цікава было за ім назіраць. Аказваецца, ён арыентуецца толькі на пах. І мне не трэба было сцерагчыся яго як канкурэнта, асабліва праз княжаніку. Бакс прасоўваў нос да вызначанай на пах ягады, хоць праходзіў за 10 сантыметраў ад суперскіх буйных ягад. Пра княжаніку — асобная размова. Ніякую ягаду з ёй не параўнаць. Ну, проста чароўныя пах і смак.

Дарэчы, пра пах — новы **медыцынскі аспект**. Дакладней, бізнес-план. Тутэйшае паветра трэба запампоўваць у балоны і прадаваць у мегаполісах. Пахаў — вялікая разнастайнасць. Асабліва добра ў тундры ў сонечны дзень, калі дзьме лёгкі ветрык. Спускаешся ў лагчынку, падаеш на купінку, і — пайшла ароматэрапія. Я практыкаваўся тут у распазнаванні пахаў. Навучыўся адрозніваць карлікавую бярозу, марошку, дурніцы, княжаніку, чабор, драсён птушыны. Дарэчы, драсён птушыны вельмі смачны, з ядомымі суквеццямі ў выглядзе ружовых каласкоў. У вярхоўі Падкагернай, недалёка ад перавалу, я наеўся яго колькі хацеў.

**14 жніўня.** Пайшлі правяраць сетку. Іду, а ногі як ватныя: ну ўсё, думаю, бялковае галаданне. Але я зняў павязку і пабег без праблем. Высветлілася, што павязка была занадта тугая і пераціскала абедзве сцегнавыя артэрыі. Сетка аказалася абсалютна пустой, толькі забітая водарасцямі. Аднак ваўка ногі жывяць. Мы знайшлі камбалу з далоньку (падарунак ад чаек), на рацэ — пагрызеную кету і гарбушу (падарунак ад мядзведзяў). І на адваротным шляху на літаралі — камбала кілаграма паўтара, і на рацэ — цэлая гарбуша кілаграмы на 2. Карацей, знайшлі кілаграмаў 6 рыбы. Паколькі стала зразумела, што аленяводы адсюль сышлі, трэба было вяртацца на раку Ткаправаям і шу-

каць іх там, таму лішкі рыбы я вырашыў завяліць у якасці харчоў на адваротны шлях.

**15 жніўня.** Не спаў цэлую ноч: вецер з мора ператварыўся ў шторм, усё трэслася, выла, грукатала і падала. Мы пайшлі правяраць сетку. Калі праходзілі вусце ракі, з'явілася нядобрае прадчуванне, таму што рака цалкам змяніла рэчышча. Гэта аказалася праўдай: на месцы сеткі вымылася велізарная яма, увесь рэльеф дна змяніўся, сетку як карова языком злізала, разам з забітымі ў грунт каламі і прывязанымі камянямі. Зрабілася трошкі сумна. Адна надзея на чаек. І дакладна, на літаралі, справа ад касы, чайкі падрыхтавалі нам 5 вялікіх камбал.

**16 жніўня**. Сеткі няма, мы ператварыліся ў чайказалежных камбалаедаў. Зноўку пашчасціла — 5 вялікіх камбал. На гэтым бугры гадоў 30 таму было цэлае мястэчка. Цяпер засталася маленькая хатка і 6 травяных курганоў. Кожны курган — гэта зарослы зруб. Каля аднаго зруба ляжаў чыгунны кнехт з нейкага карабля. Карцела яго забраць як сувенір, але важыў ён кілаграмаў 100. Вакол печкі я разгарнуў цэлы сушыльны цэх. Зверху на палачках павесіў камбалу. На самой печцы на вялікай блясе падсмажваліся шышкі. Побач з печкай у вялікай чыгуннай ступцы дасушваліся арэхі. А каля трубы ў чыгунку сохла марская капуста.

**17 жніўня**. Гляджу ў бінокль: уніз па рацэ, наўпрост у накірунку нашых «камбальных градак» ідзе вялізны мядзведзь. Да «градак» яму кіламетра паўтара. Мы хутка сабраліся і пайшлі адваёўваць камбалу, але дарэмна стараліся: ні камбалы, ні мядзведзя.

**18 жніўня**. На літаралі, справа ад касы, мы знайшлі 3 камбалы. Мала. Дай, думаю, схаджу налева ад касы, па дэльце ракі, у бок мора. Там заўсёды многа чаек сядзіць, і я вырашыў асабіста падзякаваць ім за камбалу. Пакуль ішоў, знайшоў дзве добрыя камбалы. Мы перасеклі дэльту. Шырыня — метраў 400. Вады — 10—30 сантыметраў. На правым беразе многа вугалю. Невялікі вадаспад. На адваротным шляху — о цуд! — у цэнтры дэльты, метраў за 800 ад касы, на перакаце ляжыць мая сетка, цалюткая, з камянямі і каламі, цалкам забітая водарасцямі. Я пачысціў яе і паставіў зноў на ўнутранай літаралі, але ўжо далей ад канца касы.

**19 жніўня**. А 2-й гадзіне ночы як ліне дождж! Сабака куляй нырнуў пад падлогу. А я ляжу і ўяўляю, як вочкі нашай сеткі запаўняюцца камбалай. Іду на касу — поўная сетка водарасцяў. Пераставіў яе ўздоўж плыні. Знайшлі на літаралі 2 камбалы, бычка і гарбушу. Праз начны дождж вада паднялася сантыметраў на 5 і памутнела, таму ў дэльце нічога не знайшлі.



Гарбуша

**20 жніўня**. Надвор'е — супер. Сонейка. Спачатку быў штыль. Бухта як люстра. Пасля дунуў лёгкі ветрык з мацерыка, усходні (я думаў, такога тут не бывае). Забаўна было глядзець на белыя хмаркі, якія ланцужком, як баранчыкі, пратаптанай дарожкай рухаліся на мацярык. Яны спачатку разгублена спыніліся, а пасля неахвотна, чапляючыся за кожны бугарок, рушылі назад. Сетка пустая. Я звярнуў яе і забраў. Як лавіць камбалу сеткай, трэба кансультавацца ў рыбакоў. А пакольк чайкі з намі сябруюць, мы не сумуем. На літаралі ў лужыне знайшлі вялікую жывую камбалу. У дэльце — яшчэ камбалу, а на самім краі дэльты, за кіламетр ад берага, — вялікага самца гарбушы, які ляжаў на перакаце і махаў нам хвастом.

**21 жніўня** надвор'е сапсавалася. Уначы — моцны вецер. Удзень, калі мы былі на промысле, пачаўся дробны дожджык. Мы знайшлі 4 рыбіны — на сёння хопіць. Пад вечар узмацніўся вецер, паляцеў бус. Гэта не магло не радаваць: чым горшае надвор'е цяпер, тым болей шансаў на тое, што праз пару дзён яно наладзіцца. Надышоў час сыходзіць з санаторыя Падкагерны, як я называў гэты дамок. Мы з Баксам ад'еліся сапраўды, як у санаторыі, і яшчэ завялілі 11 камбал для харчавання падчас марш-кідка на Аранаваям. Увечары я памыўся, пагаліўся, галаву памыў. Сяджу, чую: у

левым вуху гудзе. Ну, думаю, прыплыў, галюцынацыі пачаліся. Прыслухаўся: а не, муха ў вуха запаўзла. Усё гудзе і гудзе, надакучыла. Націснуў на слыхавы праход, прыдушыў яе.

Наконт псіхалагічнай няўстойлівасці да адзіноцтва — цяпер усё нармальна. Думаю, дапамагае стасаванне з сабакам і тое, што я размаўляю з тундрай. А вось у 1985 годзе, калі я ў Цюменскай вобласці ўлетку тыдзень ішоў адзін па тайзе, там на 5-ты дзень з'явіўся псіхалагічны дыскамфорт ад адзіноцтва і пачаліся зрокавыя і слыхавыя галюцынацыі. То я бачыў чум ці нарты — падыходзіў бліжэй, а гэта стаяла альбо ляжала дрэва; то падавалася, што чуў, як пасвяцца алені.

**22 жніўня.** Раніцай, як звычайна, я затапіў печку, каб камбала дасушвалася. Увязаў дротам дзверы і перагарадзіў трубой: не хацелася, каб за нашай адсутнасцю ў доме пагаспадарыў мядзведзь. На ўнутранай літаралі пуста, малыя двайныя воды. У дэльце — вялікая і маленькая камбалы. Я стаю ў вадзе на краі дэльты, ззаду — каса, да якой тупаць кіламетр. Можна ўзяць правей, на літараль, дзе стаіць Бакс і назірае за мной, але там гразь.

Мінулымі днямі ён, як кампанейскі сабака, хадзіў за мной па ўсёй дэльце. А цяпер сцяміў, што я ўсё адно вяртаюся, і чакаў на літаралі. Вельмі разумны сабака. Калі на Чаяч'яй мы праходзілі каньёны, ён заўсёды ішоў са мной, няважна — па вадзе, камянях ці амаль вертыкальнай скале, 100 метраў угару. Я яго там называў «вадзяны альпініст». Аднаго разу ён ледзь не патануў: скокнуў праз зліў, сарваўся, ударыўся аб камень і паляцеў долу на 5 метраў. Аднак выплыў, ніжэй па цячэнні. А на адваротным шляху я гэты зліў праскочыў, іду далей, клічу яго — няма. Пабег назад, гляджу — сядзіць пад кустом, лапы вылізвае, сцёр да крыві. Далей ішлі вострыя камяні, я ўзяў яго на рукі, перанёс.

А 11 жніўня мы ішлі міма стаянкі аленяводаў, знайшлі бляшанку без этыкеткі. Я думаў, што гэта згушчонка, кінуў яе ля хаткі ў траву і забыўся. Пару дзён таму быў анекдот: я ўспомніў пра бляшанку, шукаю — няма. Я згадаў, як Бакс скоса на яе глядзеў. Паклікаў яго, падвёў да таго месца, дзе бляшанка ляжала, напусціў на сябе строгі выгляд і пытаюся: «Дзе бляшанка адсюль? Куды знёс, гад?» Ён зірнуў вінаватым паглядам, панура паплёўся



Метэастанцыя базы Чамурнаўт.

да бліжэйшага куста і выцягнуў адтуль бляшанку. Яна мела выгляд пясочнага гадзінніка, была пракушаная, як рэшата, і, адпаведна, з'едзена на 80%. Гэта аказалася тушонка. Я вырашыў не сварыцца на Бакса, раскалупаў дзіркі паболей, кінуў бляшанку ў кацялок, зварыў і аддаў праныру.

І тут Бакс многа рыбы знайшоў на пах. Ідзе, нос апусціўшы, потым — раз, нос падняў і пайшоў супраць ветру, я — за ім: ведаю, там ляжыць рыба. Дык вось, стаю я на краі дэльты, рыбы мала, гэтыя 2 камбалы нам на паўзуба. Бачу, мае любімыя чайкі тусуюцца ўздоўж лініі прыбою, злева ад дэльты. Туды я не хадзіў. Іду — і дакладна, чайкі не падманулі: лявей ад дэльты на метраў 200 расцягнуліся рыбныя магілкі, далей рыбы не было. Сюды хвалі выкідалі тое, што выносіла рака. Я выбраў дзве яшчэ не пратухлыя рыбіны і пайшоў да берага напрасткі, па гразі.

Я зрабіў памылку: трэба было вярнуцца і ісці па дэльце, там хоць па вадзе, але затое дно цвёрдае. Пакуль мясіў кіламетр гразі, моцна забалела злева ў пахвіне. Дайшоў да касы. Сеў адпачыць.



Рака Чаяч'я. Другі прыжым, месца заплыву.

ЧЗШ 2 разы. Гэта ў мяне тут з'явіўся новы стандарт часу — ЧЗШ — «час з'едзенай шышкі», тобок 13 хвілін. Не было куды спяшацца. Зварыш, напрыклад, паесці, адразу есці нельга: гарачае. Сядаеш, з'ядаеш арэшкі з адной шышкі, умінаеш кацялок камбалы, зноў ЧЗШ, і ідзеш займацца гаспадаркай: ягады збіраць (на збор 1,5 літра сыходзіла гадзіна) альбо грыбы (побач, у радыусе 200 метраў раслі маслякі, махавікі, сыраежкі, падбярозавікі, баравікі). Грыбы я кідаў у ваду цалкам, кіпяціў хвілін 20, потым дадаваў рыбу, і, калі яна закіпала, варыў хвілін 5 — і гатова.

**23 жніўня** мы на промысел не пайшлі: засталася ўчарашняя рыба. Паснедалі. Пуцёўка ў санаторый Падкагерны скончылася: была на 11 дзён. Тут аказалася добра, прыгожа, камфортна. Хапала часу і здабываць харчы, і медытаваць, і асэнсоўваць жыццё... Я моцна задраіў дзверы, пакінуў у хатцы дровы, запальнічку, лішні рыштунак, запіску. Вазок прывязаў на дах, на стаянцы аленяводаў. Надвор'е добрае — лёгкі паўночны ўсход. А 12-й гадзіне стартанулі. За 2 з паловай гадзіны дайшлі да стрэлкі, дзе пакінулі сетку. Па дарозе я кап'ём здабыў гарбушу — гэта на вячэру. А ішлі мы дарогай, якую пратапталі мядзведзі, дарожных знакаў толькі не было і саміх таптуноў не бачылі. Далей — па тундры. Я трымаю курс на гару Укіт.

Як выходзілі, я зрабіў уюк, два цючкі па 3 кілаграмы, пачапіў на Бакса, ён пранёс метраў 100 і ўпаў, і далей — ніяк. Давялося самому несці. З арэхамі выйшла прамашка. Я нарыхтаваў каля кілаграма арэхаў: думаў, буду лускаць дарогай. Але прайшоў час, і на кедрачах арэхі падраслі і амаль саспелі, іх не трэба было смажыць — самі лушчыліся. Аднак падкагерныя арэхі не прапалі: я скарміў іх за 3 дні Баксу. Ён іх еў з задавальненнем. За дзень мы прайшлі 15 кіламетраў (11 па навігатары). Я моцна стаміўся: заплечнік цяжкаваты.

**24 жніўня.** Як мала чалавеку трэба для шчасця! Ну, зразумела: сонечны дзень, моцны халодны вецер у твар — не змакрэеш, але галоўнае — заплечнік стаў лягчэйшы на 6 кілаграмаў! 2 кілаграмы — гарбуша, якую мы з'елі ўвечары, плюс я зрабіў 2 цючкі па 2 кілаграмы, і Бакс нёс іх моўчкі цэлы дзень. А сёння мы ляцелі па тундры як экспрэс. Па навігатары прайшлі 13 980 метраў, фактычна 18 кіламетраў. Давялося змяніць тэкст песні. Калі сюды ішоў, гарлапаніў: «По тундре по широкой дороге, где мчится поезд Чемурнаут — Падкагер…» А цяпер бухты трэба было мяняць месцамі, і я блытаўся. Начылі мы на вярхоўі Падкагернай. Ізноў я стаміўся. Здарыліся дзве няштатныя сітуацыі. Калі я расклаў вогнішча, паставіў кацялок, пайшоў па дровы. Прыходжу, а агонь згас. Так было 3 разы. А калі стругаў калок, ударыў тронкамі нажа па кішэні, патрапіў па байку, і сігнал паляўнічага, які ў кішэні ляжаў, выстраліў. Але я гэта прагназаваў і заўсёды насіў яго дулам назад. Таму давялося толькі залатаць кішэню.

Я больш-менш зразумеў, як арыентавацца ў тундры па колеры. Калі сопка пакрытая цёмна-зялёным кустоўем — гэта алешнік, светла-зялёным — кедрач, шэрым — камяні, белым — ягель. На тундры — суцэльныя палосы і плямы. Цёмная паласа ўдалечыні — гэта яр ці рака, зарослыя кустоўем. Сярод звычайнай травы пляма ярка-зялёная ці паласа — гэта зарослае возера ці балота, там вада. Калі ідзеш па звычайнай траве, якая дастае да калена ці да пояса, і бачыш удалечыні паласу травы са слабенькім адценнем шэрага — у грудзях заўважаецца непрыемны халадок, і ты разумееш, што гэта сухі вадацёк і там цябе чакаюць учэпістыя лазовыя кусты, трава, вышэйшая за рост чалавека, і нябачныя прамывіны метровай і большай глыбіні. Калі даводзіцца фарсіраваць мокрую тундру, і ты ідзеш па траве, на якой — 15—30 сантыметраў вады, трэба абыходзіць чырвоную траву — там правалішся. А цяпер тундра з кожным днём прыгажэе, да летняй зелені прымешваецца ўсё больш яркіх восеньскіх фарбаў.

**25 жніўня** ўначы быў дождж. Дзесьці шумеў вецер, а ў нас, на краі кустоўя, было ціха. Мы выйшлі да водападзела. Даўгі, каля 2 кіламетраў, пад'ём па сухой камяністай тундры, прычым паўдарогі беглі. Бакс, нягледзячы на ўюк, рваўся за суслікамі, а паколькі вецер біў у твар, то рваўся ён куды трэба і цягнуў за сабой мяне. Я ішоў адмыслова на возера, з якога выцякае Аранаваям. Думаў, яно кішыць рыбай. Аднак возера не было: вада размыла асыпак, і яно сцякло ўніз. Мы падняліся на сопачку, гляджу ў бінокль — справа доўгая града ўпіраецца ў рэчку. Міша (аленявод з Ткаправаяма) казаў, што там у іх хатка. Датуль 12 кіламетраў. Я з'еў паўснікерса — і наперад. Там узяў лявей, вышэй, і за кедрачом убачыў на проціглеглым беразе дах хаты. Яе называюць Аранасарай. Ужо шарэла, як мы дайшлі. Натуральна, пасля намёта гэта быў пяцізоркавы гатэль. Я зварыў ячменную сечку, а на ноч паставіў гарох. Сёння новы рэкорд — 21 кіламетр. Мы цяпер былі ўсяго за 4 кіламетры ад таго месца, дзе 1 жніўня я не здолеў прабіцца на Аранаваям і збочыў на Чаяч'ю. Толькі адтуль мы дайшлі да Падкагернай за 10 дзён, а цяпер вярнуліся за 3. Галава балела злева — ветрам прадзьмула. На ноч закруціў яе швэдрам, і раніцай — норма.

**26 жніўня**. Прачнуўся ад таго, што хтосьці назваў Бакса па імені. Нарэшце я пабачыў чалавека! Роўна месяц прайшоў. Гэта аленявод Арцём прыехаў на кані па цукар. Табун стаяў кіламетраў за 8 у бок мора, на левых прытоках Ткаправаяма. Мы папілі гарбаткі, і Арцём паехаў. Мы з Баксам пaабедалі, прыбраліся і а 15-й гадзіне рушылі. Курс трымалі на паказаную Арцёмам сопачку, прадчуваючы, як хутка наямося мяса. Але ж не. 20-я гадзіна, хутка сцямнее. Ужо відаць мора, 1700 метраў засталося. І — нікога. Тэрмінова стаўлю намёт, раскладаю вогнішча. Вады няма. Пайшоў долу да возера па ваду. Пакуль спускаўся, сцямнела яшчэ болей, і я заблукаў у кустах. З сабой — ні ліхтарыка, ні навігатара. Давялося вярнуцца да возера і амаль паўзці па сваім следзе. Раптам гляджу — слуп дыму, вогнішча разгарэлася. А адышоў усяго толькі на метраў 400! Я пусціў вялікую сігнальную ракету, што маракі далі, з надзеяй, што Арцём раніцой пад'едзе на кані.

**27 жніўня.** Надвор'е — супер: сонца, цёпла, ветру няма. Арцём не пад'ехаў (аказваецца, аленяводы са статкам аленяў перакачоўвалі, і конь быў патрэбны, каб везці груз). Я настолькі знахабіўся, што ў тапачках пайшоў, але пасля давялося абуць балотнікі. Паколькі Арцём казаў, што табун стаіць трошкі правей ад сопачкі, я туды і рушыў, аднак прайшоў 5 кіламетраў і — нікога. А там такая асаблівасць рэльефу — вельмі шмат рэк і яроў, а між імі — бугры, і, хоць яны і голыя, кустоў няма, але, калі алені зайшлі за бугор, то нікога не пабачыш, хоць яны будуць за кіламетр. Я вырашыў збочыць да Аранваяма, з надзеяй пабачыць свежыя сляды. Потым рушыў на самы высокі бугор агледзецца. Гляджу — нікога, а сцямнее праз 2 гадзіны. Да Аранагатэля 8 кіламетраў. І мы рушылі туды амаль бягом.

Чарговы анекдот: выходзім на абрыў ракі, а пад намі, метраў за 50, мядзведзь ідзе. Бакс кідаецца, я дзьму ў свісток, мядзведзь перабягае рэчку і становіцца у кустах метраў за 100 на заднія ногі. Жмурыцца, глядзіць так падслепавата, не разумее, хто гэта там. А ўжо цямнее. Мы — уніз, брэшам, свішчам, мядзведзік і ўцёк. Падняліся на проціглеглы бераг. Да хаткі — метраў 800. Ідзём старой дарогай, глядзім — касалапы нюхае дарогу метраў за 100 спераду ад нас. Вінаватыя, ізноў яго напалохалі. Мядзведзік уцёк, больш яго і не бачылі. Здымак зрабіць я не паспеў: фоцік пераклаў у заплечнік, бо замінаў арэхі з кішэні вымаць, а відэакамера не была зараджана — слабая сонечная батарэя. Увесь час б'ём рэкорды — сёння 25 кіламетраў.

**28 жніўня** раніцай прыехалі аленяводы Арцём з Вовам. Папілі гарбаты. Збылася мая другая гаст-



Рака Падкагерная. Перад выхадам у мора.

ранамічная мара: Арцём даў 2 аленевы рабрынкі, я іх крыху падагрэў на вогнішчы і праглынуў, як муху (першай марай было папіць гарбаты з цукрам — 25-га здзейснілася). Вова рушыў на Чаяч'ю па цыгарэты — там, на кіламетр ніжэй за тое месца, дзе я спусціўся, стаяла партыя палявой геалогіі. Мы з Арцёмам рушылі да табуна. Высветлілася, што 26 жніўня я не патрапіў да аленяводаў з дзвюх прычын. Па-першае, «пешы коннаму не таварыш», і тое, што Арцём меў на ўвазе «правей за тую сопачку», насамрэч было правей на 7 кіламетраў. І другое — псіхалогія заходняга і ўсходняга чалавека кардынальна адрозніваюцца. Высветлілася, што, калі ён казаў пра тую «сопачку», меў на ўвазе, што рэчка, на якой яны стаялі, бярэ там пачатак. Ну, і добра. Сустрэлі нас гасцінна. Напаілі, накармілі. Я дровы дапамагаў пілаваць. Аленяводаў было 8 чалавек — нямнога на такі вялікі статак: брыгадзір Аркадзій з жонкай і сынам Антонам, мужчыны ва ўзросце ад 28 да 50 гадоў — Арцём, Мікалай, Вова, Станіслаў — і дзяўчына Люба.

**29 жніўня** я падняўся а 5-й раніцы, а аленяводы ўжо пілі гарбату. Уначы быў мароз, кандэнсат замерз. Мы сабраліся і пачалі перабірацца на 4 кіламетры на паўночны ўсход. У аленяводаў два кані і жарабя, таму за раз яны не могуць забраць увесь груз і даводзіцца рабіць 2 рэйсы. Была яшчэ адна кабыла, але яна некалькі гадоў таму загінула: зламала шыю на крутым схіле гары. Мы раскінулі лагер і пасля абеду пайшлі працаваць: адлоў і кастрацыя бычкоў-чатырохгодак (бычкамі называюць самцоў аленяў). Я амаль навучыўся кідаць чаўт. Актыўна дапамагаў. Калі бычка злавілі, трэба трымаць чаўт, пакуль іншыя не накінуць на яго другі аркан, каб узяць на расцяжку, альбо, яшчэ лепей, злавіць пятлёй за заднюю нагу. Лёгка сказаць — трымаць. Там вяроўка 6 міліметраў і бык, які актыўна незадаволены. Асабліва цяжка было, калі ён вырашаў бегчы ў супрацьлеглы бок, выбіраў слабіну, разганяўся: рукамі даводзілася гасіць удар стакілаграмовай тушы. Бралі на расцяжку, падцягвалі вяроўкі карацей, валілі. І, пакуль ён быў у шокавым стане, кастрыравалі, адпілоўвалі адзін рог і адразалі кончыкі вушэй, каб пазначыць.



Перекачоўка.

Праўда, тутэйшыя аленяводы мелі іншы метад кастрацыі. Калі я быў у 2013 годзе на Калючынскай губе, у чукоцкіх аленяводаў, тыя надразалі скуру ножыкам, выцягвалі яйкі, а потым яшчэ і антысептыкам апрацоўвалі. Тут было прасцей: скура пракусвалася зубамі, і абыходзіліся без антысептыку. Мы кастрыравалі 19 бычкоў. Перад сканчэннем працы думка была толькі адна: калі ж гэта скончыцца. Але я вытрымаў да канца. Балела ўсё, а мышцы спіны — увогуле дзіка.

За 3 кіламетры ад лагера былі сутокі рэк, і там лавіліся вялізныя харыусы, непрахадная кунджа і прахадныя кета ды галец. Пайшлі Мікалай з Антонам. Я паплёўся за імі. Адстаў, канешне: кожны крок адгукаўся болем у спіне. Яны падняліся на бугор і зніклі з вачэй. Я выпаўзаю праз 15 хвілін на гэты бугор, а перада мной — кустоўе. Яго можна абысці злева, справа альбо напрасткі — там была нейкая пралысіна ў кустах. Куды ісці — я не ведаў, і, як сапраўдны герой, папёр напрасткі. Такое задавальненне атрымаў — словамі не апісаць! Кедрач стаяў сцяной, месцамі вышынёй 5—6 метраў, многа мядзведжых лежняў і памёту. Карацей кажучы, 500 метраў я ішоў 30 хвілін, пераважна па паветры, пераскокваючы з галіны на галіну. Спусціўся на сутокі.

Мікалай з Антонам ужо злавілі штукі 4. Велізарныя харыусы, кунджа і галец. Я трошкі пакідаў блешню, але рыбы не было, толькі аднаго разу здаровы харыус кінуўся за блешняй, але не схапіў. Я праткнуў кап'ём лошавую кету і адпачываў. Мікалай яшчэ 2 разы падносіў кунджу. Адна — кілаграмы на 2 з ікрой. Я сфатаграфаваў улоў, адзначыў кропку на навігатары і паплёўся ў лагер. Калі прыйшоў, ужо пачало цямнець. Я папіў гар-



Кастрацыя бычкоў.

баты, паклаў на зямлю аленевую скуру, і Люба пахадзіла мне па спіне. Адразу ж палегчала. На гэтай скуры я і спаць лёг: цёпла было, як на печы.

**30 жніўня.** Арцём і Станіслаў, якія ноччу пільнавалі статак, распавядалі, што надвячоркам нападаў мядзведзь, хацеў з'есці аленяня, але ўдалося яго адбіць. А ўвогуле, калі з'яўляецца мядзведзь, які нападае на аленяў, то яго забіваюць, бо не адчэпіцца. А ўзімку нападаюць ваўкі, асабліва, калі мяцеліцы. Тут водзяцца велізарныя палярныя ваўкі да 90 кілаграмаў вагою.

Чарговы пераход, на 11 кіламетраў. Да хаткі Тувілі. Я цягнуся ззаду. Намёт аддаў — на кані вязуць, і таму заплечнік стаў лягчэйшы. Усё баліць, асабліва спіна. Раптам адчуваю — штосьці не так, баліць і перашкаджае ісці. Памацаў — два гемараідальныя вузлы вылезлі, кожны з фасоліну. Я патрапіў на новы **медыцынскі аспект**. Як у прымаўцы: дзе каротка, там і рвецца. У мяне пасля ўчарашніх перагрузак слабым месцам аказаліся гемараідальныя вены. Вось ужо ніколі б не падумаў, што ў мяне з'явіцца хвароба сядзячых людзей. Дзён 5 мяне мучылі гэтыя вузлы, потым зніклі.

Мы ішлі старой трактарнай дарогай Рэкінікі—Падкагерная. На раўчуку каля хаткі Тувілі я дапамагаў Станіславу насіць камяні, і за 3 гадзіны мы з ім зрабілі лазню. Складаеш агмень з камянёў, перакрываеш скляпенне і ўсярэдзіне раскладаеш вогнішча, а вакол жэрдкі ўтыкаеш, загінаеш, верхавіны звязваеш. Побач з агменем — бітон, каб вада грэлася. Праз 3 гадзіны вуглі выграбаеш, заліваеш вадой і накрываеш жэрдкі брызентам, залазіш туды і парышся. Мы папарыліся добра, я ж больш за месяц не быў у лазні. Калі вылез, хістала, ледзь абуўся.

**31 жніўня**. Усе пайшлі на кастрацыю «панвалюшак», двухгадовых бычкоў. Я растапіў лазню і — за імі. Сёння я ўжо быў загоншчыкам, пільшчыкам рагоў, абразальшчыкам вушэй, зборшчыкам яек — набраў поўны трохлітровы слоік з-пад маянэзу. Вядома, ўсё здымаў на фота і відэа. Папрасіў Антона, каб ён зняў, як я зубамі кастрыраваў аленя. А потым яшчэ ён зняў, як я ем аленевае яйка ў сырым выглядзе. Атрымалася штосьці кшталту рэкламнага роліка: тундру рэкламавалі. Сёння кастрыравалі 25 штук. Сэнс гэтага мерапрыемства такі: на статак у 1700 галоў 42 вытворнікі. Яны цяпер пачнуць біцца за самак, перастануць есці, схуднеюць і за 2 тыдні пакрыюць усіх важанак (самак аленяў). А ўсе кастрыраваныя, 150 штук, будуць спакойна пасвіцца і нагульваць тлушч.

Увечары я падкінуў дроўцаў у лазню і зрабіў гаць на раўчуку — атрымалася ванна, глыбінёй крыху большая за метр, з ледзяной вадой, куды ўсё скакалі пасля парыльні. Сёння пасля лазні ўжо хістала менш. Елі яйкі, смажаныя з грыбамі — смаката. Прыцягнулі потым з Антонам да вогнішча, за 150 метраў, вельмі тоўсты і цяжкі ствол алешыны. Цягнулі за вяроўкі, як бурлакі. Антон бавіўся тым, што дрэнна завязваў вяроўкі, і мы перыядычна падалі з усяго размаху ў мох, доўга потым смяяліся.

**1 верасня.** Сёння я ўжо не адставаў. Заплечнік — кілаграмаў 12. За 7 гадзін прайшлі 27 кіламетраў да базы аленяводаў на Ткаправаяме. На паўдарозе зладзілі піццё гарбаты. На рацэ я здабыў кап'ём трэцюю рыбіну.

**2—7 верасня** я спыніўся ў аленяводаў і кожнага дня хадзіў да геолагаў, лячыў там чалавека. У іх здарыўся пажар тыдні 3 таму, і адзін чалавек ад стрэсу захварэў, бо ў яго згарэлі ўсе рэчы і дакументы. Геолагі — малайцы. Заўсёды запрасяць у сталовую паесці. Калі я ў іх лазні парыўся, мыўся, дазволілі пазваніць па спадарожнікавым тэлефоне.

З аленяводамі мы лавілі рыбу, дровы нарыхтоўвалі, збіралі грыбы ды кедравыя шышкі. Выталілі лазню на беразе ракі — гэта была самая «крутая» парыльня. Залазіш — і вады на камяні ліць не трэба, сухая пара. Камяні чырвоныя. Як толькі лінеш вады, адразу падаеш на зямлю і варочаешся кожныя 20 секунд, таму што зверху пячэ нясцерпна. Каб там сесці ці ўстаць — і размовы няма. Я развітаўся з аленяводамі. Людзі добрыя, гасцінныя. Пакуль у іх быў, зрабіў адкрыццё. Адкрыў

«чорную дзірку». Але гэта не пра космас. Аленяводы ўвесь час у тундры, рыштунку добрага няма. Намётам гадоў па 20, проста брызент. Коней не хапае. У сярэднім зарплата, паводле слоў брыгадзіра, 5 тысяч за месяц. Каб зарабіць грошай, яны бяруць улетку адпачынак і ідуць працаваць на рыбазавод. Хаткам іхнім неабходны капітальны рамонт. А з іншага боку, паводле слоў Аркадзія, штогод на іх аленяў даецца дзяржаўная датацыя памерам 8 мільёнаў. Куды дзяваюцца грошы? Зразумела — у «чорную дзірку».

Развітаўся са сваім верным сябрам Баксам. Было вельмі сумна, бо ён стаў мне як брат, вельмі многа мне дапамог, мы харчаваліся літаральна з адной міскі. Яго «сябры», сабакі з запрэжкі, на яго накінуліся ўсе разам і пачалі грызці, я падбег і адагнаў іх. Добра пакусалі, да крыві. Міша растлумачыў, што яны раўнуюць, бо на нюх адчуваюць, што ён лепш за іх харчаваўся, еў вітаміны — усялякія ягады, мяса — і гуляў на свабодзе, у той час як яны сядзелі на ланцугу каля ракі, пілі ваду і елі рыбіны галовы.

**8 верасня** раніцай мы рушылі з геолагамі на Чамурнаўт, там да іх прыйшоў груз. Капітан пагадзіўся дамчаць мяне да Паланы. Я схадзіў на сопку, сабраў маракам вядро рабіны і два мяхі арэхаў. А потым яшчэ літра паўтара дурніц і брусніц.

**9 верасня.** Сёння цэлы дзень — разгрузка. Старт — уначы з прылівам. Я вырашыў схадзіць у Ракінікі наведаць Дзіму. Адолеў кіламетраў 5 і ўбачыў аленяў. Падышлі Вова і Мікалай. Вова казаў, што кепска сябе адчувае, у яго звініць у вушах, кроў з носа ідзе, ціск павышаны. Я вярнуўся на бухту. На караблі далі ўпакоўку эналапрыла, і ў сябе я штосьці адшукаў. Аднёс Вову. Потым пасядзелі каля вогнішча, папілі гарбаты, паелі, і я пайшоў на карабель. Тут я зрабіў памылку: надвячоркам ужо ўсхадзіўся моцны халодны вецер, трэба было забіраць шмоткі і вяртацца на базу да геолагаў, ад іх праз тыдзень можна было паляцець на верталёце. Аднак гэта я цяпер такі разумны, а тады ўпаў на шконку і — спаць.

**10—11 верасня.** Спаць не давялося. Двое сутак праляжаў на шконцы. Яшчэ не шторм, але вельмі моцны вецер. Гайдала, трэсла, тузала і перыядычна — магутныя ўдары хвалі. У суседнім памяшканні абвалілася столь. Нас, на баржы, цягнуў буксір. Як толькі я падымаўся, адразу пачынала цягнуць на ваніты, таму лёг, і стала больш-менш.



Антон з кап'ём.

Я выходзіў на палубу толькі па маленькай патрэбе — гэта яшчэ куды ні ішло. А вось аднаго разу выйшаў па вялікай патрэбе, дык гэта быў цырк на дроце: азадкам упёрся ў кут, адной рукой трымаўся, каб не выкінула за борт, другой трымаў пакет, які ёрзаў па палубе, і намагаўся туды патрапіць. Карацей, было весела.

**12 верасня** мы прыбылі ў Палану. Дзякуй калегам з тубдыспансера: я размясціўся ў іх, пакуль было нялётнае надвор'е. У іх жа ўзважыўся — 70 кілаграмаў, 26 чэрвеня было 80. Але гэта пайшло на карысць. Адчуваю сябе выдатна.

Падчас падарожжа я штодзённа піў ледзяную ваду, калі быў у разгарачаным стане, часта прамакаў наскрозь, замярзаў, але пры гэтым не захварэў і нават не чхнуў. І так на маім месцы не захварэў бы любы чалавек, нават хранічна хворы. Гэта ўздзеянне пазітыўнага стрэсу і экалагічна чыстага харчавання і асяроддзя. І яшчэ адзін медыка-геалагічны аспект: вада ўсюды розная на смак, і ў адным месцы — маленькім раўчуку, які сцякаў з гары, — яе нельга было піць праз моцны прысмак. Значыцца, у вадзе прысутнічалі солі цяжкіх металаў: кадмію, свінцу і ртуці. Такім чынам, мімаходам я адкрыў невялічкае радовішча цяжкіх металаў. Такую ваду піць небяспечна для жыцця. Гэтакіх месцаў на Камчатцы і Чукотцы даволі многа.

17 верасня я прыляцеў у Петрапаўлаўск. Хацеў знайсці напарніка, каб схадзіць на раку Жупанава,



Мутнаўская геатэрмальная станцыя. «Мінідаліна гейзераў».

брата наведаць, які там працуе на гідраметэапасту. Але не адшукаў. Аднаму ісці не хацелася. Пачакаў і злётаў з супрацоўнікамі ГМС і вулканолагамі туды на верталёце.

Экспедыцыя скончылася. Падлічыў па дзённіку: з 14 ліпеня па 9 верасня прайшоў 504 кіламетры. Можна рабіць высновы.

**1**. Падарожжа — гэта калектыўная праца. Абавязкова патрэбны напарнік, яшчэ лепей — група чалавек 6. Кожны дзень раніцай і ўвечары ў мяне сыходзіла ў сярэднім па 2,5 гадзіны на: дровы, ваду, вогнішча, прыгатаванне ежы, намёт. Калі скласці, атрымліваецца 5 гадзін. То-бок, з напарнікам можна было б штодзённа эканоміць 2,5 гадзіны. За гэты час кіламетраў 6 прайсці можна. За месяц выходзіць 180 кіламетраў. Ну, і вага заплечніка была б меншай.

**2**. Неабходная добрая фізічная падрыхтоўка. Не трэба згадваць свае мінулыя подзвігі. Фізічная форма губляецца хутка і неўзаметку. А калі пайшоў у паход, то, незалежна ад формы, нельга дапускаць перагрузкі: гэта можа выклікаць вельмі сур'ёзныя наступствы. Нагрузку трэба павялічваць паступова.

**3**. Трэба загадзя і вельмі ўважліва падбіраць рыштунак. Каб усяго хапала.

**4**. Добрае веданне мясцовасці. Карты, архівы, роспыты паляўнічых, аленяводаў. Дарогі. Дамкі, балкі (балок — гэта хатка на драўляных ці жалезных санках, якую трактарам зімой можна перацягнуць у любое месца), хаткі — любое жыллё па маршруце руху.

**5**. Веданне харчовых рэсурсаў. Канкрэтна дзе, калі і як можна здабыць рыбу альбо дзічыну, ягады, грыбы, ядомыя расліны.

**6**. Абавязковая наяўнасць паляўнічага сабакі там, дзе ёсць мядзведзі. Ён папярэдзіць пра небяспеку і адгоніць звера ўдзень і, галоўнае, уначы.

Ну, і абвяшчаю аб адкрыцці новага віду падарожжаў: «бэкдогпэкінг» — па-іхняму, панашаму — хада ўлегцы з сабакам. Аптымальны варыянт для сямейнага адпачынку. 2—3 сям'і, абавязкова з дзецьмі, ідуць з лёгкімі заплечнікамі (ад 5 да 15 кілаграмаў — як каму). І 4 альбо 6 лаек, якіх з дзяцінства прывучылі да ўюка, нясуць 32 альбо 48 кілаграмаў грузу (па 8 на сабаку). Падарожнікам застаецца толькі любавацца прыродай і здабываць харчы — сабе і сабакам.

Хачу падзякаваць усім людзям, якія сустракаліся мне дарогай і дапамагалі, хто чым мог. І выбачыцца перад імі, што не апраўдаў іх даверу і не дайшоў хаця б да Паланы. Але я стараўся. Рабіў, што мог. Самае галоўнае — знайшоў новых сяброў і атрымаў досвед хадзьбы па тундры.

Найлепшыя нашы экспедыцыі наперадзе, таму я абавязкова знайду аднадумцаў і мы пройдзем гэты і іншыя маршруты. Што датычыцца Беларусі, то тут таксама многа цікавых маршрутаў. Напрыклад, уздоўж лініі мяжы.

І яшчэ я хацеў са старонак часопіса «Маладосць» звярнуцца да БРСМ. У мяне даўно ўжо саспела такая думка. Чаму б маладым і моцным хлопцам і дзяўчатам не пайсці ў падарожжа і не ўзяць з сабой аднаго ці двух маладых інвалідаў-калясачнікаў? Гэта ж здаровыя людзі, якія толькі не могуць хадзіць. Уявіце сабе, які стрэс для чалавека быць абмежаваным сваёй кватэрай, паездкай па двары ці ў краму. А ўявіце сабе радасць гэтага чалавека, калі ён, хоць і з вашай дапамогай, пройдзе 100 альбо 200 кіламетраў па лесе, па гарах ці па тундры? Яго радасць можна параўнаць з радасцю чалавека, які ўпершыню паляцеў у космас. І гэтыя радасць і шчасце «пральюцца» на ўсіх. Такая практыка будзе карыснай і моладзі: атрымаць рэальныя навыкі дапамогі іншым людзям. Так мы можам унесці свой уклад у тое, каб наша грамадства стала лепшым. Добра было б зрабіць такую акцыю пастаяннай і ў маштабе ўсёй Беларусі.

Генадзь Шэршань

# Маё ваеннае дзяцінства

Напэўна, з усіх літаратурных жанраў больш за іншыя мяне прываблівалі і прывабліваюць мемуарны. Магчыма, з-за жадання пранікнуць ва ўнутраны свет вядомага, славутага, аўтарытэтнага ў свой час чалавека, даведацца пра яго асабістыя думкі аб розных здарэннях, праблемах і з’явах таго часу. Нягледзячы на магчымыя кан’юнктурныя аўтарскія выдаткі і розныя цэнзурныя ўмяшальніцтвы, у іх усё ж звычайна ўдаецца адчуць «пах» тых часоў, які ніколі не знойдзеш у выданнях іншага кшталту. Але ж выклікаюць супраціў і нават раздражняюць мемуары сучаснікаў-аднагодкаў і маладзейшых, якія пакуль, па вялікім рахунку, нічым у жыцці не адзначыліся, але ўжо імкнуцца «натаптацца».

Займацца «мемуарамі» ніколі не збіраўся, хоць за свае амаль 80 гадоў было і ёсць успомніць каго і што. Бо, па шматлікіх параметрах, лічу сябе звычайным жыхаром Мінска, грамадзянінам суверэннай Беларусі. А каму можа быць цікава жыццё звычайнага чалавека?

Але неяк аднойчы ў размове з Кастусём Цвірκам між іншым паведаміў некалькі эпізодаў з майго жыцця ў акупаваным Мінску. «Трэба пісаць мемуары», — сур’ёзна сказаў Кастусь. Прагучала гэта так катэгарычна, што мне стала смешна. Аднак Кастусь як быццам не заўважыў майго крытычна-гумарнога стаўлення, і пачаў запэўніваць мяне, чаму так трэба зрабіць. Аргументы Кастуся тады не падаліся пераканаўчымі.

Прайшло трохі часу, можа з год, калі я ўспомніў тую размову з Кастусём і яго запэўніванні ў неабходнасці занатоўвання маіх успамінаў. Але палічыў вартымі ўвагі толькі дзіцячыя, дашкольныя згадкі.

## Першае, што запомнілася

Я з’явіўся на свет 3 красавіка 1937 года ў памяшканні былога «Клуба Ільіча», а тады радзільнага аддзялення Чыгуначнай бальніцы ў Чыгуначным (потым — Кагановіцкім, а зараз — Кастрычніцкім) раёне Мінска. (Потым, у сталыя гады, мне неяк давялося пабачыць той аднапа-



«Ложак быў для нас асноўным прыстанішчам: мы на ім спалі, елі, гулялі і чыталі кніжкі.» Дзіцячы малюнак аўтара.

вярховы цягляны будынак, калі ён ужо не меў ніякага дачынення да медыцыны.) Відаць у той год вясна была ранняя і дружная, бо маці казала, што, калі яна выпісвалася з радзільні, трава на двары была ўжо досыць вялікая.

Пачаў усведамляць сябе прыблізна ў тры з паловаю гады, гэта значыць з восені 1940 года. Але тыя першыя ўспаміны дужа горкія. Восень была сухая, аднак ужо даводзілася надзяваць нешта цёплае, кшталту курткі або лёгкага паліто. У канцы таго памятнага дня з дзетсада, у які хадзіў я, выхаванцаў хутка разабралі, застаўся я адзін. Цягнуўся час, але па мяне ніхто не прыходзіў. Набліжаліся прыцемкі. Супрацоўніцы дзетсада пачалі нерваваццца. Нарэшцэ па мяне прыйшлі. Зусім не тыя, што звычайна. Напэўна, суседзі.

У мяне і зараз перад вачыма глухі тарэц школы (№ 3), з-за якога мы выходзім, але замест нашага дома бачу толькі галавешкі, якія яшчэ дыміліся. Па галавешках ходзяць людзі і нешта шукаюць. Потым мяне завялі ў нейкі цёмны пакой, у якім на ложку ляжала мама з узнятымі ўгору перадплеччамі і растапыранымі пальцамі. У яе быў вельмі цёмны твар і абпаленыя валасы. (Як даведаўся потым, гэта яна непасрэдна з заняткаў бегла ратаваць што-небудзь з пажыткаў у ахопленай полымем кватэры. У выніку абпаліла сабе твар і рукі). Я заплакаў і кінуўся да мамы. Але мяне хуценька адцягнулі ад яе.

Згарэла ўсё: сталы і ложкі, коўдры і шафы, кнігі, мамін і татаў дыпломы, сшыткі і альбомы, усе да адной фатаграфіі. (Як адзіную рэліквію і памяць пра тату зберагаю два абгарэлыя лісткі з яго школьнага сшытка па матэматыцы).

Усіх пагарэльцаў, у тым ліку падпальшчыкаў (як потым высветлілі, падпалілі дом хлопцы з суседняй кватэры, якія «гулялі з запалкамі»), размясцілі ў «чырвоным кутку» — асобным ад школы досыць вялікім пакоі. У гэтым «кутку» на жыхароў кожнай былой кватэры вылучылі па кутку і яшчэ засталося месца пасярэдзіне пакоя для гульняў дзецям. Уздоўж сцяны насупраць уваходу ў пакой стаялі сцягі. Па словах мамы, яны мне вельмі падабаліся. Добра памятаю, што тыя сцягі былі не толькі чырвоныя. Яшчэ памятаю, як нейкі дарослы ў «кватэры» насупраць нашай пад гітару спяваў «Спят курганы тёмные, солнцем опалённые...»

У «чырвоным кутку» нам давялося пражыць усю восень і зіму.

## На новым месцы

Вясной, у сакавіку ці красавіку, 1941 года нашай сям'і (маме, сястры, старэйшай за мяне на тры з паловай гады, і мне) прызначылі асобны пакойчык у новым месцы — на вуліцы Чкалава, дом № 9[б], кватэра 2. У гэтым пакойчыку нам давялося пражыць больш за 27 гадоў.

У той час уся вуліца Чкалава была забудаваная драўлянымі адно- і двухпавярховымі дамамі і забрукавана каменем. Толькі на сярэдзіне вуліцы ўзвышаліся трохпавярховы будынак школы і насупраць школы — пяціпавярховы цагляны неатынкаваны жылы дом, які мы называлі «чырвоным».

Уваход на наш двор утваралі драўляны трохкватэрны дом, які цягнуўся ўздоўж вуліцы, якраз насупраць паўднёва-ўсходняга схілу Бетоннага моста, і двухпакаёвы з двума асобнымі выхадамі цагляны домік (яго ўсе называлі камянічкай), які стаяў перпендыкулярна да вуліцы. За камянічкай у глыбіні двара знаходзіўся яшчэ адзін двухкватэрны драўляны будынак паралельна вуліцы. За ім — памыйніца і прыбіральня. За метраў 15 у бок ад гэтых «сродкаў санітарыі» знаходзіўся наш трохкватэрны дом, таксама драўляны, павернуты «тварам» да вуліцы, за метраў 50 ад яе. З другога боку абмяжоўваў двор шэраг павецяў, якія цягнуліся ад першага да нашага дома.

Наш дом адрозніваўся ад іншых надбудовай, падобнай на мезанін, у якой была размешчана трэцяя кватэра.

Справа ад уваходу ў нашу кватэру два пакоі займалі дзве сястры — старыя дзевы прыблізна 50 і 45 гадоў. Да рэвалюцыі ўсе пабудовы на нашым двары належалі іхняму бацьку. Ля пакояў старых дзеваў у пакойчыку жыла ўдава дарэвалюцыйнага начальніка мінскага чыгуначнага вакзала Лізавета Пятроўна, ёй ужо было за 60. Злева знаходзілася кухня, праз якую трэба было прайсці да дзвярэй нашага пакойчыка, плошчай каля 8 кв. метраў. У такім пакойчыку размясціліся: ложак, этажэрка з кнігамі і туалетнымі прыладамі каля акна, табурэт з тазам для мыцця і вядром вады ля дзвярэй, а таксама грубка насупраць, каб абаграваць пакойчык. Ложак заняў усю прастору ад акна да грубкі. Пазней да падаконніка паміж этажэркай і ложкам мы прыціснулі невялікі столік. У такіх умовах ложак для нас быў галоўным і асноў-



«Пазней да падаконніка паміж этажэркай і ложкам мы прыціснулі невялікі столік.» Дзіцячы малюнак аўтара.

ным прыстанішчам: мы на ім спалі (ўсе разам), елі, гулялі, чыталі і глядзелі кніжкі. Карацей кажучы, рабілі ўсё. Толькі два разы я бачыў, як у кухні і на пліце гаспадарылі ўсе разам жанчыны нашай кватэры. Потым увесь час пліта была халоднай — па прызначэнні не выкарыстоўвалася.

Не паспелі мы як след пазнаёміцца з суседзямі па доме і па двары, як пачалася вайна.

## Першыя дні вайны

Наўрад ці гэты ціхі цёплы дзень, 22 чэрвеня 1941 года, мне б запомніўся, калі б у нейкі момант твары ўсіх дарослых у двары раптам не спахмурнелі і не пасуровелі. Разгублены, кінуўся ў наш пакойчык, у якім застаў маму ў слязах. Ужо ашаломлены, пачаў дапытвацца, чаму яна плача і чаму ўсе дарослыя сталі такімі незразумелымі. Але адказаў не дачакаўся. Пакрыўджаны, усхваляваны і засмучаны вырашыў зноў пайсці на двор. Дзверы ў пакоі старых дзеваў былі шырока расчыненыя. Праз праём гэтых дзвярэй была відаць прымацаваная да сцяны чорная «талерка», з якой нёсся мужчынскі голас. Здаецца, яго ўжо ніхто не слухаў.

У наступныя дні ўсе зрабіліся дужа занятымі, засяроджанымі, дзелавымі. Жанчыны вельмі ўвіхаліся на заклейцы шыбаў газетнымі палоскамі крыж-накрыж. Як быццам гэтыя палоскі бароняць шыбы ад узрыўной хвалі. Як хутка высветлілася, занятак гэты быў бескарысны і бессэнсоўны.

Праз некалькі гадоў пасля вайны мама распавядала, што позна ўвечары 21 чэрвеня яна бачыла на таварнай станцыі, якая знаходзілася амаль побач з намі, на другім баку Бетоннага моста, вялікі эшалон з пшаніцай. Гэты эшалон накіроўваўся ў Штутгарт. Яна расказвала таксама, што ў час адной з бамбардзіровак горада нямецкімі самалётамі абвалілася сцяна радзільнага дома і сталі відаць інтэр'еры палат, у якіх на ложках ляжалі забітыя парадзіхі.

Я ж з падзей першых дзён вайны больш не памятаю нічога. Не ў апошнюю чаргу гэта было абумоўлена тым, што ў такі тлумлівы час умудрыўся нечым засмеціць вочы. Ад таго ўзнікла і развілася нейкае жорсткае запаленне: з-за рэзі ў вачах не мог нават расплюшчыць іх, вейкі апухлі і пачырванелі, з вачэй цяклі слёзы і гной. Раніцамі прыходзілася пальцамі раздзіраць вейкі, каб убачыць свет. З той пары прамучыўся з вачыма яшчэ гадоў пятнаццаць. Нават калі ў ваенкамаце атрымліваў прыпісное пасведчанне, мне было прадпісана прайсці дадатковы курс лячэння вачэй. Тады ж, у пачатку вайны, глядзець на свет не мог, таму з добры тыдзень нават не ўяўляў, што творыцца наўкола.

Тым часам мама вырашыла не заставацца ў Мінску, а кіравацца да сваёй маці, нашай бабулі, у мястэчка Бобр, што ў Крупскім раёне. Самая прамая дарога на Бобр — Маскоўская шаша. Як мы рухаліся да бабкі і што пры гэтым здаралася, для мяне засталося працяглым і глыбокім сном. Сястра, якой у той час было сем гадоў, потым успамінала, як у адзін з вымушаных прыпынкаў на шашы да нашай групы бежанцаў пад'ехала палутарка, набітая розным скарбам. Нават фікус стаяў у яе кузаве. Да людзей, што сядзелі ў кабіне палутаркі, падбегла жанчына і пачала прасіць падвезці хоць на пару кіламетраў не яе, а дзяўчынку, якая ўжо не магла ісці. Жанчына атрымала рашучую адмову. Сястру найбольш уразілі гэты фікус і такая адмова.

Значна пазней ад мамы даведаўся, што тады мы паспелі дайсці да Печаў (прыгарад Барысава), а там пачулі: «Немцы ўжо ў Барысаве». Давялося вяртацца назад, у Мінск.

Зваротны шлях у Мінск таксама не памятаю. А момант вяртання ў пакінуты пакойчык адбіўся ў памяці яскрава. Дзверы ў нашу кватэру былі зачынены, як і дзверы ў пакоі старых дзеваў і Лізаветы Пятроўны. Але дзверы ў наш пакойчык былі расчынены насцеж, насцеж раскрыта было і акно. А ў пакойчыку — нічога, акрамя ложка з «голым» (без прасціны) матрацам і печачкі. Выцягваць спружынны матрац праз акно было, відаць, дужа складана.

Магчыма, тады, праз непрацяглы час пасля вяртання, адбылася мая першая сустрэча з немцам. Праўда, пра яе таксама нічога не помню. Як мне потым расказалі суседзі і мама, гэты немец нечага завітаў на наш двор. Я, убачыўшы яго, сціснуў кулачкі і з крыкам «Буржуй!» кінуўся насустрач. Дарослыя, хто ў гэты час быў на двары, загадалі старэйшым хлопцам хуценька адцягнуць мяне ад немца. Немец усім сваім выглядам выказаў недаўменне і здзіўленне і пакінуў двор. На гэтым інцыдэнт з «класавым ворагам» быў паспяхова завершаны.

## Нечаканыя выпрабаванні

Пацягнуліся маркотныя, аднастайныя дні. Прастора для майго баўлення па-ранейшаму была абмежавана пабудовамі, якія ўтваралі наш двор. Гулялі мы, дзеці, у звычайныя дзіцячыя гульні, часцей за ўсё у хованкі. Дзяўчынкі аддавалі перавагу скакалкам. Больш дарослыя хлопцы значны час забаўляліся «дзедам» (выбіваннем манет). З гэтай мэтай яны выкарыстоўвалі цяжкія металічныя, звычайна свінцовыя, зліткі, а то і камяні. А мы, малодшыя, назіралі за гэтай гульнёй. Сярод манет часта трапляліся чырвоныя царскія медзякі, бывалі і першыя савецкія капейкі, а таксама польскія і нямецкія манеты з шэрага металу, значна меншыя і лягчэйшыя. Іншы раз тыя ж «дарослыя» хлопцы спаборнічалі ў колькасці падбіванняў унутраным бокам стапы нечага кшталту валана (кавалка поўсці з грузам). Здаецца, гэтая гульня называлася «гуляць у казу ці казла». Пра гульню ў футбол не магло быць ніякай гаворкі, бо ніхто ніколі не меў ніякага мяча ці нечага падобнага на яго, а таксама месца для такой гульні, асабліва пасля ўзнікнення агароду, які заняў палову двара. Бывала, што хлопцы высвятлялі адносіны паміж сабой і вырашалі розныя спрэчкі



Этажэрка. Дзіцячы малюнак аўтара. (незавершаны)

кулакамі. Здараліся нават цэлыя пабоішчы паміж дварамі, але іх вельмі хутка спынялі дарослыя. Дакладна памятаю, што ніколі не гулялі «ў вайну». Гэта ўжо пасля вызвалення Мінска пачаліся падобныя гульні, часам з трагічным зыходам.

Сястра, натуральна, бавіла час з дзяўчынкамі, але заўсёды трымала мяне ў полі зроку. І нікому не давала крыўдзіць.

З самай раніцы маці некуды знікала на цэлы дзень. А калі заставалася дома, у нашым пакойчыку ўсталёўваліся начоўкі і пачыналася мыццё нечай (не сваёй) бялізны. Тады мы з сястрой па чарзе прыносілі маці па вядры вады, якую бралі з калонкі ў пачатку вуліцы Каменнай. Гэтая вуліца пачыналася адразу за мостам і ішла ў левым напрамку, перпендыкулярна да вуліцы Чкалава. Цягнуць ад калонкі да нашага дома 230—250 метраў поўнае вядро вады было цяжкавата. Таму мне загадвалася прыносіць палову вядра. Добра памятаю, як маці вучыла сястру мокрую бялізну не выкручваць, а выціскаць, каб незнарок не парваць зношаную рэч.

Два разы мы ўсёй сям'ёй хадзілі ў бок Курасоўшчыны выкопваць моркву і нейкі белы караняплод (напэўна, турнэпс). За гэтую працу заплацілі натурай: тым, што капалі і выбіралі. Паміж ножкамі століка, які стаяў у нашым пакойчыку ля акна (у самым халодным месцы), маці збіла з дошак скрыню. У тую скрыню мы і склалі зароблена. Потым, калі шанцавала набыць, туды ж трапляла і бульба.

Што мы елі ў час акупацыі, дакладна не памятаю. Елі ўсё, што можна было здабыць і што можна было назваць ядомым. Сказаць, што мы пачалі галадаць — гэта нічога не сказаць. Адчуванне голаду было заўсёдным. Звычайна я з ім прачынаўся і з ім жа засынаў. Дзённы сон часта замяняў абед.

У нашым пакойчыку з нешматлікага, але разнастайнага посуду вызначаўся фарфоравы смятаннік. Не памятаю, ці бывала калі-небудзь у ім смятана, але ён прыцягваў увагу. Сціплы, але прыгожы.

Промні сонца прасвечвалі яго наскрозь. І вось гэты смятаннік некуды знік. Толькі пасля вайны даведаўся, што ў той зласчасны год маці аднесла яго ў ламбард. «У ламбардзе рэчы прымала немка, — апавядала маці знаёмым. — Яна вызначыла кошт смятанніка, але пры разліку моўчкі прыбавіла яшчэ некалькі марак. Відаць, зразумела, што мне вельмі патрэбны грошы. Тады я ўпэўнілася, што і сярод немцаў ёсць людзі», — дадала маці.

Пэўна, ёй даводзілася залазіць у даўгі. Толькі раз у жыцці я бачыў палахліва-вінаватыя вочы маці — менавіта ў той час, калі ў наш пакойчык завітала нейкая кабета з непрыступным, патрабавальным, як мне падалося, нахабным тварам. Зразумець сэнс яе размовы з маці я, канешне, не мог. Але было відавочна, што гутарка ішла пра вяртанне пазыкі. Мо праз гадзіну жанчына пакінула нас з тым жа непрыемным тварам.

Надышлі халады, дні сталі кароткія. Адной раніцай, яшчэ толькі пачало світаць, нехта з суседзяў, такіх, як і я, хлапчукоў, цішком, употайкі паведаміў мне, што ноччу ў кар'еры расстрэльвалі людзей, і прапанаваў схадзіць туды, паглядзець. Кар'ер гэты знаходзіўся недзе побач (зараз мяркую — прыблізна там, дзе потым будзе ўзведзены двухпавярховы дзіцячы садок: за метраў 150—200 ад калонкі, з якой мы бралі ваду), інакш бы я не рашыўся на гэты паход так рана, без родных (маці ці сястры), толькі з суседскімі дзецьмі.

Падышлі да кар'ера. Рэльеф яго пакуль не праглядваўся. Чорныя суцэльныя сцены вертыкальна абрываліся на некалькі, мо з дзясятак, метраў уніз, дзе ўжо можна было ўбачыць роўную жаўтаватую пляцоўку. Па ўсёй гэтай пляцоўцы цямнела некалькі, 7—10, прадаўгаватых узгорачкаў, як на могілках. З месца, дзе мы стаялі, больш нічога немагчыма была разглядзець. Недалёка ад мяне нейкі даросль, відаць, сведка тых падзей, ціха, упаўголаса распавядаў другому, як некаторыя з прызначаных да пакарання не хацелі паміраць. Я стаяў, пазіраў наўкол і прыслухоўваўся да гэтай гаворкі. Раптам мяне апанаваў страх, што вось так і мяне могуць схапіць і забіць ні за што, а я не змагу нічым абараніцца. Халодныя мурашкі пабеглі па маёй спіне і ўсё наваколле пачало расплывацца перад вачамі. Колькі часу прабыў у такім узрушаным стане, не ведаю. Унізе, на дне кар'ера, нічога не мянялася. Павіднела. Людзі ўсё падыходзілі і падыходзілі. Хутка яны ўжо стаялі суцэльнай сцяной па краі кар'ера.

Здаецца, убачанае ўзрушыла не толькі мяне, таму што ўсе мы моўчкі ціхенька рушылі назад, у свой двор. Абмяркоўваць тое відовішча нікому не хацелася.

Праўда, не кожны дзень мы сядзелі ў страху, стане безвыходнасці і смутку. Аднойчы ўсіх жыхароў нашага двара дужа павесяліла і пацешыла вестка пра тое, як немцы вялі барацьбу з клапамі. Яны выявілі іх у адным з баракаў, у якім збіраліся атабарыцца. Пазбавіцца ад крывасмокаў выраршылі паяльнымі лямпамі (такімі ж лямпамі, між іншым, у нас калісьці смалілі тушы свіней). У выніку не стала клапоў, але і барака: ён паспяхова згарэў.

Зіма сорак першага года выдалася вельмі суровай, адной з самых халодных і жорсткіх у XX стагоддзі. Неверагодна цяжка было нашай маці здабываць не толькі ежу і вопратку, але і паліва для абагрэву пакойчыка. Каб пратапіць печачку, маці адшукала недзе вялікі корч і паспрабавала яго рассекчы. Рассекчы не атрымалася — маці толькі раструшчыла сабе вялікі палец правай рукі. Ды так, што праз некалькі дзён была вымушана звярнуцца па дапамогу да лекараў. Тыя зрабілі ёй нейкую аперацыю. Палец урэшце ўдалося выратаваць. Але ўсю зіму праз увесь наш пакойчык, бліжэй да печачкі, былі працягнуты вяровачкі, на якіх сушыліся бінты-анучкі. Гэтымі вымытымі і прасушанымі анучкамі мама была вымушана перавязваць пашкоджаную руку. Зразумела, рабіць фізічна на працягу зімы яна наўрад ці што-небудзь магла.

Мне і цяпер цяжка вызначыць, дзякуючы чаму і як нам удалося выжыць у той год.

## Пяць морквінак

Сорак другі год быў для мяне знамянальны тым, што трэцяга красавіка мне спаўнялася пяць гадоў. Ужо прывучаны да падарункаў у такі дзень, чакаў іх і на гэты раз. (Маці заўсёды старалася хоць нечым адзначыць дзень нараджэння — мой і сястры, нават у мае ўжо сталыя гады.) Тое, што атрымаў у падарунак, пераўзышло ўсе мае здагадкі і чаканні: мама прынесла мне цэлых пяць морквінак. Потым яна расказвала, што, атрымаўшы падарунак, я быў на сёмым небе ад шчасця.

Яны і цяпер у мяне перад вачамі — тыя пяць тоненькіх, танчэйшых за мой цяперашні мезенец, морквінак з доўгім зялёным бацвіннем (напэўна, яно надавала самавітасці «тавару»). Верагодна, нехта ўсю зіму расціў іх на падаконніку з надзеяй на лепшую будучыню для сябе. Давялося ж радаваць іншага.

Мо і ад шчасця, але не памятаю, ці падзяліўся з сястрой падарункам. Хочацца верыць, што падзяліўся.

* * *

Праз пару тыдняў пасля майго дня нараджэння больш чым палову нашага двара заняў агарод. Мяжой паміж ім і «гаспадарчым» дваром служыла сцежка з вуліцы да нашай кватэры. На процілеглым баку агарода знаходзіліся прыбіральня і памыйка. Ад прыступкаў прыбіральні і памыйкі да бліжэйшых градак было не больш за два метры. Каб наведаць прыбіральню ці вынесці смецце і памыі, даводзілася ісці праз агарод па досыць глыбокіх баразнах паміж градкамі. Аднак за ўсе гады, пакуль быў агарод, не прыпомню ніводнага выпадку, каб нехта вытаптаў ці пашкодзіў грады або пакваліўся на чужы ўраджай.

Была на тым агародзе і наша градка. На кавалачку зямлі, зразумела, нічога акрамя ранняга зяленіва (цыбулі на пяро, кропу, салаты) не магло вырасці. Але ж і тое, што вырастала, была істотным дадаткам да харчавання.

Да маці пачалі прыходзіць вучні. Тады ў нашым пакойчыку мне не было месца, таму на некалькі гадзін я атрымліваў дазвол быць самастойным, але ў межах двара.

А Лізавету Пятроўну часта наведваў высокі, хударлявы (праўда, у той час іншых людзей і не было), вусаты мужчына сярэдняга веку, па ваенным часе — яўна «прызыўнога» ўзросту, Дзмітрый, скажам, Паўлавіч (яго імя па бацьку дакладна не памятаю). Між сабой мы яго называлі «Дзімачка». Гэты Дзімачка да вайны працаваў у бутафорскай майстэрні опернага тэатра, а ў вайну стварыў майстэрню па вырабе штучных кветак. Лізавета Пятроўна ўгаварыла Дзімачку ўзяць да сябе ў майстэрню маю сястру, 8-гадовую Людмілу. Так, дзякуючы Лізавеце Пятроўне, сястра пачала сваю працоўную біяграфію, а маці часцей стала бываць пры нейкіх «грашах». Аднак што гэта каштавала сястры...

## Сястрына праца

Кветкі, што выраблялiся ў майстэрні Дзімачкі, былі сапраўднай пародыяй на сучасныя штучныя кветкі, якія нам прывозяць з азіяцкіх краін. Не заўсёды нават можна было вызначыць від зробленай кветкі. Але на бязрыб'і і рак — рыба. Відаць, і на такія кветкі быў нядрэнны попыт. Напэўна, былі і тэрміновыя замовы. Бо сястры часта даводзілася рабіць кветкі і дома, познімі вечарамі. Бывала, кладуся спаць, а яна сядзіць за столікам, за сваёй справай. Прачынаюся ад святла капцілкі, а сястра ўсё працуе.

У той час мець газавую лямпу са шклом-комінам, якое па форме нагадвала выцягнутую грушу, было велізарнай раскошай. Свечак таксама страшэнна не хапала. З'явіліся каганцы-сподачкі з кардону. Іх мне нагадваюць сучасныя перавёрнутыя пластмасавыя накрыўкі на слоікі — такія ж па велічыні (плошчы), толькі з больш высокімі (амаль удвая) краямі. Гэтая кардонныя сподачкі былі запоўнены нейкай брудна-шэрай воскападобнай масай з кнотам у сярэдзіне. Такія каганцы свяцілі не больш за 15—20 хвілін. На ветры яны хутка тухлі, таму звычайна імі карысталіся пры кароткіх пошуках-блуканнях па розных памяшканнях. Падобныя каганцы-сподачкі некім дзесьці выраблялiся. Іх можна была недзе набыць. А каб асвятляць нейкі пакой гадзіну і болей, даводзілася самім ствараць свяцільнікі іншай канструкцыі. Тады ў невялікую шклянку (аб'ёмам з сучасныя слоікі ад гарчыцы, хрэну, дзіцячага харчавання) залівалі газу і ўстаўлялі кнот, які неяк замацоўвалі. Пасля запальвання з такіх змагарак з цемрай не столькі вылучалася святла, колькі валіла курадыму, таму іх мянушкі былі адпаведныя — капцілкі. Падобная капцілка і стаяла перад сястрой.

Упэўнены, што тады капцілкі былі ў кожнай хаце. Бо нічога больш прыдатнага з прылад для асвятлення знайсці або зрабіць было проста немагчыма.

Перашкод з набыццём газы, здаецца, не было. Але ж і яна каштавала нешта, чаго вельмі не хапала ў сям'і. Таму без крайняй неабходнасці капцілку мы не запальвалі, лічылі за лепшае вечар прасядзець у цемры.

Вялікія буйныя кветкі (ружы, вяргіні, гладыёлусы) рабілі з пафарбаванай, часцей за ўсе гафры-

раванай, паперы. Іх вырабляць адносна проста, было б з чаго. Нават я, паназіраўшы за працай Людмілы, мог скруціць з абрэзкаў паперы прывабную ружачку. Для вырабу лілей была патрэбна белая шчыльная папера. Потым, калі мелася магчымасць, зробленыя кветкі лілей абмоквалі ў расплаўлены воск. Тады яны рабіліся самымі дарагімі кветкамі. Больш праблем узнікала пры вырабе дробных кветак, такіх, як бэз. Пялёсткі бэзу, адразу па чатыры, выбівалі з крышку глянцавай паперы бэзавага колеру. Адмысловая машынка для выбівання гэтых пялёсткаў была толькі ў Дзімачкі. Тую машынку ён нікому не давяраў.

Для вырабу кватак бэзу патрабаваліся не столькі спрытнасць, колькі дасканаласць рухаў, дакладнасць і руплівасць. Як мне падалося, усе гэтыя якасці былі ў маёй сястры. Бо ў большасці выпадкаў я бачыў яе менавіта за вырабам галінак бэзу. Спачатку ў цэнтры чатырох пялёсткаў яна прымацоўвала «разетку» — жоўценькую кропачку. Потым на адваротным баку гэтага ўтварэння тарцом, таксама ў цэнтры, прыклейвала кардонны слупок даўжынёй каля двух сантыметраў. Калі падобных «канструкцый» назапашвалася каля двух дзясяткаў, іх трэба было сабраць у гронку. І ўжо потым з трох-чатырох гронак і некалькіх папяровых «лісцяў», якія мацаваліся на кавалку дроту, абгорнутым стужкай зялёнай паперы, стваралася «галінка бэзу». За час працы сястра так стамлялася, што, задрамаўшы, апускала галаву на капцілку. У падобных выпадках без апёкаў і падпаленых валасоў не абыходзілася.

Неяк сястра ўзяла мяне з сабой ў майстэрню. Дзе знаходзілася тая майстэрня, цяпер вызначыць не магу, аднак добра памятаю, што яна размяшчалася ў пакоі плошчай метраў 18, з двума вялікімі вокнамі і сталамі, на якіх ляжалі скруткі паперы, дроту, усялякая дробязь. Акрамя Дзімачкі ў пакоі працавала пяць ці шэсць жанчын. Сястра далучылася да іхняй працы, а я пачаў усё і ўсіх разглядаць і слухаць. Мне падабалася добразычлівасць, што панавала ў пакоі, і амаль непрыкметныя лёгкасць і весялосць, з якімі працавалі жанчыны. Асабліва тое, як яны ставіліся да маёй сястры (як да дарослай), а сястра — да іх: абсалютная роўнасць! Глядзеў і слухаў, а самога ажно распірала ад гонару за сястру.

## Пошукі «мушак з роту»

Аднойчы раніцай мама паведаміла мне: «Светка захварэла…». І дадала тонам, які не церпіць пярэчанняў: «Ты да яе не хадзі». Было крыху дзіўна чуць такое ад мамы, таму што я рэдка наведваў гэтую дзяўчынку. Светка жыла ў суседнім доме. Верагодна, была маёй аднагодкай, але зусім не той асобай, з якой было б цікава праводзіць час. Нейкая рыхлая, з вечна чырвонымі слязістымі вачамі, пакрытымі гнойнымі, як і ў мяне, коркамі павекамі, амаль бесперапынна саплівая, а да таго ж часта кашляла. Светка не магла выклікаць да сябе сімпатыю з боку хлопчыкаў, яе хутчэй чакала спачуванне. Але ж хворы чалавек заўсёды адчувае патрэбу ў дапамозе і яго неабходна ўсяляк падтрымліваць. Гэтаму ўвесь час вучыла мама.

— Чаму? — з нейкім выклікам запытаў я.

— Разумееш, у Светкі з роту вылятаюць такія мушкі, ад якіх ты можаш захварэць, калі яны трапяць да цябе, — сказала мама.

Было б лепш, калі б яна гэтага не гаварыла. Бо ўва мне імгненна ўспыхнуў імпэт даследчыка.

Захварэць, натуральна, не было ніякага жадання, але ўбачыць «мушак з роту» вельмі захацелася. Вырашыў: буду глядзець у разяўлены Светчын рот не прама, а як-небудзь здалёк і з боку, каб засцерагчыся ад тых мушак, непрыкметна для самой Светкі, аднак так, каб абавязкова заўважыць мушак. Не хацелася сваім непаслушэнствам засмучаць маму. Але як тады ўбачыць тых мушак?!

Як толькі здаралася спрыяльная нагода, я бег да Светкі вышукваць мушак. Пра мае даследчыцкія намеры ніхто не здагадаўся, нават сама паддоследная. Аднак паступова, з кожнай маёй няўдачай у пошуках, знікала надзея калі-небудзь убачыць тых «мушак», адпаведна зніжаўся і мой паляўнічы імпэт, пакуль не знік зусім. Праз некалькі тыдняў пра пошукі «мушак» мне наогул ужо не хацелася ўспамінаць.

Але тыя прагныя, заўзятыя паляванні за «мушкамі» не забываліся.

## Самалёт на мосце

Часам мама брала мяне з сабой на базар. Тады мы праходзілі праз Бетонны мост у напрамку Маскоўскай вуліцы і адразу за мостам паварочвалі ўлева. (Цяпер тую вуліцу перагароджвае вялікі будынак.) Ішлі ўздоўж былога хімфармзавода

(на плошчах якога потым размясціўся і працуе сучасны завод антыбіётыкаў) і за ім уваходзілі на пляцоўку Суражскага базара. Базар знаходзіўся на тым месцы, дзе сёння размяшчаецца дэпо метрапалітэнаўскіх цягнікоў. Той базар уяўляў сабой звычайную барахолку, на якой значную плошчу займалі харчовыя прадукты. Амаль увесь «тавар» ляжаў на зямлі. Мо і было два ці тры прылаўкі. Нават не памятаю, ці быў там хоць які-небудзь навес.

Па праўдзе кажучы, хадзіць на базар я не любіў: для мяне там было мала цікавага, а мама ўвесь час была занятая бясконцымі таргаваннямі, якія ў абсалютнай большасці заканчваліся нічым. Да таго ж я быў вымушаны чакаць заканчэння ўсіх гэтых таргоў, стоячы побач, не далей выцягнутай мамінай рукі.

У той раз усё было як звычайна. Мы ўжо досыць «натаргаваліся», калі раптам пачулі нейкі «густы» гул са свістам, які цягнуўся некалькі секунд, а потым прагучаў глухі выбух недзе ў баку нашага дома і — стала ціха. Цішыня доўжылася толькі некалькі імгненняў. Следам над людскім гуртам пранёсся досыць гучны шэпт: «Аблава!» Аблавы здараліся і раней. Тады людзі імкнуліся як мага хутчэй пакінуць базар, накіроўваючыся да выхаду. Мы з мамай таксама без прамаруджвання ішлі з усім натоўпам. Звычайна выходзілі з базара праз тыя ж вароты, праз якія ўваходзілі. Але на гэты раз людская маса рушыла ў процілеглым напрамку. І мы пайшлі ў той жа бок.

Калі мы выйшлі за межы базара, я азірнуўся. Убачыў мост, па якім не так даўно праходзілі, а ўпоперак моста, паміж пілонаў, — двухматорны самалёт, павернуты носам на захад. Людзей на мосце не было. Не было відаць і полымя з дымам. Праз некалькі крокаў азірнуўся зноў, але самалёт і мост ужо засланіла бліжэйшая да нас пабудова. Мы ішлі па нейкай зусім незнаёмай мне вуліцы, паралельнай вуліцы Фабрыцыуса, у напрамку да цэнтра горада, потым — па нейкіх развалінах. Дакладна памятаю, што Заходняга моста мы так і не пабачылі. Затое выйшлі да пасажырскага вакзала і пешаходнага моста праз чыгуначныя шляхі. Нам спатрэбілася некалькі гадзін, каб нарэшце з тылу падысці да свайго дома.

Шлях на Бетонны мост быў перакрыты недзе з месяц. Што за гэты час тварылася на мосце, не мог ведаць. Таму што нам, дзецям, прынамсі мне, было забаронена нават выходзіць з двара. Калі ж рух на мосце ўзнавіўся, вызначыліся наступствы той «прымастоўкі» самалёта. А яны былі такія. Самалёт знёс усе парэнчы з усходняга боку моста і абваліў большую частку, амаль дзве трэці, тратуару на тым жа баку (бліжэй да вуліцы Чкалава). З другога, заходняга, боку мост страціў амаль трэцюю частку парэнчаў (таксама бліжэй да вуліцы Чкалава). Пілоны самалёт як быццам не пашкодзіў. Праз часовы насціл з дошак на месцы былога тратуару былі добра відаць унізе чыгуначныя рэйкі, а насціл пад нагамі так хістаўся, што боязна было на яго ступіць.

Пра гэтае здарэнне ў акупаваным Мінску ў нашых даведніках я не знайшоў ніякіх звестак. Толькі ў 1970-ыя гады чуў па праваднымradыё нарыс, з якога вынікала, што гэта была справа рук падпольшчыкаў.

Так ці не — сёння гэта ўжо і не вельмі важна.

## «Нашых вядуць!»

Лета ўжо перавалiла на сваю другую палову. Ужо пачало вечарэць, калі па двары разнёсся дзіцячы крык: «Нашых вядуць!» Усе дзеці з двара дружна высыпалі на вуліцу. (Дарослых нешта не прыпамінаю, мо тады іх зусім не было на двары.) Калі мы выбеглі з двара, даўжэзная калона палонных «нашых», абкружаная нешматлікімі нямецкімі канвойнымі з вінтоўкамі наперавес, ужо расцягнулася па ўсёй вуліцы Чкалава і рухалася па мосце. Галавы калоны не было відаць: яна знаходзілася недзе на сярэдзіне моста. З суседніх двароў выбягалі жанчыны з нейкімі рэчамі ў руках і імкліва ўзбіраліся на адкос моста, да калоны.

Палонныя шлі моўчкі (быў чутны толькі шоргат абутку сотняў ног), панура, не азіраючыся па баках. Яны былі засяроджаны на сабе, з адбіткам асуджанасці на тварах, як быццам, ужо ведалі, якія пакуты чакаюць іх наперадзе. І выгляд ва ўсіх іх быў аднолькавы: у пілотках (фуражак амаль не было) і гімнасцёрках пясочна-шэрага адцення, якія, па ўсім было відаць, пабывалі ў шматлікіх і самых розных пераплётах, а таксама ў незразумела якім абутку. Я звярнуў увагу на зусім юнага чарнявага салдаціка, амаль хлапчыну, з непакрытай круглай галавой (напэўна, узбек). Ён скакаў на адной назе, абапіраючыся на плечы таварышаў



Аўтапартрэт. «Прыкладна 7—8 клас».

досыць сталага веку, а тыя падтрымлівалі яго. Хутка постаць гэтага салдаціка знікла з маіх вачэй.

Уперадзе з моста пачуўся жаночы лямант. Напэўна, нямецкія канваіры перашкаджалі жанчыне перадаць нешта палонным. Лямант хутка сціх, і па-ранейшаму шаргатаў па брусчатцы моста абутак сотняў ног.

Сонца, якое ўжо садзілася за гарызонт, пачало сляпіць нам вочы. Постаці палонных сталі расплывацца ў вачах,ператварацца ў суцэльную пясочна-шэрую сцяну. А палонныя ўсё ішлі, ішлі, ішлі. І здавалася, што ім не будзе канца.

Ці бачыў канец той калоны, нават не памятаю. Відовішча толькі дадало смутку да адчування бездапаможнасці.

## Кухонныя «кватаранты»

Яны пасяліліся на нашай кухні ўвосень, мяркую, сорак трэцяга года. Тры жанчыны і юнак. Гэта былі бежанцы, напэўна з Украіны ці з Малдавіі, а можа, з абодвух тых мясцін. Гаварылі па-ўкраінску, юнак — крыху горш за жанчын. Так наша кухня, якая амаль не выкарыстоўвалася па прызначэнні, ператварылася ў прахадны жылы пакой.

«Кватаранты» да ўсіх жыльцоў нашай кватэры і нашага двара ставіліся досыць памяркоўна, паводзілі сябе ціха. Днём звычайна іх не было ні ў кухні, ні на двары. А калі яны вярталіся ў кухню, мы ў сваім пакойчыку ўжо клаліся спаць.

З намі, дзецьмі, юнак-«кватарант» амаль не меў зносін. І са старэйшымі хлопцамі з нашага двара яго можна было бачыць не вельмі часта. Нават сёння не ўяўляю, як яны чацвёра жылі ў той кухні, «начынне» якой — толькі столікі і шафкі.

Здаецца, зіма была ў самым разгары, калі ў кухні раптам стала шматлюдна, пачалася нейкая мітусня і валтузня. З'явіўся і стары доктар-тэрапеўт, які жыў недалёка ад школы. Мама забараніла мне з сястрой выходзіць з пакойчыка. Мы і не збіраліся ёй пярэчыць: час ужо быў позні. З-за дзвярэй даносіліся нейкія выкрыкі, быццам людзі аб нечым спрачаліся. Мама некалькі разоў выходзіла ў кухню і хутка вярталася. А мы з сястрой займаліся сваімі звычайнымі вячэрнімі справамі. Нарэшце за дзвярамі ўсё заціхла. Мама далучылася да нас у ложку.

Што тады адбывалася ў кухні, мне стала зразумела значна пазней, калі ўжо быў студэнтам-старшакурснікам медыцынскага інстытута. Успомніў змест усіх рэплік, што тады даносіліся з-за дзвярэй, спалучыў іх і вызначыў: у той час у кухні адбываліся роды, прытым заўчасныя, да таго ж — неспрыяльныя, ускладнёныя. Бо не чуў крыку немаўляці і яго самога ніколі не бачыў.

## Прадвеснікі вызвалення

У той час, зразумела, ні я, ні мае аднагодкі пра якія-небудзь прадвеснікі і падумаць не маглі. Хіба што нешта ведалі дарослыя, якія прыкметна засяродзіліся, сталі нейкімі загадкава-таямнічымі. Я толькі адзначаў без усялякіх высноў, што ў нашым жыцці, нашым асяроддзі дзеецца нешта такое, чаго раней не было. Гэтых прадвеснікаў, канешне, было значна больш, чым тых, што запомніліся.

Увесну сорак чацвёртага года яшчэ нічога не нагадвала пра набліжэнне нашых войскаў да Мінска. Па-ранейшаму мы харчаваліся ўсім, што можна было здабыць і што толькі можна было з'есці. У першую чаргу стараліся набыць хлеб. Аднак хлеб, які тады з'явіўся, нават хлебам цяжка і сорамна было называць. Усім сваім выглядам (жоўта-шэры, неакрэсленай формы) і змесцівам (такім жа жоў-

та-шэрым, вязкім, ліпкім, гаркаватым) такі, з дазволу вымавіць, «хлеб» вельмі нагадваў змяшаную з мякінай і крыху запечаную гліну. На яго нават брыдка была глядзець. Толькі адзін раз я рашыўся праглынуць кавалачак гэтага жудаснага прадукту чалавечых рук і — больш не захацеў, ні пры якіх умовах! Адчуванне было такое, што праглынуў нешта кшталту жывога вожыка, якога ніколі не бачыў. Асцюкі дралі глотку, кавалак «хлеба» завяз у ёй. У той момант, калі немагчыма было ні праглынуць, ні прадыхнуць, нават апанаваў страх. Які хлеб еў дагэтуль, не памятаю зусім. Затое цудоўна памятаю хлеб, які еў пасля: было з чым параўноўваць. Вось менавіта тады, у тыя часы ўпершыню адчуў, што няўхільна і незваротна нешта мяняецца ў нашым жыцці.

У небе пачала з'яўляцца так званая «рама» — нямецкі самалёт-разведчык, якаго ў папярэднія гады акупацыі я не бачыў. Не заўважыць і не звярнуць увагі на такі самалёт была немагчыма з-за яго незвычайнага аблічча. Фюзеляж гэтага самалёта ўяўляў не «сасіску», як у астатніх самалётаў, а самую натуральную «раму». Таму і атрымаў такую назву ў народзе. Корпус самалёта паміж крыламі быў празрысты. Таму, убачыўшы «раму», заўсёды хацеў разгледзець лётчыка. Але ніводнага разу гэтага зрабіць не ўдалося.

Недалёка ад нашага дома, на пустэчы, немцы змайстравалі зенітна-кулямётнае гняздо.

Непрыкметна з нашай кухні некуды зніклі «кватаранты»-бежанцы.

Насталі ціхія гарачыя дзянькі. Лета прыйшло неяк хутка, і адразу стала спякотна, хоць увесь час дулі вятры з поўначы. Пад промнямі сонца ўсё хутка выгарала.

Зрэдку, звычайна апоўдні, можна была пачуць высока ў небе гул самалёта. Адразу ж пачыналі страляць зеніткі. І тады над галавой на чысцюткай сіняве ўзнікалі чорныя плямкі разрываў. Было забаўна і цікава глядзець, як нехта нябачны нябачным алоўкам хуценька вымалёўвае гэтыя клубочкі разрываў. А галоўнае — пашукаць і знайсці ў гэтай кучцы клубочкаў серабрысты крыжык самалёта, які ўпарта і роўна ляцеў з поўдня на поўнач. На двары хлопчыкі хваліліся, што бачылі на крылах гэтых самалётаў-разведчыкаў чырвоныя зоркі. Я ім не верыў і, здаецца, меў рацыю: дужа высока ляцелі тыя самалёты, каб можна было ўбачыць на іх такую «дробязь», як зоркі. Самае крыўднае — дарослыя ні разу не далі мне дазволу прасачыць да канца пралёт такога самалёта. Сваю забарону яны тлумачылі тым, што з неба ляцяць асколкі, якія могуць мяне параніць. Праўду ці не казалі дарослыя — не ведаю і сёння.

Як толькі знікаў самалёт-разведчык, зноў наступала цішыня.

Нават выбухі, якія пачаліся ў розных канцах горада, не вельмі паўплывалі на дрымотна-расслаблены стан жыхароў з нашага двара. Такія выбухі звычайна здараліся ў другую палову дня. Раптам сярод поўнай цішыні здалёк чуўся выбух, і праз некалькі імгненняў слуп чорнага дыму зацягваў ладны кавалак неба. Потым у поўнай цішы гэты слуп марудна рассейваўся. Аднак чуўся новы выбух, ужо ў іншым месцы, і новы слуп дыму ў поўнай цішыні ўзнімаўся ў неба. Потым — яшчэ выбух. Па 4—5, а можа і болей, выбухаў штодня. Цяпер усім, у тым ліку нам, дзецям, стала зразумела, што хутка немцы ўцякуць ад нас.

Між тым пралёты самалётаў-разведчыкаў адбываліся ўсё часцей і часцей. Нарэшце — штодня, бывала — і па два разы на дзень. Да паўдзённых пралётаў далучыліся начныя бамбардзіроўкі.

Калі прыцемкі пераходзілі ў змрок, бліжэй да цемры, а мы збіраліся спаць ці ўжо спалі, раптам пачыналася скуголенне сірэны. Следам чулася страляніна зенітак. Зрэдку бывала наадварот. Мы хуценька збіраліся і шыбавалі за сёмы двор, туды, дзе знаходзілася наша «бамбасховішча». Бяру гэтае, апошняе, слова ў двукоссі, таму што зусім нядаўна гэтае збудаванне яшчэ было бензінасховішчам, з якога не паспеў вытхнуцца спецыфічны пах. Гэтае «сховішча» ўяўляла сабой металічную канструкцыю, падобную да скрыні, якая напалову была закапана ў зямлю і зямлёй прысыпана. У ёй уздоўж сцен былі пастаўлены лаўкі. Прамежак паміж лаўкамі — не больш за 40 сантыметраў. Таму людзі, седзячы насупраць, датыкаліся адзін да аднаго каленямі, а калі засыналі, то і — галовамі.

У «сховішчы» магло змясціцца не больш за 20 чалавек. Але ўсе, хто спазняўся, па-за «сховішчам» не заставаліся. Праўда, тады такое хаванне ператваралася ў сапраўдныя пакуты для ўсіх. Вось чаму, калі мы адчувалі, што спазняемся, лічылі за лепшае наведаць пакойчык Лізаветы Пятроўны. У час бамбардзіроўкі яна станавілася перад абразамі і

шэптам чытала малітвы. За ёю я з сястрой клаліся на посцілку на падлозе, а мама садзілася на крэсла каля нашых ног.

Перажыць бамбардзіроўку было сапраўдным выпрабаваннем. Калі пачынаўся злавесны свіст падаючай бомбы, здавалася, што яна ляціць проста і толькі на цябе. Нарэшце чуўся выбух недзе ўдалечыні, і можна было перавесці дух. Але ў наступны момант чуўся свіст чарговай бомбы. Потым — яшчэ і яшчэ... Звычайна бамбардзіроўкі працягваліся з паўгадзіны. Але здавалася, што яны (бамбардзіроўкі) цягнуцца бясконца. Гэтыя паўгадзіны спустошвалі, выцягвалі душу. Пераносіць бамбёжку ў «сховішчы» было крышачку лягчэй, чым у кватэры. Можа, таму, што ў «сховішчы» не так было чутна, што тварылася наверсе. Ды і, можа, нейкая салідарнасць людзей, шчыльна прыціснутых адзін да аднаго, чымсьці падтрымлівала асабісты спакой.

Калі пасля першых начных налётаў нехта яшчэ дазваляў сабе раскошу правесці рэшткі ночы ў асабістым ложку і пакідаў «сховішча», то ў наступныя бамбардзіроўкі на падобнае не адважваўся ніхто. Бамбёжкі ўжо адбываліся кожную ноч, і ніхто не ведаў, ці паўторацца яны зноў.

Недзе за тыдзень да прыходу нашых войскаў немцы падпалілі хімфармзавод. Увесь час, больш за тыдзень, завод гарэў, засланяючы сваім чорным дымам усю заходнюю частку неба.

У адну з начэй, калі ўжо ва ўсю гарэў хімфармзавод, мы звыкла сядзелі ў «сховішчы» і праз дрымоту чулі, што дзеецца наверсе. Раптам (бо, здаецца, ніхто ў «сховішчы» не чуў ні свіста падаючай бомбы, ні выбуху) нейкая хваля пракацілася па маёй спіне, моцна штурхнула ўперад і павольна пасадзіла назад. Нехта войкнуў. Знадворку пачулася нешта такое, як быццам, вялікая і магутная істота працягла і гучна выдыхнула. Са столі нам на галовы пасыпаліся смецце і зямля. І на некалькі імгненняў стала ціха. У «сховішчы» больш ніхто не вымавіў ні гуку. Ніхто не крануўся з месца. Недзе ўдалечыні яшчэ чуліся гукі бамбавання, але ўжо на добрай ад нас адлегласці. Так і прасядзелі мы ў сваім «сховішчы» моўчкі і ў суцэльнай цемры да самай раніцы.

Калі выходзіў са «сховішча», сонечны дыск быў ужо над гарызонтам і сляпіў вочы. Таму не адразу ўдалося разглядзець, што робіцца насупраць. Учора там, за метраў 70—100 ад «сховішча», на другой вуліцы (здаецца, вуліцы Жукоўскага) стаялі два досыць вялікія драўляныя будынкі. А сёння на іх месцы чарнелі дзве кучы бярвенняў. Дык вось чаму мяне выпіхнула ўперад, калі ў гэтыя дамы трапіў фугас: у «сховішчы» я сядзеў да гэтых дамоў спінай! Іншыя дамы навокал як быццам не пацярпелі.

Што ў гэтую ноч адбылося ў нашым пакойчыку, мы, калі вярнуліся ў кватэру, не маглі зразумець, пакуль не расчынілі пашкоджаныя аканіцы. Уся падлога пакойчыка была скрозь завалена аскепкамі шкла, галоўным чынам трохкутнымі, у большасці памерам 8—10 x 8—10 x 2—3 сантыметры. Такія ж асколкі шкла ляжалі на коўдры ложка, тырчалі з дзвярэй. Затое ў аконнай раме не засталося ні кавалачка шкла. Здаравенны металічны асколак памерам 35—40 x 12—15 сантыметраў прабіў аканіцу і прыбіў абедзьве палавінкі аконнай рамы да падаконніка. Нават не верылася, што ў аконнай раме змяшчалася столькі шкла. Да таго ж адлегласць ад разбураных будынкаў на вуліцы Жукоўскага да нашага дома была ў раза паўтара большая, чым ад нашага «сховішча» да тых будынкаў. У пакойчыку Лізаветы Пятроўны і ў памяшканнях іншых нашых суседзяў па кватэры значных разбурэнняў не было: суседзі абышліся спалохам.

Аднак часу на здзіўленне не заставалася: трэба было хутчэй прыводзіць пакойчык у адносны парадак. Добра яшчэ, што звонку квітнела лета і на ноч дастаткова было прыкрыць «пустое» акно аканіцамі, хоць і пашкоджанымі.

## Дзень вызвалення

Яго мы сустрэлі, як і папярэднія 5—6 дзён, у «сховішчы».

Ноч перад вызваленнем была такой жа, як і ранейшыя. Нават не памятаю, ці быў у тую ноч налёт. (Калі не, то навошта нам была сядзець у «сховішчы»?) Як і раней, чуліся выбухі рознай гучнасці з розных бакоў горада. Аўтаматных чэргаў і вінтовачнай страляніны, здаецца, ніхто не адзначыў. Гэтая ноч адрознівалася ад іншых, папярэдніх начэй бадай што большай «наэлектрызаванасцю» прысутных у «сховішчы» ды няўцямнымі, амаль бесперапыннымі гулам і грукатам, з-за якіх іншыя гукі ўспрымаліся менш востра. Пад гэты акампанемент і сцішаныя размовы пра немцаў, якія, адыходзячы, абшукваюць кожны дом і, калі знаходзяць

у ім людзей, адразу страляюць з аўтаматаў або кідаюць гранаты, я і заснуў.

Калі прачнуўся, адзначыў, што тыя, вонкавыя, гукі сталі больш выразныя. Але па іх усё роўна немагчыма была вызначыць, што творыцца наверсе. Пакуль мы думалі, што рабіць, дзверы «сховішча» прыадчыніліся, і хлопцы звонку паведамілі: «Нашы на мосце».

«Мама, пабеглі!» — тут жа папрасіў-прапанаваў я. Мама адразу згадзілася. Мы з ёю выскачылі са «сховішча» і праз наш двор — на вуліцу. Сястра засталася ў «сховішчы».

Напэўна, было 10—11 гадзін раніцы: сонца вісела ўжо высока. З-за яркага святла адразу з цемры не мог нават разглядзець сцяжынку пад нагамі, не тое каб бачыць наўкол у двары. Пакуль дабягалі да насыпу моста, мой зрок амаль што ўзнавіўся. Краем вока заўважыў, што акрамя нас на адкос узнімаюцца яшчэ некалькі дарослых. На мосце стаяла група аўтаматчыкаў, чалавек 8—10. Яны разняволена курылі і размаўлялі. Як быццам ім не было ніякай справы да ўсяго навокал. Яны нават не звярнулі ніякай увагі на нас. Такая абыякавасць аўтаматчыкаў мяне непрыемна зачапіла. Пэўна ж, не такой «сустрэчы» я чакаў. У гэты момант нямецкі самалёт-знішчальнік, які мы з-за безупынных гулу і грукату, страляніны і далёкіх выбухаў, а галоўным чынам з-за дыму з былога хімфармзавода не адразу заўважылі, даў чаргу з кулямёта па таварнай станцыі («пакгаўзу»). З моста таварная — як на далоні. Нам добра было відаць, які там узняўся вэрхал, як пачалася бязладная мітусня. Мабыць, гэта ўразіла толькі мяне.

«Мама, а чаму яны не страляюць?» — спытаў я, маючы на ўвазе аўтаматчыкаў.

«Давай адсюль!» — замест адказу скамандавала мама, бо той самалёт-знішчальнік ужо рабіў баявы разварот у наш бок.

Са схілу моста мы кубарам скаціліся ў свой двор (тут ужо было не да азіранняў па баках) і далей — у «сховішча», дзе заставалася сястра.

Сядзець у «сховішчы» ніхто не хацеў. Гукі бою аддаліліся некуды на поўнач, далей за цэнтр горада. Рушылі і мы адчыняць аканіцы нашага бесшклянога акна.

У другой палове дня ўсе жыхары нашых дамоў высыпалі на двор, каб station паназіраць за пралётам з поўдня на поўнач «тушак» (бамбардзіроўшчыкаў



Аўтапартрэт, зроблены ў 9-м класе. «У 10-м не было часу такім глупствам займацца.»

«Ту-2», якіх я адрозніваў ад іншых самалётаў па раздвоеным кілі) у суправаджэнні знішчальнікаў. Самалёты ляцелі хвалямі на адносна невялікай вышыні, так што чырвоныя зорачкі на крылах можна было разглядзець без усялякай напругі. Іхні гул надаваў нам (прынамсі мне) упэўненасці і, як мне падалося, нёс выклік ворагу.

Як толькі праляцелі самалёты, мы, дзеці, памкнуліся на мост — самую высокую «кропку», каб зірнуць, што робіцца ў горадзе. Ніхто з дарослых у гэтым памкненні нам ужо не перашкаджаў. Над горадам вісела густая чорная смуга. Сярод шматлікіх разбурэнняў там-сям віднеліся як быццам цэлыя, не пашкоджаныя дамы. А над чорнымі сілуэтамі самых высокіх будынкаў чырванелі сцягі.

Праз нейкі час у адваротным напрамку, з поўначы на поўдзень, ляцелі ўжо нямецкія самалёты. Ляцелі на значна большай вышыні (крыжы на іхніх крылах распазнаваліся з цяжкасцю) і ў меншай колькасці, чым было нашых самалётаў. Гулі яны неяк прыглушана і няўпэўнена. Потым, праз якую

гадзіну, зноў з поўдня на поўнач яшчэ раз праляцелі «тушкі» са знішчальнікамі, але ўжо ў меншай колькасці, чым раней.

Пад вечар усю вуліцу Чкалава да моста заняла танкавая калона. Вось тады жыхары з навакольных дамоў вывалілі на вуліцу да вайскоўцаў. У дарослых не было канца размовам з танкістамі. А дзеці ні за што не хацелі злазіць з рук танкістаў і з брані танкаў. Не абмінула тое шчасце і мяне, пакуль танкавая калона не рушыла далей.

Дым з былога хімфармзавода па-ранейшаму зацягваў усю заходнюю частку неба. Пасмы яго з шэрых ператвараліся ў чорныя. Чырвоныя промні заходзячага сонца прабіваліся праз гэтыя пасмы і рабіліся дужа злавеснымі. Аднак напружанне ад заўсёднага ў апошнія дні чакання нечага дрэннага паступова спала.

Гэтым разам ноч мы правялі ў сваім пакойчыку.

## Новыя нечаканасці і высвятленні

Ужо на другі дзень пасля вызвалення горада заходняя частка неба ачысцілася ад дыму: полымя на дагараючым хімфармзаводзе было патушанае. Аднак любаванні захадамі сонца дома, у Мінску, нам давялося адкласці не менш чым на пару тыдняў.

Мяне вельмі здзівілі ператварэнні дзвюх асоб з суседніх двароў нашай вуліцы. Раней бачыў гэтых мужчын, калі хадзіў па ваду. Тады — малапрыкметных, звычайных. Зараз жа іх быццам нехта падмяніў. На вуліцы стаяла спякота, а яны апранулі зашмальцаваныя пінжакі, перацягнуўшы іх рамянямі. На тых паясных рамянях боўталіся гранаты. Мала таго, з-за спінаў гэтых суседзяў з гранатамі тырчалі дулы вінтовак. Не было падобна, што яны патрулявалі вуліцу, бо хадзілі ў разгар дня і паасобку. Крочылі нетаропка, пагардліва паглядаючы на мінакоў. Каб не бачыў іх раней, то мог бы падумаць, што не вайскоўцы, а менавіта яны вызвалілі горад ад немцаў. Праўда, літаральна праз пару дзён такія шпацыры дэманстратыўна ўзброеных суседзяў спыніліся.

Тыдні праз два пасля вызвалення Мінска па нашым двары разнеслася пагалоска, што прыязджаў лётчык, які разбамбіў тыя дамы на вуліцы Жукоўскага. Высветлілася, што цэліў ён у мост, а трапіў у свой дом (у адным з тых дамоў жыў ягоны бацька). Казалі, што той лётчык плакаў. А бацька з астатнімі пацярпелымі жыхарамі суцяшалі яго, супакойвалі: «Скажы дзякуй Богу, што засталіся жывыя, а хату як-небудзь адбудуем».

Амаль кожны тыдзень пасля вызвалення Мінска мы даведваліся, што нехта з нашчадкаў знаёмых прастрэліў ці параніў сабе нешта або на нечым падарваўся.

## Начлегі па-за межамі Мінска

Ужо на другі дзень пасля вызвалення Мінска мы групай у складзе 3—4-х сем’яў (10—12 чалавек), самых лёгкіх на пад’ём, з нашага і сёмага двара, пачалі штодня выходзіць у наваколлі горада. Як толькі сонца пачынала схіляцца на захад, да гарызонту, мы пачыналі збірацца ў паход. Справа ў тым, што па начах немцы моцна бамбілі розныя аб’екты горада — той жа Бетонны мост, таварную («пакгаўз»), вакзал, аэрадром: усё, што знаходзілася вакол нас. Гэтая акалічнасць і прымушала жыхароў нашых дамоў да падобных ўчынкаў. Для нас, малых, такія падарожжы былі сапраўдным задавальненнем. Мы насычаліся новымі, незнаёмымі яшчэ, шматлікімі, хоць і ў большасці жудаснымі ўражаннямі пасля доўгага нудлівага сядзення ў сваім двары. Таму збіраліся ісці з вялікай ахвотай.

У першыя дні даводзілася ісці па мясцінах, дзе, мабыць, гадзіну-дзве таму гасцявала смерць. Яна нават адчувалася ў паветры. Там-сям ляжалі забітыя коні з раздутымі чэравамі. Праўда, трупаў людзей не бачыў.

У адзін з такіх паходаў у кутку лётнага поля, там, дзе вуліца Брылеўская ўтварае са Слуцкай шашой амаль прамы вугал, прыкмеціў аднаматорны нямецкі самалёт, які ўрэзаўся ў зямлю амаль вертыкальна. Так і тырчаў гэты самалёт некалькі гадоў непрыбраным. Ён зрабіўся своеасаблівым знакам уезду ў горад з боку Слуцка.

Да зацемкаў мы паспявалі дайсці да Новага Двара, Капеічаў (напэўна, Капіевічаў) ці да Пятроўшчыны. Кожны раз — у новую вёску. Падаецца, што Новы Двор мы наведвалі часцей за іншыя вёскі. Звычайна падвячоркам мы былі ўжо на месцы, у вёсцы прызначэння. Тутэйшыя жыхары сустракалі нас досыць стрымана, але з разуменнем. На просьбу пераначаваць ніколі не было адмовы. Запрашалі нават да сябе ў хату. Але мы, з многіх прычын, перш за ўсё — санітарных, аддавалі перавагу пуням і сенавалам.

Калі прыцемкі моцна гусцелі, часта чулася прыглушанае тарахценне. Гэта двухкрылы самалёцік «ПО-2» пралятаў нізка над полем. «Шукае немцаў, што схаваліся ў жыце», — так тлумачылі дарослыя. Пра тое, што нехта хаваецца ў жыце, можна была здагадацца па шматлікіх пратаптаных сцежках, якія былі відаць нават з дарогі. Але чаму трэба шукаць адзінкавых немцаў? На гэтае пытанне ні разу не атрымаў адказу.

Ужо студэнтам даведаўся, што ў час вызвалення Беларусі самалёцікі «ПО-2» выкарыстоўваліся не для палявання за адзінкавымі немцамі ў жыце, а для сувязі паміж асобнымі вайсковымі злучэннямі або з санітарнымі мэтамі. А лcraталі тыя самалёцікі прыцемкамі і так нізка, каб пазбегнуць нечаканай сустрэчы з варожым палюючым знішчальнікам.

Здаецца, гэта было ў Новым Двары. Узгадваецца невысокі пагорак, за якім раскінулася бязмежнае бялёса-жоўтае поле. За гэтае поле і садзілася сонца. На пагорку — амаль новы драўляны будынак, будынак — не хата. Да таго ж зусім не пашкоджаны. Напэўна, раней у ім размяшчалася праўленне калгаса або сельсавет. І цяпер у гэтым будынку было нешта накшталт штаба. У яго зрэдку заходзілі і выходзілі людзі, амаль усе — у цывільным, са зброяй і без яе. Недалёка ад гэтага штаба стаяў калодзеж. А пад пагоркам нейкая рачулка ўтварыла вялікую пятлю. Яе берагі зараслі хмызняком і адзінкавымі дрэвамі. З пагорка былі добра відаць напаўголыя салдаты, якія ў завадзях рачулкі глушылі рыбу. Гледзячы на пырскі вады, якія на некалькі метраў узнімаліся над ракой і ў промнях сонца на захадзе блішчэлі і пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі, я міжвольна захапіўся такім невайсковым заняткам салдат і пачаў адлічваць імгненні ад момантаў кідкоў гранат у ваду і да з'яўлення такіх магутных прыгожых пырскаў у паветры. Аднак хутка пачало цямнець і глушэнне рыбы спынілася. Недзе з боку Мінска пратарахцеў самалёцік «ПО-2» і наступіла цішыня.

Апошнія промні сонца яшчэ асвятлялі некалькі воблакаў на небасхіле, калі пачуўся грукат бою, які пачаў разгарацца за тым неабсяжным полем амаль ля гарызонту. Інтэнсіўнасць страляніны нарастала. Да бою далучыліся «кацюшы». Хоць бой адбываўся на адлегласці не меншай, чым два кіламетры ад нас, відовішча залпаў «кацюш» вельмі ўражвала. Але было ўжо вельмі позна, трэба было класціся спаць. Пад грукат бою мы ціха-мірна заснулі.

Раніцай наступнага дня, калі мы збіраліся вяртацца ў Мінск, па дарозе, якая абкружала край поля, процілеглага месцу ўчарашняга бою, з'явілася даўжэзная калона палонных немцаў. Калона рухалася ў наш бок. З-за свайго цёмна-шэрага колеру яна добра вылучалася на бялёса-жоўтым фоне поля і дарогі. Ля калодзежа калона спынілася. У гэты час мы з некалькімі спадарожнікамі, незнаёмымі бежанцамі, праходзілі міма. Выгляд у палонных быў далёка не парадны: схуднелыя, няголеныя, змарнелыя твары, пакамечаная брудная адзежа, некаторыя без фуражак і пілотак, без рамянёў і іншай амуніцыі. Адзін, малады, з пышнай шавялюрай, без пілоткі, зарослы, гледзячы на бежанку, жалобна прамычаў: «Дай хылэ-ба». Тая пачала корпацца ў сваёй валізцы. «Ты каму даеш?» — з нянавісцю запытала ў яе другая. І паміж жанчынамі завязалася сварка...

Потым гэтыя падзеі не раз даводзілася ўспамінаць. Асабліва пасля сутыкнення цягнікоў у Крыжоўцы. Той дзень таксама выдаўся спякотны. Большасці пасажыраў пашкоджанай электрычкі давялося дабірацца да Мінска пехатой. Каля бліжэйшага да станцыі калодзежа з гэтых пасажыраў стварылася велізарная чарга. Але гаспадар калодзежа не прыдумаў нічога лепшага, як перад носам дзясяткаў пакутуючых ад смагі людзей зачыніць калодзеж на замок. Ці мог адбыцца падобны здзек з пацярпелых суайчыннікаў у той бязлітасны час?! Вельмі сумняваюся. Нават у сённяшнія дні не магу сабе ўявіць, каб тады хто-небудзь мог апусціцца да такой нізасці.

Праз год ці два я зноў пабываў у тых мясцінах. Гэтым разам — у піянерлагеры. У час адной экскурсіі мы падышлі да лесу. Нам, дзецям малодшай групы, было катэгарычна забаронена заходзіць у лес. На ўзлессі сярод высокай травы і кароценькіх дрэўцаў нам на вочы трапляліся абрыўкі нямецкай форменнай адзежы, гузікі да яе, паламаныя расчоскі і лыжкі, нейкія невялікія дэталі, дробныя косці, гільзы да стралковай зброі — шмат незвычайных для лесу рэчаў. Старэйшыя хлопцы ўсё ж заглыбіліся ў лес. Праз нейкі час двое з іх вынеслі да нас на палянку перад узлессем нямецкую каску з цэлым, не пашкоджаным, чалавечым чэрапам. Мяркуючы па іхніх хітраватых позірках, яны

парушылі нейкую забарону. Але нашая важатая з выглядам, што ўсё адбылося як мае быць, галінкай паказала ўсім нам так званыя швы — месцы злучэня паміж сабою асобных костак чэрапа. Так я ўпершыню пазнаёміўся з анатоміяй чалавека. А той чэрап так і застаўся ляжаць у касцы на ўскрайку леса.

Кожную раніцу мы вярталіся з вёсак дадому і там, у горадзе, знаходзілі сляды начных падзей: рознай велічыні прабоіны ў сценах і дахах дамоў, варонкі ад выбухаў бомбаў, шматлікія і разнастайныя асколкі, а то і поўнасцю разбураныя будынкі, якія да нашага адыходу яшчэ былі цэлымі.

Праз пару тыдняў бамбёжкі Мінска спыніліся, і мы перасталі наведваць ягоныя наваколлі. Паляцелі звычайныя, нічым не прыкметныя дні. Слухаючы дарослых, я ніяк не мог зразумець, пра якую вайну яны гавораць, калі ўжо даўно (зразумела, па маіх мерках) няма ніякай страляніны і не бамбяць горад.

Як ні бамбілі Бетонны мост і нашы, і немцы, а ён уцалеў, толькі атрымаў шматлікія шчарбіны на пілонах ад асколкаў і невялікую (1 х 1 м) варонку на схіле з боку вуліцы Маскоўскай.

## Знаёмства з вызваленым горадам

Напэўна, ужо ў жніўні, пасля таго, як скончыліся нашы начлегі за гарадскімі межамі, хлопцы з нашага двара вырашылі паглядзець, што робіцца ў цэнтры горада, каля Дома ўрада. Добра, што Дом урада знаходзіўся досыць блізка ад нас. Для мяне ж гэта быў адносна далёкі самастойны шлях, да таго ж без падтрымкі сястры і без ведама мамы. Таму давялося абмежаваць час забавы.

Там, дзе зараз высіцца гмах педуніверсітэта, стаялі руіны трохпавярховага дома. Справа ад яго, на месцы будучага галоўнага корпуса БДУ знаходзіўся сквер з вялізнымі таполямі, зарослы хмызняком і закіданы розным ламаччам. Сунуцца туды была небяспечна. За скверам віднеўся трохпавярховы адміністрацыйны (галоўны) корпус медінстытута. Мы ўжо ведалі, што Дом урада немцы мініравалі, таму туды не збіраліся ісці. Прайшлі ўздоўж трох як быццам не пашкоджаных чатырохпавярховых дамоў, якія стаялі насупраць Дома ўрада, і Чырвонага, як мы яго называлі, касцёла. Дамы ўжо былі занятыя людзьмі і зачыненыя. А вось дзверы касцёла былі расчынены насцеж. Мы зазірнулі туды. Галоўная зала касцёла ўразіла вышынёй і пустэчай: не было ніводнай лаўкі, зусім нічога з цэлых рэчаў. Уся падлога была засыпана кавалкамі тынкоўкі, цэглы і шкла. Дзень быў сонечны, цёплы і бязветраны. Але тут і ў прыбудове злева гулялі халодныя скразнякі, было вельмі няўтульна. У вялікім пакоі прыбудовы адзначалася тая ж выява, што і ў галоўнай зале: пустэча, падлога засмечана кавалкамі тынкоўкі, цэглы, усялякім рыззём, з акна звешвалася разадзёртая штора з цяжкой залацістай матэрыі. Засяроджваць увагу тут больш не было на чым. Ды і хадзіць па такой падлозе было небяспечна. Аднак мы не ўпусцілі магчымасці зазірнуць у вежу. Прынамсі, тут не было скразнякоў і не відаць прыкметаў разбурэнняў.

Другі раз мы прамінулі плошчу перад Домам урада і накіраваліся далей. Як і раней, людзей амаль не было відаць, машын — таксама. Можа адна і праедзе за якія паўгадзіны-гадзіну. Непадалёк ад Чырвонага касцёла стаялі два амаль не пашкоджаныя будынкі. Яны і сёння абмяжоўваюць край плошчы Незалежнасці. За другім, больш светлым з гэтых дамоў, на рагу якога потым будзе адкрыта аптэка, якая існавала тут і да вайны, калісь жылі Р.Р. Шырма і Ю.У. Семяняка, а зараз месціцца Камітэт па архітэктуры і горадабудаўніцтве. Якраз насупраць гэтага дома, на месцы левага крыла сучаснага гатэля «Мінск», віднеўся доўгі будынак з глухімі сценамі з цёмнай цэглы і стромкім спічастым дахам, крытым чарапіцай. Мне ён нагадаў непрыступную сярэднявечную крэпасць. Гэта будынак былой кірхі. Праз год-паўтара ён ператворыцца ў кінатэатр «Першы», у якім з неверагодным поспехам пачнуць дэманстраваць каляровы фільм «Сказание о земле сибирской» з Дружнікавым у галоўнай ролі. Толькі праз месяца паўтара ад пачатку яго дэманстрацыі нам усёй сям'ёй удалося паглядзець гэты фільм. Але тое адбудзецца толькі летам 1946 года. Тады ж перад кірхай высілася гара з бітай цэглы, пакручанай жалезабетоннай арматуры, ламаных дошак, камення і смецця.

Насупраць праз дарогу ўзнімалася амаль такая ж гара з розных абломкаў нейкага будынка. Паміж двух шэрагаў развалін мы рушылі далей уперад. Тое, па чым мы шлі (вуліца Савецкая), уяўляла з сябе дарогу шырынёй не больш за 3—4 метры, па якой магла праехаць у адзін бок толькі

адна машына. Уся астатняя прастора былой вуліцы аказалася заваленай рэшткамі яе будынкаў. З гэтых аднастайных бясформенных развалін з левага боку, перпендыкулярна шляху, прыблізна там, дзе цяпер знаходзіцца ювелірная крама, крыху выпірала светлая сцяна з шэрагам аконных праёмаў першага паверха. Сцяна была толькі на вышыню гэтых праёмаў. Гэта — усё, што засталося ад палаца колішняга галавы Мінска графа Караля Чапскага. Усё астатняе гняло аднастайнасцю разбурэнняў.

Паціху мы дабрылі да больш свабоднага ад разваліна ў месца і прыпыніліся каля Аляксандраўскага сквера. Справа і ўперадзе добра прагляд аліся цёмна-шэрыя контуры Дома афіцэраў і светлыя — архірэйскага дома і дома мітрапаліта. А ўнізе, на рагу, утвораным скрыжаваннем вуліц Савецкай і Я. Купалы, якраз насупраць месца будучага цырка, працаваў экскаватар, які расчышчаў крушні.

З левага боку вуліцы сярод шэрых разваліна вызначаўся чорнай каланадай будынак ваеннапаветраных войск, а яшчэ лявей, удалечыні, як быццам на голым месцы, высіўся светла-шэры эліпсоідны гмах опернага тэатра.

У той час, зразумела, назвы ўсіх гэтых вуліц, пабудоў і будынкаў я не ведаў і не мог ведаць, бо большасць з іх бачыў ці не ўпершыню.

На гэтым мой самы далёкі самастойны выхад у цэнтральную частку вызваленага Мінска быў завершаны. Адсюль мы накіраваліся назад, дадому.

***

Нарэшце мы здолелі пакаштаваць хлеба — не такога, як вясной, а сапраўднага — хлеба-цаглінкі. Аднак пакуль што даводзілася есці яго толькі зрэдку.

Наш пакойчык пачалі наведваць былыя настаўнікі розных школ Мінска, якіх мама ведала яшчэ да вайны, а таксама яе калегі па школе № 3, у якой мама ўзнавіла сваю працу. Ад тых візітаў у нашым пакойчыку станавілася вельмі цесна, але амаль заўсёды — весела. Праўда, у большасці выпадкаў мне прыходзілася чакаць заканчэння падобных візітаў на дворы.

Дзімачка адпусціў бародку кшталту эспаньёлкі і некуды знік. Назусім.

У наш пакойчык правялі радыё. Як быццам, гэта была ўчора. Бачу перад сабой манцёра, які ўзяў чорную «талерку» (такую самую, як у суседак — старых дзеваў), і ў той жа момант з «талеркі» пачуўся нізкі барытон Флакса — папулярнага ў тыя гады спевака, які няспешна выводзіў: «Платком взмахнула у ворот моя любимая...»

Аднойчы да нас завітаў былы бежанец, які разам з жанчынамі «кватараваў» на нашай кухні. Я з цяжкасцю і не адразу пазнаў яго. Ён вельмі ўзмужнеў, быў апрануты ва ўсё вайсковае: у фуражцы, новай гімнасцёрцы з сяржанцкімі лычкамі на пагонах і з некалькімі медалямі. Мне стала неяк няёмка і крыўдна за нашу армію, бо былога «кватаранта» я ніколі не ўяўляў вайскоўцам, тым больш — героем. А пра апошняе мне сведчылі ягоныя медалі.

## Хваробы

Мяркую, што захварэў у лістападзе. Усе дрэвы ўжо стаялі голыя, без лісця. Рана станавілася цёмна. Была халадна, але яшчэ не лёг снег. Вецер ганяў па дарогах даўгія каслаўкі белай крупы разам са смеццем.

Не памятаю праяў хваробы (дарэчы, праявы ўсіх маіх дзіцячых хвароб чамусьці амаль не засталіся ў памяці), але добра памятаю, як мяне адвозілі ў бальніцу. Ужо насунуліся прыцемкі. Мяне захуталі ў коўдру. Мама села ў брычку, верагодна зробленую ў XIX стагоддзі, і пасадзіла мяне сабе на калені. Каля нас села суправаджаючая. А ўперадзе — кучар. Ехалі доўга і моўчкі. І паводле сённяшніх мерак з вуліцы Чкалава да вуліцы Крапоткіна — шлях няблізкі. А па разбураным горадзе — тым больш. Недзе брычка ўскочыла ў яміну, і наш конік-дахадзяга з вялікімі цяжкасцямі выцягнуў нас на дарогу. Нарэшце, калі стала зусім цёмна, прыехалі.

У мяне, відаць, яшчэ дома вызначылі шкарлятыну і змясцілі ў палату, у якой ужо ляжала не менш за 7—8 дзяцей. У параўнанні са мной, амаль усе яны былі драбязой. За адной малечай нават прыглядала маці.

Аднойчы ўвечары, калі мы ўсёй палатай збіраліся адпачываць, нечакана прагучаў гарматны стрэл. Дзеці імгненна апынуліся пад ложкамі. Я таксама спужаўся, але ў дачыненні да гэтай драбязы-малечы адчуваў сябе дарослым і, каб забяспе-



«Партрэт аўтара, зроблены ў Каралішчавічах Арленам Кашкурэвічам. «Мая маці вучыла яго старэйшага сына.»

бокс — асобны пакой, і, як аказалася, на вельмі працяглы час. Перавод у бокс быў абумоўлены тым, што дактары пачалі падазраваць у мяне яшчэ адну хваробу — дыфтэрыю. Іхнія падазрэнні спраўдзіліся.

Між іншым, хутка высветліў, што ў боксе я не адзін. Са мною жылі мышы. Колькі іх было, вызначыць не ўдалося. З ложка ў полі зроку назіраліся тры норкі, прагрызеныя ў плінтусе. Удзень мышы выстаўлялі свае пыскі з норак, паблісікваючы вочкамі. Некаторыя выбягалі на падлогу, але хутка вярталіся і хаваліся ў норках. Уначы яны часцяком учынялі натуральную мышыную валтузню і нават спрабавалі бегаць па ложку і па мне. Я мышэй не баяўся, але ад такой валтузні станавілася вельмі непрыемна. Усё ж шмат часу, каб прызвычаіцца і да мышэй, і да самоты, не спатрэбілася.

Ужо быў той позні час, калі ніхто з персаналу бальніцы да мяне не заходзіў, але ў дзвярах з'явілася святло. Праз дрымоту не адразу ўсвядоміў, што сапраўды гэта так. Дзверы ў бокс адчыніліся і з каганцом-сподачкам у руках увайшла... мама! Мой сон як рукой зняло. Высветліўшы маё самаадчуванне, мама паведаміла, што кожны вечар бывае ў бальніцы зусім блізка ад мяне: разам з бацькамі дзяцей, што ляжаць у бальніцы, носіць у кацельную дровы і ваду, каб нам, хворым, тут было цёпла. Абяцала пры магчымасці наведаць мяне яшчэ.

Больш падобных прыемных нечаканасцей за доўгі час ляжання ў бальніцы не прыгадваю, хоць потым мама гаварыла, што была ў маім боксе яшчэ двойчы, калі я знаходзіўся ў цяжкім стане. Мне і сапраўды давялося хварэць дыфтэрыяй самай цяжкай, небяспечнай формы — таксічнай. Да таго ж і шкарлятына не збіралася мяне пакідаць.

чыць сабе твар, застаўся сядзець на ложку. Стрэлы яшчэ паўтараліся, але ўсе ўжо зразумелі, што яны адбываюцца недзе далёка ад нас, і супакоіліся. Нарэшце стральба спынілася.

Раніцай мы даведаліся, што ўвечары давалі салют у гонар чарговай перамогі нашай арміі. За час ляжання ў гэтай бальніцы мне некалькі разоў давялося чуць падобныя салюты, але ўжо ўспрымаў іх спакойна, калі не сказаць — абыякава.

У палацы з драбязой надоўга не затрымаўся. Праз пару дзён пасля салюта мяне перавялі ў

Так, мой цяжкі стан будзе потым. А цяпер даводзілася засвойваць асаблівасці бальнічнага жыцця наогул і жыцця ў боксе ў прыватнасці.

Звычайна на абед давалі зацірку, шклянку падсалоджанага чаю і тонкую лусту чорнага хлеба-цаглінкі, разрэзаную папалам. Абедзьве палавінкі крыху змазвалі маргарынам. Параўноўваць гэты хлеб з вясновым «хлебам» было б, як кажуць у наш час, у вышэйшай ступені некарэктна. (Тады маёй запаветнай марай было паспытаць такога хлеба, але каб яго луста была таўшчынёй у два (мае, дзіцячыя) пальцы, на якой ляжаў слой маргарыну таўшчынёй у тры пальцы, прысыпаны цукрам.)

Праз некалькі дзён падобнага харчавання адчуў, што мне даволі аднаго кавалка хлеба. А што рабіць з другім кавалкам? Хлеб нельга пакідаць, бо яго неадкладна з'ядуць мышы. А ці будзе такі хлеб яшчэ? І ці будзе ён у мамы з сястрой? Менавіта з альтруістычных памкненняў вырашыў гэтыя «лішкі» ежы схаваць да лепшых (дакладней, горшых) дзён. Але — куды? Каля ложка стаяла пустая тумбачка, аднак без палічак. У яе дзень за днём і пачаў складваць адзін на адзін свае «бутэрброды». З часам у тумбачцы ўтварыўся стосік хлеба з маргарынам таўшчынёй з добрую пядзю дарослага чалавека.

Аднойчы днём да мяне ў бокс зайшлі адразу тры асобы ў белых халатах. Яны паглядзелі мяне, потым зазірнулі ў тумбачку і выцягнулі адтуль мой стосік «бутэрбродаў», увесь сапсаваны мышамі. Як быццам нічога дзіўнага: мышы прагрызлі тумбачку ад сцяны і спакойна, без турбот заняліся маімі «бутэрбродамі». Аднак пра падобныя здольнасці маіх сужыцеляў я нават не мог падумаць. З жалем і расчараваннем мае альтруістычныя памкненні прыйшлося прыпыніць.

Ну, а потым, напэўна, мой стан пагоршыўся настолькі, што я згубіў усялякую цікавасць і да ежы, і да мышэй, і да ўсяго іншага, і, можа, нават не мог нармальна ўсведамляць, хто каля мяне знаходзіцца.

Праз нейкі час усё ж пачаў прыходзіць у прытомнасць, калі адчуў моцныя колікі ў вушах і адначасова адзначыў і зразумеў, што пачаў дрэнна чуць. Гэта мае хваробы ўскладніліся двухбаковым ацітам — запаленнем унутранага вуха. Мне нешта капалі ў вушы і накладвалі кампрэсы з атрутнажоўтай ваты. Тыя кампрэсы былі такія вялікія, што з імі я не толькі не чуў зусім нічога, але і не мог зірнуць па баках (яны мне былі як шоры каню). Дзякуй лёсу, гэтае ўскладненне не адбілася адмоўна на маім слыху ў будучыні.

Мяне і сёння здзіўляе, як і чаму за месяцы ляжання ў сваёй адзіночцы ў такім лічы дзіцячым узросце амаль не зведаў смутку і маркоты. Сумаваў хіба што па маме і сястры. Мяне апанавала нейкая недзіцячая абыякавасць да ўсяго навокал. Мне нават ніколі не хацелася злезці з ложка, каб паглядзець у акно. Праўда, калі ў бокс увайшла мама з маёй старой вопраткай і новенькімі валёначкамі, радасці маёй не было канца. Але пераступіць парог свайго бокса я быў не ў стане: ногі адмовіліся слухацца. Мяне пасадзілі ў саначкі і павезлі дамоў. (Дарэчы, тыя валёначкі толькі тады на мне і пабылі, калі ў саначках ехаў дадому — больш іх я ўжо ніколі не бачыў.) Дзень быў па-вясноваму сонечны, чуліся вясёлыя спевы птушак, але паўсюдна яшчэ ляжаў чысты снег.

Праз 16 гадоў лёс зноў занёс мяне на вуліцу Крапоткіна. Вядома, адразу пазнаў «свой» корпус, у якім цяпер размясцілася кафедра інфекцыйных хвароб медінстытута. Мне, ужо «без пяці хвілін лекару», давялося не раз успомніць сваё знаходжанне тут у якасці хворага, а зараз здаваць апошні за час вучобы, перад дзяржаўнымі, іспыт. Аднак кожны раз думкі былі нейкія нявызначаныя, сумбурныя. Ніякіх сімвалічных адчуванняў ці пачуцця гонару не было.

Падобныя думкі ўзнікнуць потым. Пакуль што мяне занеслі ў наш пакойчык і паклалі ў стары ложак, у якім амаль бязвылазна прыйшлося праляжаць яшчэ пару месяцаў. З табурэтак і палак мне змайстравалі своеасаблівы калідор, па якім я мог з ложка на руках спусціцца да памыйнага вядра. Знаходзячыся ўвесь дзень адзін у пакойчыку (мама і сястра прыходзілі ўвечары), толькі і рабіў, што ляжаў, здзіраў шматкі скуры з далоняў і падэшваў, якія дужа свярбелі — наступствы шкарлятыны, і слухаў радыё, якое мы ніколі не выключалі. З усяго музычнага рэпертуару, які перадаваўся па радыё, абсалютную большасць папулярных музычных твораў успрымаў вельмі станоўча і хутка запамінаў. Толькі калі гучаў негрыцянскі танец з балета П.І. Чайкоўскага «Шчаўкунок», асабліва ў прыцемкі, мне станавілася няўтульна і нават страшнавата.

Непрыкметна для мяне прыйшла вясна, а я ўсё ляжаў: мае ногі па-ранейшаму не хацелі хадзіць.

Ды і надвор'е таму не спрыяла: была цёпла, але вельмі дажджліва. Свята Перамогі не зрабілася выключэннем. Увесь дзень неба была зацягнута нізкімі хмарамі, з якіх амаль бесперапынна ліў дождж. Ва ўсёй нашай кватэры панавала цішыня. Праз глухую сценку з першай кватэрай цьмяна даносіліся вясёлыя гукі, асабліва ўвечары. Калі пачаўся салют, я падцягнуўся да акна і праз фортку паглядзеў у бок вакзала. Здавалася, што там промні пражэктараў і зорачкі ракет, узлятаючы, проста ўпіраюцца ў хмары, так нізка тыя віселі над горадам.

Мой стан вельмі марудна, але усё ж паляпшаўся, да мяне пачала вяртацца былая рухомасць. У пачатку лета я паспрабаваў самастойна выходзіць на двор.

## Печнікі-палонныя

Яшчэ да майго выхаду «да людзей» пачалося ўзнаўленне будынка маёй будучай школы (№ 1) палоннымі немцамі. Перад вызваленнем горада ў школу трапіў фугас, які паразварочваў два яе паверхі з трох і абваліў вонкавую сцяну. Лётчыкі, зразумела, цэліліся не ў школу, а ў жалезабетонны дзот цыліндрычнай формы, які немцы збудавалі перад ёю. Пэўна, гэты дзот істотна замінаў наступаючым. Бо з яго немцы трымалі пад прыцэлам адразу тры вуліцы: вуліцу Чкалава — у абодва бакі, вуліцу Брылеўскую і вуліцу, перпендыкулярную вуліцы Чкалава, якая ішла ў напрамку да чыгуначных шляхоў. Аднак дзот так і застаўся непашкоджаным.

Мусіць, сярод палонных немцаў, што ўзнаўлялі школу, знайшліся неблагія печнікі. Нехта з нашага двара запрасіў двух з іх — старэйшага і маладога — змайстраваць сабе грубку. Выканаўшы нейкую частку працы, гэтыя печнікі для адпачынку аддавалі перавагу ганку нашай кватэры. Калі ў маладога яшчэ і можна была заўважыць нейкія мілітарысцкія рысы (ён ніколі не здымаў з галавы свой «кемель», ні з кім не меў зносін, толькі зрэдку перакідваўся са старэйшым некалькімі фразамі па-нямецку), то ў старэйшага зусім не было нічога салдацкага, хоць і быў ён апрануты ў паношаную вайсковую кашулю. Ён больш нагадваў добрага дзядулю, да якога заўсёды прыемна прытуліцца. Да таго ж ён крыху гаварыў і чытаў па-руску. Ведаючы гэта, старэйшыя хлопцы з нашага двара прыносілі яму рэшткі ад школьнай бібліятэкі, кніжкі якой немцы-захопнікі спальвалі каля свайго дзота. Рэшткі бібліятэкі ўяўлялі абпаленыя лісткі з вучнёўскіх хрэстаматый. Хлопцы аддавалі гэтыя лісткі печніку-дзядулю і назіралі, як той прыглушаным голасам пачынаў чытаць па складах: «Мас-ква, Мас-ква! Как мно-га в э-там звуке...» У такія моманты ўся мая непрыязнасць да немцаў некуды знікала. Тады я не бачыў у гэтым чалавеку немца, да таго ж — ворага.

Праз пару дзён печнікі сышлі з нашага двара. Стала неяк шкада.

Школу ўзнавілі адносна хутка. А дзот тырчаў перад адноўленым будынкам амаль увесь час маёй вучобы ў школе. Калі ўжо заканчваў дзявяты клас, дзот нарэшце раструшчылі адбойнымі малаткамі.

*** * ***

На вуліцах прыкметна палюднела. Сярод розных ваенных вылучаліся жаўнеры і афіцэры польскай арміі. Не столькі сваім абмундзіраваннем, колькі галаўнымі ўборамі — канфедэраткамі. Мне заўсёды рупіла зірнуць на гэтых вайскоўцаў ззаду, таму што так можна было ўбачыць верх канфедэраткі, які дужа нагадваў запячатаны канверт.

З размоў наведвальнікаў нашага пакойчыка і суседзяў па двары зразумеў, што ў горадзе і цяпер вядзецца сапраўдная вайна. Гэтым разам — не з іншаземцамі і без чалавечых ахвяр, але досыць жорсткая. Вайна «эвакуяваных» і «пераможцаў» з такімі, як мы, — «акупаванымі» за набыццё жылля. І вайна гэтая ідзе з пераменным поспехам для абодвух бакоў. З асаблівым задавальненнем расказвалі пра выпадак, калі «пераможца» паквапіўся на жытло адной «акупаванай». Ніякія доказы жанчыны, што пакой нікому не можа належаць, акрамя яе, на «пераможцу» не дзейнічалі. Хутка яе довады былі вычарпаны, а «пераможца» працягваў выказваць прэтэнзіі. Тады жанчына зняла з нагі «танкетку» (басаножак з матэрыі і з тоўстай, асабліва на абцасе, драўлянай падэшвай) і стукнула ёю нахабніка па лбе. Такога «аргумента» хапіла, каб у адзін момант «кватэрнае пытанне», як кажуць сёння, канчаткова была вырашана на карысць «акупаванай».

Іераманах Агапій (Голуб)

# Пра любоў да сябе і бліжняга

**Даволі часта я чую развагі: каб любіць бліжняга, трэба навучыцца любіць сябе. Увогуле, паняцце любові да сябе ўзята з таго месца Евангелля, дзе ў цэнтры ўвагі — пытанне любові менавіта да бліжняга, а не да сябе. А яшчэ перад гэтай запаведдзю ёсць запаведзь пра любоў да Бога. Але галоўнае, што мяне не задавальняе ў гэтым абыходкавым сцвярджэнні, — тое, што ў яго можна ўкласці які заўгодна змест.**

Бо не даецца азначэнняў — хто такі бліжні і хто такі я, каго варта палюбіць. Здавалася б, што тут пытаць? Я — Сямён Сямёнавіч Барысаў, я — Анастасія Іванаўна Ляшчынская…

Але вось іншае: «Я хачу выпіць». Ці сапраўды гэта *я* хачу, ці гэта *ўва мне* нешта патрабуе дозы спіртнога? Мо гэта недахоп дафамінаў, да якога прывяло рэгулярнае злоўжыванне алкаголем, выклікаў дэпрэсіўны настрой — а мозг мае памяць на тое, як зноў прастымуляваць выкід дафамінаў? То бок, гэта толькі здаецца, што *я* хачу выпіць. А на самай справе гэтае жаданне — праява парушанага балансу нейрамедыятараў у спалучэнні з няўменнем пражываць свае пачуцці і эмоцыі ў цвярозым стане. Або яшчэ прасцей. Не *я* хачу выпіць, а *мне* з дзяцінства навязана грамадствам (сямейныя «культурныя традыцыі») і тэлебачаннем, што без алкаголю свята — не свята, і цяпер *мною* жывуць закладзеныя з дзяцінства ўстаноўкі.

Або вось: «Я хачу біфштэкс». Гэта *я* хачу яго ці *ўва мне* гаворыць навязаны мне вобраз паспяховага амерыканскага бізнесмена, ці менеджара, ці крутога прыватнага дэтэктыва (з твораў Чэйза), якія, на ленч амаль заўсёды замаўляюць гэтую страву? Зноў жа, гэта *я* хачу адпавядаць гэтаму вобразу ці *ўва мне* спрацоўвае фанабэрыя?

Я ўбачыў прывабную асобу, і мне хочацца з ёй пазнаёміцца. Гэта *я* хачу ці гэта вобраз праз нервовую сістэму актывізаваў выкід гармонаў, і цяпер *мая* палавая цяга шле ў мозг сігналы, што трэба рабіць? І ўся мая вышэйшая нервовая дзейнасць накіравана цяпер на выкананне патрабаванняў палавой функцыі.

Я хачу паступіць у ВНУ. А мо я з дзяцінства звыкся з тым, што павінен адпавядаць павышаным патрабаванням бацькоў, якія хочуць мною ганарыцца і любоў якіх трэба заслужыць? А такім, які я ёсць, мяне не прымаюць? І яны лепш за мяне ведаюць, у чым маё шчасце? І паступаю ў ВНУ, таму што гэта трэба ім, а мне патрэбна іх бацькоўскае адабрэнне?

Я сапраўды хацеў дашлюбнай сексуальнай сувязі? Ці кіраваўся навязаным праз моладзевыя часопісы, сайты і вобразы з папулярных фільмаў перакананнямі, што цнатлівасць — гэта ўстарэлае глупства, а секс — гэта норма, без якой у мяне будуць назірацца псіхічныя і іншыя адхіленні? У душы я меркаваў наадварот і пратэставаў супраць гэтага маральнага гвалту над сабой. А потым маё сумленне, задушанае гэтым гвалтам, замаўчала…

Караці: *я* жыву ці *мною* жывуць — вытворцы рэкламы, суседзі, мас-медыя?

Ад гэтага і ўзнікае пытанне любові да сябе. Ці не блытаю я *сябе* з нечым *у сабе*? Я люблю сябе — ці свае жарсці, жаданні, хаценні на шкоду сабе як асобе? Ці люблю я сябе, калі жадаю напіцца? Калі ўпіваюся ўласнымі крыўдамі або самашкадаваннем? Калі жыву нянавісцю, абвінавачваннямі, асуджэннем? Грубыя прыклады, але гэтае ж пытанне можна аднесці і да іншых учынкаў, дзеянняў, жаданняў.

Так, у мяне ёсць розум, воля, душэўныя пачуцці і цялесныя адчуванні. Ці зводжуся я да іх? Ці «я» — гэта тое, што валодае ўсім гэтым, праяўляецца праз усе гэтыя дадзенасці — але мае іншую прыроду?

Разумееце, да чаго я вяду? Кожны раз, калі ўва мне прачынаецца жаданне чаго б там ні было, гэта сапраўды *я* жадаю — ці гэта *ўва мне* нешта камандуе?

Дзе ж ён і хто ўвогуле такі гэты «я», так варты любові і павагі? Напэўна, да канца гэта вызначыць нельга, гэта таямніца. Свецкі адказ, магчыма, будзе гучаць так: «я» — гэта асоба, якая сама ўсведамляе сваё быццё. Але можна сказаць іначай: па-за рэлігійным вымярэннем «я» лёгка звесці да набору фізіка-хімічных, псіхаэмацыянальных і яшчэ якіх-небудзь кампанентаў і рэакцый, якія існуюць і дзейнічаюць толькі ў кароткатэрміновым часовым інтэрвале. Для будызму, наколь-

кі разумею, «я» увогуле не існуе, а ёсць толькі ілюзія «я».

Паўнавартасна і найбольш чалавечна паняцце «я» адкрываецца нам у Свяшчэнным Пісанні. Для Бібліі «я» — гэта вобраз Божы. Я — таямніца, вышэйшая за ўсялякі космас, бо валодаю тым, чаго няма ў мірыядаў зорак, — усведамленнем сваёй асобы, прызначанай для Вечнасці. І, адпаведна, *любіць сябе* — гэта значыць, усведамляць і прымаць сябе ў якасці вобраза Божага, а не адэпта чарговай ідэалогіі — палітычнай, спажывецкай, нейкай іншай.

Гэтае пытанне — хто такі «я» — важнае тым, што пры няякасным адказе любоў да сябе можа апынуцца накіраванай на разбурэнне сябе ж.

І таму, калі я сапраўды сябе люблю і паважаю — як вобраз Божы, — я не буду дазваляць сабе і іншым прыніжаць гэты вобраз да жывёльнага стану. Я сябе люблю — і таму не апушчуся да таго, каб браць у рукі цыгарэты, наркотыкі, іншае. Я сябе люблю — і таму буду запаўняць сябе тым, што вядзе да шчасця і паўнаты жыцця, а не псуе мяне...

Тое ж, адпаведна, датычыцца і любові да бліжніх. Любіць бліжняга — значыць, бачыць у ім, як і ў сабе, вобраз Божы — і накіроўваць сваю любоў менавіта да гэтага вобраза, а праз яго — да Бога, а не да нечага ў гэтым чалавеку. Таму, калі я люблю чалавека — сябра, напрыклад, — то не буду прапаноўваць яму закурыць. Калі гэта любоў да дзяўчыны — не буду ўцягваць яе ў блуд, то бок, дашлюбныя сексуальныя стасункі. Таму што любяць унікальную асобу ва ўсіх яе бія-псіха-сацыя-духоўных праявах, а не проста цела. Цела, як і характар, нярэдка пераменлівыя. Не мяняецца толькі вечнае ў чалавеку — вобраз Бога.

Такім чынам, невыпадкова, што перад запаведдзю пра бліжняга стаіць іншая. Я вучуся любіць Бога, а паколькі бліжні — носьбіт Яго вобраза, то я вучуся любіць і яго.

*Яшчэ адна важная прычына разумець, на каго ці на што накіроўваецца наша любоў, — не нашкодзіць, сыходзячы з лепшых памкненняў.* Патлумачу на прыкладзе.

Ёсць працоўны калектыў. У ім ёсць добры работнік і проста харошы чалавек Пеця. Але ў яго ёсць бяда — ён кожны месяц на тры дні сыходзіць у запой. А паколькі ён сапраўды добры спецыяліст і харошы сябар (калі цвярозы), то і майстар, і начальнік цэха, і калектыў дружна яго «прыкрываюць». Яны дзейнічаюць з лепшых памкненняў — бо сапраўды любяць яго і цэняць. Не разумеючы, што іх «прыкрывальніцтва» — толькі спрыяе далейшаму развіццю бяды, якая Пецю напаткала, — алкагалізму. І запоі паступова павялічваюцца — па частаце і працягласці. Такім жа чынам паводзіць сябе і жонка Пеці, якая яго таксама любіць. Калі яна яго любіць, то лічыць сваім абавязкам дапамагаць яму. У чым гэтая дапамога? Купіць піва, зацягнуць з пад'езда ў кватэру, памыць-папрасаваць вопратку, калі трэба — арганізаваць «капельніцу» дома… На радасць хваробе. Бяда жонкі і калектыву — што іх любові апынуліся накіраванымі на хворую частку Пеці, на яго алкагольную субасобу. Якая за кошт гэтай няправільна выказанай любові бесперашкодна развіваецца, усё болей падаўляючы і разбураючы асобу самога Пеці. Сапраўднай праявай любові было б стаўленне, якое дапамагло б Пецю ўсвядоміць свой алкагалізм і па-сапраўднаму захацець вылечыцца — у рэабілітацыйным цэнтры, «АА». То-бок, задача тых, хто любіць, — убачыць у Пецю сапраўдную сутнасць, аддзяліўшы яе ад хворай субасобы, і, абвяшчаючы яго хваробе поўнае непрыняцце, яму самому даць тую падтрымку і любоў, якія прабудзяць у ім рэсурс да жыцця.

Такім чынам, калі не навучыцца бачыць у чалавеку яго сапраўдную сутнасць, аддзяляючы яе ад усяго наноснага, — наша любоў да сябе і іншых можа апынуцца накіраванай не ў той бок. І тады яна нясе разбурэнне. Лепш сказаць: калі пад чалавекам разумець што заўгодна, за любоў таксама можна прыняць шматлікія сурагаты і перакрыўленні.

Так, да прыкладу, бацькі «цягаюць» сваё дзіця па рэпетытарах і секцыях, мяркуючы, што выказваюць гэтым сваю любоў да яго («Мы ж столькі плацім за навучанне!») — але вось дзіцяці ад гэтага дрэнна, і ў падлеткавым узросце яно імкнецца ад такой «любові» збегчы, з рызыкаю трапіць у пастку наркатычнай ці іншай залежнасці. Ці не таму цяпер так шмат разводаў, што людзі развучыліся бачыць у сабе і адзін у адным галоўнае?

У псіхалогіі ёсць тэрмін «сузалежнасць». На мой погляд, сузалежнасць — гэта нездаровая любоў, якая з'яўляецца магутным маторам, але з прывадам, што працуе не ў той бок, і з дрэннай змазкай, і таму замест карысці нясе шкоду, часта

неўсвядомленую. Сузалежнасць — гэта любоў, якая не ведае, што такое вобраз Божы, у чым яго праявы і ўласцівасці, не ведае Першавобраза, то-бок, Бога — і таму стварае ідалаў. Сузалежнасць — гэта вынік грэхападзення Адама і Евы, калі іх любоў страціла сувязь з Тварцом і апынулася накіраванай на тварэнне (па-царкоўнаславянску — «тварь»). Таму сапраўдная любоў да сябе і бліжніх — магчымая праз узнаўленне той цэласнасці, якую мелі некалі продкі. Калі скрозь усё, чым валодае чалавек, — розум, таленты, здольнасці, творчасць, пачуцці, эмоцыі, цела, іншае — «прасвечваецца» таямніца асобы. Вобраза Божага. Гэта — рэлігійны шлях.

Што ж гэта такое — вобраз Божы?

Бог ёсць свабода — таму і чалавек, як Яго вобраз, мае ўнутраную маральную свабоду.

Бог ёсць Любоў — таму і чалавек здольны дарыць і прымаць любоў.

Бог ёсць Асоба, Якая Сябе Ўсведамляе — і я таксама.

Бог — Тварэц, і мы маем дар творчасці ва ўсіх яго праявах.

Бог бясконцы — і чалавек мае імкненне выходзіць за межы, рассоўваць гарызонты.

Бог вечны — таму і мы маем прагу несмяротнасці.

Бог ёсць Паўната Жыцця — таму і я маю імкненне да гэтай паўнаты і пераадолення абмежаванасці, імкненне да шчасця — вось гэта і ёсць вобраз Божы ў чалавеку. Падабенства Божае ў чалавеку — гэта магчымасць быць падобным на Тварца ў яго дасканаласці і паўнаце Быцця.

А цела — гэта ўвасабленне «я» ў гэтым свеце, паводле трапнай заўвагі протаіерэя Аляксандра Шмемана. Праз цела якраз і праяўляецца вобраз Божы. Праз цела мы маем зносіны, творым. Накіраванасць на дабро і зло рэалізуецца праз цела. Вышэйшае пачуццё — любоў — таксама праз цела праяўляецца. Калі «адключыць» маё цела (ударам малатка па галаве ці наркозам) — я губляю самасвядомасць.

То-бок, розум, воля, пачуццё, цела — адно непарыўнае цэлае. І ўсё гэта гарманічна звязана адно з адным. Сувязь падтрымліваецца духам, які атрымлівае крыніцу сваёй сілы ад сувязі з Тварцом.

Бяда пачынаецца, калі дух губляе гэтую сувязь з Першавобразам і таму не ў стане падтрымліваць гармонію ў чалавеку. Тады ўсе гэтыя пералічаныя таленты, здольнасці — ператвараюцца ў «лебедзя, рака і шчупака», або як у нездаровай сям'і: у цэнтры ўвагі майго складанага саставу — тое, што ў дадзены момант гучней крычыць і пачынае паразітаваць на астатнім. Як ракавыя клеткі, перастаўшы выконваць свае функцыі, «лічаць», што яны і ёсць «самае важнае», і развіваюцца за кошт арганізма, даводзячы яго да разбурэння, — так і гэтыя здольнасці, калі пачынаюць гіпертрафіравана развівацца і «лічаць», што яны чалавек, а не нешта, што яму належыць, — даводзяць таго да смерці. Вось гэта і ёсць грэх у поўным сэнсе гэтага слова — распад, разлад у прыродзе чалавека, у глыбіннай яго сутнасці. Тое, што мы звычайна спавядаем у таямніцы споведзі, — гэта вынік, наступствы грэхападзення, якое пануе ў нас. Калі ж не заўважаць падменаў, якія адбываюцца, вось гэтага дзеяння граху, — тады якраз і лёгка, падмануўшыся, «палюбіць» нешта нездаровае ў сабе — падпітваючы тым самым далейшае развіццё гэтай «анкалогіі».

Такім чынам, зразумець, хто *я* і *мой бліжні* — і, адпаведна, навучыцца любіць гэтае сапраўднае «я» (у сабе і ў бліжнім) — задача, ад выканання якой залежыць якасць жыцця. А часам, і само жыццё. І наўрад ці гэта магчыма па-за рэлігійным вымярэннем.

Графіка Святланы Петушковай.



**Валерый Гапееў**

# Баба Марута

апавяданне-ўспамін

Майму бацьку, Мікалаю Васільевічу, баба Марута была роднай цёткай, сястрой яго бацькі. Жыла яна ў хацінцы побач з нашым домам — да яе можна было ісці праз агарод. Хацінка была старая-старая, з саламяным дахам, у плямках і плямах цёмна-зялёнага моху.

Мне, малому, было і страшна, і цікава прыходзіць да бабы Маруты. У другой палове дома заўсёды панаваў паўзмрок — вокны былі маленькімі, ды яшчэ глядзелі на ўсход, пасля абеду сонца сюды не заглядвала. Але галоўнае было ў куце: стол, а над сталом да самай столі — абразы. І свяціўся жывым вочкам, строгім і няўмольным, агеньчык лампадкі…

Дома ў нас былі абразы – Маці Божая з маленькім Хрыстом на руках. Па краях яны былі аздоблены вясёлымі кветкамі і самі — светлыя і радасныя.

Абразы ў бабулі Маруты былі незвычайныя. Вялікія, не папяровыя за шклом, а намаляваныя на дошках. Пацямнела фарба, але ад гэтага выявы здаваліся толькі больш загадкавымі, суровымі…

Помню, як стаяў я перад гэтымі абразамі, а бабуля Марута расказвала: хто намаляваны, што ён зрабіў. Так, вось гэты ваяр з мужным тварам, рашучым позіркам — святы Юр’я-воін. Ён забіў страшнага змея. Гэты сівабароды стары з праніклівым позіркам — Мікола-ўгоднік… Ён даў грошы беднаму чалавеку, каб таму за даўгі не давялося прадаваць у рабства сваіх дачок. А вось гэты маладжавы мужчына з такімі вачыма, якія, куды не адыдзі, глядзяць на цябе, зазіраюць у самую душу, так, што аж вусцішна робіцца, — Іісус Хрыстос. Яго жывога прыбілі да вялікага крыжа, крыж той узнялі, а ён усё адно не злаваўся на людзей, прасіў Бога, каб той дараваў ім…

Пройдзе колькі гадоў, я стану піянерам. Актыўным і абазнаным у пытаннях рэлігіі. І буду жартаваць, дзе і злосна, над бабулінымі святымі. Да гэтага часу яна так многа раскажа мне: і пра ўтварэнне Сусвету, і пра патоп, і пра ахвярнасць Хрыста… І вось цяпер я буду высмейваць тое, пра што з захапленнем слухаў.

Бабуля ніколі не спрачалася са мной. Яна слухала мяне з вінаватай усмешкай, іншы раз (гэта я цяпер разумею!) вусны яе падціскаліся ад крыўды, яна ківала галавой, быццам згаджалася са мной, потым паварочвалася і ішла…

Бабуля не працавала ў калгасе. Яна ўсё жыццё прыслужвала пры царкве. Тады адзінай на некалькі раёнаў засталася цэркаўка ў Старым Крыўску, ад нас, калі па дарозе – больш за трыццаць кіламетраў. А калі напрасткі, праз луг, лес, поле — каля дваццаці.

Вясной, летам, восенню ці не кожную нядзелю бабуля рана-рана ішла ў царкву. Напрасткі. Нейк мы з братам збіраліся на рыбу, узняліся з сонцам. Выйшлі на агарод і пабачылі наперадзе цёмную стужку слядоў на белым ад расы лузе. І далёка наперадзе – бабу Маруту…

Яна заўсёды апраналася ў цёмнае. Але дзіўна, ніхто яе манашкай не абзываў. Ні дарослыя, ні дзеці. Хоць жыла яна, зразумела, адна…

Пенсію яна не атрымлівала, бо стажу ж не было ніякага. Нейкая была там дапамога сацыяльная, здаецца, тры з нечым рублі ў месяц. Але баба Марута нейкім чынам магла назбіраць і даць нам з братам перад школай па ружовай хрумсткай паперцы з Ільічом – па цэлых дзесяць рублёў. За тыя грошы можна было купіць уга колькі – на чаравікі новыя хапала. А ў сёмым класе бабуля дала мне ажно пятнаццаць рублёў — яна чула, як я выпрошваў у мамы столькі на фотаапарат. Я так захапіўся тады фатаграфіяй, у гуртку школьным заседжваўся дацямна…

Бабуля жыла асобна ад нас, але як надарыцца якая тэрміновая работа — бабуля побач. Агароды, бульба, жыта… А калі сена нарыхтоўвалі — яна днявала ў прамым сэнсе на лузе. Возьме з сабой вузельчык, там кавалак хлеба і агурок, і цалюткі дзень варочае, дапамагае ветрыку і сонцу прасушыць сена.

Нейк было непагодлівае лета. А травы скасілі. Дождж і дождж… Толькі ў другой палове суботы вызірнула сонца. У нядзелю бабу-

ля не пайшла ў царкву — яна была на лузе ад раніцы. Недзе пасля абеду, помніцца, ля нашай дзялкі прыпыніўся сусед, дзядзька Пятро.

— Цётка Марыя, а чаго ж гэта вы не ў царкве, а на лузе? Хіба ж не грэх рабіць у нядзелю?

— Пецечка, Бог жа нам сказаў, каб з потам хлеб свой зараблялі, то які ж грэх? Грэх будзе, калі сена згніе, карова прападзе, дзеці без малака застануцца…

— Э, цётка, кажуць, у нядзелю трэба да Бога ісці, а не на поле.

— Да Бога, Пецечка, ідуць, калі Яго з сабой не маюць. А Бог са мной. Я яму тут памалюся, ён мяне пачуе… І дадому прыйду, памалюся, каб здаровенькімі ўсе былі, каб пагода стаяла, каб сена ўсе людзечкі дамоў звезлі сухое… І ў царкву ў суботу на ўсяночную пайду… Бог зразумее, ён жа ўсё бачыць…

У наступную суботу пасля абеду бабуля зноў напрасткі — праз скошаны ўжо луг, праз цёмны яловы лес, басанож бегла ў Стары Крыўск, у царкву.

Мама аднойчы расказала мне, што ў маладосці бабуля тры разы хадзіла ў Кіеў, у Кіева-Пячорскую лаўру.

Бабуля і слова такога не ведала — паломніцтва, яна проста рабіла тое, што падказвала сумленне, ішла туды, куды клікала яе сэрца, не чакаючы ані ўдзячнасці, ані ўхвалення. І скажу шчыра, няхай нехта і пакрыўдзіцца, але калі сёння чую пра «паломніцкія паездкі» ў камфартабельных аўтобусах у тую ж Кіева-Пячорскую лаўру, мне нейк трошкі не па сабе. Ці не занадта гучна называем мы экскурсійныя паездкі? Ці не нівеліруем мы сапраўдныя каштоўнасці?

У свае шаснаццаць гадоў я прыязджаў дадому з тэхнікума і заўсёды заходзіў да бабы Маруты. Мяне больш і больш цікавілі старыя абразы, незвычайным святлом асвечаныя твары на пацямнелых ад часу дошках, ціхія аповеды бабулі пра святых, пра жыццё і смерць… У адзін дзень мама прынесла ад бабулі незвычайную стужку: чорная з залатымі літарамі. Я стаў чытаць: «Да воскреснет Бог і расточатся вразі Его, і да бегут от ліца Его…». Малітва. Адна з галоўных хрысціянскіх, малітва Крыжу. Малітва супраць д'ябальскай сілы…

— То баба Марута перадала табе. Калі можаш, дык насі… Яна прасіла.

У час «воинствующего атеизма» ды насіць такі пояс? Засмяюць жа… Але рашэнне прыйшло адразу: узяў замок са старога рамяня, маладзёжнага, ён так добра падышоў… І падперазаў свае джынсы. Так атрымалася: прыехаў – і на танцы ісці клічуць. Пайшоў, на рамень зусім забыўся. Пабачылі сябры. Акружылі, папрасілі зняць. Чыталі. І… трое хлопцаў папрасілі, каб я ім прывёз такія ж. Гэта было так нечакана. Нешта дарослае абудзілася ва ўсіх нас ад сузірання простай чорнай стужкі з жоўтымі радкамі слоў…

Калі нарадзіўся ў нас сын, першынец, мы здымалі пакой у Мінску. Прыехала мама. Дастае пачастункі розныя, падарункі. І бачу – нешта вялікае загорнута ў шэрую паперу, бацькам старанна перавязанае.

Развязаў, разгарнуў… Адзін з самых вялікіх абразоў з дому бабы Маруты — Мікола-ўгоднік — са спагадай глядзеў на мяне тым самым праніклівым позіркам. Ён і цяпер з намі…

Бабуля памерла ціха, як і жыла. Непрыкметна для іншых. Легла спаць і не прачнулася. На яе пахаванне раптам прыехала некалькі святароў. Яны заходзілі да мамы (бабуля перад смерцю жыла ў нашым доме), казалі самыя цёплыя словы. Мы і не ведалі, колькі ўсяго-ўсякага рабіла бабуля для царквы: мыла-фарбавала, рамантавала, прыбірала, а яшчэ абівала парогі кабінетаў райкама і абкама партыі з прашэннямі: каб не закрывалі царкву, апошнюю на некалькі раёнаў. І здаліся перад ёю, калі даведаўся сакратар абкама партыі, што чацвёрты раз прыходзіць гэта жанчына да яго з прашэннем. Пешкі прыходзіць. За 90 кіламетраў…

Баба Марута не ведала ніякіх правілаў выхавання, не ведала яна і слова такога — духоўнасць. Не вучыла ніколі, не ўпікала, не крычала. Проста жыла побач.

Але была тым самым носьбітам гэтай духоўнасці, чысцюткай крыніцай адвечнай мудрасці, без якой не зразумець такога складанага пытання: як жыць на гэтай зямлі.